

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**6** (1028)

**ЧЭРВЕНЬ**

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2015

# ЗМЕСТ



Васіль ЗУЁНАК

# БОЖАЧКА, УРОК МНЕ ПАЎТАРЫ!

## АДМАЎЛЕННЕ АД РАЮ

Стаміўся дзень, пытаецца дарога:
— Куды, куды спяшаешся, нябога?

Як многа ўсіх — і ні душы наўкола,
І ты — як на жніўі забыты колас:

Які самотны, і які маўклівы,
Які бяздомны без жытнёвай нівы...

Асенні дзень схіляецца да ночы —
Даецца ён, каб зразумець аднойчы,

Як дарага жыццё на схіле веку,
Адпушчанае небам чалавеку:

Адно імгненне, а ўжо рай бліжэй,—
Імгненне, што за вечнасць даражэй...

---

*__Зуёнак Васіль Васільевіч__ нарадзіўся 3 чэрвеня 1935 года ў вёсцы Мачулішчы Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Барысаўскае педагагічнае вучылішча (1954), аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1959). Працаваў у рэдакцыях газет «Рабочае юнацтва» (Мінск) і «Піянер Беларусі», быў галоўным рэдактарам часопіса «Бярозка», намеснікам галоўнага рэдактара, галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», сакратаром, першым сакратаром, з 1990 па 1998 гг. — старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі. Кандыдат філалагічных навук.*

*Аўтар кніг паэзіі «Крэсіва» (1960), «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973), «Нача» (1975), «Маўчанне травы» (1980), «Час вяртання» (1981), «Світальныя птушкі» (1982), «Лукам'е» (1984), «Вызначэнне» (1987), «Лета трывожных дажджоў» (1990), «Чорная лесвіца» (1992) і інш. Вядомы як дзіцячы паэт, перакладчык, аўтар кніг гумару, лірычнай прозы, а таксама нарысаў і замалёвак.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1974), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1982).*

* * *

Усё зямное мне ўсявышняй сілай
Дарована, каб жыў я па-зямному,
Каб небыццё не страшыла магілай,
Каб лёс мой роўны быў сабе самому.

Каб у бядзе памог не пахіснуцца,
А ў радасці не гойсаць ачмурэла…
Адно б — з самім сабой не размінуцца
І верыць, што яшчэ не звечарэла.

Пылінка ў чалавечым акіяне, —
Ды хто мой дух зняволіць у аброці?!.
І толькі перад Богам пакаянне
Прыму ў сваёй грахоўнай адзіноце.

## МАЎЧАННЕ

Я здзівіўся раптам... — не! якое ж
Тут здзіўленне — гэта Боскі знак:
Неба Усявышняю рукою
Супыніла: «Замаўчы, мастак!..»

Год сямнаццаты, дваццатае стагоддзе...
Хоць бы верш — ці хоць адзін радок...
Аніводнага не створыць, не народзіць —
Прамаўчыць паэт, вялікі Блок...

Што ён чуў у тым натоўпным гуле
З водбліскам вар’яцкім у вачах?
Пэўна, што смяротныя не чулі, —
Ён пачуў — і ў жаху замаўчаў...

Гэтак жа маўкліва ўсіх дванаццаць —
Вецер, вецер замятаў сляды, —
Сам Хрыстос рэвалюцыйным пляцам
Вёў «апосталаў дзяржаўных», — а куды?..

Год сямнаццаты — і Богу невядома:
Гэта прадчуванне? ці — урок?
Адкажы, крывавы трыццаць сёмы!..
Не адказвае... Маўчыць смяротна Блок...

* * *

Ну вось, як быццам
І ўвесь сакрэт:
Даў Бог забыцца,
Што ты паэт.

А словы самі —
Ці хто ўначы
Між зор красае? —
Мне шлюць зачын.

Што mor — каханне,
А mort — яно
Ўжо смерцю стане, —
І «t» — стырно.

Той гук бяздзейны,
Што неўпрыкмет
Так безнадзейна
Руйнуе свет.

Ён і прымусіць
Паверыць зноў,
Што ў землятрусе
Ты да асноў.

Няма спакою,
І крылы — з рук.
Вось што такое
Адзіны гук!..

* * *

Якія халодныя ночы,
Якія спякотныя дні...
То ў квецень мароз ускоча,
То ўсмажыць сухмень карані...

Даводзіць мудрэц-дыялектык:
«Інакш не бывае ў жыцці...»
Ды штосьці ўсміхаецца век мой...
А мне? — з ім у згодзе ісці?..

А як на душу ўсё кладзецца?.. —
Ні Маркс не падкажа, ні Кант...
Гісторыі нітка прадзецца,
А век мой? — нібы сімулянт?..

А мне што?.. — ні збегчы, ні збочыць...
Ні крылаў, ні вышыні...

Якія пакутныя ночы,
Якія самотныя дні...

## ГРЭХ

*Баладны матыў*

Хмары слепяць скрухаю
Сонца невысокае.
Конік ціха трухае,
Селязёнка ёкае.

Стылы след ад полаза
Замятае дуйкаю.
Нокаю раз-поразу
З насцярожнай думкаю —
Каб ваўку не ўчулася,
Што ў хмызах туляецца…

Еду, а Мачулішча
Быццам аддаляецца.

Капачэўка, Кладачкі
Ды Яршоўка з Начаю…

«Едзь адно парадачкам, —
Мне маршрут пазначылі, —

То й даедзеш зажыва. —
Рагатнулі весела:
— Кляча нехлямяжая,
Што ты глюгу звесіла?..»

Хай сабе! А нам якраз
Гэта й трэба з конікам:
Як прыстаў — вярнулі нас, —
Самі зніклі ў хвойніку.

Так дамоўлена было:
Як малы падводчыкам,
Дык і вернецца ў сяло, —
Хто ўпадозрыць хлопчыка…

Давідна вось гэтак я
Ехаў з партызанамі…

А вярнуся — і каня
Як набудзем занава...

Стомленай запрэжкаю
Паратунак пасціцца —
Дзе ваўчынай сцежкаю,
Дзе дарогай помснікаў.

І фашысцкі гарнізон,
Пэўна б, зяпу вызверыў
На каня, каб знаў, што ён
Вёз у лес правізію.

А «правізія» была
Не для ўсіх ядомая:
Цераз тыдзень размяла
Прошчу ўсім вядомую.

Люд здавён дары ёй нёс,
Як святыні верачы:
Чары зняць, злагодзіць лёс
Ці пазбыцца немачы…

А цяпер свяцілішча
На граніцы з зонаю
Сталася апірышчам
Варты гарнізоннае.

І рашылі ваяры
Паквітацца з фрыцамі:
Шухнулі ў тартарары
Камень той з капліцаю…

Невядома, што пляла
Баявая хроніка,
Толькі мама не магла
Прымірыцца з конікам:

З той пары, як зойдзе ў хлеў,
Дык бяду суцешвае, —
Выбадзяе, ды не ў гнеў —
Спачувае грэшнаму.

Конь вушамі ў тон стрыжэ,
Вочы смуткам поўняцца,
Ну а мне яшчэ цяжэй:
Грэх жа ў нас пароўніцы.

Заіржэ, бывала, так,
Быццам выбачаецца…

І па сёння з тым бядак
Да мяне звяртаецца…

Хоць сплылі гадоў віры —
Чую тое ж самае,
Як спынюся на гары
Над зарослай ямаю…

## З МАЧУЛІШЧА Ў ГРЭКІ...

«Грэка-персідскія войны
І росквіт Афін»...
Настаўнік ад ведаў быў вольны,
Як з бражкай графін.

Вясёлы, бо знаў, што прагне
Сустрэчы салдатка-ўдава,
Настаўнік зачытваў параграф
І вывучыць нам задаваў.

Вячэрнік завочнай гадоўлі
Выходзіў, як з-пад агню:
Ён сам той падручнік адольваў,
Здаецца, упершыню.

Быў курс «акадэмій» кароткі —
Ваеннай навукі замес:
Драўляная сямігодка
І партызанскі лес.

І што яму грэцкія войны —
Не ў гэткіх ён сферах блукаў
І меў да праграмы школьнай
Медаль і пусты рукаў.

І нас не вучыў, а прывучваў
Падручніку давяраць, —
Такі быў файны падручнік —
З цяперашнім не параўнаць!

Даступны, просты, талковы —
Мы верылі ў кожны міф, —
І вёскі вузенькае кола,
Як свет, пашыралася ўміг...

З гісторыяй змогся настаўнік,
Са школы сышоў, але —
Нібыта з дзяцінства лістамі —
Мне тэмы падручніка шле.

Пра Зеўса і Гільгамеша,
Пра арганаўтаў лёс,
Пра баявую дэпешу,
Што марафонец нёс...

А тая... Сіндромам запойным
У памяці — нібы клін:
«Грэка-персідскія войны
І росквіт Афін»...

## ДОНКІХОЦКА–БІБЛЕЙСКАЕ

А навошта мой плач
на забруджаных рэках,
Калі з душаў забруджаных
час наладжваць біблейскі зыход?
І навошта, прабач,
Дон Кіхот дваццаць першаму веку?
Так, той самы: на высмех асуджаны,
той, з дзіцячай душою, змагар Дон Кіхот...

На двубой папяровы
злу кідаю пальчатку,
Расінанта-Пегаса выводжу,
бяссонніца шчыт падае...
І шукаю ўсё Слова,
што было на Пачатку, —
Тое самае. Ды не знаходжу...
Ці Бог не дае?..

## * * *

Прышласць тоіцца мудрым сфінксам,
Дні шліфуе часу прыбой.
Ды вясёла часцінку дзяцінства
Мы нясём праз жыццё з сабой.

Неўпрыкмет яна свеціць і грэе, —
Па-анёльску: ні слоў, ні слядоў.
З ёй і ў старасці мы не старэем —
З абярэжніцаю ад гадоў.

Ці не тут і сакрэт, што па часе
Нам яна ўсё бліжэй і радней.
Не дзяцінімся — то засталася
Нам апошняя кропля на дне...

Смерць ёсць смерць — ніштто не ўратуе...
Аднаго не дарую ёй,
Што дзяцінства часцінку тую
Засыпае сырою зямлёй...

## УРОК

Зорныя Мядзведзіцы сярпамі
Дажынаюць постаць на юры.
Складваю снапы гадоў тарпамі —
А жыццё не вывучыў на памяць...
Божачка, урок мне паўтары!..



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ПАСЛЯ ВАЙНЫ

*Раман**

## IV

Перад тым, як непасрэдна, практычна, перайсці да стварэння калгасаў, разгарнулася жорсткая, няўмольная кампанія супраць так званых кулакоў. Хто меў больш за дзесяць гектараў зямлі — залічвалі ў кулакі, апошнія аб'яўляліся варожым класам, які трэба было знішчыць, «знішчыць як клас». Немалую сілу і давер займелі ананімныя пісьмы і даносы. Па злым даносе пацярпеў і Якаў Арыстархавіч Пац, пра якога з часу яго знікнення ніякіх чутак не было. Якаў Арыстархавіч быў першым, пасля яго з Млыноў (вёскі, што ў пяці кіламетрах ад Прускі) забралі Васіля Раманюка, з Трасцяніцы — Занька Іосіфа, з Кругеля — Івана Карпішука, з Углян — Клапоцкую Мар'ю. Забіралі з усім нажытым майном, усім скарбам. Падмялі і Мікодыма Якавука з Пакупчыкаў. Не адкараскаўся. Аркадзя ажаніў, збожжа абмалаціў, справы ўпарадкаваць спяшаўся. Небяспеку прадчуваў. Развітацца з сям'ёй, гаспадаркай (можа, і назаўсёды) ён, патомны селянін, вядома, надта не хацеў. Спадзяваўся, нягледзячы на ўсё, што да гэтага не дойдзе. Мікодым казаў у думках і сабе самому, і іншым, калі часам на вуліцы трапляў у чалавечы гурт (што з ім здаралася рэдка, таму што не адпускала шматстайная гаспадарка, заўсёды знаходзіўся які-небудзь занятак):

— Усё, што ў мяне ёсць я нажыў сваёй працай, ды яшчэ суседзям дапамагаў. І ў вайну партызанам кажух аддаў, кажух і гадзіннік.

Пра такіх, як Мікодым, казалі: робіць, як конь. Было ў яго чатыры каровы. Дык што з гэтага? Падаткі плаціў? Батракоў не трымаў. Які ж з яго кулак? Зямлі шмат? Трынаццаць гектараў. Але ж сям'я якая! На гэта націскаў і сам Мікодым:

— У мяне сям'я вялікая. За што ж мяне ў кулакі, у высылку? Чаго я там не бачыў?

Прыйшлі ўсё ж такі апісваць. Казюсік з сябрамі. Апісалі ўсё, нават штаны, што на Мікодыме былі. І жонку ўвагай не абышлі. Апісалі і тое, у чым стаяла, у чым была апранутая, — кофту і анадарак. Мікодым жахаўся:

— У вайну Свісціян прыходзіў — кажухі пабраў, гадзіннік, золата патрабаваў. Але каб штаны здзіраць — гэтага не было. Казюсік нават вазоны на вокнах — і тыя палічыў і апісаў.

---

* Працяг. Пачатак у № 4—5, 2015 г.

Неўзабаве, ноччу, Мікодым пачуў, што нехта прыехаў. Насупраць яго акон спынілася машына з патушанымі фарамі. Гэта былі ўсё тыя ж Ступін з Гарачкам на той самай палутарцы, на якой прыязджалі па Якава Арыстархавіча. Пасадзілі Мікодыма ў кузаў і павезлі.

Але наяўны кантынгент кандыдатаў на высылку быў яшчэ далёка не вычарпаны. Апроч таго, ён яшчэ і папаўняўся. Лявона апанаваў одум, не пакідала трывога. Працягвалі сваю дзейнасць актывісты. Убачыўшы праз акно Хвядзюшку з іншымі прускаўскімі актывістамі, Фёкла казала:

— Актывісты вунь ходзяць, чарцям вяроўкі ўюць. Увесь бруд усплывае наверх.

Актывісты паводзілі сябе ўладна і важна, як новыя гаспадары жыцця, як дзеячы, якія мелі намер увайсці ў гісторыю.

— Яны думаюць, што як загоняць нас у калгасы, дык ім за гэта павышэнне будзе, ордэны дадуць і пенсію добрую, — азваўся Лявон.

— На нешта, відаць, спадзяюцца.

— Бачыш, добрых гаспадароў — на белыя мядзведзі, а з кім жа застанецца? Хто працаваць будзе?

Фёкла паціснула плячыма.

— Каб, не дай божа, і нас з табою, Фяклуша, кулакамі не зрабілі, а то ўсё можа стацца, — выказаў засцярогу Лявон, хаця нікога збоку ён звычайна не наймаў, нават у самыя гарачыя моманты стараўся абыходзіцца сваімі сіламі, каб ні ад кога не залежаць.

Пачаў разважаць услых, каб чула жонка:

— Малатарню купіў? Купіў, бо левая рука ў мяне не дзействуе. Паранены я, яшчэ ў тую вайну. Плуг трымаю, а цэпам — не пакручу! Малатарня ў мяне конная, веялка ёсць — бярыце, усё ваша. Раз ваша сіла — забірайце!

Фёкла ўсё гэта ведала, але слухала, хацела, каб ад гэтай споведзі мужу было лягчэй, бо надта яго шкадавала.

Зміцер Зуб параіў звярнуцца ў райзем, каб далі каморніка перамераць зямлю. Лявон сам ездзіў па яго ў Камянец, прывёз з усім яго землямерніцкім начыннем. Каморнік удумліва хадзіў па полі ў кірзавых ботах з цыбатым сажнем і рулеткаю, пабываў і на Доўгіх, і ў Срачы, і ў Закуцці, і на Крухмальні. Лявон дапамагаў, усё рабілі згодна кадастравых планаў.

Бедна і запушчана выглядала Крухмальня. Навокал тыя самыя руіны, алешнік, абмялелыя, мутныя ставы, у якіх усё яшчэ гніло заплеснявелае галлё ад тых дрэў, што павалілі ў ваду, рыхтуючыся да абароны, адступаючыя немцы. У канцы лета, пад восень, ставы густа зараслі зялёным жабурыннем і цінаю. Сіратліва стаяў куст шыпшыны ў зараслях здзічэлага глогу і ляшчынніку. Чапляліся і кусалі за ногі густыя карчы ажыны, быццам з намерам перашкодзіць каморніку выконваць яго землямерніцкія абавязкі. Адно, што ў зарасніках на ўсе лады ціўкалі птушкі, хоць крыху падвясельвалі душу. Вакол жоўта-зялёных вярбовых коцікаў нясмела гулі нядужыя пасля зімы пчолы.

У Лявонавай галаве раіліся сумныя думкі. Калісьці марыў завесці тут рыбную гаспадарку, але не атрымалася. А мэта было ўжо, здавалася б, блізкая. Ведаў, чаго хацеў. Хацеў асабістай свабоды, асабістай аўтаноміі, як той Грыцько Бузок у Амерыцы.

Паўтары тысячы злотых заплаціў за гэтую Крухмальню. Купляў... Ці трэба было тое куплянне? Прадаў Якаў Арыстархавіч. Даўно гэта было, яшчэ да вайны, у 1936-м, пры палаках. Людзі з вёсак у прымусовым парадку рассяліліся на хутары, адасабляліся. Цяпер адбываецца, здаецца, нешта адваротнае, савецкая ўлада збірае сялян у калектывы, гуртуе ў адно. Іншыя часы, іншыя

песні. Так што шкадаваць ні аб чым не даводзіцца, у кожнага часу — свае песні, свае інтарэсы.

— Крухмальня мне па лёсу дасталася, — сказаў ён, сказаў гучна, каб пачуў і каморнік. — Амерыканская мара на роднай глебе...

Каморнік нічога не адказаў, відаць, не пачуў, а можа, і не зразумеў. Завіхаўся ў гэты час з рулеткай, дамагаючыся асаблівай дакладнасці.

Намераў каморнік зямлі ў Лявона пяць гектараў, з іх ворнай — тры з палавінай. Пакінуў адпаведны дакумент, прыклаўшы пячатку, якую меў з сабою.

* * *

Прыйшоў-такі, нарэшце, ліст ад Якава Арыстархавіча. Чытаў «хрэснік» — гэта значыць, Валодзя. Баба з дзедам слухалі.

«Добры дзень, дарагія Лявон Міхайлавіч і Фёкла. Піша вам з далёкага краю Якаў Пац, калі памятаеце такога. Знаходжуся, дзе некалі сядзеў вялікі наш таварыш Сталін, у туруханскіх мясцінах. Адчуваю з гэтай прычыны нават нейкі гонар, хаця ў паліціку я ніколі не лез і паліцікай не займаўся. Але пачну па парадку. У Камянцы мяне абвінавацілі, што гэта быццам я ў Відамлі павесіў яму на руку торбу. А я ў божым свеце не вінаваты, і хто гэта зрабіў, не ведаю. Потым даведаўся, што такое абвінавачванне прад'яўлялі не аднаму мне. З Камянца мяне павезлі ў Брэст, дзе я знаходзіўся, як вам вядома, да вайны. Сказалі, што трэба даседзець тое, што не даседзеў тады, а гэта амаль чатыры гады. Я, як вам вядома, маю пэўны досвед знаходжання ў тым становішчы, у якім ізноў апынуўся. З усімі стараўся ладзіць. Крыўдна было, што да мінімуму скарацілі шпацыр. Затым павезлі на ўсход. Спецыяльныя вагоны. Нары ў тры ярусы, але месц усё адно не хапала, слабейшыя сядзелі або стаялі хто дзе. Вялікі быў наплыў «кулакоў», якім я, прызнаюся, спачуваў. За гэта нават вымову атрымаў. Свет, аднак, не без добрых людзей. Знаходзяцца і такія, што гатовы дапамагчы, падзяліцца сухаром ці якой адзежынай, даць параду. Тут нас вучаць працаваць. Валім лес, кедры. Я працую ўчотчыкам, лічу бярвенні, закрываю нарады. Нядаўна падпісаўся на пазыку, на 100 руб. Адлічваюць з заробку. Людзей, якія матаюць тут тэрмін, шмат. І што цікава, кожны са сваім жыццём, кожны патрабуе свайго падыходу, чаго ў нашым становішчы ніхто не ўлічвае. Хлеба атрымліваем восемсот грамаў у суткі. Тутэйшая абстаноўка не тое, што хатняя. Ці вярнуся калі, не ведаю.

Дарагі дружа, напішы, як там у Альбэрціне. Хацелася б пaглядзець на сад, пчэльнік і на дуб. Ці стаіць наш дуб, што паміж лесам і сядзібай? Як пачнеш перабіраць тое, што засталося ў памяці, дык і канца няма. Напішы наконт калхозаў. Ці ўжо і ў нас калхозы? Як у цэлым справы? Бо я адгароджаны ад свету. Як там мае сямейнікі? Сёння я якраз і адчуваю сябе такім усімі пакінутым і закінутым. Паслаў ліст Амброжыю, але адказу да гэтага часу не атрымаў. Ці захоўвае ён тыя абразы, што я купляў, назапашваў? Каб хаця ён нікуды іх не дзеў, бо яны мне дарагія.

Хацелася б ведаць, як там нашы пчолы? Я нават тут часам раніцай чую, як яны гудуць. Можа, ужо зацвіла лаза? Гэта першая для пчол спажыва. Лазовы мёд таксама спажыўны, смачны.

Напішы, дарагі Лявоне, як там Паўліна жыве. Можа, хто крыўдзіць. Шкада яе — сіраціна! А яшчэ прапішы, як там рака наша Лосьна, не абмялела? Тут такая засуха!

Не ведаю, што пашле Усявышні далей, але спадзяюся на лепшае. Вярнуся, дык раскажу болей. Спадзяюся на Бога і на яго дапамогу. Застаюся, ваш Якаў. 20.04.1950 года».

Ліст быў напісаны хімічным алоўкам на грубай шэрай паперы, якой, відаць, нешта абгортвалі.

— Значыць, ён ужо не ў турме, а ў лагеры, а можа, нават на пасяленні, — зрабіў выснову Лявон.

Валодзя, прачытаўшы ліст ад «хроснага», успомніў, як Іван Каленік, злавіўшы майскага хрушча, пасадзіў яго ў пусты карабок ад запалак і зачыніў. Потым паднёс карабок да вуха, паслухаў, паўсміхаўся і даў паслухаць яму, Валодзю. Чутно было, як вязень шумна драпаўся, скробся і незадаволена гудзеў. «Гэта ж і Якаў Арыстархавіч у такім становішчы, — падумаў Валодзя, — але тут не паўсміхаешся». Шкада стала «хроснага».

Фёкла сказала:

— Але, ці заўважыў ты, Лёня, пра Паўліну пытае, а пра Хвядосю — не.

— Заўважыў. Можа, раўнуе. Паўліна да Амброжыя прытулілася.

— З ёю Амброжый і пра брата забыў.

— Трэба адпісаць Якаву.

— Каб не надта хваляваць чалавека...

— Хай атрымае вестачку, ды сала з цыбуляй паслаць.

* * *

Прося заставалася з дзецьмі ў Прусцы. Не скардзілася на свой лёс, старалася здавацца спакойнай. Васіль у Брэсце, у яго адказная работа, яму нялёгка. Ды і ледзь не кожную суботу прыязджае. Прыязджае і кожны раз кажа, што трэба перавозіць хату, бо ездзіць яму нязручна ды і цяжка. Прося, аднак, не магла прывыкнуць да гэтай думкі, яе адольвала рэўнасць: «Магчыма, мае ён там кагосьці?..»

— Я ж люблю цябе, — супакойваў Васіль, калі прыязджаў дадому, — у горад забяру разам з дзецьмі. Вольга Лукашова, сяброўка твая, ужо даўно гараджанка, жыве ў Брэсце, і нічога. Гарвыканком выдзяляе нам пад хату пляц.

— Умееш ты свайго дамагчыся.

— Ты не агарчайся, усё будзе добра, не плач, я ж люблю цябе.

— Маеш там нейкую патрэбніцу.

— Не маю

— Не ведаю, верыць табе ці не.

— Не маю.

Думкі аднак прыходзілі розныя, асабліва калі ён ад'язджаў. Каб заспакоіцца, Прося шмат працавала, вяла гаспадарку, даглядала жывёлу, мыла бялізну, скрэбла стол, шаравала венікам падлогу. А самае галоўнае — гадавала малую Ліліянку.

Неяк Прося пачула кінутыя кімсьці пра яе крыўдлівыя словы:

— Пакіданка яна.

Да горла сутаргава падступала знаёмае пачуццё адчаю. «Пакіданка, а хто? Ён у Берасці, а я тут марнею. Кінуў!..» Прося сцялася. Па часе з'явілася думка наведацца да Амеліі паваражыць. Перад гэтыя яна бачыла сон: развешанае па сценах чыёсьці адзенне, лахманы. Нешта ж карты скажуць! З гэтай мэтай калісьці, калі Васіль быў на фронце і ад яго не было лістоў, Прося ўжо прыходзіла да Амеліі, і тая абнадзеіла жонку франтавіка: жывы, чакай. Так яно і сталася: прыйшоў ліст, а ўрэшце вярнуўся і Васіль. А як лягуць карты цяпер?

Пакарміла Ліліянку — спакойнае дзіця. Паклала дачушку спаць, а сама накіравалася да варожкі, прыхапіўшы з сабой вузельчык з кавалкам сала і парай яек.

Ад вуліцы да Амеліных дзвярэй вяла вузкая сцяжына праз непраходныя зараснікі пустазелля, буякоў і дзядоўніку, якіх ніхто ніколі не чапаў і не крыўдзіў. За гэтым пільна назірала сама Амелія, і яны выглядалі, як дрэвы. Прося пастукала (гэтага патрабавала гаспадыня). Давялося чакаць, але нарэшце Амелія адчыніла.

— Заходзь! — запрасіла яна, угледзеўшы ў Просі ў руках вузельчык.

— Вы адна? — спытала Прося, і атрымалася не зусім дарэчы.

— А з кім мне быць? — паціснула ўсохлымі плячыма варажбітка.

Замяўкалі каты, як бы незадаволеныя такім адказам сваёй гаспадыні. Прося пераступіла парог, увайшла ў памяшканне, у якім з часу яе колішняга візіту нічога не змянілася. Яшчэ болей заплеснелі сцены, ніжэй навісалі мярэжы павуціны, пранізліва і раўніва пазіралі і мяўкалі каты. «Ну і брудньюха!» — падумала Прося. Вузельчык з яйкамі паклала на прыпечак.

— Сёння, я чула, кіно? — спытала Амелія. З відовішчаў яна болей за ўсё любіла кіно і не прапускала ніводнага кінафільма з тых, што прывозілі і паказвалі ў Прусцы.

Пытанне здалося вельмі нечаканым.

— Не ведаю, — адказала Прося.

— Ах, кіно, як хочацца паглядзець кіно! У мінулы раз паказвалі гэтую «Музычную гісторыю». Ах, якая карціна, якое каханне! Я была ў захапленні! А помніце, як ён плюхнуўся ў ваду?

Просі было не да таго, яна сумна маўчала, і варажбітка нарэшце заўважыла гэта і спыніла сваю гавэнду пра кіно.

— Што чуваць з вашай строны? — пацікавілася яна, перайшоўшы на польскую мову, што яна часам любіла рабіць.

— Хачу, каб вы мне паваражылі, пані Амелія, — сказала Прося.

— А, вось яно што! Дык калі ласка, калі ласка! А на каго будзем раскладваць карты?

— На яго, на Васіля.

— На мужа?

— А што такое?

— А як ён да цябе ставіцца?

— Здаецца, добра, але...

— Кахае?

— Мне ён кажа, што любіць, — нясмела вымавіла Прося.

— Зараз. Пачакай. Карты ўсё скажуць. Карты праўдзівыя, а мае асабліва праўдзівыя. Ты — сядай! Чаго ты стаіш?

Наведвальніца прысела на столак, падсунулася да стала, на якім Амелія, патасаваўшы, раскладала карты.

— Ён жа ў цябе, здаецца, чалавек талерантны! — сказала Амелія, увярнуўшы ў гаворку нетутэйшае слова і назіраючы, як кладуцца карты.

Прося не ведала значэння гэтага гарадскога, на яе думку, слова — «талерантны», але пытацца не стала. Прыгадалася чамусьці перажытае ў вайну, калі людзі больш спагадліва ставіліся адно да аднаго.

— Мы былі з ім шчаслівыя, каля я хадзіла за ім у Камянец, у гестапа, калі яго арыштавалі, — успомніла яна і выцерла слязіну на шчацэ. — Даказваць хадзіла, што невінаваты.

— Неспакойна, я бачу, у цябе на душы, мая мілая, неспакойна. Пе-ра-жыва-еш! — апошняе слова Амелія вымавіла па складах.

Прося моўчкі кіўнула галавой.

— Анучы я бачыла ў сне, лахманы, — уздыхнуўшы, паскардзілася яна. — Стаю я пасярод хаты, а кругом усё паношанае, чужое... Потым бачу сярод гэтых лахманоў ён з нейкай жанчынай. Здаецца, ён. А можа, і не ён. Я доўга прыглядалася. І яшчэ ў сне пачула нейкі гук, нібы хтосьці з мяне смяяўся, ну проста-такі зарагатаў. Прачнулася — цішыня.

— Не на добрае гэта, мая дарагая, не на добрае. А на сэрцы ў цябе бубновы кароль. Гэта муж твой, Васіль.

Прося з цікавасцю зірнула на карты. Варожка паклала яшчэ адну.

— Нават і не ведаю, як абараніць цябе ад перажыванняў, але паспрабую.

— Я буду ўдзячная, пані Амелія.

— На словах усе ўдзячныя, але праходзіць час і словы тыя забываюцца.

— Мы ж па суседстве жывём...

— Вось бачыш, як каля яго «дама» кладзецца. Яго, мілая, хутка чакае пасцель з бубновай дамай. У Брэсце, мне гэта добра вядома, такіх нямала, якія ўмеюць дапамагчы ў патрэбах цела. Бубновы валет, дзясятка пік, нехта да цябе прыедзе...

— У суботу Васіль павінен прыехаць.

— Магчыма. А тут далей трэфы — трэфы заўсёды абяцаюць непрыемнасць. Але ладне! Паверх дзясяткі пік кладзецца туз пік. Будзе, мілая, у вас нейкае ўзрушэнне, пературбацыя...

Варожка зірнула на кліентку:

— Але ўсё наладзіцца.

— Наладзіцца?

— А чаму ж не?

Ад Амеліі, пакінуўшы ў варожкі вузельчык, Прося вярнулася разгубленай, ціха паплакала, каб ніхто не бачыў.

У суботу прыехаў Васіль. Зрэшты, ехаў, як і кожны раз, толькі да Відамля, а з Відамля ішоў пехатой.

— Ну, як ты тут?

— Як заўсёды.

Ён абняў яе, прытуліў да сябе, пацалаваў. Яна пальцамі кранула яго шчаку, паўзіралася ў вочы, а ў самой у паглядзе было столькі адданасці, столькі пяшчоты, што яму стала нават не па сабе. У шыбы трывожна грукалі галінкі чаромхі, што расла пад вокнамі.

— А пра дзяцей што не цікавішся? — прыдзірліва запытала яна.

— А што, можа, зноў што здарылася?

— Не.

Маладзіца аднак не ўтрымалася, пачала плакаць, выціраючы твар фартушком.

— Цяпер ты далёка, — паскардзілася яна.

— Брэст — хіба гэта далёка? Я пра цябе, Прося, не забываю, ты для мяне шмат значыш. Наша з табой жыццё — гэта ж і мой лёс, мае радасці і нягоды.

Пасля перапынку ён ізноў загаварыў:

— Хачу і цябе з дзецьмі ў Брэст забраць.

— У Брэст?

— А што? Перавязём хату. Я ўжо і пашпарт для цябе заказаў.

— Нечакана ўсё гэта.

— Трэба думаць, — уздыхнуў Васіль і перайшоў на іншую тэму:

— А я ў Берасці Свісціяна сустрэў.

— Таго самага?

— Таго самага.

— Пасля вайны ў Ліпне нейкая жанчына перастрэла Свісціяна на вясковай вуліцы, пазнала на ім свой кажух.

— Ён не толькі кажухі браў, ён і золата шукаў.

— А з табою што ён хацеў зрабіць? Ужо ж быў вывеў, каля агароджы паставіў.

— Я помню.

Наведалася была Фёкла. Павіталася. Уважліва і строга паглядзела на сына.

— Што, мамо?

— Ты мне Просю не крыўдзі! Яна ў цябе залатая.

— Дык я гэта ведаю не горш за вас.

— Я ўжо наскрозь цябе вывучыла.

— Так і наскрозь...

— Бродзіць у табе цёмная сіла, ой, бродзіць! — прамовіла Фёкла, успомніўшы, магчыма, першага свайго мужа Аляксандра Ільіча, а заадно і свёкра Ілью Аляксандравіча.

«Жанчыне патрэбна каханне, без кахання яна нішто», — падумала Фёкла, але ўголас гэтага не сказала. Крыху счакаўшы, пайшла дамоў. Сонца ўжо хавалася за карчамі, пачаў пырскаць дробны дождж.

Ноччу Васіль працягваў да Просі руку, каб крануцца яе цела, яна чула гэта і хінулася да яго.

Ад'язджаючы, ён з дбайнасцю каханка пытаў, што прывезці з Брэста ў наступны раз.

— Белага хлеба прывязі, — пажадала Прося.

— Прывязу, — паабяцаў ён.

## V

Адпісваў бацьку «хрышчонаму» Валодзя пад дыктоўку Лявона і Фёклы. Пісаў не спяшаючы, старанна выводзіў кожную літарку:

«Дарагі Якаў Арыстархавіч! Дзякуй табе за пісьмо, якое мы ад цябе атрымалі. Увесь час хвалюемся за тваё цяперашняе становішча, асабліва за здароўе. Мы жывём, як жылі, працуем на гаспадарцы, а наш Васіль знайшоў работу ў Брэсце і жыве ўжо там, а дадому толькі наязджае. Прося з дзецьмі пакуль што тут, але Васіль абяцае забраць і іх. У Альбэрціне ў тваім усё, як і раней. Амброжый і Паўліна дапамагаюць Хвядосі. Пасеялі пшаніцу, ячмень і проса. Наязджае час ад часу Мірык. Пакуль усё слава богу. Адно, што часцей сталі гаварыць пра калхозы. Калхозаў у нас яшчэ няма, аднак слухі ходзяць. Шкада, канечна, калі ўсё напрацаванае якому-небудзь чорту нятруджанаму дастанецца. Нядаўна заходзіў Зміцер Зуб, успаміналі маладосць, цябе, калі разам вучыліся ў Камянцы. Добра было б бачыць цябе за сталом, каб успомніць пра ўсё разам.

Дзяк наш прускаўскі Лаўр Яўсеевіч стаў святаром. Прайшоў рукапалажэнне, і цяпер ён айцец Лаўр. Дай бог яму здароўя. А яшчэ табе паведамляю, што памёр родны мой дзядзька Хведар, які жыў на хутары Салавец каля Свішчова. Засталася ўдава Ульяна і дачка Грунька.

Наконт абразоў нічога сказаць не магу, бо нічога не ведаю. Але, знайду момант, распытаю ў Амброжыя.

Дарагі Якаў! Вельмі верым, што яшчэ сустрэнемся, убачымся і пра ўсё пагаворым, як добрыя людзі. Моцна цябе абдымаем, спачуваем у тваёй долі, нізка кланяемся.

Твае сябры і сваякі. Лявон, Фёкла, унук Валодзя.

23.05.1950 г.».

Валодзя склаў ліст у дзве столкі, уклаў у канверт, аблізаў краі і склеіў, надпісаў адрас. Праз месяц які ён знойдзе адрасата.

— Трэба яму яшчэ сала паслаць, сухароў ды цыбулі, — сказала Фёкла.

З гэтым Лявон згадзіўся, прапанову жонкі ўхваліў, паслалі Якаву Арыстархавічу фанерную скрыначку з прадуктамі.

* * *

Напалохала вайна ў Карэі, што пачалася ў канцы лета 1950 года. Гэтая чутка з'явілася ў панядзелак, — у самую раніцу. Прынёс яе Антон Курыца, калі ішоў з Выгнанкі ў прускаўскі магазін:

— Вайна, людкове! Напалі і знішчылі ўсё!

Каля Галёнкавай хаты стаяла купка мужчын. Былі тут і жанчыны.

— Нічагусенькі не ведаем, — сказала Ганна Бочка.

Пачаліся роспыты, але хто на каго напаў, Антон не ведаў, пацiскаў плячамі. Што пачуў, маўляў, тое і вам кажу. А пачуў ён ад Шпронькі, у якога быў дэтэктарны прыёмнік. Кепска было чуваць, у навушніках прападаў гук, так што і Шпронька не ўсё ведаў.

— Якая вайна?! Дзе?! — рэзка, па-начальніцку, у сваім характары загаманіла Мікітава маці — старая Аляксейчыха. Такога, аднак, хто б ёй растлумачыў, не знайшлося.

Прыбег і Гамон, без якога нічога ў вёсцы не адбывалася. Чалавек абазнаны літаральна ва ўсім, але і ён нічога не мог праясніць, а толькі напомніў:

— Я ж ужо не раз вам казаў: людзі такія, што без вайны яны аніяк не могуць. Давай ім вайну, як дзецям цацку — гугнявіў ён і трос галавою.

Пад'ехаў на веласіпедзе ўчастковы Сценгарыеў, спыніўся каля прускаўцаў.

— Вайна — у Карэі, — паведаміў ён. — Дзела, таварышы, пахне керасінам.

— Карэя далёка, аж за Кітаем! — пасміхнуўся, апіраючыся на кавеньку, Фэдар-японец, які няблага ведаў геаграфію Далёкага Усходу, бо быў удзельнікам яшчэ царскай вайны з Японіяй.

— У Паўднёвай Карэі — амерыканцы, — як бы папярэдзіў участковы. — Імейце ў віду.

Гэта прагучала шматзначна. У Прусцы шмат ужо гаварылі пра магчымую вайну з Амерыкай.

— Хто ж пачаў? — не цярпелася ведаць Мікіту Галёнку.

— А хто яго ведае! — разводзіў рукамі Курыца. — Пачалі ды і ўсё.

— Гэта, пэўна, Сталін нацкаваў адну Карэю на другую, паўночную на паўднёвую, — сказаў Павал Гальяш, калі з'ехаў Сценгарыеў.

У душы вяскоўцаў пранікаў страх. Людзі з усяго наваколля кінуліся ў магазін да Салівэся па самае неабходнае — соль, газу, цукар. Фёкла паслала ўнука:

— Купі, не забудзь, камсы! І солі купі, з кілаграм!

Камса ў прускаўцаў у пашане: надта прыдатная да бульбы.

Каля магазіна, у якім гандляваў усё той жа Салівэсь, на лужку, з раніцы выпівалі маляры, што рамантавалі прускаўскую школу перад новым вучэбным годам, бялілі сцены, падпраўлялі дах. Прыехалі ажно аднекуль з Віцебшчыны. Спраўныя маляры, даволі старанныя, але пасядзець за чаркай любілі. Усе — у запэцканых фарбай куртках, нешта паміж сабой абмяркоўвалі. Валодзя прыпыніўся, цікава было, пра што гамоняць.

— Мясцовыя вельмі напалоханыя! Страх іх бярэ! — пачуў ён. Гаварыў чалавек з прадаўгаватым тварам і прыўзнятай лініяй броваў, якія зрасліся ў яго ў адну доўгую тоўстую дужку. — Але ж сапраўднай вайны яны не бачылі. Брэсцкая вобласць — гэта не Віцебская. Там усё разбурана! Тут разбурыць не паспелі, усё атрымалася хутка — і тады, і потым. На пачатку, у сорак першым, ён нас гнаў, а ў сорак чацвёртым мы яго гналі, ледзь апамятацца паспеў і за Буг выскачыць.

— Адступаюць амерыканцы! — сказаў, з выразам здзіўлення на твары, вусаты маляр, худы, з крыху прыгорбленай постаццю. — Слабакі!

— Каб вялікай вайны не было! — занепакоіўся яго сусед, старэйшы гадамі, ставячы каля бутэлькі з гарэлкай парожнюю шклянку.

— Хутчэй бы пачалася! — зарагатаў яшчэ адзін удзельнік кампаніі з чырвоным каркам і аблiччам п’яніцы, пра што сведчылі і шэрыя мяшкі пад вачыма. Па яго паводзінах адчувалася, што ён тут галоўны, брыгадзір. Ён разліваў гарэлку, дзяліў закуску. Закусвалі цукеркамі-падушачкамі і сухімі глазіраванымі пернікамі.

— Амерыка за акіянам! — пасміхнуўся вусаты маляр.

— Хай толькі пачнецца — на бервяне даплыву! — выпаліў брыгадзір з чырвоным каркам. — На бервяне! — паўтарыў ён і прыўзняўся. — Хачу паглядзець на гэтую хвалёную Амерыку. На бервяне даплыву! Разбагацела, нажылася на чужой бядзе! Дык хай са мною падзеліцца!

Сябры недаверліва зарагаталі. Брыгадзір агледзеў іх ашклянелымі вачыма, падняў руку і прыгразіў пальцам:

— Калі трэба, мы ўвесь свет пройдзем!

Валодзя падзівіўся з гэтага чалавека, не ведаючы, што і думаць. Аказваецца, і такія людзі ёсць. Уявіў, як ён будзе на бервяне плысці праз Атлантычны акіян, і засмяяўся. Не згодзен ён быў і з тым, што Амерыка на чужой бядзе нажылася. Наадварот, дапамагала! Вось і дзядуля калісьці ездзіў у Амерыку па дапамогу, каб грошы зарабіць. І зарабіў, разлічыўся з тымі, каму быў вінен.

У Салівэся ў магазіне было поўна народу. Разбіралі ўсё падрад. Ляксандар Гальяш выйшаў з дзвярэй з хамутом на шыі. Соль аднак яшчэ заставалася, а бочка з-пад камсы стаяла пустая.

* * *

Пагодным летнім днём, у нядзелю раніцай Васіль прыгнаў з Брэста пяць грузавых аўтамашын, разам з майстрамі-цеслямі, перавозіць хату. Рашэнне перавозіць хату саспела ў яго даўно, і вось нарэшце яно стала спраўджвацца.

Дзень абяцаў быць спякотным. Па небе марудна плылі сухмаркі — белыя бездажджавыя аблачынкі. Валодзя з брацікамі сачылі, як усё рабілася, як руйнавалася хата. Спачатку цеслі пранумаравалі бярвенні, каб на новым месцы скласці ў тым жа парадку. Потым сталі разбіраць, пачалі з даху. Дах — гонтавы, яго грузілі на аўтамашыны вялікімі плахамі, разам з латамі. Пагрузілі кроквы, затым прыступілі да сцен.

Прося, назіраючы, як хата па бервяну перасяляецца на грузавікі, не ўтрымалася ад слёз, слёз развітання. Маладзіцу ахапіла хваля шкадобы, шкада было гэтага гнязда, якое вось бесцырымонна рушылася, расцягвалася. Агаліўся высокі цагляны комін і вялікая печ з плітою ды каструлямі. Сіратліва выглядала хатняя абстаноўка — стол, лаўкі, шафа.

Сядзіба знаходзілася наўскрай вёскі, жылі амаль як на хутары, незалежна. Сад, агарод, рэчка — усё побач. У Брэсце такіх выгод не будзе. Але трэба было перабірацца, ехаць. Прося кахала Васіля, і каханне рабіла яе пакорлівай.

Васіль таксама хваляваўся. Як ні кажы, а кавалак жыцця ў гэтых сценах прайшоў. Усяго было — і радасцей, і гора, непрыемнасцей, але хата абараняла, ахоўвала, ратавала, усё нядобрае брала на сябе. Наперадзе ж чакала невядомае.

Падышоў Лявон, за ім Фёкла, якая заставалася з Ліліянкай.

— Ломать — не строить! — пажартаваў нейкі з прыезджых майстроў, але ніхто на яго досціп не зрэагаваў.

Лявон з Васілём адышлі ўбок, закурылі.

— Хачу з вамі, тато, параіцца. Можа, і некаторыя дрэвы перавезці?

— Калі пляц дазваляе, дык перавозь. Грушы перавозь! Такіх бэраў у Брэсце ні ў кога няма. Каму іх пакідаць?

Яны ўзяліся за лапаты.

Перажывала і Фёкла. Хоць той Брэст не так і далёка, але цяжка расставацца з сынам і нявесткаю, з унукамі. А як яны там, на новым месцы? Невядома.

У другой палавіне дня хата ўжо не стаяла, а машыны былі загружаныя пад завязку. Паабедалі з яечняй і з гарэлкай, і паехала хата ў Брэст, з вёскі ў горад. Прося з дзецьмі знайшла часовы прытулак у Фёклы з Лявонам.

На месцы хаты засталіся печ з комінам, а за імі стаяў сад — розных гатункаў яблыні, вішні.

* * *

Лявон і Валодзя паехалі ў Брэст. Аднаму і другому захацелася ўбачыць, што з хатай, якую туды перавезлі. Магчыма, трэба ў чымсьці дапамагчы. Лявон нават прыхапіў сякерку. Павезлі будаўнікам харчы. Фёкла наладавала цэлы мяшэчак — сала, кавалак кумпяка, свежыя гуркі. Хлеб не клала — у горадзе хлеб ёсць.

Новае месца аселасці Васілёвай сям'і — вуліца Мянжынскага, 1. Сядзіба агароджаная шчыльным, як таго патрабавалі гарадскія парадкі, плотам. Хата была ўжо адбудаваная, накрытая, ганкам выходзячы на вуліцу. Тая самая, што стаяла не так даўно ў Прусцы. Той жа гонтавы дах, сшытыя з сасновых дошак шчыты. Зверху на шчыце, на самым вільчыку, красавалася ўсохлая «кветка». Побач з ганкам расла маладая беластволая бярэзінка. Невядома, як яна тут апынулася, — расла яшчэ да таго, як перавезлі сюды хату.

— Бяроза! — здзівіўся Лявон. — Вясёлае дрэва. Хай расце.

Воддаль стаяў збіты з дошак хлевушок, у якім начавалі і адпачывалі цеслі, а разам з імі і Васіль. Да сцяны быў прыбіты ўмывальнік са шпяньком. Па краях сядзібы, каля плота, былі пасаджаныя тыя самыя прускаўскія грушкі. Дрэўцы прыняліся, пачалі расці.

Васіль быў заняты будаўніцтвам, аддаваў распараджэнні цеслям, да якіх далучыўся і Лявон, каб дапамагчы. Валодзя таксама пачаў дапамагаць, падграбаць трэскі. Надта захацелася марожанага, і ён сказаў пра гэта бацьку.

— З марожаным давядзецца пачакаць, сынку, хату будуем, грошы трэба...

Вечарам Васіль павёў сына да знаёмага па рабоце ў «Міжрайгандлі» Літвінава, які жыў у цэнтры горада па вуліцы Камсамольскай.

— Пажывеш з тыдзень у Літвінавых, — сказаў Васіль. — Гэта — сям'я нашага галоўнага бухгалтара Ільі Майсеевіча. Сын у іх — твой равеснік, Моня.

Літвінавы аказаліся людзьмі вельмі гасціннымі. Гэта была яўрэйская сям'я. Да нечаканага кватаранта паставіліся добра. Асабліва сын Літвінавых Моня. Адразу спытаў у Валодзі, ці ўмее ён гуляць у шахматы, абяцаў паказаць хады.

Прыязна пагаманіўшы з гаспадаром і гаспадыняй, Васіль даў рубель на марожанае, развітаўся і пайшоў, а Валодзя застаўся пад апекай Моні. Вячэралі ўсе разам. Надзея Восіпаўна — так звалі гаспадыню — кожнаму ў талерку паклала кавалак смажанай траскі і хлеб. Валодзя ўспомніў, як вучыла Аляўціна Дзіядотаўна, калі ясі рыбу, трэба карыстацца відэльцамі. Стараўся так і рабіць, хоць гэта было не так і зручна.

— А ў якім класе ты вучышся? — спытала Надзея Восіпаўна.

— У шостым, — адказаў хлопец.

— Выдатнік?

— Не зусім, але стараюся.

— А як называецца ваша вёска? — пацікавіўся Ілья Майсеевіч.

— Пруска. Гэта каля Камянца.

— Вялікая?

— Хат дваццаць пяць будзе.

— Не надта вялікая.

На завяршэнне вячэры пілі чай з бруснічным варэннем. Сталовая выглядала вельмі ўтульна, сцены былі пафарбаваныя ў прыемны жоўты колер. Уся кватэра на некалькі пакояў, прыбраная, усё на сваім месцы. Госцю адвялі даволі прасторны пакой, які межаваў са сталовай. Каля сцяны стаяла канапка з пасцеллю: прасціна, падушка, коўдра, — усё як мае быць. Валодзя адчуў увагу да сябе.

Яго, вяскоўца, болей за ўсё здзівіла, што тут жа ў хаце знаходзіўся туалет, у якім спраўлялі сваю натуральную патрэбу. У Міцькі Балабайкі туалет стаяў воддаль ад кватэры.

— Ноччу, калі захочаце ў туалет, ён у нас тут, — Надзея Восіпаўна паказала рукой у бок калідора, які вёў на ганак.

— Дзякуй, я ведаю, — адказаў Валодзя, мяркуючы, што гаспадыня паказвае ўглыб двара.

Надзея Восіпаўна ўсё ж такі не паверыла яго «веданню», устала, адчыніла дзверы ў невялікі пакойчык побач з кухняй, у якім месцілася прыбіральня. Ад здзіўлення хлопец ледзь не прысвіснуў. І сапраўды, заставалася, як казаў Кузёмка, толькі здзіўляцца.

Ілья Майсеевіч больш маўчаў, але, парушыўшы сваю маўклівасць, пажадаў спакойнай ночы.

Раніцай назаўтра, калі Валодзя прачнуўся, Надзея Восіпаўна сказала яму: «Добры дзень!» «Добры дзень!» — адказаў ён з некаторым здзіўленнем, таму што дома, у Прусцы, раніцай ніхто гэтага адзін аднаму не казаў, абыходзіліся без такога ранішняга пажадання.

— Як спалі на новым месцы?

— Добра.

Гаспадыня Надзея Восіпаўна звярталася да яго на «вы», і ён гэтага аніяк не мог зразумець. Станавілася нават не па сабе. «Відаць, тут так прынята», — вырашыў нарэшце ён. На сняданак была кава з бутэрбродамі і смачная манная каша. Потым Моня павёў свайго новага сябра ў цырульню, якую назваў парыкмахерскай. Прускавец адчуў да сябе ўвагу.

Абед, на які прыйшоў з работы Ілья Майсеевіч, складаўся з салаты на закуску, расольніка і сасісак з рысам. Хлопцы, адзін і другі, на апетыт не скардзіліся, елі не марудзячы. Валодзя тыкаў у сасіску нож, рэзаў і падносіў да рота.

— Не трэба есці з нажа, — зрабіла заўвагу Надзея Восіпаўна і спытала, ці каштаваў Валодзя калі «селёдку под шубой». Ён адказаў, што не, не каштаваў.

— Дык я вас пачастую!

Прыгатаваная гаспадыняй страва з дзіўнаватай назвай «селёдка под шубой» аказалася досыць смачная, і ён з апетытам з’еў сваю порцыю. З’еў і падзякаваў.

Спадабалася прускаўцу і курыца з сырам, якую ажно два разы гатавала Надзея Восіпаўна. Казала, што навучылася яшчэ да вайны, у дзявоцкую пару, ад маці.

Моня паказаў і сваю бібліятэку. Кніг не шмат, але цікавыя. Быў тут і той «Таинственный остров», з якім Валодзя пазнаёміўся калісьці ў начным, у пераказе берасцейца Лёнькі.

Потым гулялі з Монем у словы — назвы гарадоў. Адзін назваў, напрыклад, Брэст, другі павінен быў прыгадаць горад, назва якога пачыналася з той літары, якой заканчвалася папярэдняя назва. Падыходзіла Тула. І гэтак далей. Перамог Моня.

Затым гасцінны Моня вучыў гуляць у шахматы, паказваў хады. Гульня здалася надзвычай цікавай, патрабавала ўмення і адказнасці. Пачалі гуляць, дык Моня адразу, не цырымонячыся, аб’явіў дзіцячы, як ён сказаў, мат.

— У вас, школьнікаў, канікулы, — казала Надзея Восіпаўна, — перад новым навучальным годам трэба адпачыць.

З Монем гулялі па гарадскіх вуліцах, частаваліся марожаным, хадзілі на Мухавец, на пляж. Прускавец аднак не распранаўся па простай прычыне: не меў трусікаў. Дома, на Лосьне, падлеткі ды і старэйшыя распранаюцца дагала, а тут — не, усе загараюць і купаюцца ў трусіках. Не будзеш жа фарсіць у палатнянай сарочцы ды споднiках. Давялося купляць трусы, тут таксама дапамог сябар.

Разам з Монем у кінатэатры «1-е Мая» пaглядзелі кінафільм «Сакрэтная місія», у якім паказвалася няшчырасць амерыканскіх саюзнікаў у час вайны.

Неяк Надзея Восіпаўна прынесла з гастранома пачку пельменяў. Купіла, сказала, па знаёмстве. На пачцы стаяў надпіс: «Сталинские нежные». Ілья Майсеевіч доўга ўглядаўся ў надпіс і, нічога не сказаўшы, глыбока ўздыхнуў.

Ілья Майсеевіч называў хлопцаў «маладымі людзьмі», і гэта Валодзю падабалася, цешыла самалюбства.

Тыдзень ў Літвінавых праляцеў імгненна, як адзін дзень. Надта не хацелася развітвацца з гэтай гасціннай сям’ёй.

— Прыязджайце, — запрашала Надзея Восіпаўна, — Моня вам будзе рады.

У Пруску вяртаўся з дзядулем Лявонам, які ўвесь гэты час дапамагаў цеслям на будаўніцтве.

Дома бабуля з цікавасцю слухала аповед унука пра гасцяванне ў Брэсце. Асабліва здзівіла яе курыца з сырам, якую гатавала Надзея Восіпаўна.

* * *

Амаль адначасова з Васілём перавёз у Брэст хату і Мірык Пац. Баяўся страціць будыніну, бо на яе ўжо нацэліўся калгас «Свободный труд», што арганізаваўся ў Алешкавічах. Алешкаўцы хацелі перавезці ў вёску, ператварыць у клуб.

— У Алешкавічах клуб будаваць трэба, а няма з чаго, — турбаваўся намеснік старшыні калгаса «Свободный труд» Аляксей Ніканюк. Яго падтрымаў калгасны актыў.

Марудзіць было нельга. Мірык ноччу падагнаў у Альбэрцін некалькі магутных грузавікоў, спешна разабралі і пагрузілі на іх хату. Забраў з сабой і маці Хвядосю. Бежанка Паўліна засталася пры адзінокім дзядзьку Амброжыю за гаспадыню.

Перанёс Амброжый да сябе, у сваю хату, і братавы абразы, якія накупляў Якаў Арыстархавіч, — цэлы іканастас.

— У Берасці будзеш ставіць? — спытаў ён у пляменніка пра лёс хаты.

— У Берасці, але пакуль што недзе ў лесе скінем, — адказаў Мірык. — Каб ставіць хату, пляц трэба. Але абяцалі, ды я крыху і падмазаў.

— Не падмажаш — не паедзеш, — згадзіўся з пляменнікам дзядзька.

Мірык казаў праўду: пляца пад хату ў Брэсце пакуль што не далі, аднак меўся неўзабаве атрымаць. Бярвенне скінулі ў лесе за Блювінічамі. Алешкаўцы спахапіліся, але было позна. Хату доўга шукалі, але так і не знайшлі. Знікла. Прагналі з пасады старшыню Відамлянскага сельсавета за тое, што не праявіў пільнасці, упусціў.

Тым часам Мірык (не абышлося без хабару) займеў пляц на Чырвонаармейскай вуліцы і паставіў, прывёзшы з лесу, зруб, а потым давёў будаўніцтва да канца, усяліўся з жонкай і маці.

## VI

Старшакласнікі трымаліся асобна, сваёй кампаніяй, лічылі сябе «кавалеркай», вучняў малодшых класаў як бы ігнаравалі, на свае вечары не пускалі. А як хацелася пабыць на такім мерапрыемстве, на якім, апроч даклада і самадзейнага канцэрта, былі яшчэ і танцы! У верасні, у пачатку вучэбнага года, на дошцы аб'яў у калідоры, з'явіўся анонс: «Вечар пытанняў і адказаў». Побач павесілі скрыначку, у якую можна было кідаць пытанні. Але які сэнс, калі цябе не пусцяць? — разважалі падлеткі. І сапраўды, меншых на вечар пытанняў і адказаў вырашылі не пускаць, бо гэта, маўляў, не для іх узросту. Зарана. Уваход па запрашальных білетах. Такую пастанову прынялі на камсамольскім сходзе.

«Запахла» дыскрымінацыяй, хаця ніхто гэтага слова — «дыскрымінацыя» — не ўжываў.

— Як так? — пытаўся Валодзя ў сакратара камсамольскай арганізацыі школы Гогі Пахолкі, спаткаўшы яго каля дошкі аб'яў.

— А т-так! — адказаў Гога, заікаючыся. — Вам яшчэ рана. Падрасці трэба.

Да лацкана яго пінжака ўсё адно як бы прыліп камсамольскі значок. Камсамольскі сакратар паставіў справу так, што яго сталі ўсе баяцца, нават настаўнікі. Меў права заходзіць у настаўніцкую без стуку. Заўсёды імкнуўся паказаць, што з вучняў ён тут — галоўны. Падначаленыя атрымлівалі ад яго вывалачку на бюро за самую нязначную правіннасць, не скупіўся і на вымовы.

Гога — лідар, камсамольскі бог, як яго яшчэ называюць. Бацькі пераехалі на сталае жыхарства ў Камянец, а Гога застаўся ў цёткі Лушы заканчваць школу. Каля яго — цэлая світа, члены камітэта камсамола: Коля Дземідзюк, Валодзя Сілюк, Жэнік Галёнка, Болік Латушка, Алег Жалярук, Сяргей Шаўчук, па мянушцы Жэшкі, і іншыя.

— Фанабэрыстыя! — сказаў пра іх Іван Каленік, Валодзеў сябар. — Кавалерка!

Запрашальныя білеты яны раздалі сябрам — сваім равеснікам. Меншых абмінулі свядома. А надта хацелася, ну, проста карцела трапіць на той вечар, і ў Валодзі з'явілася ідэя: «Трэба недзе дастаць узор таго білета і падрабіць пад яго свае!..» Такі выпадак якраз і падвярнуўся. Жэнік Галёнка білет ужо меў, нават хваліўся ім, паказваў маладзейшым. На кавалачку паперы, з вучнёўскага сшытка, разлінееным у клетачку, у верхнім кутку стаяў нумар, а крыху ніжэй — штампік: УПЛОЧЕНО.

Такія штампікі ставіліся ў камсамольскіх білетах, калі камсамолец плаціў узносы за месяц. «А калі такую пячатку выразаць з вучнёўскай «гумкі», якой сціраюць надпісы на паперы? — прыкінуў Валодзя. — Трэба паспрабаваць!..» І ён паспрабаваў, разам з Іванам, які ўхваліў намер сябра.

Першая спроба не ўдалася, бо яны не перавярнулі на пячатцы літары. Літары трэба было выразаць у люстраным адбітку. У другі раз усё атрымалася. Выдрукавалі такіх запрашальных білетаў дзясяткі з два, на паперы ў клетачку, і шчодра, хоць і пад сакрэтам («нікому не кажы!») адарылі сябрукоў. Моўчкі, але з удзячнасцю, адным з першых, узяў запрашэнне Грыша Гальяш. Валодзя памятаў той выпадак, як Грыша калісьці выратаваў, калі ён тапіўся ў Лосьне. Грыша прайшоў кантралёраў і, апынуўшыся на мерапрыемстве сярод старшакласнікаў, камсамольцаў, паводзіў сябе важна і незалежна.

— Чаго шуміць кавалерка? — спытаў ён, як роўны, зірнуўшы на мітусню арганізатараў вечара.

На яго не звярнулі ўвагі: прайшоў — значыць недзе дастаў білет. Можа, хто свой аддаў...

Ніхто не затрымаў і іншых уладальнікаў несапраўдных білетаў. Спакойна прайшлі Валодзя з Іванам, Толік і Жоржык Хомкі, Сашка Ламака, Сашка Ахрэмаў. Валодзя ад таго, што яго прыдумка ўдалася, пачуваў сябе на сёмым небе. І толькі калі прад'явіў білет пяцікласнік Генусь Дзванарык (Валодзя пашкадаваў Генуся, даў білет), старэйшыя спахапіліся, забілі трывогу, далажылі Гогу, і той загадаў праверыць білеты, ці, як ён сказаў, «дакументы на права прысутнічаць на мерапрыемстве». Але ўжо было позна, вечар пачынаўся, за сталом пад чырвоным абрусам займаў свае месцы прэзідыум на чале з дырэктарам Рытатуем, які патрос званком, і на стале з'явіўся графін з вадой. Рытатуй спераду і ззаду абцягнуў, абтузаў гімнасцёрку, расклаў на стале паперкі з пытаннямі, на якія ўзяўся адказаць, і пачаў. Першае пытанне тычылася філасофіі. Нейкага дзівака цікавіла, чым адрозніваецца гістарычны матэрыялізм ад дыялектычнага. На гэтае пытанне, аўтарам якога наўрад ці мог быць нехта з вучняў, хутчэй за ўсё — хтосьці з настаўнікаў, і ўзяўся адказаць Рытатуй. Пахваліў аўтара пытання:

— Аўтар з галавой, кацялок, відаць, варыць. Таварышы! Дыялектычны матэрыялізм, гістарычны матэрыялізм. Адно вучэнне і другое вучэнне. Пра гэта прапісана ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)». Гэта наша зброя ў барацьбе з класавым ворагам, а зброяй трэба валодаць. Адсылаю вас да «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». Лепш, як там сказана, не скажаш. Гэта, я думаю, кожнаму зразумела. Галоўнае — не скаціцца ў ідэалізм.

Пачуліся нясмелыя апладысменты, Раман Дарафеевіч зрабіў паўзу і прыступіў да другога пытання. Пытанне было такое:

«Рухавік унутранага згарання запальвае электрычная іскра, якую выпрацоўвае магнето і дасылае ў рабочы цыліндр, а адкуль бярэцца тая іскра, якая выклікае рытмічнае біццё чалавечага сэрца?»

У зале ўсталявалася цішыня, чакалі адказу. Рытатуй не разгубіўся і адказаў вельмі бадзёра:

— Наша сэрца, таварышы, гэта той жа, як у песні спяваецца, пламенны матор. Калі матор пламенны, дык будзе і іскра, нікуды яна не дзенецца. Важна, каб матор быў пламенны, каб кожны стараўся аддаць свае сілы і здольнасці Радзіме, партыі, справе камунізму!

Гэтак выглядалі Рытатуевы адказы, ён часам хітраваў, перакручваў пытанні, жартаваў. Публіка час ад часу рагатала, часам як акцёру, апладзіравала. А пытанні былі далёка не простыя, некаторыя можна было адрасаваць і ў Акадэмію навук. Нейкі жартаўнік пытаўся: «Ці вядома, колькі на небе зор?» Настаўніца астраноміі Акцябрына Панфілаўна толькі рукамі развяла, дадаўшы, што зор у сусвеце болей, чым мы іх бачым і палічыць іх пакуль што няма ніякай магчымасці. Гэта не ўдалося нават Цыялкоўскаму — вынаходцу трансківасмічнай ракеты.

Было яшчэ такое пытанне:

«Тое, што птушкі восенню адлятаюць у вырай, зразумела: баяцца зімовых халадоў, маразоў, але нашто яны вясной вяртаюцца назад? Маглі б там, на поўдні, і заставацца».

Адказваць узяўся Рытатуй.

— Птушкі, як вядома, думаюць пра патомства, будуюць гнёзды, адкладваюць яйкі, — сказаў ён. — Дык вось: на поўдні горача, і яйкі б пратухлі. Таму птушкі і вяртаюцца ў нашу ўмераную зону.

Зала прымоўкла, а потым усе засмяяліся. Аказваецца, усё вельмі проста, у адказе Рамана Дарафеевіча была свая логіка.

Васілю Іванавічу Клюку дасталося пытанне: «Як утварылася слова «чалавек?» Казалі, што ён сам вызваўся на яго адказаць.

— Слова «чалавек», — пачаў ён, агладзіўшы на галаве лысіну, — складаецца з дзвюх частак: «чало» і «век». Вось яно — чало, — Васіль Іванавіч пляснуў сябе далонню па лысіне. — Чало знаходзіцца паміж цеменем і патыліцай, самая макаўка. Там месціцца наш розум, які вылучае чалавека з усяго жывёльнага свету. А другая частка — «век» — азначае працягласць жыцця, якое нам дадзена і на якое ў нас хапае сіл.

Васілю Іванавічу нельга было адмовіць у логіцы і пэўнай вынаходлівасці. Валодзю такое тлумачэнне здалося цалкам пераканаўчым, нягледзячы на тое, што дырэктар Рытатуй чамусьці незадаволена круціў галавой. Не іначай, як угледзеў нейкі «ідэалізм».

Вечар завяршыўся танцамі, іграў на акардэоне Жэшкі. Іграў прыгожа, жвава, «з падцінаннем» на высокіх нотах, нібы ўгадваў абвостраную пачуццёвасць прысутных. Валодзя запрасіў на падэспань Шуру Дронь з Трасцяніцы. Гэта быў пакуль што адзіны танец, які ён умеў танцаваць. Шура

не сказаць каб была надта прыгожай, але мела белы тварык і тоўстую цёмную касу, і гэта рабіла яе адметнай і сімпатычнай. На скронях пяшчотнымі пасмачкамі віліся валасы. Грудзі толькі-толькі пачалі наліваццa. Побач з хлопцам, хоць яшчэ і «недарослым», яна заірдзелася, паружавела. Жанчына заўсёды напоўнена страсцю, заўсёды прагне кахання, але Валодзя пакуль што гэтага не ведаў...

А назаўтра пачалося разбіральніцтва.

— Хто ж гэта фальшаваннем займаецца? — дапытваўся Гога. — Паміж намі вораг. Такога яшчэ не было. Ну і дзялы!

Ніткі вялі да Платонава, але той аднекваўся, казаў, што нічога не ведае. Іван Каленік маўчаў. Валодзя доўга думаў: «А можа, прызнацца? Не, не буду», — вырашыў ён, скідаючы з сябе палахлівасць.

Прайшоў нейкі час, і Платонава нечакана паклікалі ў настаўніцкую. Валодзя пастукаў і адчыніў дзверы. У пустым памяшканні знаходзіўся нейкі незнаёмы тып у сінім дыяганалевым плашчы. Тып моўчкі стаяў каля акна, не распранаючы гэтую сваю адзежыну. Скіраваў на хлопца, які ўвайшоў у настаўніцкую, цяжкі погляд.

— Старшы следавацель пракуратуры Бублікаў, — прадставіўся ён, неахайна сунуўшы хлопцу пад самы нос службовае пасведчанне. Сунуў і зноў схаваў у кішэнь, Валодзя не паспеў нават прачытаць, што там напісана. — Я хачу з вамі пагаварыць.

Валодзя пазнаў яго: гэта быў той самы Бублікаў, які разам з Прыбыловым хадзіў па хатах пры падпісцы на пазыку. «На «вы» звяртаецца, гэтак са мною яшчэ ніхто не размаўляў», — падзівіўся хлапчына і звярнуў увагу на зубы Бублікава — нейкія крывыя і ўчарнелыя.

— Ну што, Платонаў, скажаш? Ды ты сядай!

Валодзя прысеў на стул, сарамліва апусціў вочы, губляючыся ў здагадках наконт таго, чаго яго выклікалі. Крыху замаркоціўся.

— Як гэта табе ўдалося пацэліць кінамеханіку ў самае вуха? — спытаў Бублікаў і таксама сеў. — Гэта палітычнае дзела — зрыў кінасеанса.

Пытанне сталася нечаканым, але Валодзя добра помніў тое ўжо даволі даўняе здарэнне. З месяц таму назад кінамеханік Радзівон Сапега прывёз карціну «Канстанцін Заслонаў» і вечарам меўся яе паказваць, развешваў на сцяне экран. Публіка ўжо сабралася. Падлеткі, якіх Радзівон бясплатна не пускаў і на гэтай глебе меў з імі працяглы канфлікт, пралезлі праз акно і размясціліся на падлозе. Да Радзівона сімпатыі, вядома, не мелі. Вынаходлівы Жэнік Галёнка, начапіўшы на пальцы гумовую нітачку, стрэліў у кінамеханіка металічным прабойчыкам. Нацягнуў рагатку і стрэліў. Хацеў, вядома, пажартаваць, але жарт выйшаў няўдалы. Радзівон заенчыў ад болю, выпусціў з рук экран і абедзвюма рукамі схапіўся за вуха. Шукаць «стралка» не было калі, трэба было круціць кіно, і Радзівон, ачуняўшы, толькі пагразіў камусьці кулаком. Потым Жэнік, апраўдваючыся перад сябрукамі, казаў: «Я хацеў яму ў шапку». Падумаўшы, дадаў: «А ён таксама шпурнуў ў мяне ручку ад кінапраектара, калі я лез у акно».

— Дык гэта не я.

— А хто?

Валодзя пацiснуў плячыма.

— Цёмна было.

— Я канстацірую факт, — сказаў следчы, зрабіўшы вусны трубачкай. — Усяго толькі. Кстаці, у вайну вы заставаліся тут?

Валодзя не адразу зразумеў, пра што ў яго пытаюцца.

— Быў, стала быць, у акупацыі? На акупіраванай тэрыторыі? — патлумачыў сваё пытанне следчы, перайшоўшы на «ты».

— Быў, — згадзіўся хлопец і падумаў: «Усе ж былі, не адзін я...»

— Дык ты што? Пячаці падрабляеш? — Бублікаў кінуў на свайго візаві строгі і разам з тым насмешлівы позірк. Правай рукою абмацаў і паправіў гузікі ў плашчы, хаця і без гэтага яны былі акуратна зашпіленыя. — Палітычная правакацыя!

Валодзя ўздыхнуў, ніжэй апусціў вочы: «Вось яно што! Вось чаму я тут, у настаўніцкай! Падробленыя білеты. Дзеля гэтага ты мяне і паклікаў...» На сэрцы зашчымела. Хто ж гэта сказаў?

— Выкладвай! Мне не трэба пярэчыць.

— Я не пярэчу, — сказаў збіты з панталыку хлопец.

— Не прыкідвайся цялём.

— Я не прыкідваюся.

— Што, сорамна сказаць праўду?

Хлопец маўчаў.

— Будзем хадайнічаць аб разглядзе тваёй персанальнай справы. А ты думаў як?

Што гэта такое — «персанальная справа», Валодзя не ведаў.

— Прызнайся — будзе лепш! Бо мы ведаем усё.

— Калі ведаеце, дык тады нашто пытаецеся?

— Наіўны ты, — пасміхнуўся Бублікаў, зноў агаліўшы ўчарнелыя зубы. — А можа, мы правяраем!

Валодзя зноў прамаўчаў.

— А як ты пайшоў на гэтую падробку? Ты, я чуў, быў завадатарам?

«Ты мяне на пушку не бяры», — падумаў хлопец і на пытанне нічога не адказаў.

— А хто навёў цябе на гэтую думку? Хто дапамагаў?

— Я сам.

— Агітацыі варожых элементаў паддаўся?

— Якіх яшчэ элементаў?

— Што ж, ініцыятыву вырашыў праявіць? Палучаецца, што вазмуціцель спакойствія.

Валодзя адчуваў, як набракаюць чырванню шчокі.

— А хто дапамагаў? З кім ты гэта рабіў? Пячатку, скажам, з кім рабіў?

— Я сам.

— Як ты пасмеў?

— Так атрымалася.

— А ты ведаеш, што табе пагражае за гэту правакацыю, за развал палітыка-выхаваўчай работы? Табе можа ох як не паздаровіцца. Ёсць усе падставы аддаць цябе пад суд. Пасадзім! Як двойчы два пасадзім! Сёння ты ўваходныя білеты падрабіў, а заўтра грошы падробіш. Нашы, савецкія грошы!

Хлопец, слухаючы ўсё гэта, быў у разгубленасці, ледзь стрымліваў слёзы.

— За што? — вырвалася ў яго.

— Калі ты запрашальныя білеты надрукаваў, дык і што горшае можаш надрукаваць, і не толькі грошы...

Бублікаў не то закашляў, не то хрыпла засмяяўся, вытрымаў паўзу і спытаў:

— Ці ведаеш ты такі вось вершык:

Дзякуй Сталіну-грузіну,
Што абуў нас у рэзіну...

Валодзя ўспомніў, што гэты вершык чуў ад Кузёмкі і здзівіўся, што яго ведае і следчы. Але палічыў за лепшае адмовіцца.

— Першы раз чую.

Бублікаў кіўнуў на радыёпрыёмнік «Родина-47», які стаяў на падстаўцы ў кутку настаўніцкай.

— А хто тут радыё слухае?

— Адкуль я ведаю, мяне сюды не пускаюць.

— Ну, што ж, будзем лічыць, што ты асазнаў сваю памылку.

Хлопец, сцяўшыся, маўчаў.

— Вучышся ты добра, вучыцяля хваляць, па прадметах паспяваеш. Пасля школы, відаць, далей вучыцца збіраешся? Гэта — правільна. У нас, у СССР, перад моладдзю ўсе дарогі адчыненыя. Калі ласка, паступай...

«Куды гэта ён хіліць?» — у хлопца запульсавала трывожная думка.

— А хочаш быць разведчыкам? Бачыў карціну «Подвиг разведчика»?

— Бачыў, але ж я моў не ведаю.

— Якой мовы?

— Ну, нямецкай...

— Мову можна вывучыць. А разведчыкі патрэбныя, бо ворагаў у нас шмат.

— Як — шмат? Вайна ж ужо скончылася...

Бублікаў падняў на няўцямнага субяседніка цяжкі пагляд.

— Не так ты думаеш. Няправільна. Ворагі, на жаль, ёсць і сёння. Ёсць людзі, якія спецыяльна шкодзяць, па лясах бадзяюцца. Курыш? — ён дастаў пачку «Беламорканала».

Валодзя адмоўна пахітаў галавой.

— Ты б от дапамагаў нам, падказваў, хто чым дыша.

— Дыхаюць паветрам.

— Паветрам, але не адным, — незадаволена пакрывіўся Бублікаў. — Бачу, няўцяма ты, ці прыкідваешся.

Валодзя нічога не адказаў.

— Ты, я бачу, дзівак ці строіш з сябе дзівака. Та-а-к. Ну, яшчэ, я думаю, сустрэнемся. Пра нашу размову нікому! Ясна? Нікому ні слова, а то...

— Ясна...

Пасля гэтага выпадку Валодзя доўгі час хадзіў як сам не свой. Лявон заўважыў гнятлівы ўнукаў настрой.

— Чаго ты так маркоцішся, унучак? — спытаў ён. — Укрыўдзіў хто?

— Не, дзедо, ніхто не ўкрыўдзіў.

— Калі прыстаюць, дык адбівайся! Кажы мне, дапамагу.

Унук быў удзячны за падтрымку.

* * *

У нядзелю да Кужалёў наведаўся Кузёмка. Госць пераступіў парог, зачыніў за сабою дзверы, павітаўся, даў «добры дзень», размашыста перахрысціўся на покут, паставіў у куток свой ядлаўцовы кій.

— Добры дзень! — адказалі гаспадары.

Госць зняў і павесіў на цвік шапку і світку. Адчуваў сябе як дома. Зірнуў на боты, якія, відаць, не задаволілі яго сваім выглядам. Дастаў з кішэні

хусціну і правёў ёю па халявах і падносках. Боты заблішчэлі ярчэй. Пасля гэтага апусціўся на лаўку. Але моўчкі вандроўнік сядзець не мог, адразу пачаў гаворку:

— А ў вас чыста, мух няма.

— Павыганялі, — пасміхнулася Фёкла.

— Ну і дзе ты быў? — спытаў Лявон.

Кузёмка, аднак, не такі, каб даць прамы адказ.

— Дзе быў, там цяпер няма.

— Навін, пэўна, шмат?

— Навін шмат, а добрага мала, — зноў загаманіў госць. — Пра страшнае кажуць. Не прайшло яшчэ часу пасля заканчэння вайны, а тут новы страх — атамная бомба. Кажуць, што вось-вось мае пачацца новая сусветная вайна, яшчэ больш страшная, чым тая, якую толькі што перажылі.

— Няўжо? — здрыганулася Фёкла.

— Так! Выходзіць, як я і казаў. Я яшчэ тады прадракаў. І ў Бібліі сказана: «Зямля разверзнецца!» Вось яно і ёсць. Атам — ён усё можа. А яшчэ сказана: «Горы зрушацца, і холмы пакалеблюцца...»

У Кузёмкавых словах адчуваўся затоены страх.

— Чаго толькі чалавек не прыдумае на сваю галаву, — заўздыхаў Лявон.

— Праўду кажаш, раней пра атам людзі не ведалі, такога страху не было, а цяпер з ім жыць давядзецца. Мяне нават сон пакінуў. Бяссонніца!

Прыбег Валодзя, павітаўся з Кузёмкам, той падаў хлопцу руку.

— Жаніцца трэба, — сказала Фёкла

— Я неяк пра гэта не думаў, — прызнаўся вандроўнік. — Яно б можна было б жаніцца — дзве валасіны на галаве яшчэ растуць.

— Выглядаеш ты добра, — пахваліла Фёкла.

— Не, было са мной адно непрыемнае здарэнне.

— Што такое?

Кузёмка збянтэжана зміргаў чырвонымі прыпухлымі павекамі і паціснуў плячыма, як бы ўсё яшчэ не цямячы, што з ім адбылося.

— Іду я сабе, і раптам дождж. Ну, я, каб перачакаць, пад сасной схаваўся.

— Пад ліпу трэба было або пад дуб — пад сасною змочыць, — падказаў Лявон. — Хто пад сасну хаваецца?

— Гэта ў лесе здарылася, але ні ліпы, ні дуба паблізу не было, пад сасною давялося хавацца. Нямецкая накідка пры мне была, пярэстая такая, дык я яе на плечы напяў і рукі ў дзіркі прасунуў. Прытуліўся да камля, прылёг і — такога са мной не было — заснуў. Прачнуўся, калі дождж перастаў. Але — правільна ты кажаш, Лявоне, — пад сасной-такі змачыла. Чую, нешта не то енкнула, не то піскнула за карчом. Дай, думаю, гляну, што гэта такое. За карчом, бачу, ямка, а ў ёй, збіўшыся ў кучу, ляжаць рабенькія парасяты. Ды такія маленькія да прыгожанькія, што мне захацелася іх пагладзіць. Не паспеў я дакрануцца да парасяці, як раптам: «рох-рох!» — з’явілася аднекуль аграмадная свіння. Ну, як гара! Рудая, раззлаваная, з натапыранай шчэццю. Матка! Можа, яна пачула, як піскнула парася? Гэта добра, што я ўгледзеў яе першы, але ж і яна мяне заўважыла. Што рабіць? Усё, думаю, прыйшоў твой канец, Кузёмка. І нашто ты павалокся праз лес? На гэты раз ужо не ўратуешся. Але Гасподзь даў шанец. Побач расла старая какора-бярэзіна, вілаватая, з чорнай, парэпанай карой на камлі. Я маланкай кінуўся да яе і палез, за сук учапіўся. Свіння, таксама маланкай, за мною. Аграмадная, цяжкая, але вёрткая! Я ўжо на дрэве быў, як, бачу, узнялася яна на задніх нагах, гэтак лоўка падскочыла і ўхапіла

іклamі палу гэтай маёй накідкі. Брызентавая накідка трашчыць, але не рвецца! Чую, як свіння цягне мяне ўніз. З усіх сіл за сук трымаюся, а яна шкуматае гэтую маю накідку. Зірнуў уніз і ледзь не абамлеў: бачу, на мяне глядзіць і вочы гавораць: «Усё роўна дастану, нікуды ты ад мяне не ўцячэш!» Але ж і далася мне тая накідка!

Кузёмка ажно плюнуў ад прыкрасці, што апрануў гэту злашчасную адзежыну.

Лявон з Фёклай, ураженыя незвычайным аповедам, ад здзіўлення моўчкі хіталі галовамі.

— Ну і чым усё скончылася? — папытаў Лявон.

— Ой, каб вы ведалі! Вылузаўся я неяк з той накідкі, скінуў уніз і палез яшчэ вышэй на самую вяршаліну, каб далей ад бяды, а гэтая рудая дурніца пачала распраўляццца з маёй накідкай. Рвала, таптала, таўкла нагамі, качалася, усялякім чынам знішчыць хацела. Што б яна са мной зрабіла, не ведаю.

— Ну, ужо ж бы не пашкадавала! — прамовіла Фёкла.

— Не пашкадавала! — устрапянуўшыся, пацвердзіў Кузёмка і зноў стаў казаць: — Бяроза — высокая, дык я яшчэ вышэй палез, ледзь у неба галавою не ўтыркнуўся!

— Трэба было пацер прачытаць, — параіла Фёкла.

— Дык чытаў! Не памагло.

— І доўга ты сядзеў на той бярэзіне?

— Заначаваў! Страшна было спускацца. Шэльмы той баяўся. Накідку яна з сабой пацягнула! Відаць, парасят акрываць. А я на дрэве сяджу. Абхапіў ствол, — пацярпелы паказаў, як ён ашчаперыў бярозу, — і сяджу. А навокал лес і балота, балотнай тванню пахне. Змерклася, сцямнела. Ноч мяне агарнула. Ні месяца, ні зорак! Цемень і цішыня. Чую толькі, як бяроза хістаецца і сэрца трапечацца. Надта мулялі сукі, на якіх сядзеў.

— Дзякуй яшчэ, што нагавіцы не сцягнула, — жартам паспачуваў Лявон, адчуваючы, што вандроўнік згушчае фарбы і нешта «прысачыняе».

— Нікому не пажадаў бы апынуцца на маім месцы! Але да ўсяго трэба прыстасоўвацца.

— А ты б злез, а калі што, зноў залез, — падказаў Лявон.

— Дык боязна! Пад раніцу людзей убачыў і паклікаў на дапамогу, голас даў. За ноч голас аслабеў, не адразу і пачулі, але падышлі. Аказалася, што гэта лесавікі! Няголеныя, у пярэстых накідках, як у мяне была, якую тая нягодніца звалакла. Пад накідкамі — зброя, аўтаматы. Чалавек дзесяць. Загадалі злазіць. Мяне зноў страх адолеў. А што, думаю, як застрэляць? Упаду, як цецярук. Але абышлося. Спусціўся я патроху з той бярэзіны, падзякаваў і далей падыбаў. «Не кажы, — сказалі, — што нас бачыў». Я нікому і не казаў, вам першым...

Фёкла з палёгкай уздыхнула.

— Жывуць у лесе, у схронах, і па хутарах, — працягваў Кузёмка. — За Камянцам аднаго сельсаветчыка забілі. Прыйшлі пад хату, а ён за сталом насупраць акна сядзеў, вячэраць збіраўся. Пачуў крокі за акном, таму што павярнуўся да акна і спытаў: «Хто там шастае?» Якраз у гэты момант і стрэлілі. Акна як і не было — усё рассыпалася на маленькія друзачкі, святло ўмомант згасла, бо шкло ў лямпе, што стаяла на стале, таксама разляцелася. Усе пападалі на падлогу, у хаце стала цёмна. Першым ачуняў і азваўся бацька сельсаветчыка:

— Хто жывы?

Запалілі святло, а ён пад сталом ляжыць, забіты. У лоб пацэлілі. Усе ў плач. Што ж рабіць? Пахавалі... Міліцыя разбіралася, але нікога не знайшлі.

— Час надта неспакойны, — уздыхнуў Лявон.

— У вас, я чуў, — Кузёмка пачаў новую тэму, — кок-сагыз пасадзілі?

— У панскім садзе. Дрэвы выкінулі, а кок-сагыз пасадзілі, — адказаў Лявон.

— У Дзмітравічах таксама пасадзілі, але нешта звяў. Што такое, невядома. Ці то пералілі вады, калі палівалі, ці не далілі — кок-сагыз звяў. Але план даводзяць — садзі!

— Есці будзеш? — спытала Фёкла.

— А што ў цябе? — пытаннем на пытанне адказаў вандроўнік.

— Таўканіца засталася, кіслае малако...

— Ад такой маладзіцы можна пакаштаваць таўканіцы!

— Ой, Кузёмка!

— Ды я жартую.

— Ты ўсё вершыкамі гаворыш, значыць яшчэ не галодны, — пасміхнуўся Лявон, прыгладзіўшы чуб над ілбом.

— Галодны! — прызнаўся госць. — А голад неблагая прыправа да стравы. Але спярша дай рукі памыю, — папрасіў ён, — а то мала ці што...

Памыўшы ў кухні над вядром рукі, Кузёмка сеў за стол. Фёкла сабрала таго-сяго, і вандроўнік стаў падмацоўвацца. Пахваліў бульбу: «Сопкая, разварыстая!» Пад’ешы, удзячна памаліўся на покут і сабраўся ў дарогу.

— Паначаваў бы! — прапанаваў гаспадар.

— Не, пайду. Падкаленні свярбяць, дарогу чуюць.

— Дык глядзі, асцярожней будзь, шануйся!

— Я ведаю!

Памаўчаўшы, Кузёмка як бы вінавата прамовіў:

— Хлеба кавалачак з сабою ўзяў бы. Не пашкодзіла б.

Фёкла адрэзала ад буханкі тоўстую лусту і дала вандроўніку ў дарогу. Любіў чалавек вольнае жыццё, ніштo яго нідзе не трымала.

— А Камянецкі стоўп як стаяў, так і стаіць! — нечакана, ужо выходзячы з хаты, як бы самому сабе, сказаў Кузёмка.

## VII

Вестка, што ў Прусцы склікаецца сход, ці, як тут казалі, сходка, па стварэнні калгаса, разнеслася па вёсцы імгненна, але збіраўся народ марудна. Паклікалі на сход і людзей з суседняй Выгнанкі. Прыехаў з Камянца начальнік — Пятро Мачалаў.

— Сабярыце ўсіх! — загадаў ён. — З жонкамі, з сямейнікамі!

Мачалаў быў не адзін. Каля яго круціліся ўжо вядомыя прускаўцам Лазуцін і Прыбылоў. Цэлая плойма начальства, паміж якога аціраўся і Хвядзюшка Шпунт. Людзі збіраліся ў школу, дзе гэтае мерапрыемства мелася адбыцца, збіраліся як бы нехаця, памалу, асцярожна. Прыйшлі Лявон з Фёклай. Усе пазіралі на начальства, якое сядзела ў прэзідыуме, асабліва на Лазуціна. Помнілі, як ён ваяваў з прускаўскімі Міхалём і Гапай Тупчыкамі. На носе ў яго так і засталася ружовая драпіна, якую пакінула яму Гапа пры зборы падаткаў.

Сход пачаўся са спазненнем, але выглядаў шматлюдным. Мужчыны скручвалі цыгаркі, закурвалі. Вечарам усе выглядалі стомленымі. Гаркавата пахла дымком самакрутак. Школьны вартаўнік Ляксандар Гальяш, у абавязкі якога ўваходзіла яшчэ і печ тапіць, запаліў падвешаную да столі лямпу, паставіў на стол графін з вадой і шклянку.

— Вы, думаю, ведаеце, для чаго вас тут сабралі, — пачаў Мачалаў, — абвёўшы вачыма сход. Усе пачулі, як туга рыпнулі яго боты. Правай рукой паправіў валасы на галаве і абвясціў павестку дня, якая складалася з аднаго пытання: арганізацыя калгаса. Прускаўцы на гэты конт ужо шмат чаго чулі, нават прывыклі да такой думкі, але ўсё адно расхваляваліся.

Лазуцін з Прыбыловым таксама мелі строгі і рашучы выгляд, абое кінулі свае армейскія сумкі на стол, селі на табурэткі.

— Дзверы, таварыш, вазьміце на ўсякі выпадак на замок! — загадаў Прыбылоў Ляксандару Гальяшу. — Каб хто самавольна не выйшаў. Ёсць такія...

— А раптам пажар?

— Вазьміце!

— Дык тут, таварышок, дзверы не такія, замкоў няма.

Прыбылоў незадаволена крутнуў галавой:

— Выконвайце загад!

У Гальяшоў — яны жылі побач са школай — дурным голасам раўла карова.

— Калхоз чуе, — пракаменціраваў Прохар Грудка з Выгнанкі. Па зале прайшоўся лёгкі смяшок.

Гаварыў сваю прамову Мачалаў. Ён добра помніў, што сказалі ў райкоме, калі накіроўвалі ў вёску (ён выбраў Пруску): «Калгаса не будзе — будзе страгач». «Страгач» — значыць строгая вымова. Нічога не зробіш — такой была партыйная этыка. «Непартыйная» паводзіны Мачалава ўжо абмяркоўваліся — у сувязі са скаргай Анфісы. Аднаго «страгача» ўжо запісалі.

— Новае жыццё трэба ладзіць, таварышы! А без калгаса яго не зробіш. Гэта ўказанне таварыша Сталіна. А што гэта азначае, вам усім вядома. Дарагой таварыш Сталін указвае нам адзіна правільную дарогу. Камунізм, таварышы, ужо не за гарамі, трэба спяшацца, бо суседзі па вёсках нас ужо абганяюць. Пытанне наспела. Гэта, таварышы, высокая паліціка, высокія саабражэнія. Вы, таварышы, — гэта вам мая парада — павінна ачышчаць сябе ад бессазнацельнасці і цемнаты, больш чытаць газеты, асабліва «Праўду». Глядзець наша кіно! Ад устарэлых прадрассудкаў і забабонаў трэба вызваляцца. Нада, таварышы, нада! Старыя прывычкі трэба забываць! Гэта прадрашано, таварышы! Калі арганізаваць калгас, дык па-ранейшаму застануцца багатыя і бедныя, а калгас усіх зробіць аднолькава заможнымі. Калгас падраўняе, ніхто не будзе ні на каго абіжацца, не будзе зайздросціць, усе будуць роўныя. Гуртом, таварышы, работаць лепш. Гэта каждаму ізвесна. Бальшавікі — за роўнасць! Зліваццa трэба, таварышы, аб'ядноўвацца! Не паасобку, а заадно! Хай жыве наша адзіная працоўная сям'я! У калгасе і з падаткамі прасцей: падаткі калгас на сябе возьме. Адным словам, пытанне наспела!

Прамоўца махаў чамусьці левай рукой, правую трымаў у кішэні. Прускаўцы, як і суседзі-выгнанцы, маўчалі. Гарэла падвешаная над людскімі галовамі лямпа, кідаючы скупыя промні святла.

— Карацей кажучы, нам трэба арганізаваць калгас! — працягваў прамову Мачалаў. — Уся Расія ў калгасе, а вы гуляць будзеце?! Трэба сцягацца ў калгас! Трэба зблізіць вёску з горадам, каб сялянства і рабочы клас былі як адно і мала чым адно ад другога адрозніваліся. Планы ў савецкай улады вялікія. Злучацца трэба!

— Дзіва што! — сказаў Мілецій, але не падобна было, што ён сам усё цяміць. — Не адразу і зразумееш, — прызнаўся ён, азіраючыся па баках. — Такога ж яшчэ не было.

— У Алешкавічах ужо калгас — «Свабодны труд»! — гукнуў Хвядзюшка. У голасе чамусьці адчувалася палахлівасць.

— Ужо даўно! — падтрымаў нехта.

Прускаўцы невядома чаму ў адначассе зашумелі, закашлялі. Мікіта Галёнка падышоў да стала, наліў з графіна ў шклянку, па самыя краі, выпіў і вярнуўся на месца, у першы рад. Ніхто не звярнуў на яго ўвагу, таму што ўсім было вядома, што Мікіта без вады не можа.

Узяў слова Лазуцін, лыпнуў вачыма, пачаў з папярэджання:

— Прашу саблюдаць цішыню. Так вот. Памёр, таварышы, таварыш Жданаў. Мы павінны адказаць на гэта яшчэ большай згуртаванасцю сваіх радоў, адзіным бальшым блокам! Партыя вядзе жорсткую бітву! Сёння, таварышы, увесь поспех вырашае палітычная работа, таварышы! У калгасе, правільна сказаў таварыш Мачалаў, бедных не будзе, усе будуць аднолькава багатыя. Усе будуць знівеліраваныя, гэта значыць, ураўненыя, ніхто нікому зайздросціць не будзе. Усе будуць працаваць, ажыццяўляць сваё права на труд.

Нехта прамовіў:

— Брахаць — не цэпам махаць.

Лазуцін колькі разоў лыпнуў вачыма, з асуджэннем зірнуў у той бок, адкуль пачулася рэпліка, і вышэй узняў галаву.

— Асобенна бедната павінна трымацца друг за дружку. У калектыў трэба гуртавацца. З аднаасобнікамі нам, таварышы, не па дарозе. Трэба ачысціць дзярэўню ад кулакоў! Хопіць ім сок з народа цягнуць.

— Абавязкова! — падтрымаў Лазуціна Мачалаў. — Нада так ударыць іх па лапах, каб і хвост адваліўся.

— Выдам секрэт, — працягваў Лазуцін. — Січас ідзе работа над дараборкай і ўтачненнем спіска кулакоў па вашай меснасці. Могуць там аказацца і вашы знаёмыя. Ад маёмасці будзем адчуждаць. Рухомая і нерухомая маёмасць, пабудовы, лошадзі, рагаты скот, цялегі, сані і другое перайдзёт ва ўласнасць дзяржавы і будзе перададзена калгасам за апрадзялённую плату ў растэрміноўку на некалькі гадоў. Кулакам разрашано забраць з сабой адзенне, абутак, бялізну, пасцельныя прыналежнасці і інструмент — тапары, пілы, долата, стамеску, малаток. То есць, што спатрэбіцца для работы ў лясу ці на вытворчасці, на будаўніцтве.

Прысутныя напружана слухалі, уражаныя пачутым. Хтосьці пацікавіўся:

— А куды ж іх, кулакоў?

— Прыдумаем нешта. У горад Котлас Архангельскай вобласці, напрыклад. Мест у нас многа і вагонаў многа. Паедуць! Пытанне, таварышы, стаіць так, каб ліквідаваць кулакоў як клас.

Далёка ззаду, прыгнуўшыся, сядзеў Міхась Швед — цесць Пятра Мачалава. Пасля гэтых слоў зяця ён яшчэ больш прыгнуўся, уваграў галаву ў плечы. Нічога добрага ад перамен, відаць, не чакаў. Ламалася жыццёвая логіка, разрываўся прывычны ланцуг падзей і ўяўленняў. Нехта кінуў рэпліку:

— Кулакі таксама людзі.

Падняўся Лявон, стаў казаць:

— А можа, усё ж такі кулакоў пакінуць? Гаспадарыць яны, што ні кажы, умеюць. Хто ў калгас — той у калгас, а кулакі хай працуюць, выжыльваюцца, калі ім гэта падабаецца. Пакінуць ім зямлю. І адпаведна хай падаткі плацяць!

— Кулак тваю кроў п’е, а ты яго шкадуеш! — са злосцю гукнуў Лазуцін. — Гэта шкодны элемент! Знайшлі каго абараняць... Кулакі ўсе сродкі ўжываюць, каб укрыць зярно, утаіць дзеньгі! Урадзіцелі!

— Не трэба нам гаспадары! — махнуў рукой Цярэшка Макацёр. — За працай не бачаць свету. А да чаго гэта вядзе? Да дабра? Не, да няроўнасці!

На Цярэшкаву рэпліку ніхто не звярнуў увагі. Яго ўсе ведалі: узімку напаіць карову ленаваўся. Гаспадарыць не ўмеў, ды і жадання такога ў яго не было. У дадатак яму яшчэ і не шанцавала. З таго, што сеяў, радзіў адзін толькі гарох.

— Тэрмін, таварышы, самы сціслы, але іншага мы не можам сабе дазволіць! — сказаў Мачалаў і рашуча пляснуў далонню па стале. — І ніхто нам не дазволіць.

— Каму розуму нестае, таму ў калгас, — адвярнуўшыся назад і ўсміхаючыся, ціха прамовіў Мікіта Галёнка.

— А нешта Амеліі Канстанцінаўны не відаць, — азірнуўшыся па баках, жартуючы, заўважыў Цярэшка Макацёр.

— Баіцца, што ў калгас запішуць, — ашчэрыў рот Оргій Ламака.

Сходка зарагатала.

— А поп — што? — азваўся з свайго месца Гамон. Яму адказаў Мачалаў:

— Наконт папоў, скажу, таварышы, абстаноўка памянялася. Гэта — не тое, што да вайны. Цяпер савецкая ўласць у многім знайшла сагласіе...

Лявон азірнуўся на Гамона: казалі, што ў апошнюю нядзелю бачылі яго ў царкве, падыходзіў да споведзі.

Падняўся сказаць «колькі слоў», як ён паабяцаў, Прыбылоў. Наморшчыўшы лоб і скасавурыўшы вочы, пачаў:

— Шмат часу, таварышы, нам на гэта дзела ніхто не дасць, трэба рабіць хуткімі тэмпамі, па-бальшавіцку! Патаму паўтараю: дзела гэта дабравольнае, але калі хто не ўступіць — заставім. Заставім! Ад гэтага нам не адвярцецца, а медліць нам ніхто не дазволіць. Гэта і казе панятна. Задзержка, прамаруджванне не даруюцца. Я папярэ-эджваю! Прашу мяне паняць!

Ён гаварыў, зрываючыся на крык, у голасе адчувалася раздражненне тым, што яго могуць не зразумець.

— Вы думаеце, што амерыканскія імперыялісты спяць і пра вас забылі? Кабы не так! Цяпер яны каларадскага жука на нас з самалётаў скідываюць. Якраз, між іншым, туды, дзе картошка расце. Адзін з каларадскім жуком не паваюеш! Калякцівам лягчэй.

— Без калгаса трудна! — падказаў Лазуцін, запусціўшы рукі ў сваю рудую чупрыну.

Міхаль Тупчык, які ведаў Лазуціна не з самага лепшага боку, ажно рукамі замахаў і галавой закруціў, але гэтым і абмежаваўся, сказаць нічога не сказаў, толькі ўздыхнуў.

Пачаліся, па прапанове Мачалава, пытанні.

— Якія могуць быць пытанні, — здзівіўся Хвядзюшка, — усё ясна і без пытанняў.

— У калхозе яйкі будуць бясплатна раздаваць, — зноў пажартаваў Прохар Грудка з Выгнанкі. Бядняк з беднякоў, а заўсёды вясёлы, нават радасны, як бы жыццё толькі тое і рабіла, што цешыла яго і песціла.

Усе засмяяліся.

— Што ён сказаў? — перапытаў глухаваты Мікіта, але яго цікаўнасць засталася без увагі.

— Сур’ёзней, таварышы! — зрабіў заўвагу Мачалаў.

— Дык што, пай трэба ўносіць? — пацікавіўся Мілецій.

— Не пай, а маёмасць, жыўнасць! — паправіў яго Лазуцін.

— Дык чыя ж гэта зямля будзе? — кісла пасміхнуўшыся, задаў пытанне Павал Гальяш.

— Калгасная!

— Які ў нас можа быць калгас? — засумняваўся Фэдар-японец, стукнуўшы кавенькай. — Зямля ў нас няважная. Бедная!

— Без гною яна ўвогуле нікуды не вартая! — дадаў Міхаль Тупчык.

— Падаткаў не трэба будзе плаціць, — знайшоў што сказаць Хвядзюшка.

— У калгасе, таварышы, каб вы ведалі, тэхніка будзе рабіць. Неабходны сельгасінвентар купіце, машыны, — пачаў разважаць, пералічваць Прыбылоў. — Трактары, сеялкі, веялкі, малацілкі!

— Гы-гы-гы, — смяяўся Макацёр. — Кумэдыя нейкая.

— Хіба такое можа быць? — азваўся хтосьці ззаду. Гэта быў Арцік Каленік.

— Дзяржава паможа, крэдыт атрымаеце! У калгасе, калі хочаце ведаць, і рабіць не трэба будзе. Навука, тэхніка ўсё зробяць, і накормяць, і напояць! — запэўніў Лазуцін.

— Соладка гаворыць! — страсянуўшы галавой, зазначыў Міхаль Тупчык.

Людзі слухалі і недаверліва ўціскалі галовы ў плечы.

— Малочная рака будзе, бяры і чэрпай! — зноў увярнуў свой жарт Грудка.

— Казкі расказвае, — пасміхнуўся Фэдар-японец.

— У казках болей праўды, чым у тым, што ён кажа, — разважыў Павал Гальяш.

— Ляксандар, святла дабаў! — сказаў, як бы даў указанне, Хвядзюшка.

Ляксандар падкруціў у лямпе кнот, і святла крыху пабольшала.

— Таварыш упаўнаважаны, — спытала бойкая Дзякрэта, — калі ў нас будзе радзіва?

— Радыё? — перапытаў Мачалаў, які ў гэты час, пэўна, думаў пра штосьці іншае.

— А вот калгас саздадзім і будет вам радзіва, — адказаў за яго Лазуцін.

— Маніш! — не паверыў, засумняваўся Цярэшка Макацёр.

Ззаду нехта заварушыўся:

— Так то яно так, але...

— Што?

— А якая гарантыя?

— Гарантыя поўная! — паабяцаў Прыбылоў.

— Абяцаюць чарэшні на вярбе, — пасміхнуўся Арцік Каленік, і многія з ім былі згодныя. — Вось калі Лявон Кужаль уступіць, то і мы ўступім.

Пачуўшы гэта, Лявон няўцямна пацiснуў плячамі.

Дзякрэта, якую лічылі дасведчанай у многіх пытаннях, выпаліла:

— У калхозе, калі дзіця народзіцца, кляймо на сраку будуць ставіць і ў дзетдом адпраўляць!

Кругом зарагаталі.

— Усюды ты язык уткнеш! — незадаволена пакруціў галавой Хвядзюшка, які сядзеў у прэзідыуме.

Стала шумна. Усе крычалі, гаманілі, ажно гудзелі сцены, і ніхто нікога не слухаў, кожны заставаўся пры сваім. Пацяклі пісягі вільгаці на запацелых вокнах.

— Цішэй, таварышы! — спрабаваў угаманіць сход Прыбылоў, але марна. Асабліва разняволіліся жанчыны. Кожная з іх нешта казала, крычала, не слухаючы і не чуючы астатніх, стараючыся іх перакрычаць.

— А як з жанкамі будзе, таксама абагульняць ці што? — крыкнула з задніх радоў Нінка, удава загінуўшага Сяргея Сталетніка.

Грымнуў рогат.

— Пустое гэта! — злавала Аляксейчыха — маці Мікіты Галёнкі.

— А што? Пашыем адну вялікую коўдру ды ўсіх і акрыем! — хіхікнуў Арцік Каленік.

— Дык надта вялікую коўдру трэба, такую адзін не ўсцягнеш, — падумаўшы, сказаў Апанас Хомка.

— Ашалець можна! — хапаўся за галаву Хвядзюшка і спалохана паглядаў на Мачалава. Вось, маўляў, з якімі дурнямі мне даводзіцца працаваць.

— Што, Хведар, баішся, каб на жонку хто не паквапіўся? — даймаў Хвядзюшку Макацёр.

— І кацёл, відаць, будзе адзін, — адгукнуўся Оргій Ламака, які па звычцы ўвесь час маўчаў.

Нешта цікавіла і Гамона. Ён доўга мучыўся і нарэшце спытаў:

— Ці буду я, к прымеру, пасаду якую мець?

Сход сцішана засмяяўся.

— Абязацельна! — заверыў Мачалаў.

Падняў руку Грышка Латушка. Сядзеў моўчкі, насцярожана, з ускалмачанай, як заўсёды, барадой:

— А калі мне не спадабаецца ў тым калгасе?

— Не спадабаецца — выйдзеце, у любы час! Што ж тут такога? Трымаць за полы ніхто вас не будзе.

— Ізноў жа пра налог не трэба будзе думаць... — яшчэ раз напомніў Лазуцін. — А да нехацімцаў, таварышы, будзе прыменена індывідуальнае падаткаабкладанне, мала не пакажацца...

— Ну што, будзем лічыць, што дамовіліся, — падвёў вынік Мачалаў. Ставіць пытанне на галасаванне ён не рашыўся, але дадаў: — Ну, тады трэба пісаць заявы. У наступны раз выберам старшыню.

На гэтым сход скончыўся, паступова шум улёгся, пачалі разыходзіцца.

— Паветра засмуродзілі! — шчэрыў рот Гамон.

— Ты, Гамон, лепш памаўчы! — стрымлівала мужавы досціпы Матрона.

Першым пабег Мікіта Галёнка, ён спажываў шмат вады і часам выходзіў у двор.

Сярод тых, хто выходзіў, Лазуцін убачыў свайго знаёмага — Міхаля Тупчыка, якога запомніў па тым даўнім выпадку, калі праводзіў у Прусцы нарыхтоўку па збожжы, выбіваў звышпланавае.

— Ну, што, Аніка-воін, — звярнуўся ён да Міхаля, — уступаеш у калгас?

— Трудна рашыцца, — шчыра адказаў Міхаль. — Адзін больш зямлі ў калгас аддае, другі — менш, а выходзіць, што ўсе роўныя.

— Ну, ты рассуждаеш, як падкулачнік!

— Які падкулачнік? Мы з Гапай бедныя.

— У калгасе пабагацееце!

Міхаль толькі сумнеўна прыцмокнуў.

На вуліцы ўжо было цёмна. Ісці даводзілася амаль навобмацак, прытрымліваючыся за платы. Ішлі і думалі. Па натуры прускаўцы — цяжкадумы. У вёсцы запанавала цішыня, адчувалася, што прускаўцы страцілі нават ахвоту гаварыць, больш маўчалі. Калгасы палохалі не менш, чым атамная бомба і каларадскі жук.

— Што будзем рабіць, Фяклуша, уступаць у той калгас ці не? — пытаўся ў жонкі Лявон.

— Як людзі, так і мы, — адказала жанчына.

## VIII

Падзеі нагортваліся адна за другой. Восенню, стаяла якраз бабіна лета, у Лявонавым садзе пышным цветам зацвіла яблыня. Прыгажуня выглядала павясенняму, шырока раскінуўшы акіданыя белай квеценню галіны.

— Гэта не на радасць, а хутчэй на бяду, — уздыхнуў Лявон, выйшаўшы раніцай на ганак, здзіўлены гэтаму відовішчу. — Няўчаснае квітненне на бяду...

Уздыхнула разам з мужам і Фёкла, якая стаяла побач.

Так яно і здарылася. Да Кужалёў на панадворак яны ўваліліся ўпяцёх: Хвядзюшка Шпунт, Багатэль, Гамон, Прыбылоў і супрацоўнік пракуратуры Бублікаў. Ці не сумысля выбралі момант, калі гаспадары адсутнічалі. Лявона з Фёклай дома не было, другі дзень гулялі на вяселлі ў Зміцера Зуба ў Бабічах, які жаніў сына Колю і запрасіў Кужалёў. За дамаша застаўся Валодзя. Якраз быў час карміць падсвінкаў, іх было двое і яны рохкалі ў хляве, патрабуючы ежу. Хлопец нагатаваў амаль поўны цэбар паранкі і ўжо пару вёдзер хацеў аднесці ў хлеў. Перад гэтым напаіў авечак, укінуў ім снапок лубіну. Каб даць рады жывёле, у руцэ трымаў доўгую хлюбу.

Здалёк пачуліся чыесьці ўзбуджаныя крокі. Нехта з ходу бразнуў весніцамі і зайшоў на панадворак. Валодзя пазнаў «актывістаў» і свайго знаёмага Бублікава ў зашпіленым на ўсе гузікі дыяганалевым плашчы з партфелем пад пахай. Забрахала Нэрка, няветліва сустракаючы гасцей, але, ўгледзеўшы Валодзю, аціхла.

— Ты? — здзівіўся Бублікаў, пазнаўшы хлопца.

— Я.

— А дзе гаспадары? — спытаў Хвядзюшка.

Хлопец адказаў.

— Ну, нічога, мы самі.

Прыбылоў агледзеў панадворак і прамовіў:

— Бачыш, а на панадворку ў яго лад, прыбрана.

— Кулацкі лад, — пасміхнуўся Багатэль. — Давядзецца апісваць без яго, нам ён фактычна і непатрэбен.

— А чым ён у вайну займаўся? — спытаў Бублікаў.

— Чым добрым можа кулак займацца ў вайну? На зямлі капаўся, багацце капіў, — паціснуў плячыма Цярэшка Макацёр, які таксама быў сярод «актывістаў».

Чутно было, як вішчэлі, ажно развальваўся хлеў, падсвінкі. Валодзя якраз загнаў гэтых някормленых сваволнікаў у хлеў, у руках яшчэ трымаў доўгае пужална. Ад здзіўлення і ад страху, які сціснуў горла, ён нічога не мог вымавіць. З падстрэшша выпырхнуў напалоханы верабей і кінуўся кудысьці ўбок, упрочкі.

— Ну і забурэў! — пахітаў галавой Хвядзюшка. — Людзі бедствуюць, а ён хату бляхай крые! Няйнакш, амерыканцаў чакае.

«Актывісты» пасунуліся да прыбудоў. Хвядзюшка кінуўся ў хлеў і неяк хутка і ўвішна, астатнія не паспелі і азірнуцца, вывеў адтуль авечку.

— Авец столькі! — здзівіўся Прыбылоў.

— Бажджы! — спыніў яго Бублікаў, ашчэрыўшы крывыя і ўчарнелыя зубы. — Не з авец нада пачынаць.

Паднялі завалу і адчынілі клуню, агледзелі, што там знаходзілася. На таку стаяла прыткнутая да шула малатарня, каля яе веялка, у застаронку — сячкарня.

— Нада із’яць! — прабубнеў Прыбылоў. — У калгасе згадзіцца.

Прайшліся па хлявах, палічылі жывёлу і лічбы занеслі ў пратакол, які складаў Багатэль. Адчынілі куратнік, з якога пачулася курынае кудахтанне.

— А куры? — строга спытаў чалавек у дыяганалевым плашчы з партфелем пад пахай. — Бачыце, колькі ён курэй трымае? Ну?

Багатэль падрыхтаваўся нешта пісаць, але тут здарылася неверагоднае: з куратніка, растапырыўшы крылы, выскачыў чырванапёры певень і адважна кінуўся на Бублікава. Той пачаў крычаць, ухіляўся, адмахваўся рукамі, выраніў партфель, але чырванапёры прыгажун, баронячы сваіх курачак, не адставаў, насядаў, і невядома чым бы гэта скончылася, каб на дапамогу не кінуліся Прыбылоў з Хвядзюшкам. Злавілі-такі пеўня і са злосцю кінулі назад у куратнік, шчыльна зачыніўшы дзверы.

— Аднака! — падзівіўся супрацоўнік пракуратуры Бублікаў, атрасаючы рукавы і полы свайго дыяганалевага плашча ад пяску і смецця пасля пеўневага нападу. Багатэль падняў і падаў яму партфель.

— Куркуль! — невядома пра каго сказаў Хвядзюшка — пра пеўня ці пра адсутнага гаспадара.

— Дзіва што! — адгукнуўся Цярэшка. — А я што казаў?

За дзвярыма, побач з куратнікам, загагалі гусі.

— Гусі! — кіўнуў Цярэшка, быццам гэтага ніхто, апроч яго, не ведаў. — Мусіць, таксама амерыканцаў чакаюць.

Усе бязгучна засмяяліся.

Затым яны накіраваліся ў хату, зайшлі ў сені. У сенях, ля сцяны, стаялі жорны.

— О, жорны! — здзівіўся Хвядзюшка, нібы ўпершыню ўбачыўшы гэтую старажытную прыладу сялянскага побыту.

— Гэта цяпер дазваляецца, — супакоіў яго супрацоўнік пракуратуры, які ўвайшоў у сені разам з усімі.

— А ў хаце што? — спытаў Прыбылоў.

Адчынілі дзверы. Хвядзюшка кінуўся да ложкаў перабіраць і лічыць падушкі і пасцілкі. Разагрэўшыся ад бегатні, скінуў свой аблезлы, у латках, кажушок. У вачах загарэліся драпежныя іскрынкі. Багатэль старанна ўсё запісваў.

— Singer! — Бублікаў паказаў пальцам на швейную машынку, што стаяла ў кутку.

Вярнуліся ў сені. З гарышча даносіўся непаўторны пах папяровак, і Цярэшка ўсё парываўся туды лезці, але калегі стрымлівалі. Хвядзюшка патрабаваў ключы ад каморы, аднак Валодзя не даў, сказаў, што ключы дзед з бабай забралі з сабой. Гэта не спыніла «актывістаў». Яны сарвалі замок, падважыўшы і выцягнуўшы прабой жалезнай кульбакай. Адчынілі дзверы.

— Што вы робіце? — вырвалася ў хлопца, але ніхто не звярнуў на яго ўвагі.

— Бачыш, камора ў яго якая! — падзівіўся Хвядзюшка. — І каўбасы вісяць!

— А збожжа ў засеку колькі! — дадаў Багатэль.

Пахадзілі па каморы. Свінні зноў падалі голас.

— Ці знайшоў хаця, дзе там у яго кубел стаіць? — са смехам спытаў Хвядзюшка, невядома да каго звяртаючыся. Хутчэй за ўсё, да Багатэля.

— Павінен стаяць! — упэўнена адгукнуўся Цярэшка, быццам ён гэта дакладна ведаў.

— Сала забраць! — камандаваў Прыбылоў.

На сцяне вісеў Лявонаў кажух. Цярэшка яго зняў, скруціў і паклаў у мяшок. Хвядзюшка прысабечыў чаравікі. Валодзя ажно зніякавеў:

— Дзядзьку, нашто ж вы мае чаравікі бераце? У чым я ў школу пайду?

— Бо кулацкае гэта! Ты што, супраць уласці? — цыкнуў на хлопца Прыбылоў.

— Што вы робіце? — закрычаў Валодзя. — Хіба так можна? Дзед з бабай пажылыя людзі! Гэта не ваша.

— Маўчы! — напудзіўся на яго Бублікаў. — Есць пастанаўленіе!

У тым жа тоне, узбуджана стаў гаварыць Хвядзюшка:

— Калі трэба, я кожнага раскулачу! Не пабаюся! А што такое ўласнасць, як не крадзенае? Я ведаю, не першы год «Кароткі курс» вывучаю.

Валодзя адчуваў, як забурліла кроў, але стрымліваў сябе ды і не ведаў, што рабіць. Яго як варам абдало ад бяссілля і гневу. Вернуцца дзед з бабуляй і скажуць: «Не ўбярог! Расцяпа! А мы пакінулі яго, спадзяваліся...» Хвядзюшка тым часам падступіў да куфра, акаванага жалезам, сарваў замок, які, як аказалася, вісеў толькі дзеля прыліку, падняў вечка і здзіўлена абвясціў:

— У прыскрынку грошы!

— Забраць! — падаў каманду Прыбылоў. — Палічым потым!

Багатэль тым часам вывалак з каморы звалёк палатна і трымаў яго пад пахай, маючы, мяркуючы па ўсім, карыслівыя намеры. Жадаў, інакш кажучы, прысабечыць.

— Гэта што ж такое? — залямантаваў, плачучы, Валодзя. — Дзе ваша совесць?

— Дзіўны ты, чалавеча! — паглядзеў на яго Цярэшка. — Не пра тое ты пытаеш.

Бублікаў пераламжыў партфель з правай рукі ў левую і, няспешна падышоўшы да Валодзі, узяў за вуха і пакруціў.

— Ай-яй-яй! — заенчыў ад болю хлопец, слёзы градам пасыпаліся з вачэй. — Пус-ці-іце!

Той аднак не адпускаў. Валодзю раптам прыгадаўся радок з верша Міколы Засіма, з якім паэт выступаў некалі ў школе: «Бі не зайца, а паноў!» Ён рашуча напружыўся, сцяўся і моцна спляжыў свайго крыўдзіцеля хлюбаю па плячы. Цяпер ужо ўзвыў Бублікаў.

— Ай-яй! — ад нечаканасці ён адскочыў у бок, ізноў выраніўшы партфель і абмацваючы рукамі лоб і шапку. Вочы імгненна наліліся кроўю.

— Ах ты, кулацкі вырадак! Дык я ж цябе на месцы прыкончу! Контра! — Ён адчуў сябе абражаным і памкнуўся нешта шукаць. Правая рука яго ніяк не магла трапіць у кішэню, але нарэшце ён яе ўсё ж такі прасунуў і дастаў адтуль пісталет.

«Ух ты!» — толькі і падумаў Валодзя, убачыўшы пісталет, і ў адно імгненне драпянуў за хату, ускочыў у хлеў, хуценька зачыніў за сабою дзверы і стаіўся. Адчуў страх. Але страціў раўнавагу і Бублікаў.

— Ты здраднік! Я цябе адпраўлю на белыя мядзведзі! Я табе пакажу! Гэта ж што такое? Гэта шкодніцтва! — чутно было, як крычаў пакрыўджаны прадстаўнік улады. — А можа, яшчэ і камсамолец? Камсамолец?

На нейкі час усталявалася цішыня. Прыціхлі нават, чуючы нешта нядоб-

рае, падсвінкі. Не падаваў голасу певень. Брахала раз-пораз Нэрка, але змоўкла і яна. Першым апомніўся Багатэль.

— Дзе ты там? Выходзь! Не хавайся! — пачулася з-за дзвярэй. Гэта гаварыў ён. — Што ж ты пракурора пакрыўдзіў? Ну, браце, ніколі не думаў, што ты на такое здольны. Але выходзь! Будзем мірыцца, бо мы ўжо пойдзем.

Валодзя прыадчыніў дзверы, акінуў вачыма панадворак, зірнуў на «актывістаў», пераступіў парог. Непрыязна паглядзеў на яго Бублікаў. Відаць было, як здрыгануліся над вачыма ў яго бровы і перасмыкнуліся вусны.

— Глядзі, пацан, а то можам і варанка прыгнаць па цябе! — злосна загаманіў Прыбылоў, дастаючы з кішэні пачак папярос «Север», вытрас адну, сунуў у рот і прыкурыў ад запалкі. Таварышаў частаваць не стаў.

Бублікаў, стрымліваючы сябе, скрозь зубы прыгразіў:

— Глядзі! А то на пяцьдзясят восьмую нарвешся! Тады надоўга з дзедам не ўбачышся...

— Часу брак, не ўсё агледзелі, — шкадаваў аб нечым Хвядзюшка.

Цярэшка маўчаў, уражаны, відаць, тым, што адбылося.

«Актывісты» зніклі з падворка гэтак жа нечакана, як і з’явіліся. А вечарам з вяселля, пасля перазоў, вярнуліся дадому, прынёсшы з сабой водар гэтага мерапрыемства, усё яшчэ вясёлыя, хоць і натомленыя, Лявон з Фёклай. Увесь час чамусьці, як сказала Фёкла, цягнула дадому. Вяселле скончылася перазовамі, гасцінай у хаце бацькоў маладога, заклікам да перапою і нарэшце дасягнула завяршэння. Можна было вяртацца. Лёгкая трывога ўзнікла яшчэ на вяселлі, яшчэ калі дзялілі каравай, пасадзіўшы маладых на аўчыну.

— Ой, нешта сэрца не на месцы! — прамовіла Фёкла.

Калі выйшлі за ваколіцу, нядобрыя прадчуванні ўзмацніліся. Дзьмуў вецер, церабіў лісце з прыдарожных дрэў. Тры кіламетры — не адлегласць, хутка былі ўжо дома. На парозе сядзеў унук і плакаў. Пагромшчыкі толькі што пакінулі падворак, не зачыніўшы за сабой веснічкі. Пад ветрам яны жаласна рыпелі. Унук выглядаў як непрытомны, не ацірaў нават слёз на шчаках.

— Што такое? — кінулася да яго Фёкла.

Хлопец захліпаў яшчэ болей. Румзаючы, сказаў:

— Тут Хвядзюшка з Багатэлем былі і яшчэ двое з імі. Прыбылоў з тым чалавекам з пракуратуры. Апісвалі. Па хлявах хадзілі, камору адчынілі, прабой падважылі...

Лявон ажно зніякавеў, не ведаў, што і думаць:

— Мы ж, здаецца, з усімі падаткамі разлічыліся. Што ім трэба?

— Гэта яны кулакамі хочуць нас зрабіць, — выказала здагадку Фёкла. Яна зірнула на мужа і ўбачыла, як пабялелі Лявонавы вусны і азмрочыўся настрой. Ён сашчапіў кулакі, пачуўшы, як на правай руцэ хруснулі пальцы. Пасмачка сівых валасоў прыліпла да лба.

— Разбойнікі! Арда нейкая! — выдыхнула яна, таксама была як сама не свая. — Бяздушныя людзі! Не падабаецца ім, што ты чалавек, што годнасць маеш. Былі злыднямі і засталіся. Гэты Хвядзюшка — што хмыр балотны.

— Я буду скардзіцца, — прамовіў, нібы ачнуўшыся, Лявон, — я ў суд падам.

Аднак пэўнасці ў яго словах не было. Фёкла паднесла яму кубак халоднай вады.

— Не ўбівайся ўжо гэтак, не адчайвайся, — Фёкла заплакала.

«Пасадзяць! Напэўна пасадзяць!» — мільганула ў Лявонавай галаве. Фёкла таксама была ў адчаі. Унук Валодзя любіў дзеда і бабу і вельмі спачуваў ім. Старыя ўжо, а жыццё лягчэйшым стаць не абяцала.

Лявон колькі дзён адчуваў сваю поўную разгубленасць перад гэтым незразумелым і няўцямным жыццём, перад якім ён быў бяссільны. Рэзка пагоршыўся нервовы стан. Ноччу калаціўся як у ліхаманцы, пакрываўся халодным потам, трызніў, з кімсьці размаўляў, клікаў на дапамогу, пытаўся: «Гэта за мной?» Днём ляжаў на ложку і, задзіраючы з падушкі галаву, пільна ўглядаўся ў акно, намагаючыся там нешта ўбачыць. У аконнае шкло настырна шкробся вецер, стукалі кроплі дажджу. Фёкла знаходзілася побач, клала хвораму на лоб воцатныя кампрэсы. Лячыла мужа адварам з мацярдушкі, шалфею, карэнняў валяр'яны, лісцяў чорных парэчак, кветак календулы, крапівы. Працэджвала і давала Лявону. Такі набор у прускаўцаў лічыўся ўніверсальным, лякарствам ад усіх хвароб.

— Фёкла! Фёкла! — час ад часу клікаў ён.

— Што? Што такое? — нагіналася яна над ім. Нагіналася, спрабавала суцешыць, а ён яе як бы і не чуў. — Што такое, мой харошы?

— Гані яго ад акна!

— Каго?

— Таго! Таго — у чорным плашчы з тэчкай! Гэта — чорт!

Фёкла зразумела, што з ім робіцца нешта нядобрае, паклікала Павала Гальяша, з якім Лявон сябраваў. Павал заўсёды ўмеў нешта параіць. Памацаў у хворага лоб.

— Пал у яго вялікі. Гэта пройдзе, — супакоіў ён.

Дачуўшыся пра тое, што здарылася, прыбегла Фядора, прынесла сушаных груш-бурачковак. Прыгатавалі адвар. Фёкла працягвала лячэнне, паіла настоямі з зёлкаў, мяняла кампрэсы, праветрывала памяшканне. У змаганне з хваробай, мяркуючы па ўсім, уключыўся і сам арганізм хворага, усё яшчэ моцны і трывалы. І, дзякуй богу, Лявону палягчэла, выскрабся ад хваробы, але ложка яшчэ не пакідаў.

Стоячы каля хворага, Фёкла затрымала погляд на партрэтах, што віселі на сцяне, над ложкам, — Лявонаў партрэт і свой: «Маладыя былі, не думалася тады, што да раскулачвання давядзецца дажыць. Дажылі...»

У нядзелю прыйшоў, размашыста накульгваючы на правую нагу, Зміцер. Павітаўся. Угледзеў сябра на ложку, занепакоіўся:

— Як ты сябе адчуваеш?

— Нічога, так сабе. Прабач, што прымаю цябе, у пасцелі лежачы.

— Крыху прыхварэў ён, — патлумачыла Фёкла. — Тут да нас гэтыя нягоднікі прыходзілі, «актывісты», раскулачваць...

— Няўжо?

— Якраз калі з вяселля, ад цябе, вярнуліся, — дадаў Лявон. — Момант выбралі, калі нас дома не было.

Госць здзіўлена пахітаў галавой, сеў, успёршы да сцяны кавеньку.

— Маёмасць апісалі, жывёлу палічылі, палатно і кажух забралі, грошы... Тут унук з імі ваяваў, ледзь уцёк...

— Дык гэта ж разбой! — яшчэ больш здзівіўся Зміцер. — Што цяпер рабіць?

— Мы і самі не ведаем.

— Хіба можна так абыходзіцца з людзьмі? Дзе ж іхняе сумленне — «актывістаў» гэтых? — не выцерпела, стала скардзіцца Фёкла.

— Згодзен, разлічваць на іхняе сумленне не даводзіцца, — сказаў Зміцер.

Загаманіў Лявон:

— Здзек пачаўся над жыццём, майно аднімаюць, — у Лявонавым голасе чулася глыбокая крыўда. — Што з гэтага будзе?

— Не пераймайся! — спрабаваў суцешыць Зміцер. — Нешта трэба рабіць, нешта прыдумаць трэба.

— Што?

Лявон перавёў погляд на жонку:

— Па нашых мерках, мы жылі быццам бы ў дастатку, але ж кулакамі не былі. А хоць бы і былі! Дык і што? Каму мы перашкаджалі? Мы ж сваім гарбом усё нажывалі.

Зміцер маўчаў, думаў.

— У райком парціі трэба паскардзіцца, цяперашні бог якраз у райкоме сядзіць, — сказаў ён.

— А ці дапамогуць? — усміхнуўся сябар. — Цяпер паліціка такая...

— Цяжкі час, — азвалася Фёкла, слухаючы іх размову.

— Цяжкі, — згадзіўся Зміцер.

І Лявону, і Фёкле падабалася яго шчырасць, яны цанілі яго парады. Зміцер сказаў:

— Вы ж, я думаю, помніце тую прыпавесць пра свіней, у якіх усяліліся бесы. Евангелле ад Лукі, глава восьмая. Што зрабілася пасля гэтага з беднымі жывёлінамі? Пашалелі. Кінуліся з круцізны ў возера і патапіліся. Тое ж самае будзе і з гэтымі «актывістамі».

— Як там маладыя твае жывуць? — для прыліку спытаў Лявон, прыгладжваючы пасмачку на лбе.

Зміцер заўсміхаўся.

— Як маладыя. Цешацца...

— Ну, то добра.

Пабыўшы ў Кужалёў, Зміцер пайшоў у свае Бабічы.

Раптам Лявону прыйшла ў галаву думка:

— Якое там надвор’е, Фяклуша?

— Восень, суха яшчэ.

— А можа, да Мачалава звярнуцца?

— А чаму б і не? — адказала Фёкла, падумаўшы. — Ён нас памятае, здароўкаецца. Едзь!

## IX

Лявон так і зрабіў. Запрог Паню і паехаў. Настрой быў дрэнны, але паехаў. Радавала адно, што нарэшце ачуняў, паздаравеў. Узяў з сабой даведку аб зямлі, якую склаў каморнік. За клуняй павярнуў на сценку — вузкую палявую дарогу і па ёй выехаў на камянецкі гасцінец. Стаяла прыгожая, ціхая восень. Запунсавелі гронкі прыдарожнага ворабу. Пругкі вецер старанна расчэсваў бярозам-бялянкам пажаўцелыя косы. Па пожнях паблісквала на сонцы тонкае павуцінне бабінага лета. Тонка звінелі асіннікі, пабурэлі на межах быльнёг і палын.

Знаёмыя мясціны, звычны пейзаж супакойвалі, але душэўны боль і трывога не праходзілі. Думаў аб сваім. Яшчэ тыдзень таму назад быў невінаваты, а сёння ўжо трэба апраўдвацца, і шанцы апраўдацца былі невялікія. Дакажы, што ты не вярблюд. Здаецца, што і даказваць не трэба: усё відавочна. Э, не...

Не заўважыў, як даехаў да Бабіцкай гары. Гэтае месца звычайна прымушала ўспомніць дзеда Кірылу, з якім калісьці ў першы раз ехаў у мястэчка

паступаць у народнае вучылішча. Тыя, дзіцячыя, уражанні — масты праз Лосьну, мястэчка з брукаваным цэнтрам, Камянецкі Стоўп, крамы, базар, сям'я шаўца Нохіма — запомніліся на ўсё жыццё. Ну і, вядома, вучылішча, вучоба, неадольная цікавасць да забароненых кніжак, аднакашнікі Зміцер Зуб і Якаў Пац. Колькі часу мінула! Вунь дзе апынуўся Якаў — ажно ў Сібіры! Трэба бедаку яшчэ ліст напісаць і з прадуктаў чаго паслаць...

Праехаў Ліпну, якая пасля таго, як яе з-за кантактаў з партызанамі спалілі карнікі, адбудавалася. Зямлянак ужо не відаць, людзі паступова перасяліліся ў дамы.

Па левы бок засталося Мікалаева, мікалаеўская царква на ўзгорку. Паня не марудзіла, спраўна перабірала дужымі нагамі. Вось ужо і Замасты. Тут, у Замастах, якраз пры павароце на Пруску, стаяла калісьці карчма, якую трымала Хайка і ў якую добра было наведацца, вяртаючыся з млына ці з базара, з грашыма, дадому. Здаралася, што чалавек усе грошы тут і пакіне, бо чарка і селядзец у Хайкі былі заўсёды...

Нарэшце пасля ціхіх драўляных мастоў праз Лосьну колы затарахцелі па местачковым бруку, які паклалі яшчэ не іначай як у часы Вялікага Княства Літоўскага, і з тых часоў ён заставаўся роўны і гладкі.

Спыніўся Лявон каля будынка райвыканкома. Пані пачапіў на галаву торбу з аброкам. Хай жуе. Сам падняўся на ганак і прадэфіліраваў доўгім калідорам па свежавымытай падлозе. Чытаў шыльды. Знайшоў кабінет загадчыка сельгасаддзела. Сустрэла сакратарка.

— Прасіцель да вас! — далажыла гаспадару кабінета, адчыніўшы дзверы, а Лявону сказала: — Чакайце, вас прымуць, паклічуць.

Давялося чакаць, седзячы ў мяккім, абабітым чорнаю цыратаю крэсле. Ім яшчэ болей авалодала туга, пачуццё пакутлівага чакання нейкага непазбежнага павароту ў лёсе, а па сутнасці, мяркуючы па ўсім, катастрофы. Нарэшце ад Мачалава выйшлі нейкія два гаманкія чалавекі і надышла Лявонава чарга. Услед выходзячым гаспадар кабінета гукнуў:

— Не пераканаў я вас?!

Наведвальнікі пайшлі не азіраючыся.

— Такія электрастанцыі будуюцца, а вы — сваё!..

Паглядзеў на новага наведвальніка, пазнаў:

— Вітаю, Лявонцій Міхайлавіч! Да мяне?

Затым стомлена падняўся з-за стала, сустрэў нечаканага госця на чырвонай дывановай дарожцы.

— Ну, як жыццё? — спытаў Пятро, лыпнуўшы вачыма і вярнуўшыся на сваё начальніцкае месца. Запрасіў прысесці госця. Лявон сеў.

— Так сабе, хваліцца няма чым.

Мачалаў распытаў пра здароўе, пачаставаў «Казбекам», дастаў з кішэні запальнічку, чыркнуў, даў прыпаліць Лявону і прыкурыў сам. Госць пахваліў папяросы. Пускаючы дым, пачалі гаворку. Успомнілі бедалагу Саньку — акружэнца, сябрука, які на пачатку вайны прыбіўся быў да Кужалёў і жыў да лета 1943-га, пакуль разам з Пятром не падаліся ў партызаны. Санька загінуў, а Пятру пашанцавала, выжыў, ажаніўся, пасаду займеў.

— У партызанах цяжка даводзілася, — уздыхнуў Пятро, зацягнуўся дымам, задумаўся. — Можа, каго-небудзь і пакрыўдзіў? Помню, уцякаў, немцы гналіся. Гэта за Пружанамі было. Па дарозе нейкі селянін ехаў з возам. Я кінуўся наперарэз: «Стой!» Чалавек не спыняўся. Я спыніў яго наганам, перарэзаў вужвы, сеў на каня вярхом і, не скінуўшы хамута, штурхаючы каня пад бакі і б'ючы рукаяткай нагана, памчаўся. Кіламетраў пяць праскакаў.

Партызанская зона пачалася, тады адпусціў каня. Не ведаю, ці знайшоў яго гаспадар.

— Думаю, знайшоў. Гэта не іголка ў стозе сена.

— Пабыў старшынёй сельсавета ў Ратайчыцах, а цяпер вось тут. Працую, як і ўсе, турбот хапае.

Сваё прызначэнне ў райвыканком на пасаду загадчыка сельгасаддзела Мачалаў успрыняў як натуральнае і заканамернае павышэнне па службе. Праўда, служба аказалася нялёгкай. Цяжка было са спагнаннем падаткаў, а цяпер яшчэ вось і калектывізацыя.

— А што вас прывяло?

Лявон расказаў усё, як было, пра актывістаў.

— За кулака палічылі, прыйшлі раскулачваць, пры гэтым, у маю адсутнасць. Перавярнулі ўсё ўверх дном і ў хаце, і ў каморы. Я вырашыў абскардзіць. У чым мая правіннасць? Зямлі ў мяне не шмат. Пяць гектараў намераў каморнік, усяго. З іх ворнай — тры з палавінай. Даведка пры мне. Наёмную працу не выкарыстоўваў.

— І хто гэта? — Мачалаў перайшоў на афіцыйны тон.

— Актывісты нашы — Хвядзюшка Шпунт, Багатэль ды гэты Гамон. Ды яшчэ Бублікаў з пракуратуры. Кажух забралі, палатно, чаравікі, сала, грошы. Прыйшоў да вас дапамогі прасіць, ратунку...

Памаўчаўшы, ён дадаў:

— Падатак я сплаціў. Батракоў ніколі не трымаў, абрабляў сам. Працаваў, як мул. — Лявон гэтак сказаў, успомніўшы таго мула, якога трымаў амерыканскі фермер і які працаваў у яго дзень у дзень і нават ноччу.

Мачалаў слухаў, маўчаў. Сітуацыя была далёка не простая, бо нехта ж стаяў за тымі «актывістамі». Магчыма, райком. Каб не пакаўзнуцца, а то скажуць: «Кулакоў абараняеш!» Тады непрыемнасцей не абярэшся. «Актывісты» сёння маюць сілу. Сёння ўсё ўскладнілася. Зноў адноўлена пакаранне смерцю. Пасля вайны было адменена, а цяпер зноў уведзена. Абстаноўка накаляецца, а служба патрабуе цвёрдасці. Але помніў ён і бацькавы словы: «Службу служы, а сябру дапамажы!» Бацька не раз іх паўтараў. Хацеў, відаць, каб і сын іх запомніў.

— Самі бачыце, — пачаў Мачалаў, неяк няўпэўнена крануўшы рукою падбародак, — час у нас няпросты, можна сказаць, пераломны. Тут нужна бдзіцельнасць, класавы падыход.

Ён дастаў з шуфляды ключ і адчыніў сейф, што стаяў побач са сталом. Выбраў нейкую паперыну і працягнуў Лявону.

— Вось! Разнарадка!

Прускавец узяў, стаў узірацца. Злева на старонцы стаялі прозвішчы, справа — назвы паселішчаў, у якіх уладальнікі гэтых прозвішчаў жылі.

Зверху значылася:

Спіс

кулакоў па Камянецкім раёне.

Зацверджана райвыканкомам, 1949 г.

1. Раманюк Васілій Матвеевіч в. Млыны
2. Грышчкоўскі Якаў Іванавіч хут. Заслаўе, Дварцы
3. Чарнак Раман Грыгор’евіч в. Дзяменічы
4. Кацэвіч Іван Грыгор’евіч в. Дзяменічы
5. Астапковіч Мікалай Іванавіч в. Задвор’е, Турнянск. с/с
6. Пятручык Дарафей Раманавіч в. Дзяменічы
7. Дацкевіч Іван Якімавіч в. Мікалаева

8. Шаш Дзям'ян Іванавіч в. Багачы
9. Мурын Фама Раманавіч в. Шастакова
10. Карпішук Іван Раманавіч в. Кругель
11.Сілюк Макарый Феадосьевіч в. Бучамль II
12. Занько Іосіф Максімавіч в. Трасцяніца
13. Іванюкевіч Васілій Іванавіч в. Камароўшчына
14. Буткевіч Аляксей Аляксеевіч в. Беразнякі
15. Клапоцкая Марыя Іванаўна в. Угляны
16. Пракаповіч Аляксандр Афанасьевіч в. Камароўшчына
17. Тысянчук Пётр Карпавіч х. Разалін Відамлянскага с/с
18. Літвіновіч Павел Фадзеевіч в. Алешкавічы
19. Жук Ульян Гардзеевіч х. Разалін
20. Зарэцкая Пелагея Фамінічна в. Плянта
21. Несцяровіч Яфім Лукіч в. Селяховічы
22. Несцяровіч Іван Лукіч в. Селяховічы
23. Пархацэвіч Міхаіл Міхайлавіч в. Мурыны Відамлянскага с/с
24. Рахацэвіч Яфім Навумавіч в. Мурыны Відамлянскага с/с
25. Ляшук Сцяпан Іосіфавіч в. Алешкавічы
26. Каляда Іван Канстанцінавіч в. Хадасы
27. Грабёнка Сямён Васільевіч в. Сіняцічы
28. Абрамчук Несцер Аксенцьевіч в. Дзмітравічы
29. Грабёнка Сцяпан Мяфодзевіч в. Сіняцічы
30. Грачанік Марфа Дзянісаўна в. Макавішча
31. Мушыц Аляксандр Іванавіч гор. Камянец
32. Каласоўскі Федар Міхайлавіч в. Замасты
33. Каласоўскі Іван Пятровіч гор. Камянец
34. Негерыш Аляксандр Васільевіч в. Галоўчыцы
35. Негерыш Яфім Грыгор'евіч в. Чарнакі
36. Магірка Іосіф Пятровіч в. Чарнакі
37. Шаўчук Цімафей Сцяпанавіч в. Навіцкавічы
38. Мышленік Ганна Карпаўна в. Гарадзішча Агародніцкага с/с
39. Дзмітрук Таццяна Іванаўна в. Алешкавічы
40. Строк Якаў Лукіч в. Русылы Вайскоўскага с/с
41. Піліпчук Грыгорый Мартынавіч в. Лешня Турнянскага с/с

Прачытаўшы спіс, Лявон задумаўся, захваляваўся, пачуў, як увушшу застукала кроў. «Чаго гэта я так хвалююся? Тут жа, у гэтым спісе, мяне няма». З Прускі наогул нікога няма. Хіба што Іван Карпішук, які жыў непадалёку, у Кругелі. Карпішука Лявон ведаў, знаёмы быў і з іншымі. Ведаў Васіля Раманюка з Млыноў, Пятра Тысенчука з Разаліна. Уявіў іх нездаляшчы лёс — і перахапіла дыханне.

— Ёсць пастанова Саўміна СССР аб высяленні кулакоў з Беларускай ССР, — сказаў Мачалаў і дакінуў: — Цесна нам з імі. Яны і лесавікоў падтрымліваюць. Лесавікі — людзі жорсткія, жартаваць не намераны. У Камянюках пырнулі нажом камбайнёра, пакінуўшы на грудзях у яго запіску: «Так будзе з кожным, хто за калгасы». Камбайн падпалілі. Камбайнёра ўдалося выратаваць, хоць рана аказалася вельмі небяспечнай: фінка дастала печань.

— І хто такое ўтварыў?

— Шукаем. Органы заняты гэтым.

— Можа, гэта не мясцовыя, а іншы хто...

— Ад кулакоў нада асвабаждацца.

— А куды ж іх высяляюць?

— Сібір, Казахстан, Якуція... Расія вялікая. Яшчэ Сахалін ёсць, Камчатка, Калыма. Сам я з Сахаліна родам. Усюды ідзе вялікая сазідацельная дзейнасць. Кулакоў накіроўваюць на лесапавалы, у руднікі, на новабудоўлі. Труд спраўляе чалавека, вяртае да нармальнага стану, перавыхоўвае.

— Пётр Нікадзімавіч, — памаўчаўшы, загаварыў Лявон, — але ж мяне ў гэтым спісе няма. Чаму ж яны за мяне ўзяліся?

— Гэта яны па сваёй ініцыятыве. Можа, зайздросцяць вам...

— Я люблю працаваць.

— Супраць іншых вы не бяднейшы...

Лявон маўчаў, слухаў, што кажа начальнік.

— Падавайце заяву ў калгас! Вы што, саматужнікам хочаце быць? Саматужнікам, відаць, не атрымаецца. Ухіляцца ад калгаса? Не раю. Гэта ясна, як двойчы два. Неадкладна падавайце. А то пачнуць разбірацца, запутаюцца і далёка можаце аказацца.

— Я ж інвалід.

— Могуць і не паглядзець.

— Дык як жа так?

Пятро нічога не змог адказаць, а толькі паціснуў плячыма. Відаць, што ўлада яго была далёка не бязмежная. Потым узрушана загаманіў:

— Падавайце заяву! Прыйдзе час, і вы яшчэ дзякаваць мне будзеце за гэтую параду. Вось успомніце!

Лявон шумна ўздыхнуў, не ў стане паверыць у тое, што казаў Мачалаў, а той у пацвярджэнне сваіх слоў паківаў галавой.

— Цярпімей трэба быць, — невядома каму сказаў ён. Падняўся, падышоў да наведвальніка і мякка паклаў руку на плячо.

Лявону стала лягчэй.

— Ад тых «акцівістаў» мы вас аградзім, тое, што забралі, вазвярнём. А на сход я сам да вас прыеду. Старшыню калгаса будзем выбіраць. Адказная справа! Рыхтуйцеся!

Лявону нічога не заставалася, як толькі шчыра падзякаваць, і ён зазбіраўся вяртацца. Наастатак запытаў Пятра пра жонку:

— А як Маня? Як яе здароўе?

Маня — зямлячка, дачка Міхаля Шведа.

— Байкі — як у вас кажуць.

«Бач ты яго, — падумаў Лявон, — ужо і словы некаторыя пераняў...» Развітаўшыся з Мачалавым, выйшаў на вуліцу. Зырка свяціла сонца. Фурманка стаяла на тым жа месцы. Паня дажоўвала аброк. Можна было вяртацца.

— О-о-о! Каго я бачу? Здарова! — пачулася з-за спіны. Лявон павярнуўся і ўбачыў Цішку Пахолка, які нядаўна пераехаў у Камянец і стаў камянецкім жыхаром, пачаў працаваць, як ён казаў, «на праізводстве».

— Знаёмых шукаю. Гляджу — твая кабыла. Ну, думаю, значыць і ты тут.

— У райвыканкоме быў, у Мачалава.

— Тады давай па сто грам за сустрэчу. На базары забягалаўка ёсць. Я ўгашчаю, у мяне сёння палучка была.

Лявон павагаўся, але згадзіўся, адвязаў Паню, сеў на воз, з другога боку ўскочыў Цішка. Перад вачыма ўсё стаяў «спіс кулакоў», які паказаў Мачалаў і які пакінуў цяжкую траўму ў Лявонавай душы. Таму ён маўчаў.

«Забягалаўка» пад назвай «Родина» (гэтак было напісана на шыльдзе) стаяла ў кутку базарнай плошчы, насупраць царквы. Драўляная будыніна, якая ў польскія часы належала камусьці з камянецкіх яўрэяў, накрытая на скорую руку дошкамі. Пані зноў давялося чакаць, а яны зайшлі і селі за столік, што

стаяў побач з піўной бочкай. Цішка заказаў па сто грамаў гарэлкі і закуску — салат з капусты, хлеб і ліверку. Афіцыянтка справілася з заказам хутка, прынесла гарэлку ў шклянках і закуску. Яны чокнуліся шклянкамі і выпілі, пачалі закусваць.

— Я ў прамкамбінаце працую, на праізводстве, — напомніў Цішка, — на зарплаце.

— Добра табе.

— Некаторыя зайздросцяць. Яно і зразумела. Вытворчасць, браце, аснова ўсяго, а конь, ды каровы, ды плуг, — гэта сёння смешна. Селянін цягне жыццё назад.

— Але і без гэтага нельга.

— Гэта пакуль што, а далей тэхніка сваё слова скажа. Трактары, камбайны, механізацыя!..

— Нехта ж павінен сядзець на тым трактары, кіраваць.

— Усё на лектрыцы будзе, на правадах! З машынай лепш справу мець, чым з чалавекам. Што загадаеш, яна робіць, выконвае. З ёй можна ладзіць, бо паслухмяная. А чалавек? Пра чалавека такога не скажаш.

Цішка хрумстаў капустай і гаварыў з напорам і настолькі перакананa, што не выпадала і пярэчыць яму. Потым спытаў:

— Ну, а ў цябе як справы?

— Дрэнныя справы! Хвядзюшка з Багатэлем раскулачваць прыходзілі, і Гамон з імі. Тое-сёе з рэчаў забралі, грошы...

Цішка здзівіўся, пахітаў галавой.

— Ну, не ведаў я, я б ім паказаў! Я б ім даў прыкурыць! Шкада, што я ўжо не ў Прусцы, а то б...

— А што ты ім зробіш, солі на хвост насыплеш? Што з воза ўпала, тое прапала. Уласнасць цяпер не прызнаецца, цяпер калгасы. Цяпер усё абагульняецца.

Лявон уздыхнуў цяжка, працягла. «Пра што цяпер казаць, — думаў ён з прыкрасцю. — Што адбылося, тое адбылося. Жыццё заўсёды было зменлівым і зыбкім, а цяпер асабліва. Цвёрдага грунту няма. Сёння тут, а назаўтра невядома дзе апынешся...»

— А што — я табе не гаварыў? Перабірайся ў раён, у Камянец! Гаварыў?

— Казаў.

— Чарку з імі не піў?

— Не піў.

— Я ведаю, што не піў. Вось пагэтаму яны і злыя на цябе.

— Не было выпадку. Але ж яны мяне таксама выпіць не запрашалі.

— Бо яны не маюць за што, а ты маеш. Гэта капэзэбоўцы калісьці не ўжывалі гарэлкі і баяліся яе, а цяперашнія камуністы не лічаць дружбу з чаркай адступленнем ад партыйнай лініі.

Счакаўшы крыху, Цішка загаманіў ізноў:

— Прызнаюся табе, што і я хацеў запісацца ў партыю, ужо і заяву падаў, але адмовілі па той прычыне, што калісьці, калі помніш, на Вадохрышча — гэта яшчэ да вайны было, малады быў, — крыж з палонкі дастаў, які ўраніў айцец Клаўдзій у час набажэнства. На адкрытым паветры было набажэнства, у затоцы на Лосьне...

— А я помню той выпадак, помню! — Лявон нават узрадаваўся даўняму ўспаміну. — У ледзяную ваду палез.

— Палез, бо дурны быў.

Лявон у адказ уздыхнуў.

— Але пра кожнага ўсё ведаюць.

— Ведаюць.

Яны паўтарылі заказ, выпілі яшчэ па паўшклянкі, закусілі смажанай, але ўжо халоднай рыбай. Лявон адчуў, як у галаве зашумела і ад сэрца адступіла скруха. Палепшыўся настрой, і нібы стаў дужэй.

— Гаспадарку ты любіш — вот у чым твая бяда! — даводзіў сваё Цішка, будучы ўжо на падпітку.

— Прывычка.

— А некалі я казаў табе! Помніш, яшчэ пры Польшчы. Не страміся да багацця! Адбяруць!

— Да якога багацця? Хіба гэта багацце? Тры гектары зямлі!

— А малатарня?

— Дык я ж інвалід! З той яшчэ вайны! Ты ж не забывай пра гэта, Ціхан! Цэп трымаць у руках не магу...

— Ну, ясна, ясна, — згадзіўся, саступіў, махнуўшы рукой, суразмоўца.

Каля бочкі шчыравала разгарачаная буфетчыца, пампавала піва, у падстаўленыя да крана куфлі шчодра ліўся пеністы напой.

— Піва тут смачнае, — заўважыў Цішка, — амаль як у Канадзе калісьці. З Берасця прывозяць.

Заказалі па куфлю піва.

— Каклеты ёсць, з капустай, — прапанавала буфетчыца.

— Не, мы толькі піва, — адмовіўся Цішка. — Піва — гэта другі хлеб.

— У Амэрыцы добрае піва, — прыгадаў Лявон, падносячы куфель да вуснаў.

Піва спадабалася аднаму і другому. Цішка выпіў і па-кавальску моцна грукнуў пустым куфлем аб стол. Выпілі яшчэ па адным.

— Давай яшчэ! — прапанаваў Цішка.

— Не, хопіць. Трэба дахаты ехаць. Пакуль дабярэшся!..

— Я таксама дадому пайду, а то Люся зноў будзе незадаволеная, сварыцца пачне, — сказаў Цішка, расплачваючыся з афіцыянткай.

Пасля гэтага яны пакінулі «забягалаўку», выйшлі на свежае паветра, дзе Лявона чакала фурманка. Адчувальна пахаладнела. Паня павярнула галаву, паглядзела на гаспадара і сумна ўздыхнула. Доўгія вейкі яе пакрыліся інеем. Лявон пагладзіў кабылу па спіне. У адказ яна махнула галавой і страсянула грывай.

— Я цябе, браце, паважаю, — гаманіў п’янаваты Цішка, праводзячы сябра. — Помніш выпадак, калі ты мне вельмі дапамог?

— Ты пра тое?

— Пра сейф. Мяне ж пасадзіць маглі...

— Ну, калі тое было! Яшчэ пры Польшчы.

Яны развіталіся, і захмялелы Лявон пусціўся ў адваротны шлях. Хоць і захмялеў, але язык трымаў за зубамі. Цішку пра «спіс кулакоў» нічога не сказаў. Хмель, зрэшты, не браў. Ён як бы наадварот — пасля размовы з Мачалавым працверазеў. Працверазеў і паспакайнеў.

Паступова звечарэла. На небасхіле паказаліся першыя зоркі. Паня, застаяўшыся, цягнула лёгка, без прынукі. Уз’ехаўшы на Бабіцкую гару, задрамаў...

Першай далёкія гукі пачула, выйшаўшы на дарогу, Фёкла. Падвода набліжалася, ужо чулася натужлівае, але роўнае дыханне Пані. Нарэшце паміж

хлявом і клуняй суседа Мішы Ясевага, з боку поля, акрэслілася фурманка. Паня завярнула на прыгуменне. Фёкла падышла бліжэй. Лявон ачухаўся, пачаў шукаць лейцы, злез з воза. Па рухах відаць было, што чалавек не надта цвярозы.

— Эх, Фяклуша! — уздыхнуў ён, убачыўшы жонку.

— З кім гэта ты?

— З Пахолкам.

Распрог Паню, завёў у хлеў, паклаў сена. Разам з Фёклай зацягнулі ў клуню воз. Пайшлі ў хату. Фёкла не ўшчувала, кінулася да пліты, пайшла на кухню, каб нешта падагрэць ці падсмажыць. Паставіла на стол падагрэты булён. Ён памыў рукі, выцер ручніком, сеў за стол, пачаў есці.

— Ну, як з'ездзіў?

— Быў у Мачалава. Мы вас, сказаў, ад акцівістаў аградзім і ўсё вазвярнём.

— Ну, дык добра.

— І падавайце, кажа, заяву ў калгас.

Фёкла задумалася, а потым схамянулася, сказала:

— Давай спаць, — і дадала: — Утра вечара мудраней!

На раніцу спытала:

— Ну, як ты сябе адчуваеш?

— Не надта.

— І собіла ж табе напіцца! Можа, расолу?

— Давай!

Фёкла прынесла з каморы кубак капуснага расолу. Ён выпіў.

— Маці мая Марыля ў такіх выпадках казала: «Шануйся!» А я вось і не ўшанаваўся...

— Гэта, пэўна, Цішка прыняволіў.

— Частаваў. Гарэлкі выпілі ды яшчэ піва наверх. Гэта пасля сустрэчы з Мачалавым.

— На радасцях! — пасміхнулася Фёкла.

— А ведаеш, што ён мне паказаў?

— Што?

— Пад вялікім сакрэтам! Спіс пад раскулачванне. На сорак чалавек. Па раёне. Кулакі.

— Ой! — жахнулася жанчына. — Гэта якіх вывозіць маюць? Гэта здзек.

— Здзек. Высяляюць. А што зробіш? Але мяне ў тым спісе няма.

Колькі хвілін яны маўчалі.

— Заяву трэба пісаць, — сказаў Лявон. — Заяву ў калгас. Гэта — непазбежнасць. Супраціўляцца непазбежнасці не выходзіць.

* * *

Пасля размовы з Фёклай вырашыў наведаць Амброжыя, сказаць яму пра апошнія падзеі. Перайшоў кладку праз Лосьну, падняўся на ўзгорак, на якім размяшчаўся фальварак Пацаў.

Ад хаты Якава Арыстархавіча застаўся толькі фундамент, Мірык звёз яе ў Брэст, а каменны крыж з надпісам па-ранейшаму стаяў, на сваім месцы, на ўзвышшы. Лявон паўзіраўся ў яго і ў каторы раз прачытаў надпіс на цокалі:

*Господи заступи*
*и спаси насъ*
*и наши земли*
*отъ града и*
*всехъ напастей*
*1918 Пацъ*

Застаў фальваркоўца дома, у хаце. Хто жыў спакойна, ні на якія «напасці» не звяртаючы асаблівай увагі, дык гэта ён, Амброжый. Адлучацца кудынебудзь ён не прывык і нічым надта не цікавіўся. Відаць, цалкам пакладаўся на лёс. У хаце каля яго знаходзілася Паўліна — дзяўчына гадоў ужо за трыццаць, якая жыла з удаўцом, якім з'яўляўся Амброжый. Бежанка. Пасля вайны прыбілася на хутар да Пацаў ажно з-пад Мазыра. «Якая ж ты худа-ая!» — спачувала ёй Хвядося. У Пацаў Паўліна ачуняла, і да яе пачала вяртацца маладая свежасць, уласцівая яе ўзросту. Прыйшла змораная, худая, пажыўшы, паправілася, стала гладкай, крамянай, заіскрыліся блакітныя вачы.

Не раз спыняў на ёй цікаўны позірк і Якаў Арыстархавіч. Ці не сімпатызаваў нават, але выйшла па-іншаму: заграблі беднага, адправілі даседжваць ранейшае, што яшчэ калісьці прызначылі. Паўліна заставалася з Хвядосяй, дапамагала па гаспадарцы. Пасля таго, як Мірык забраў бацькаву хату, а заадно і Хвядосю ў Брэст, Паўліна перабралася да Амброжыя і сваю блізкасць з ім зразумела як частку абавязкаў у адносінах да гаспадара.

Яны толькі што скончылі снедаць. Павітаўшыся, Амброжый спытаў:

— Можа, перакусіш?

— Дзякуй. Паснедаў.

— Чуў я, што і цябе раскулачылі?

— Прыходзілі.

— Злыдні! І пра мяне ў Бранавічах кажуць, што Амброжый Пац ніяк не можа развітацца са сваімі кулацкімі замашкамі. А якія замашкі? Можа, што Паўліна пры мне? Дык яна за гаспадыню...

Паўліна, якая пры гэтым прысутнічала, прыкметна зачырванелася, сціпла паднялася з лаўкі і выйшла на кухню.

У хаце вісела шмат абразоў — цэлы іканастас, якія Амрожый з братавай хаты забраў, перанёс да сябе.

— І Нупрэева хата апусцела, — ціха паскардзіўся Амброжый. — Забралі яго разам з сям'ёй, з Настусяй і сынам.

— У кулакі трапіў?

— Відаць, трапіў, бо далёка павезлі.

— Можа, яшчэ вернецца...

— Гэтак вернецца, як Якаў.

— А ты, дружа Амброжый, ці падаў заяву ў калгас? — у сваю чаргу запытаў Лявон.

— Не, яшчэ не.

— Падавай, дружа, не цягні, а то дабра ад іх не прычакаеш. Надта цябе прашу.

Амброжый уздыхнуў.

— У вайну з маёй хаты партызаны не выходзілі, а цяпер я кулак?

— Я таксама не магу гэтага ўцяміць, — паспачуваў Лявон. — Абсурд!

— У нас, у Петрыкаўскім раёне, тое самае, — увайшоўшы, сказала Паўліна. — Калхозы.

Яны яшчэ аб тым-сім пагаварылі.

— Ці было што ад Якава? — пацікавіўся Лявон.

— Не, не было. Апошнім часам нічога не было, — развёў рукамі Амброжый: — У тым лісце, што раней прыслаў, пчоламі пераймаўся, дык я адпісаў яму, што пчолы ў парадку, што пчэльнікам я апякуюся.

— А мы, — успомніў Лявон, — ад Якава ліст атрымалі. Учотчыкам працуе, на лесапавале. Нічога, крэпіцца, не панікуе.

— Не такі ён, каб панікаваць.

— Ён жа цяпер у тайзе.

— У тайзе. Мы з Паўлінай сала яму паслалі, сала і цыбулі з часнаком. Дай божа, каб хутчэй вярнуўся.

— У тым лісце, што да нас прыслаў, пра нейкія абразы пытаецца, — сказаў Лявон.

Амброжый няўцямна на яго зірнуў, аднак праз імгненне пагляд яго праяснеў:

— Абразы людзі бяруць, каму трэба. Плацяць трохі. Цяпер жа ў магазіне не купіш.

— Не купіш.

Лявон гаварыў мала — больш слухаў. Пасядзеўшы яшчэ крыху, развітаўся і пасунуўся дадому. Апанаваў сум, настрой быў паганы. «Няўжо так вось і жыццё пройдзе — у вечных клопатах, цяжкасцях, высільваннях і нягодах?..»

Наставалі новыя часы, супроць якіх ён быў бяссільны. Спрачацца з дзяржавай не выпадала.

## X

Лявон падаў заяву ў калгас. І параду Пятра памятаў, і жыццё да гэтага схіляла. Зрэшты, заявы падалі ўсе за выключэннем бацюшкі айца Клаўдзія, непрыдатнай для працоўных намаганняў Амеліі і яе брата Восіпа, які меў пасаду дарожнага майстра. Пад яго наглядам паабапал Камянецкага гасцінца, які планавалі забрукаваць, ужо даўно назапашвалася і складалася ў крушні каменне. На першым месцы цяпер — калгаснае будаўніцтва.

У калгас аб'ядноўваліся дзве вёскі — Пруска і суседняя Выгнанка. Трымаліся па-свойску: кожны кожнага ведаў, і ведаў добра. У чацвер з раёна прыехалі ўпаўнаважаныя таварышы праводзіць заключны арганізацыйны сход. Вядомыя ўжо прускаўцам Мачалаў і Прыбылоў. На гэта раз з імі была яшчэ адна асоба — Стась Байбаковіч. Прускаўцы добра яго ведалі. У бытнасць сваю фінінспектарам ён надта быў не паразумеўся з Амеліяй на глебе «жаночага падатку», гэта значыць, падатку за бяздзетнасць. Паміж імі адбылася сварка, пра якую прускаўцы помнілі і расказвалі да гэтага часу. Байбаковіч атрымаў павышэнне і ўжо даўно працаваў у Камянцы дырэктарам лазні. Чалавек быў на віду, «парцейны», парыў у лазні начальства, дзеля чаго вязаў свае фірменныя венікі.

Збіраўся народ. Гэта зноў-такі было ў памяшканні школы. Чулася несціханая гамана, прасякнутая хваляваннем і зацікаўленасцю. З-за стала прэзідыума падняўся Мачалаў, патрабавальна агледзеў сход і прамовіў:

— Таварышы! Дазвольце наш сход лічыць пачатым. Мне даручана перадаць вам гарачае прывітанне ад першага сакратара райкома партыі таварыша Харахорына! — бадзёра выгукнуў ён і ўдарыў у далоні. Заляскалі ў далоні Байбаковіч з Прыбыловым, з залы азваліся Хвядзюшка з Гамонам як самыя

свядомыя, хтосьці яшчэ. Нязвыклая да апладысментаў зала рэагавала слаба. Мачалаў колькі разоў здзіўлена кашлянуў і працягваў: — Таварышы, з калгасам мы ўсё ж такі зацягнулі, недаравальна зацягнулі. Нават самому Богу для стварэння свету спатрэбілася ўсяго толькі шэсць дзён, а мы ўжо з паўмесяца валэндаемся, як у вас кажуць, марудзім. Канчаць трэба важданіну гэтую! Давайце ўжо будзем арцеллю! Калгаснай арцеллю! Давайце працаваць разам, дружна!

— Гуртам, як жартам! — падтрымаў аратара Хвядзюшка. — Гэта ж усім вядома.

— Канчаць! — як рэха, азваўся Цярэшка Макацёр.

— Дзіва што! — пасміхнуўся ў бараду Мілецій.

— Перш за ўсё, — Мачалаў падняў угору палец, — як назваць ваш калгас?

Сход адрэагаваў на гэта зацікаўлена, загудзеў.

— Ад назвы, як вядома, многае залежыць. Мы ў раёне абмяркоўвалі гэтае наспелае пытанне. Пытанне — палітычнае...

Зала аціхла ў чаканні. Чутно было, як шыпела падвешаная да столі газніца.

— Адносна назвы, таварышы. Ёсць прапанова прасіць таварыша Сталіна, каб дазволіў пакарыстацца сваім прозвішчам. Гэта было б добра.

— А ці дазволіць? — затурбаваўся Хвядзюшка.

— Думаю, што дазволіць, — разважліва прамовіў Байбаковіч.

Нехта з прускаўцаў заўважыў:

— Дык вунь у Бараўцах імя Сталіна, дык каб не зблытаць!

— Не зблытаем! — запэўніў Прыбылоў. — Пра гэта не турбуйцеся.

— Далей. Пытанне аб старшыні, — працягваў Мачалаў, строга пазіраючы перад сабой і не аглядаючыся па баках. — Прыкідка на старшыню ў нас ёсць. Гэта, таварышы, наменклатура райкома партыі. Тут не тое, што хто каго захацеў. Такі парадак. Кадравае пытанне павінна быць пад кантролем. Кадры рашаюць усё.

«Пэўна ж, не Прыбылова прызначаць, — падумаў Лявон. — Ён жа з коксагызам праваліўся ды і сад знішчыў. Няма гарантыі, што яшчэ што не ўтворыць, непамыснасць якую-небудзь...»

Пра кок-сагыз памяталі ўсе. І Прыбылова ведалі, ведалі, што ад сельскай гаспадаркі ён далёкі. Адно, да чаго ён прыслухоўваўся, гэта да загадаў зверху, да ўказанняў начальства. А такія дробязі, як правал з кок-сагызам і тое, што за нішто ссеклі сад, хай сабе і панскі, яго проста не цікавіла. Краіна, урэшце, вялікая — да Урала і за Урал. Недзе і кок-сагыз вырасце і яблыкі ўродзяць. Аніякімі дакорамі сумлення з гэтай нагоды, трэба сказаць, Прыбылоў не мучыўся, але прускаўцы гэтага яму не забылі. Таму тое, што не далей абвясціў Мачалаў, прагучала як гром з яснага неба.

— Ёсць прапанова, таварышы, выбраць на гэты пост таварыша Прыбылова Арбітра Аўдзеевіча, якога ўсе вы добра ведаеце. Таварыш выпрабаваны, усім добра вядомы. Партыйную лінію ён, будзем спадзявацца, не скрывіць. Кадр надзейны, мае адпаведны кругазор.

Прыбылоў цяжка падняўся з-за стала і стаў, як слуп. Потым чамусьці выйшаў і стаў побач са сталом прэзідыума. Вось, маўляў, я ўвесь перад вамі. Усе заўважылі, што боты яго з таго часу, як садзілі кок-сагыз, ужо іншыя, не брызентавыя, а хромавыя, з сіняга хрому. Пракідкі! Дастаў недзе сіняга, амаль блакітнага хрому! Але ў астатнім застаўся такім жа — касалапым, цельпукаватым, галамызым з твару. Мачалаў азірнуўся на яго і дакінуў:

— Вы не ўпершыню яго бачыце. Чалавек ён адказны. Хто — за? — Сказаўшы гэта, першым узняў руку.

Гэта было для ўсіх нечакана. Не адразу, спакваля, нерашуча, стала паднімаць рукі зала. Ляксандар Гальяш падняў руку, а потым стаў чухаць ёю за вухам.

— Ты, Ляксандар, галасуеш ці патыліцу чэшаш? — прыдзірліва запытаў у яго Хвядзюшка.

Гальяш скоранька падняў руку.

Мачалаў вёў сход і сам працэс галасавання ўпэўнена, цвёрда, патрабавальна ўглядаючыся ў чалавечыя твары, не то падбадзёрваючы, не то правяраючы.

— Та-ак, таварышы, хто супраць?

Такіх, хто б прагаласаў супраць, не аказалася.

— Я — за! — блазнуючы, гукнуў Гамон.

Вочы ў Прыбылова заіскрыліся, заззялі, ён агледзеў залу, напэўна, правяраючы, ці ўсе паднялі рукі, ці ўсе за яго прагаласавалі. Потым сеў на сваё месца, насупіўся, прыняўшы заклапочаны выгляд.

— Ён, таварышы, будзем спадзявацца, лінію не схібіць! — паўтарыў Мачалаў, маючы на ўвазе Прыбылова на пасадзе старшыні. — Такім чынам, пытанне вырашана.

Абраны старшыня падняў руку і працяглы час паблажліва ёю махаў. Аднак нейкай асаблівай радасці ў зале не адчувалася. Людзі не ведалі, як рэагаваць, што казаць, прымоўклі.

— Вы, таварышы, як бы і не рады? — здзівіўся Мачалаў.

— Рады! Яшчэ як рады! — адказаў за ўсіх Хвядзюшка.

Ну, значыць, мне гэтак падалося.

Узяў слова, зноў падняўся са свайго месца Прыбылоў. Ён пачаў не то з пажадання, не то з загаду. Паглядзеў некуды ўдалечыню, паверх галоў калгаснікаў, і сказаў:

— Трэба адразу, не адкладваючы, станавіцца ў строй перадавікоў. Кроў з носа, але каб перадавікамі сталі! Асабіста я, таварышы, гатовы ўзяць на свае плечы любую адказнасць! Я, таварышы, інстытутаў не канчаў. Гэта так. Але я адданы перад партыяй да канца! К чаму гэта я кланю? Нужон парадак, а я працаваць умею. Я навяду парадак і справядлівасць! Паверце мне, я ў жыцці не памыляюся. Яшчэ зажывём! Лямпачкі павесім — светла будзе! Ураджаі будзем здымаць! Тэхніка ў нас будзе!

Прыбылоў шырока развёў рукі, нібыта хацеў усіх абняць, ашчаперыць і расцалаваць ці, прынамсі, адарыць чымсьці незвычайным. Старшыня невядома з чаго расчуліўся, пусціў нават слязу, але, засаромеўшыся, тут жа ацёр яе, дастаўшы з кішэні хусціну. Любіў, відаць, чалавек глядзець уперад, марыць, прыкідваць планы.

— У нас у калгасе будзе ўсё!

— І птушынае малако? — пажартаваў Прохар Грудка.

— І птушынае малако! — не саступіў жарту старшыня. — Для бальшавікоў немагчымага няма. Птушку, дарэчы, дазваляецца разводзіць у неабмежаванай колькасці. Птушку і пчолы!

— Тут, Арбітр Аўдзеевіч, патрэбна шчапяцільнасць! — даў, як заўсёды, незразумелую параду Гамон.

Зала, не звяртаючы ўвагі на Гамона, ажыла, загаманіла. Арбітр Аўдзеевіч падняў, але не высока, руку, просячы цішыні і ўвагі. Уяўляў сябе як бы нейкім правадыром.

— Таварышы! Я адзін не спраўлюся, мне трэба апарат. Трэба выбраць праўленне! Ёсць у мяне на прыкмеце дастойныя кандыдатуры. Мы іх з таварышамі ўжо абмеркавалі.

Ён назваў Хвядзюшку Шпунта, Багатэля, Мікіту Галёнку, Арцёма Каленіка, Цярэнція Макацёра, Жуфею Чапёрка, Петрука Андраюка з Выгнанкі. Прагаласавалі.

— Хто проціў? Няма.

— А пра Гамона забылі? — агледзеўся Цярэшка Макацёр.

— Усіх, нават калі б і хацеў, не ўключыш, — адказаў старшыня. — Камута і абычную, радавую работу нада выконваць.

Гамон ажно сумеўся ад нечаканасці, відаць, спадзяваўся на нейкую пасаду, а цяпер разгубіўся і змоўк, не ў стане што-небудзь сказаць. Усё атрымалася вельмі нечакана. Брыгадзірам, па прапанове Байбаковіча, прызначылі Хвядзюшку.

— А можа, таварыша Багатэля? — падаў голас Прыбылоў.

— Хвядзюшку! — гукнуў нехта з публікі. — Ён нарадзіўся начальнікам!

— Фёдара Шпунта! — настояў і старшыня, маючы на ўвазе ўсё таго ж Хвядзюшку.

— Дзіва што! — сказаў Мілецій.

Хвядзюшкаў твар заззяў радасцю, збылася, няйнакш, даўняя мара. На самай справе так яно і было. Хвядзюшка здаўна хацеў працаваць «пры партфелі», зайздросціў тым, хто хадзіў з такім партфелем. Калгаснаму брыгадзіру партфель быццам не паложаны, але ўсё адно начальнік, і не малы.

Падбадзёраны даверам, Хвядзюшка тут жа на сходзе, не марудзячы, прыступіў да выканання сваіх начальніцкіх абавязкаў:

— Абагульненне маёмасці, таварышы калгаснікі, правядзём, пачынаючы з заўтрашняга дня. Пад стайню прызначана клуня Міхаля Шведа, які добраахвотна ўступіў яе калгасу і запісаўся сам. Вазы пакідайце на прыгуменні перад клуняй.

Гаварыў брыгадзір гучна, упэўнена, як гаспадар:

— Усё здаваць! А то я ведаю вас — каня каторы прывядзе, а збрую на вышкі закіне...

— А ў мяне кабыла жаробная! — не стрымаўся, выгукнуў Апанас Хомка. — Гэта не прычына! Ажарэбіцца ў калгасе! — адказаў яму Байбаковіч. Усе гучна зарагаталі.

— Я ўсё зразумеў, — уздыхнуў Апанас.

Нехта спытаў:

— А авечкі?

— Дойдзе чарга і да авечак! — запэўніў Прыбылоў, але потым, каб разрадзіць абстаноўку, жартам дадаў: — Курэй на адно седала зганяць не будзем!

Не атрымаў пасады Гамон.

— Выходзіць, што пра мяне зноў забылі, — скардзіўся і абураўся ён, ідучы са схода. Надта быў незадаволены і затаіў крыўду.

* * *

Варочаўся Лявон у пасцелі — не мог заснуць. Не давала спакою тое, што ўжо адбылося, і яшчэ болей тое, што мела адбыцца. «Гэта ж з усім давядзецца расстацца, — і раз, і два, і тры праплыло ў галаве, — з усім, дзеля чаго даводзілася працаваць, аддаваць сілы, выжыльвацца, старацца, з усім, што прыносіла задавальненне, што любіў». Ён любіў назіраць, бачыць, як расце

хатняя жывёла, сад, жыта ў полі, любіў упраўляцца з уласнай гаспадаркай, араць, сеяць, даглядаць. Цяпер усяму гэтаму прыходзіў, відаць, канец.

Побач уздыхнула Фёкла, яна таксама не спала.

— Як жа яно цяпер будзе? — спытала яна, невядома да каго звяртаючыся, хутчэй за ўсё да самой сябе.

Лявон пачуў, прамаўчаў, нічога не адказаў, устаў і пачаў апранацца.

— Ты куды? — спахапілася Фёкла.

— На двор выйду...

Апранаўся ў поцемках. Выйшаў на вуліцу і праз прыгуменне рушыў да клуні. Адчыніў дзверы і зайшоў унутр. Прывычна адчуў тонкі водар лугавога сена. Застаронак, у якім складваліся снапы, быў ужо пусты, збожжа паспелі абмалаціць. Пачуў, як побач, у хляве, жавала і час ад часу сумна ўздыхала Паня, пераступаючы з нагі на нагу. «Эх, колькі ў мяне, у маіх руках, перабыло коней! — з гэтай думкай ён накіраваўся ў хлеў, адсунуў засаўку, пераступіў парог, спыніўся каля Пані, падсыпаў ёй аброку, тая адразу захрумстала. Ноздры заказытаў конскі пах, якім была насычана папона, што вісела на загарадцы. Падумаў, што конь — гэта, па сутнасці, ўсё сялянскае жыццё». Каня ён ніколі не перагружаў, разагрэтага не паіў, а накрываў радзюжкай. Памятаў: конь — разумная істота, не бі яго, а лашч, шкадуй.

Паказытаў Пані шыю, патрапаў грыву. Паню ён даглядаў, на Юрыя на ёй не працаваў, крапіў свянцонай вадой і выводзіў на поплаў.

— Заўтра абагульненне, пойдзеш, косю, у калгас.

Здалося, што на вачах у Пані заблішчэлі слёзы. Лявон доўга маўчаў, нібы падсумоўваючы пражытае, ціха сказаў: «Без каня я не селянін. А калі не селянін, то хто я?»

Пакінуўшы Паню, адчыніў суседнія дзверы. Павеяла кароўім цяплом. Тут знаходзілася Ланька. «Яе ў калгас, можа, не забяруць, а вось вас, — ён зірнуў у адгароджаны закутак, дзе стаіліся авечкі, — наважыліся ўзяць...» З авечкамі быў і маркач — падарунак дзядзькі Хведара. Адчуўшы гаспадара, авечкі, іх было некалькі, замэкалі, ён укінуў ім дробнага мурагу.

Назаўтра ён выцягнуў з клуні воз, акуратна, не шкадуючы дзёгцю намазаў калёсы. Паставіў на воз высокія драбіны, якія ставіў, калі вазіў снапы і сена, укінуў у іх плуг і барану, запрог Паню, шчыльна засупоніўшы на яе шыі хамут. Яшчэ раз зірнуў пад паветку. «А пружыноўку? Нашто яе пакідаць? Хай! Можа, у калгасе згадзіцца. Раз уступаць, дык уступаць. Па-чэснаму». Укінуў у воз і гэты культыватар-пружыноўку. Сам калісьці нажываў, на свае грошы.

І ўсё жыццё імкліва, як у якім-небудзь кіно, у розных сваіх праявах прайшло перад яго вачыма. Успомнілася дзяцінства, смерць бацькі, дзядуля Кірыла, вучылішча ў Камянцы, Амерыка, Кляновік, царская вайна, бежанства, рэвалюцыя, польскія часы, яшчэ адна вайна, апошняя, Вялікая Айчынная. А што наперадзе? На момант свядомасцю авалодаў адчай. Наперадзе, здавалася, ужо нічога не было. Дыхаў павольна і неяк сутаргава. Праглынуў камяк у горле, не спяшаючыся ўзлез на воз, моцна нацягнуў лейцы, ды так, што Паня, давячыся цуглямі, задрала галаву і ашчэрыла зубы. Цуглі туга ўеліся ёй у губы, ад болю кабыла ажно захадзіла ў аглоблях, затанцавала, паднялася на заднія ногі так, што нават затрашчалі аглоблі. І неяк раптоўна — так атрымалася — гікнуў-крыкнуў, па-цыганску махануў лейцамі над галавой, мацюкнуўся. Павозка здрыганулася, як ашалелыя, закруціліся калёсы, Паня амаль з месца кінулася навыскачкі, фурманка праімчалася ледзь не ўпрытык з калодзежам, невядома як не знёсшы зруб, выскачыла на вуліцу і на ўсёй хуткасці рэзка павярнула

ўправа, зачапіўшы і абламаўшы шырокімі драбінамі нахілены над вуліцай плот. Панёсся наўскач, ажно затанцавалі на калдобінах калёсы.. Пачуў, як каля хаты немым голасам закрычала Фёкла. З ім такога яшчэ не было.

І асадзіў ён напалоханую кабылу гэтаксама раптоўна, як і пагнаў: прыгуменне Міхаля Шведа знаходзілася непадалёку, амаль побач.

Тут, у цішыні, працягла рыпеў калодзежны журавель. Усё звезенае станавілася супольнай маёмасцю, калгасным інвентаром. На клуні, стоячы ў гняздзе, нёс варту бусел. Магчыма, думаў аб штогадовым, прыродай наканаваным, падарожжы на поўдзень, куды ён збіраўся па часе з усёй сямейкай.

— Ну вось, Фяклуша, новае жыццё пачынаем! — абвясціў Лявон, вярнуўшыся пяшком з калгаснага двара, дзе пакінуў і Паню, і воз, і ўсё астатняе. — Атрымалася так, як кажа айцец Клаўдзій: «Яко наг, яко благ, яко нет ничего». У калгасе не разжывешся.

— Нічога, Лёня, не бядуй, як-небудзь пражывём, горш, можа, не будзе, — сказала Фёкла, адчуваючы настрой мужа і ўгадваючы яго думкі. — І старасць не за гарамі, ужо не здужаем працаваць, як раней працавалі...

Ён нічога не адказаў.

— Снедаць сядай, Лёня.

* * *

Неўзабаве з райвыканкома за подпісам начфіна Лявону Кужалю прыйшоў адказ, што на «вінаватых накладзена спагнанне». З таго, што забралі «актывісты», вярнулі толькі чаравікі (вярнуў Хвядзюшка), астатняе прапала невядома куды. Мачалаў слаба і дапамог, відаць, пабаяўся. Былі ў чалавека, няйначай, свае меркаванні, свае прычыны. Можа, — разважаў Лявон з Фёклай, — каб Санька Растатуеў быў на месцы Мачалава, дык было б усё па-іншаму, Санька б у крыўду не даў...

* * *

Нічога не змог здаць у калгас Гамон, бо ў яго нічога і не было.

— Голую авечку стрыгчы не будзеш, — сказаў Прыбылоў, а брыгадзір Хвядзюшка дакінуў:

— Нічога з яго не вычавіш.

Грышка Латушка спрабаваў схаваць каня ў стозе сена, аднак аднапасельцы хутка гэта заўважылі. Давялося весці жывёліну на калгасны двор, у канюшню. Да гэтага конь паспеў ужо страціць палову зроку.

## XI

Не задалося Пятру Мачалаву доўга заставацца на гэтым свеце. На тым памятным сходзе па выбарах старшыні прускаўцы бачылі яго ў апошні раз. Прайшоў нейкі час, і Пятра не стала. Загінуў ад кулі лесавікоў. Магчыма б і не загінуў, калі б у той аперацыі не ўдзельнічаў. Але менавіта яму, былому партызану, загадалі ўзначаліць атрад міліцыі і ястрабкоў замест аператыўнага работніка, які на той час захварэў.

У гэтыя мясціны лесавікі заглядалі не часта. Год назад групу лясных тулягаў пабілі, але гэтым не скончылася. Лес не пуставаў, і ўсе пра гэта ведалі. Пайшлі чуткі пра нейкага Грэчку, які са сваімі людзьмі ізноў аб’явіўся тут з

месяц ці два назад. На гэты раз разведка данесла, што лесавікі атабарыліся за Камянцам, на хутары, каля Чамяроўскага лесу.

Пятро пазваніў дахаты, Маняшы:

— Скора вярнуся.

Па-ранейшаму жыў з ёю, з Маняшай. Хаця, вядома, часта адлучаўся, матаўся па раёне, кіраваў калгасным будаўніцтвам. Нешта падказвала, што на гэты раз аперацыя мае быць сур’ёзная і рызыкоўная. Прыехаў усё ж такі дадому пабачыцца з жонкай, апрануць нешта з прыдатнага на такі выпадак адзення, перакусіць.

Каб адцягнуць увагу ад трывожных думак, пажартаваў:

— Нешта сёння ў цябе, Маняша, катлета падгарэла.

Потым аднак сказаў, у чым справа.

— Ты ж жыццём рызыкуеш! — затрывожылася Маняша. Твар яе пабялеў ад хвалявання, дрэнных прадчуванняў.

— А мне гэта не ўпершыню.

— Пеця, міленькі, не ідзі! — папрасіла яна. Абняла, прытулілася, паклала галаву яму на плячо.

А ён спяшаўся. Яшчэ з часоў партызанкі з’яўляўся фаталістам, верыў у лёс, у тое, што лёс не абысці. Так думаў і цяпер, аднак на душы было трывожна. Заставалася адно — спадзявацца на ўдачу, бо ўсё ж такі верыў Пятро ў сваю зорку, і пакуль што яна не падводзіла.

Абуў боты, апрануў скураную куртку, якая зашпільвалася не на гузікі, а на суцэльны металічны замок-«маланку». Дзеля такога выпадку прыдалася і старая зялёная плашч-палатка, якую Пятро напяў паверх адзення.

Атрад сабраўся хутка. Выпрацавалі план — што і як рабіць, пагрузіліся ў машыну і паехалі. Зброі хапала: два кулямёты, аўтаматы з запаснымі дыскамі, гранаты. Хутар акружылі яшчэ ноччу, калі было цёмна, і сталі чакаць. Паселішча знаходзілася на ўзлессі. Была прапанова ўзяць хутар штурмам, выбіўшы вокны і кінуўшы пару гранат, але пашкадавалі гаспадароў. Апроч лесавікоў, у хаце маглі быць і яны. Вырашылі дачакацца раніцы, затаіцца ў цемры і цёплым тумане.

Пятро, седзячы з аўтаматам за ядлаўцовым карчом, прыклаў руку да скроні, намацаў рубец — сваю мецінку. Успомніў Анфісу, яе мінулагодні прыезд і ад’езд. Заўважыла Анфіса мецінку. Можа, таму заўважыла, што кахала? Перажывала за яго лёс. Можа, што прадчувала? Пабачыліся і расталіся. Разышліся, як у моры караблі. «Ці не надта жорстка я з ёю абышоўся? — падумаў ён. — Блізкі, што ні кажы, чалавек. А можа, варта было з Анфісай згадзіцца? Згадзіцца, паразумецца ды вярнуцца на Сахалін? Хто яго ведае...»

Падуў ветрык, зашалясцела над галавой бярозавае лісце. Бралася на світанак. Шарэла ўсыпаная краплістай расой трава. Знікаў, рассейваўся туман. Выразней стала чырвань капелюша старога, рыхлага мухамора, што рос зусім побач, перад носам. Каля яго цягнуўся ўверх блакітна-ліловы лясны васілёк. Прачнуўся і, зумкаючы, сеў на яго чмель, васілёк загайдаўся пад цяжарам. «Якая б добрая была раніца, каб не гэты клопат, не гэтыя лясныя людзі», — падумаў Мачалаў і ўздыхнуў. Адчуў, як торгнулася левае павека. Глыбей на лоб насунуў фуражку. Абставіны зноў прымусілі адчуць сябе партызанам, партызанскім камандзірам, адказным за людзей, за поспех, за тактыку. Успомнілася показка, якую калісьці не раз чуў з вуснаў сябра свайго закадычнага Санькі Растатуева: «Дзвюм смерцям не бываць, а адной не мінаваць».

Адкрыўся і добра стаў відаць вартавы, што таптаўся каля дзіравага хутарскога плота, збітага з рэдкіх дошак. Апрануты быў у руды, падпяразаны вайсковай дзягай фрэнч, на шыі вісеў куртаты нямецкі аўтамат. Даўно не галіўся, твар акрыты барадой. У вішанніку каля хаты замітусілася сарока, быццам нешта яе ўстрывожыла. Недзе ў глыбіні лесу глуха закувала зязюля.

«Страляць? А можа, без стрэлаў? — Пятро ўздыхнуў. — Забіваць чалавека ў мірны час? Ды не аднаго! Там іх, відаць, добры дзясятак. Ну, вядома, што і казаць, — бандзюкі! Злосць засляпіла розум. У іх ужо, можа, і чалавечага мала. Але ж ёсць на тое суд, народны суд! Хай ён і рашае, каму што і за што. Хай разбіраецца. Трэба сказаць ім пра гэта, гэта мой абавязак...»

Ён так і зрабіў: устаў, закінуў за плячо ППШ, падышоў да плота і гучна, на ўсю сілу лёгкіх, крыкнуў, ажно пайшло па лесе рэха:

— Хлопцы, здавайцеся! Хто людзей не забіваў, праз пару год будзе дома!..

Больш ён нічога сказаць не паспеў. Яго і яшчэ двух ястрабкоў зрэзала кулямётная чарга. Пачалася апантаная страляніна, сцены хаты скрышылі буйнакалібернымі чэргамі, закідалі гранатамі, хутар загарэўся. Пасля непрацяглага бою лесавікоў выбілі з іх логава і прыціснулі да возера. Многія загінулі, некаторых узялі ў палон.

Ад той кулямётнай чаргі загінуў і Пятро Мачалаў. Сахалінец, які прырос да гэтай зямлі, ваяваў тут, будаваў новае, як яму здавалася, жыццё. Злажыў галаву ў другім канцы ацечаства, ажно пад Брэстам, і не ў вайну, а па вайне, калі нарэшце павінен быў наступіць мір.

Маняша адбіла тэлеграму Анфісе, але тая на пахаванне не прыехала. Таму, відаць, што надта далёкая адлегласць.

Вельмі ўбівалася па Пятры Манька. Да бацькоў яна болей не вярнулася, нарадзіла дачку і жыла ў Камянцы. Прускаўцы надта шкадавалі зямлячку, якая стала другі раз удавой.

Недзе далёка, ажно на Сахаліне, засталіся дзеці, бацькі, жонка Анфіса. Карацей кажучы, уся радня.

— Ухайдакалі чалавека, — з жалем уздыхнуў Лявон, — і нічога не паробіш.

— Шкада Пятрушу, — спачувала Фёкла.

Абое помнілі, як ён дапамог, стрымаў наступ «актывістаў», папярэдзіў бяду. Зрэшты, як сталася, так сталася. «А можа, і праўду кажуць, што чалавек ад свайго лёсу не ўцячэ», — падумаў Лявон, але ўслых нічога не сказаў.

Забітых лесавікоў (іх было шасцёра) паклалі ў Камянцы ў скверы на Брэсцкай вуліцы для апазнання — можа, хто пазнае, свайго ці чужога. Ну і пастрашыць, налякаць, відаць, хацелі. Ніхто, аднак, нікога не апазнаў, нягледзячы на тое, што ўпаўнаважаныя з навакольных вёсак строга загадвалі людзям наведацца ў райцэнтр, і народу каля забітых прайшло нямала. Уражвалі, палохалі, зарослыя шчаціннем твары, незакрытыя, налітыя крывёю вочы. Фёкла прыпомніла даўняе, сваё: «Гэта ж і ў Бузулуку калісьці так было, калі Сашу забілі: на апазнанне хадзілі, за сваімі ехалі...»

Чуткі пра гэту жудасную камянецкую падзею, як дым, паплылі па наваколлі. Прускаўскія жанкі з жахам і ў розных версіях і варыянтах расказвалі пра яе каля калодзежаў.

— Няйначай іх з парашутам скінулі! — казала пра лесавікоў Дзякрэта.

Спачуваў і Кузёмка, які заходзіў да Кужалёў:

— Шкада ўсё ж такі людзёў, як-ніяк, а людзі...

* * *

І яшчэ адна страта: памёр дзядзька Хведар. Як бы забраў з сабой гаспадара Пятро Мачалаў — колішні яго парабак. Апошнім часам дзядзька шмат і ў ахвоту працаваў, быў, як звычайна, бадзёры і вясёлы, і ніхто не думаў, што ён мае памерці. Да дактароў ён ніколі не звяртаўся, не любіў іх і не хацеў з імі знацца — адно толькі час аднімаюць. Трываласць дзядзькі Хведара, на думку яго пляменніка Лявона, падтрымлівалася тым, што яго ніколі не пакідала вера ў сябе і надзея на лепшае. Але надзеі, як вядома, не заўсёды спраўджваюцца. Пачаў утварацца калгас, і дзядзьку залічылі ў кулакі. Вывезці хацелі, каб Мачалаў не заступіўся. Давялося падаваць заяву ў калгас. Памёр, калі павёў на калгасны двор лепшага свайго каня, таго самога Цуцыка, на якім прыязджаў да Лявона. Без пары памёр, мог бы яшчэ і жыць.

Пляменнік ездзіў хаваць. На пахаванне з'явіліся многія. Нягледзячы на тое, што Хведар жыў на хутары, з вяскоўцамі сувязі не губляў. Паважалі яго як апантанага працаўніка. Мог даць параду, ці пазычыць што, калі звярталіся да яго з такой просьбай.

— Ой, татачка, ой, міленькі, на каго ты нас з мамкай пакінуў? — без перастанку заводзіла Грунька.

Ульяна, удава, змаглася ў горы, маўчала, адно толькі паціху плакала, усхліпвала, слухаючы спачуванні.

У труне нябожчык, пасля таго як святар шчодра акаціў яго цэлым воблакам ладану, набыў нават яшчэ большую, чым пры жыцці, саліднасць і важнасць. Здавалася, што ён уважліва прыслухоўваецца да таго, што пра яго кажуць, узважвае, прыкідвае.

Хавалі дзядзьку на могілках у Вайской. Труну абступілі, надта шкадавалі небараку. Ад жаласці плакалі наўзрыд. Надта ўбівалася па бацьку Грунька — цяпер калгасніца калгаса імя Мічурына. На працу ходзіць штодня. Сям'я. Трэба гадаваць дзяцей.

З пахавання Лявон вярнуўся вельмі засмучаным. Адчуваў страту. Перажывала і Фёкла.

Прыйшоў ліст ад Домны, з Запалоннага. Сястру Фёкла не забывала. Мінулы раз, апроч ліста, паслала і дзіцячыя чаравічкі. На гэты раз Домнушка, як называла яе Фёкла, пісала:

«Дорогая сестрица и Вы, Леонтий Михайлович!

Поклон Вам из Заполоннага, далёкого от Белорусской ССР. Привет внучку Владимиру, который грамотно пишет, излагает на бумаге мысли. Мы все живы и здоровы, Флегонт и детки. Живем мы относительно лучше против прежнего, предметы по первой необходимости есть. В продуктовых магазинах у нас есть арахис, так мы его покупаем и жарим, тем, собственно, и спасаемся.

Муж Флегонт уважает меня, зовет по имени-отчеству. Собираемся женить старшего сына Андрона, он у нас только недавно вернулся из армии. Подтянулся и покрасивел. Невеста Танюшка ждала, не баловалась, мы за ней всётаки присматривали. Средний сын Емельян, сказали в военкомате, пойдет в армию. Хороший парень, послушный и работящий. У нас, кстати сказать, определен трудовой минимум 340—350 трудодней. За невыработанный трудовой минимум наказывают. Нынешний председатель Тришка Козлодуев и его правление за этим делом смотрят. Вам, дорогие мои, очень повезло, что не в колхозе, а мы, сколько помню, всё в колхозе. Не везет и с погодой. У нас случилась гроза, дождь и градобитие, а потом буря началась, ветер посносил крыши. Не могем справиться с дождями, дожди идут обильные, боимся, что всё вымокнет. Разлилась Самарка, большая вода затопила огороды и снесла

мост, так что мы на некоторое время были отрезаны от Неприка. Спасибо Флегонту, как-то выходим из положения.

О будущем загадывать, как известно, трудно. Ночью наши видели на небе звезду, не предвещающую ничего хорошего. Кроме того, имело место нашествие мышей. Всё не слава богу. Толкуют обо всём, говорят, что опять война. Может, так и будет».

Затым, як заўсёды, ішлі прывітанні і паклоны. У канцы пісьма Домна запрашала Фёклу з Лявонам (Лявонцієм, як яна яго называла) у госці, наведаць Запалоннае. Пачуўшы гэтае запрашэнне, Фёкла сумна ўсміхнулася і ціха ўздыхнула.

Адпісаць сабраліся праз колькі дзён, над адказам трэба было падумаць. Валодзя, вярнуўшыся са школы, паабедаў, узяўся за ўрокі. Бабуля напомніла пра ліст. Унук рассунуў у сшытку скрэпкі, дастаў суцэльны аркуш паперы, паклаў перад сабой і макнуў пяро ў чарніліцу. Прыйшоў з клуні Лявон, сеў на лаўку каля акна.

«Дарагая сястрыца Домнушка, Флягонт і дзеткі!» — напісаў унук. Першыя словы — як пачынаць ліст — ён ведаў.

— Ну, што ты там напісаў? — спытала бабуля, пазіраючы на паперу, што ляжала перад унукам. Той прачытаў.

«Саабшчаем, што мы ўсе жывыя і здаровыя, чаго жадаем і вам», — пачала дыктаваць Фёкла, угнуўшы галаву, каб не відаць было слёз, што паказаліся на шчоках.

«Вася наш перасяліўся ў горад, у Брэст, — уставіў Лявон. Валодзя напісаў. — Мы ж застаемся на месцы. Ехаць куды — цяжка, прывыклі, ды мы ўжо не маладыя, няма як ехаць».

«Мы з Лявонціем уступілі ў калхоз, які ў нас арганізаваўся. Жылі асобна, а цяпер усе разам. З намі знаходзіцца і ўнучок наш Валодзя. Цяпер мы ўсе калхознікі».

«Выходзім на працу, зарабляем працадні», — пасміхнуў Лявон.

Валодзя старанна запісваў, макаючы пяро ў чарніліцу. Далей ізноў працягвала, узяўшы ініцыятыву, бабуля:

«У калгасе кожнай сям'і, у тым ліку і нам, выдзелілі трыццаць сотак. Але ці хопіць гэтага, каб забяспечыць сябе хаця б картошкай, невядома. Цешаць, што атрымаем нешта і на працадні. Паглядзім. Але нічога, мы народ жылісты, неяк пражывём. Ды і колькі нам трэба — няшмат. Сям'я наша — тры чалавекі, мы з Лявонціем і ўнучок...»

Лявон зірнуў у акно, з выгана, з пашы, ішла скаціна. За статкам цягнуўся маўклівы Гамон. Апошнім часам ён не галіўся, адпусціў бараду, пазбягаў кампаніі, нязвыкла аціх.

«Дзякуй, што хоць Ланьку пакуль што пакінулі», — уздыхнуў Лявон.

«Дзякуй, што кароўку пакінулі», — паўтарыўшы, прадыктавала Фёкла.

Валодзя пісаў пад бабуліну дыктоўку, расстаўляў знакі прыпынку. Дыктуючы, Фёкла не ўтрымалася, перайшла на ўспаміны:

«Як згадаю, сястрыца, пра наша Запалоннае, дык усё ва мне закалоціцца ад перажыванняў. Вельмі часта наша Запалоннае яўляецца мне, дарагая сястрыца Домнушка, у сне».

Заканчваўся ліст, як звычайна, паклонамі, пажаданнем здароўя, надзеямі на будучую сустрэчу («дасць бог — убачымся»), просьбай хутчэй пісаць ліст у адказ.

На гэты раз, апроч пісьма, нічога ў Запалоннае не пасылалі — ні грошай, ні прадуктаў, ні падарункаў.

## XII

Калгаснікаў надзялілі соткамі — па трыццаць сотак на сям'ю. Гэта была тая самая ў нядаўнім мінулым уласная сядзібная ці прысядзібная зямля — агарод за хатай, на поплаве ці тое, што знаходзілася па-за клунню і цягнулася да «сценкі». «Зямлі, як бабе сесці», — сумна шуткавалі незадаволеныя прускаўцы. Кужалям, як і ўсім членам калгаса, таксама пакінулі прысядзібны ўчасток — трыццаць сотак.

Васілёва сядзіба, сад і агарод, заставаліся незапатрабаванымі, незанятымі, і ў Фёклы ўзнікла думка, каб запісаць іх за ўнукам, за Валодзем, паколькі ён у Брэст не з'ехаў, застаўся на месцы, у Прусцы, і, значыць, мае правa на соткі. Нейкая агульначалавечая логіка тут, трэба сказаць, была: як-ніяк, бацькаўшчына! Зыходзячы з гэтай логікі бабуля прымусіла ўнука напісаць у райвыканком заяву.

Фёкла паўтарала гэта не раз, надта не хацела, каб сынавым карыстаўся хто іншы, хто не меў да гэтага дачынення, не садзіў і не паліваў. Валодзю і самому шкада было пакінутай бацькамі абсады, асабліва саду. Яблыкі там надта смачныя: белы наліў, каштэлі, пепінка, а якія антонаўкі! Ды і вішні вышэйшага гатунку — ад Бяльчынскага. Але — і ён гэта ведаў — цяга да прыватнай уласнасці ў Савецкім Саюзе не заахвочвалася. Уласнасць асуджалася. Пытанне ставілася так, каб як найхутчэй ад яе адмовіцца, каб усё было агульным. І ў школе кожны раз пра гэта нагадваюць, асабліва дырэктар Рытатуй.

— Каб бацькаву сядзібу на цябе адпісалі! — гаварыла яна ўнуку. — Каб ты ёю валодаў, бо ты маеш поўнае права. Яблыні, вішні! А хто іх садзіў? Бацька твой і маці садзілі. Вася па іх ажно ў Вайскую ездзіў, па саджанцы.

— Бабуля, ды за такую заяву, напэўна, не пахваляць, у камсамол не прымуць.

— Хай не прымаюць. Бязбожнікі! Гэта твая бацькаўшчына, спадчына твая! Трыццаць сотак — гэта што, шмат? Гулькін нос!

І ўнук, што называецца, набраўся смеласці, успомніў, як паспрабаваў аказаць супраціў актывістам, калі яны прыйшлі раскулачваць дзедаву гаспадарку. Ён нават у сваіх вачах падрос, стаў болей паважаць сябе пасля таго, як спляжыў, перацягнуў хлюбай нягодніка Бублікава. І што? І нічога. Неяк усё абышлося. Пабаяліся актывісты распачынаць крымінальную справу, таму што ён вартаваў, ахоўваў сваю гаспадарку, а з іх боку быў разбой. «Ды і па ўзросце я ўжо не малы, — разважаў хлопец, — у шостым класе буду вучыцца, хутка сямігодку скончу. Дарослы!»

Ліст у райвыканком пісалі разам. Усё, што гаварыла, што дыктавала бабуля, унук старанна запісаў, імкнучыся пісьменна аформіць яе думкі.

Адказ не прымусіў доўга сябе чакаць. Паштальёнка, ці, як яе назвалі ў Прусцы, «паштарка», спыніўшы веласіпед, уручыла салідны канверт, сустрэўшы адрасата на вуліцы, без сведкаў. У канверце было некалькі лісткоў, напісаных ад рукі, буйным почыркам.

«Таварыш Платонаў!

Твая заява наконт «бацькаўшчыны» здалася нам больш, чым дзіўнай. Ад такога валасы на галаве паднімаюцца і стаяць. Адкуль у савецкага чалавека такое паталагічнае імкненне да ўласнасці? Паўстае, аднак, вапрос, чаму цябе вучаць у школе. У савецкай школе. Я не дапускаю думкі, што Прускаўская сямігодка не савецкая школа. Савецкая, таму што там працуюць, задзействаваны нашы кадры.

Трэба прызнаць бесстаронна, што вы не маеце права на валоданне зямлёй. Не стройце з сябе нейкага памешчыка ці асадніка. Гэта — у змрочным мінулым. А ты ж яшчэ, мусіць, піянер, або нават і камсамолец. Але які ты пасля гэтага піянер. Не места такім у піянерах, а тым больш у камсамоле. Ты, па сутнасці, груба напляваў на галоўны прынцып сацыялізму — грамадскае вышэй асабістага! Ты з усёй відавочнасцю ігнараваў памяць аб героях нашай барацьбы, хто загінуў у беззапаветным змаганні і яшчэ загіне ў будучым, бо за сацыялізм трэба змагацца, не шкадуючы жыцця. Сацыялізм — гэта яшчэ толькі прамежкавая стадыя. За ёй паследуе камунізм — поўная стадыя, але туды цябе не пусцяць, бо ў цябе псіхалогія ўласніка. Ты няправільна, у перакошаным смысле разумееш вапрос пра бацькаўшчыну. У нас ёсць толькі адна, агульная бацькаўшчына — Савецкі Саюз, вялікая наша радзіма, краіна завяяванага сацыялізму, які даўся нам з вялікімі пацерамі, ахвярамі і жастокай класавай барбой. У камунізме такім, як ты, не места. Застаецца спадзявацца ўсё ж такі, што ты выправішся, усвядоміш шкоднасць сваіх уласніцкіх інстынктаў і прывычак і станеш на правільны шлях.

Копію высылаем у адрас праўлення калгаса».

Унізе стаяла прозвішча аўтара адказу: П. Дмітрык.

Прачытаўшы напісанае, Валодзя густа пачырванеў, адчуў, як запалаў твар. Абмацаў разгарачаныя шчокі, нос, вочы. Адказ напалохаў, стала нядобра. У галаве закруціліся страхотныя думкі, дакараў сябе: «Нашто пісаў? Усё адно як адчуваў. Дарэмна бабулю паслухаўся. А цяпер? Што цяпер? «Персанальная справа»? Відаць, са школы выключаць. Добра яшчэ, што не ведае Бублікаў...» І яшчэ падумаў: «Могуць забраць, як забралі хрышчонага бацьку Якава Арыстархавіча. Але ён валодаў фальваркам, а я прасіў толькі трыццаць сотак...»

Адказ, што прыйшоў з райвыканкома, вырашыў нікому не паказваць. Нават бабулі, каб не псаваць настрой, не засмучаць. Кінуў у печ. Як бы яго і не было, не атрымаў. Падумаў, добра, што ніхто не бачыў, як паштальёнка аддавала яму гэтае пісьмо.

Фёкла чакала, на нешта спадзявалася, колькі разоў пыталася, ці прыйшоў адказ. Адказу аднак не было. Унук маўчаў. Гэтак яно ўсё па часе і забылася.

* * *

Васіль з Просяй, з дзецьмі, апроч старшага — Валодзі, жылі ў Брэсце. Гарадское жыццё таксама нялёгкае. Падтрымлівала нявестку свякроўка — Фёкла, якая час ад часу наведвалася ў Брэст, каб пабачыцца. Апошнім разам была вясною, агледзела сядзібу. За зіму некаторыя з пасаджаных дрэўцаў аселі ў зямлю, іх трэба было прыўзнімаць, каб каранёвая шыйка параўнялася з зямлёй.

Прося завіхалася каля печы, варыла бульбу. На пліце стаялі памытыя чыгункі, каструлі. Фёкла прывезла тое-сёе з прадуктаў — сала, грэчневых круп, буханку дамашняга хлеба. Прыхапіла збаночак смятаны.

— Дзякуй, мамо!

— Няма за што. У нас пакуль што ёсць.

Прыйшоў паабедаць Васіль, пацалаваўся з маці.

— Як там у вас у калгасе? — спытаў ён.

— Не ладзіцца нешта, кожны ў свой бок цягне, — адказала Фёкла.

— Шмат дзе не ладзіцца, не толькі ў Прусцы.

Загаварыла Прося:

— Я чула, што людзі на базары кажуць. Няма парадку.

— Няма, — згадзілася свякроў.

— Рабілі той калгас супраць чалавечага жадання, сагналі людзей у адно месца, на адзін двор, ды і ўсё. Працуйце, маўляў! А хочаце ці не хочаце — каго гэта цікавіць?

— Старшынямі не тых ставяць, — патлумачыў Васіль. — Галоўнае, каб членам партыі быў, а які з яго гаспадар, гэта мала каго цікавіць.

Фёкла стала казаць пра сынаў сад, які застаўся ў Прусцы:

— Я хацела, каб сад на Валодзю перапісалі, — не перапісалі! Хвядзюшка забраў...

— Ну, што ж, хай карыстаецца, — адказаў сын. — Сад догляду патрабуе.

— Які з яго садавод!? Гультай!

Прося паставіла на стол абед, які выглядаў па-вясковаму: крупнік і бульба з агуркамі. На завяршэнне пілі чай.

Потым была гаворка з нявесткай.

— Цыбулю вырошчваю, часнок — сабе і на базар нашу, прадаю, — расказвала Прося.

— І купляюць?

— А чаму не? Купляюць.

— Гандляваць навучылася?

— А гэта, мамо, не складана.

Нявестка выглядала павесялелай.

«Відаць, знайшла сябе ў горадзе, — падумала Фёкла, — навучылася выжываць. Гэта добра...»

## XIII

Пасля стварэння калгаса змяніўся, як казалі ў Прусцы, трыб жыцця. Жыццё перайначвалася на вачах. У жніўні яшчэ кожны прускавец жаў, што пасеяў, сваё, але пожню ўжо заворваў трактар. Прыгналі з Камянца, з МТС. Араў, не пакідаючы спрадвечных быльняговых межаў. Разам з межамі зніклі і грушкі-дзічкі, што там-сям стаялі на іх і ў час летняй спёкі давалі густы цень для касца і жняі, а пасля жніва для авечага пастуха і авечак. Была яшчэ адна карысць ад тых дзічак. Плады з кожнай дзічкі (іх нямала расло і ў самой вёсцы) адрозніваліся сваім смакам — салодкасцю, кіслінкаю, гаркавасцю. Свежыя яны не спажыўныя, але надта добрыя былі з гэтых грушак гнілкі. Непрывычна было глядзець на поле без межаў і без гэтых грушак-дзічак, якія помнілі далёкую сямейную даўніну, жней і аратых, а цяпер іх павысякалі, павыкарчоўвалі. Але адна грушка засталася. Гэта тая, магутная, высачэнная і разложыстая, што стаяла на колішняй мяжы паміж палоскай каваля Цішкі Пахолка і полем Міхаля Шведа. Учапілася шырокімі карэннямі за зямлю і ўзнялася на прыволлі пад самае неба. Далёка аб'ехаў яе трактар, збаяўшыся моцных каранёў і пакінуўшы прыгажуню ў спакоі.

Разам з межамі знік і палын, што надта любіў на іх сяліцца і дзівіць крутым сваім пахам, асабліва раніцай, прывялы і звільгатнелы ад расы. Вырысоўваліся аднак яшчэ, як хвалі на моры, нагадваючы пра мінулае, сляды ад былых загонаў-палосак, якія зусім нядаўна, летась, належалі асобным гаспадарам. Валодзя пытаўся ў Лявона:

— Дзеда, а ці пазнаходзілі б людзі свае загоны, калі б адмянілі калгас?

— Дзіва што! Адразу б...

Але, вядома, «адмяняць» калгасы ніхто не збіраўся. Калгасны лад сцвярджаў сябе больш і больш. Сумесна сеялі азіміну. Раённая газета «Іскра Ільіча» апублікавала артыкульчык «Старшыня сцыць у шапку». Гаворка ў ёй ішла пра тое, што ў калгасе імя Сталіна марудзяць з палявымі работамі. Увесь раён рагатаў, пацяшаўся над паводзінамі старшыні. Сам Прыбылоў надта пакрыўдзіўся на гэтае «сцыць». У наступным нумары газета дала папраўку: замест «сцыць» трэба чытаць «спіць», што, вядома, крыху суцешыла, аднак асадак застаўся.

У райкоме рэдактару запісалі строгую вымову за халатнасць і блізарукасць, старшыні Прыбылову паставілі на від. З раёна на пасяўную ў калгас імя Сталіна камандзіравалі Лазуціна, якога лічылі «растаропным». Прыехаўшы, ён з'явіўся ў праўленне, якое размяшчалася ў пустуючым панскім палацы. Павітаўся, прыклаўшы руку да казырка фуражкі.

— Та-ак. Дакладваю. Накіраваны да вас на пасяўную кампанію.

— Дык ты, таварыш Лазуцін, у нас свой чалавек! — шырока развёў рукі Прыбылоў.

Але камандзіраваны быў настроены афіцыйна.

— Свой, аднак пытанні ў мяне ёсць. Ці давялі да належнай кандыцыі почву?

— Давялі, збіраемся завяршаць сяўбу, — адказаў Прыбылоў, — але пастутова.

— Што значыць паступова?

— Вы ведаеце, я чалавек граматны і паперад бацькі ў пекла не суюся. Дзелаем усё магчымае.

— Як? Да гэтага часу не пасеялі? Чаго цягнеце?

— Няма пасяўнога матэрыялу. Зандзіруем.

— Як так? Вы што, не ведаеце, дзе ўзяць? — здзівіўся Лазуцін. — У насяленія! У насяленія нада ўзяць! Пазычыць да новага ўраджая! А як інакш? План ёсць план, і ён павінен быць выкананы.

— Дык гэта і казе панятна.

— У насяленія! Усё ясна, як дважды два. Кто не понял, я не вінават. Рускім языком табе, таварыш Прыбылоў, гавару, — скончыў Лазуцін і сеў.

Так і зрабілі. Адбылося гэта са скрыпам, але насенне ў раллю ўкінулі, адсеяліся. Праз нейкі час на калгасных разлогах закусцілася рунь. Затым узяліся за будаўніцтва, і ўсё патрабавала пільнага і неаслабнага старшынёўскага назірку.

— Пара, таварышы, строіць, сазідаць! Стайню, аўчарню, склад! — кіраваў, заклікаў, загадваў старшыня Прыбылоў. — Для калгасных коней патрэбна стайня. Тое, што мы маем, нас абсалютна не задавальняе! Гэта, таварышы, і казе панятна.

Спрачацца з гэтым не даводзілася, але зноў-такі: дзе ўзяць будаўнічы матэрыял? На праўленні прыйшлі да думкі, што трэба ў тэмпе разабраць клуні і з іх будаваць і стайню для коней, і калгасны двор з падсобнымі службамі. Так і зрабілі. Рушылі, скідалі буслянкі. Разбіралі абымшэлыя дахі і сцены. Бярвенне звозілі за вёску, на пагорак, дзе калісьці стаяў Каленікаў млын.

Раскідалі і Лявонаву клуню. Гаспадар, вядома, перажываў, хоць віду не паказваў, мацаваўся. Ставіў яе калісьці, яшчэ ў мінулым стагоддзі, дзед Кірыла. Клуня — палавіна жыцця вяскоўца. Як гэта добра — зімою, адчыніць клуню, нарыхтаваць мяшанкі, занесці яе жывёле, накарміць каня, укінуць дробнага сена авечкам, падасланы саломы, а потым самому вярнуцца дахаты, сесці за стол, на якім сыходзіць парай міска з гарачай, наварыстай капустай.

Але што ж, калгасны лад сцвярджаў свой шлях да шчасця, сваю сістэму каштоўнасцей.

Лявонаву малатарню вывалаклі з клуні на калгасны двор. Больш на ёй не малацілі, яна стаяла — так і зарасла травой.

Стайню — доўгі будынак барачнага тыпу, архітэктурай сваёй падобны на панскі палац, што яшчэ стаяў на сваім месцы, — скончылі яшчэ да маразоў. Перад гэтым, у верасні, скасілі атаву — яна была ўжо агульнай, калгаснай — і там жа, на сенажаці, ставілі стагі. Даводзілася перайначваць звыклыя рытмы жыцця, спачатку ўпарадкаваць калгаснае, сваё — дагледзець потым.

— Хто нормы не будзе выконваць, таму падрэжам агарод, — страшыў Хвядзюшка. Абраны брыгадзірам, ён яшчэ больш упаў у фанабэрыстасць, усёй постаццю цягнуўся ўверх. Здавалася, што прыбавіў у росце і самавітасці.

Людзі аднак крыўдзіліся.

— Хто яму сраку не ліжа — той вораг, не наш чалавек. Тады адразу: «Ты супраць савецкай улады!»

Аднойчы, у канцы рабочага дня, сілы ў касцоў яшчэ былі, Ляксандар Гальяш прапанаваў:

— Давайце, хлопцы, яшчэ папрацуем! Можа, заробім што...

— Дурань! — накінуўся на яго Мікіта. — Хочаш, каб норму павялічылі?

З Мікітам згадзіліся астатнія. Але жыццядайная стыхія чалавечай прыроды брала сваё. Працавалі шчыра, з аддачай. Мужчыны, вяртаючыся з сенажаці, пад вечар, з ускінутымі на плечы косамі, спявалі песні.

— Папрацавалі? — пытаўся задаволены брыгадзір.

— Папрацавалі, — за ўсіх адказаў Апанас Хомка. Відаць было, што ён паспеў адаптавацца да калгаснага існавання і якога-небудзь дыскамфорту не адчуваў.

— Дык што вам за гэта даць?

— Стаў гарэлку! — жартам азваўся Цярэшка Макацёр.

— Не, налічу пакуль што кожнаму па працадню.

Хвядзюшка перапісаў прозвішчы, насупраць кожнага паставіў палачку.

— Працадзень — гэта нармальна, — дадаў ён.

Варахаватую, яшчэ не зусім прасохлую атаву (гэта не асабліва каго і цікавіла) на грудку складалі ў стог. Вяршыў стог, укрываючы зверху лазовым галлём, Оргій Ламака.

Прускаўцы звярнулі ўвагу, што нешта не відаць Гамона. Куды ён, усюдыісны, мог падзецца?

— Можа да Берасця з'ехаў? — выказаў меркаванне Арцік Каленік.

— Шкада, што няма Гамона, ён бы нас падвесяліў! — зарагатаў Макацёр, які ў сарочцы наросхрыст, стаяў каля стога, глядзеў, як Арцік падае наверх цяжкаватую атаву.

— І Матрона нешта маўчыць, нічога не кажа, — дзівіўся Галёнка.

— Цуд-камедыя, — сказаў нехта.

Зрэшты, праца ладзілася і без Гамона. Вечарам Хвядзюшка налічваў працадні, ставіў у сваім патрапаным кандуіце нейкія лічбы, пісаў заўвагі.

Калгасныя справы ішлі сваёй чарадой. Дайшла чарга і да авечак, абагулілі і іх, адгарадзіўшы катух у стайні. Кожны ў вёсцы трымаў па некалькі авечак, і вось яны сталі калгаснымі. Зрэшты, магчыма гэта і да лепшага, бо не хапала сена, і пракарміць карову ды яшчэ і авечак (а набліжалася зіма) не было магчымасці.

Спачатку для прускаўцаў неяк нязвычна было, калі іх называлі калгаснікамі, а потым патроху прывыклі.

Не ўсе, аднак, здолелі звыкнуцца з новымі абставінамі, здараліся інакшыя выпадкі. Уступіў быў у калгас, разам з усімі, Сапрон Жыгун з суседняй Выгнанкі. Але калгасныя парадкі не спадабаліся, прыйшліся не па душы. Сапрон папрасіў вярнуць яму ранейшы статус аднаасобніка, а заадно і каня з возам. Прыбылоў расцаніў гэта як ЧП раённага маштабу. Прыязджаў нават Лазуцін. Угаворы, упрошванні нічога не далі, «нехацімец» стаяў на сваім.

— Давядзецца яго прыжучыць, — вырашыў старшыня.

Соткі Сапрону абрэзалі па самыя вуглы. З калгаса выключылі, але каня з возам не вярнулі. Пазбавілі права голасу. Сапрон кінуў і хату, і сям’ю і голы як сакол падаўся шукаць заробку ажно на Сахалін. Лавіў ласося. Гады праз два вярнуўся, прыдбаў каня з возам, крыху акрыяў. Плуга з бараной у калгас не здаваў, прыхаваў і цяпер абворваў па вёсках удавіцам соткі.

## XIV

І яшчэ адна падзея, якая адбылася і зрабіла на прускаўцаў асаблівае ўражанне, куды большае, чым канчына айца Клаўдзія, раскіданне клуняў, будаўніцтва стайні і абагульненне авечак. Яшчэ раз пацвердзілася старая ісціна, якую любіў згадваць Кузёмка, наведваючы Кужалёў: «Неіспавядзімыя шляхі Гасподнія». Здзівіў усіх Гамон, «пайшоў у папы», як казалі пра гэта ў Прусцы. Усё жыццё сцвярджаў, што Бога няма і раптам такое, у што нават паверыць цяжка было. Даводзіў, спасылаючыся на Пушкіна, што Хрыстос без бацькі нарадзіўся, байструк, а цяпер сам да яго прыхінуўся. Не раз паўтараў, што рэлігія — опіум для народа. Атэістаў, якія цвердзілі пра «опіум», было шмат, у незлічонай, можна сказаць, колькасці, штатных і пазаштатных.

Гэтая бясконцая барацьба, сцвярджэнні, што Бога няма, наводзілі якраз на супрацьлеглую думку, думку, што Бог ёсць, існуе. Не выключана, што падобная думка пасялілася і ў Гамонавай свядомасці. Апошнім часам, пасля арганізацыі калгаса, ён быў неяк прымоўк. Казалі, што пакрыўдзіўся. Пасады ў калгасе не атрымаў, таму, маўляў, і пакрыўдзіўся. Зрэдзь выходзіў на працу ў сваім падраным і палапленым кажушку, але не выступаў, як звычайна, не выскаляўся, а маўчаў. Ніхто не помніў, каб у Гамонавым родзе былі духоўныя асобы — святары, пастыры ці хто яшчэ, не было і таго, што называюць духоўным досведам. Калісьці, праўда, прымкнуў быў ён да прускаўскіх баптыстаў, хаця тыя не надта ўзрадаваліся гэтаму, таму што Гамона ведалі як чалавека блытанага і непастаяннага, і з гэтага «прымыкання» сапраўды нічога не атрымалася. А цяпер, як некаторыя ўсё ж дазналіся ад Матроны, паехаў вучыцца на папа ажно ў Мінск. Прускаўцы былі дужа здзіўленыя такім паваротам у жыцці аднавяскоўца, якога, здавалася, гэтак добра ведалі.

Але так яно ўсё і сталася. Гамон скончыў кароткатэрміновыя курсы ў духоўным ведамстве, прайшоў «хіратонію» і яго, што называецца, рукапалажылі.

— Ну, відаць, камянецкі стоўп зваліўся, — не паверыў Мікіта Галёнка. Зрэшты, як і ўсе, хто ведаў Гамона.

Адмоўна вярцеў галавой і Оргій Відэрка, які па традыцыі і звычцы ўсё яшчэ заставаўся царкоўным вартаўнікам:

— Няма ў яго іскры Божай, няма...

Святар, паводле агульнага разумення, павінен быў быць адзначаным гэтай іскрай, а ў Гамона яна відавочна адсутнічала. Святароў, вядома, не хапала. Яны, разам з усёй царквой, знаходзіліся ў апале. Але святароў паважалі. Каб стаць святаром, патрэбна было прызванне, сямейная традыцыя, схільнасць. Вядома, на гэтае месца часам траплялі людзі выпадковыя, слабой веры, а можа, нават і няверуючыя.

Гамона прываблiваў, даваў надзею на поспех прыклад Кухты: «Кухта стаў святаром, а чаму мне нельга? Хіба я з іншага цеста? Ці інакш роблены? Ці меней разумны?» Лянота і гультайства ўжываліся ў Гамона з нахрапістасцю. І неабцяжараны быў сціпласцю. «Мне надаела адчуваць сябе непаўнавартасным. Колькі можна? — разважаў ён. — Заслуг у мяне вунь колькі, але яны не адзначаныя, забытыя».

Жонцы Матроне тлумачыў свой план так:

— Некаторыя кажуць, што няправеднасці ў мяне шмат, але ж я перамяніўся, паверыў. Бог мне даруе, а за мяне і табе даруе.

— Я не грэшніца, — апраўдвалася жанчына. — Чаму гэта я грэшніца?

— Усе мы грэшнікі.

Сапраўды, цяжка разабрацца ў гэтым жыцці.

* * *

У чарговы раз заблукаў да Кужалёў Кузёмка. Зайшоў, як гэта звычайна ў яго атрымлівалася, нечакана. Ішоў, як бы нават спяшаўся кудысьці, бег, папіхаючыся ядлаўцовым кійком, але Лявона абмінуць не мог.

Праз расчыненыя дзверы ў хату ўварваліся следам за вандроўнікам клубы марознага паветра. Кузёмка сцягнуў з галавы старую магерку, павітаўся, паглядзеў у кут, на абраз, набожна перахрысціўся, зняў світку і павесіў на цвік. Затым дастаў з кішэні світкі анучку, сагнуўся і правёў па ботах, асабліва акуратна працёр і агладзіў халявы. Абутак сціпла заззяў нейкім высакародным бляскам.

У Кужалёў збіраліся абедаць.

— Заходзь, госцем будзеш, — запрасіла Фёкла, якая ставілася да Кузёмкі прыхільна і паблажліва.

Вярнуўся з лаўкі, ад Салівэся, Лявон. Хадзіў па соль. Павітаўся з госцем.

— Халадно, — сказаў ён.

Тапілася грубка, каля яе ляжалі бярозавыя паленні.

— Бярозаю паліш, — заўважыў вандроўнік, — альховыя дровы лепш гарацьь. Ну, як пажываеце?

— Ды патроху, — адказала Фёкла. — Надта яшчэ не наракаем.

— Зноў абшчынаю жывяце. Усёй вёскай, калхозам!

— Калхозам.

Лявон пацёр адна аб другую далоні:

— Карачымся патроху, — як Гамон калісьці любіў казаць.

— Цяпер гэтак не скажа, — пасміхнулася Фёкла, — паразумнеў.

— Ці ведаў ты Гамона? — спытаў Лявон.

— А хто ж яго не ведаў! Ведаў. Перасмешніка прускаўскага!.. Не раз спрачаліся. Пераспорыць яго цяжка.

— У папы пайшоў. Цяпер ужо не Гамон, як яго раней называлі, а айцец Агамемнан.

— Гэтак, як і Лаўр Яўсеевіч, — прыгадала Фёкла.

— Лаўр Яўсеевіч заўсёды царквы трымаўся, — запярэчыў Лявон, — а Гамон...

Кузёмка памаўчаў, падумаў і патлумачыў:

— Наканавана так.

Усе прымоўклі.

— Пакручастыя шляхі чалавечыя, як сказаў адзін пісацель, і не сам ён выбірае іх. Ніхто не ведае, якія людзі Богу ўгодныя. Кожны нясе свой крыж.

Відаць было, што здарэнне з Гамонам Кузёмка ўспрыняў, як прыгоды пакручастага чалавечага лёсу, незаўважна было, каб дужа здзівіўся. Бо пабачыў за сваё вандроўніцтва шмат.

— Сядай абедаць, — запрасіў гаспадар, — мабыць, прагаладаўся?

Кузёмка не даў сябе ўпрошваць, падсеў да стала, узяў лыжку. Аднак перш чым есці, перахрысціўся, прачытаў пацер.

Сёрбалі боршч з буракоў і капусты. Потым гаспадыня дастала з печы таўканіцу — перамяшаную і патоўчаную з грэцкай мукой бульбу. Падмацаваўшыся, вандроўнік адклаў лыжку ўбок, выцер рукавом вусны і, павярнуўшыся на покут, зноў перахрысціўся і прашаптаў пацер.

Пачаў новую тэму:

— Іду, ведаеце, гасцінцам, азіраюся па баках. Поле стала нейкім вялізным і няўтульным. Нейкім панылым зрабілася. Межы, дарогі зааралі, і назвы знікаюць. Усё знікае. Такога яшчэ не было. А я яшчэ тады прадракаў! Рэдка дзе зайца сустрэнеш.

Гаспадары моўчкі слухалі.

— Іду і чую — у небе араплан ляціць. Задраў галаву і ледзь адшукаў паміж хмар. Маленькі, серабрысты. Не ведаю — чый, але так хутка ляціць, што гук за ім не паспявае. Араплан наперадзе, а гук ззаду. Можа, марыканскі? Вось да чаго тэхніка дайшла!..

— Дайшла, — пацвердзіў Лявон.

Кузёмка змоўк, угнуў галаву, відаць, пра нешта думаючы, і пасля паўзы сказаў:

— Выходзіць, што страх гэты чалавека падпільноўвае ўвесь час, страшнавата жыць. І не толькі ў вайну, але і зараз. Няйначай, як сам Бог страх прыдумаў, каб на чалавека жах напускаць, каб не заганарыўся ён занадта.

Забегла Дзякрэта пазычыць рэшата.

— Усё ходзіш? — замест прывітання паўшчувала яна.

— Некаму ж трэба.

— Ты вось усё жыццё ходзіш, а ці дайшоў нарэшце да мэты?

Пытанне было нялёгкае і не надта зразумелае, і госць колькі разоў, як бы дзеля прыліку, кашлянуў.

— Да якой мэты? — перапытаў ён.

— Можа, нарэшце, ажаніўся? — удакладніла жанчына.

— А які ў гэтым сэнс? Пераканай мяне, які ў гэтым сэнс?

— Жонка б пагрэла, то не кашляў бы. Прыладзьбаваўся б да жыцця. Мужчыну пристойна быць жанатым. Жанатага паважаюць...

Кузёмка ў адказ здзіўлена матлянуў галавой і шырока развёў рукамі:

— Тры няшчасці на свеце: агонь, мора і жанчына.

— Але ўсе тры патрэбныя! — разважыў Лявон.

— І жонка патрэбная! — падтрымала яго Дзякрэта.

— Вы вось гэтак гаворыце, а яўрэйскі рабін у Пінску мне сказаў: «Калі можаш, Кузёмка, не жаніцца, то не жаніся». А рабін — чалавек разумны!

— Дык ты і з рабінам знаёмы? — здзівілася Дзякрэта.

— А што? Я чалавек і ён чалавек. Я разумны і ён разумны.

— А наш Гамон папом зрабіўся! Цяпер ён айцец Агамемнан! Бараду адпусціў!

Сказаўшы гэтак і ўзяўшы з сабой рэшата, суседка развіталася і пайшла дадому.

— Пазычэнніца! — адгукнуўся пра Дзякрэту Кузёмка пасля таго як яна выйшла. — Кажа абы-што! Застаецца толькі здзіўляцца.

— Мы ўжо не здзіўляемся, — пасміхнулася Фёкла.

Грукнуўшы дзвярыма, прыйшоў са школы Валодзя, зняў сумку з кнігамі і паклаў на лаўку.

— Вось ты школу наведваеш, — звярнуўся да яго Кузёмка. — А ці вывучаеце вы там беларускую гісторыю?

Відаць было, што пытанне дужа здзівіла хлопца.

— Беларускую? Не, такой мы не праходзім, такой у нас няма.

— Яна-то ёсць, браце, але сёння ўсімі забытая, нікога не цікавіць. Але можа, калі і зацікавіць...

— Мікола Засім калісьці прыязджаў, дык па-беларуску вершы чытаў, — успомніў Лявон.

— Валодзя, хадзі сюды! — паклікала з кухні Фёкла. — Я есці табе паставіла.

— Ідзі, падмацуйся! — падхапіў вандроўнік. — Прагаладаўся, мусіць.

Хлопец пайшоў.

— Фяклуша, — звярнуўся Лявон да жонкі, — чаю з мятай запар!

— Румянку завары! — папрасіў Кузёмка. — Я б румянку папіў, бо нешта кашляю.

— Завару! — паабяцала гаспадыня. Румянак — лекавы настой на кветках рамонку, карысны пры кашлі.

Фёкла гэтак і зрабіла, і вандроўнік выпіў цэлы кубак, хвалячы гаспадыню. Думаў, аднак, пра сваё, таму што зноў паўтарыў:

— Рэдка дзе зайца сустрэнеш, а пра лісу ўжо і не кажы.

Яму ніхто нічога не адказаў, і вандроўнік сабраўся ў дарогу.

— Пайду.

* * *

Свой прыход, «парафію» Гамон атрымаў у глухой вёсачцы бліжэй да Белавежскай пушчы. Адпусціў бараду, зарос, людзі казалі, як старавер. Гамонава Матрона ці не ўпершыню пазірала на мужа з павагай. Дзівілася свайму новаму становішчу. Не верыла нават, спыталася:

— Бацюшка, а няўжо я матушка?

— Матушка, — пацвердзіў Гамон, — але цяпер, каб ты ведала, я з царквою шлюб узяў, я асянёны духам. Усё прайшоў, і нават хіратонію. Бачыш, матушка Матрона, колькі мудрых слоў!

Па традыцыі, як гэта і патрабавалася, запусціў бараду і не стрыг галаву, хаця там мала што з валасоў і засталося. Вярнулася да Гамона першапачатковае гучанне яго імені: Агамемнан. Цяпер айцец Агамемнан. Гэта абудзіла ў ім пачуццё ўдзячнасці: «Успомнілі нарэшце імя — Агамемнан. Я ж не хто-небудзь, а Агамемнан!..» Прымаў вернікаў да споведзі, выслухоўваў, рукою тварыў у паветры крыж і казаў:

— Ваймятцасына, ідзі! Хто грашыць на гэтым свеце, таму дрэнна будзе на тым.

Нехта чуў, як бацюшка спяваў:

Грэшнік я вялікі
на зямным пуці.
Памажы мне, Божа,
Крыж мой данясці...

Вельмі пабожнай стала і матушка Матрона, наведвала царкву, набажэнствы, станавілася паперадзе.

— А як анціфон дадуць, — казала яна, — душа радуецца!

Яшчэ колькі часу таму назад гэтага ўсяго немагчыма было ўявіць. Тым не менш яно спраўдзілася. Выходзіць, што можа збыцца, спраўдзіцца самае неверагоднае.

Выходзіла, што чалавек — істота пластычная, здольная для глыбокіх унутраных пераўтварэнняў.

## XV

Пацямнелі шыбы ў вокнах. Звечарэла. Лявон з Фёклай сядзелі ў хаце сумныя, прымоўклыя.

Пасадзілі «за каласкі» дачку дзядзькі Хведара Груньку. Назбірала на калгасным полі, ужо ў кастрычніку месяцы, каля кілаграма каласкоў і несла ў прыполе дадому. Поле пасля жніва выглядала пастарэлым, нямоглым і здавалася, усімі забытым, бязлюдным. Але не. Затрымаў участковы Сценгарыеў. Пільны! Аказваецца, вартаваў. У сцярні ляжалі тыя каласкі. Згнілі б. Грунька думала іх высушыць, вылушчыць зерне ды натаўчы ў ступе на муку. А тут — Сценгарыеў на кані падскочыў.

— Можа, падказаў хто? — бедавала, смуткуючы над Груньчыным лёсам Фёкла.

— Ну, вядома, — азваўся спахмурнелы Лявон, які вельмі шкадаваў пляменніцу, — нас, мусіць, і сагналі ў калхоз, каб падглядалі адзін за адным. Няма Пятра Мачалава — няма каму дапамагчы.

— Шкада яго, усё ж такі добры чалавек быў.

Яны зноў змоўклі, седзячы ў сутонні. З акна відаць быў калодзеж з высокім жураўлём і прыгуменне, на якім калісьці стаяла клуня. Клуні ўжо не было, адкрываўся далягляд, лінія гарызонту, які спалучаў калгаснае поле з небам. Гусцей сыходзіліся цені на падворку. У хлеўчуку, за хатай, загагалі гусі.

«А пра Пятра Мачалава ніхто і не ўспомніць, — скрушна падумаў Лявон. — Кароткая ў людзей памяць. Імгненна забылі. Толькі пра сябе помнім».

Фёкла нічога не казала, відаць, думала пра Груньку, потым загаманіла:

— Той раз, калі яна ў нас была, дык пра свой сон расказвала. Прыснілася, кажа, што ў царкве, у Вайской, стаяла, малілася, а побач, кажа, Сталін стаіць, сочыць, як яна моліцца. Пагоны на ім залатыя і шабля на поясе. І строгі такі, што не перадаць. Грунька ад страху ажно прачнулася.

— У сне царква, я так чуў, турму прадказвае, — зазначыў Лявон.

— А тут яшчэ ж і Сталін!

Забралі Груньку ў Камянец, у міліцыю. Судзілі і адправілі на «допр»[1]. Пяць гадкоў далі. Менш ніяк нельга — «раскраданне сацыялістычнай уласнасці».

[1] Допр — доўгатэрміновыя прымусовыя работы.

— Дзеці галодныя! Есці няма чаго! — плакала, апраўдвалася Грунька, але гэта не прымалася пад увагу, пракурор спасылаўся на закон.

Лявон з Фёклай стараліся дапамагчы сям'і.

У самым пачатку зімы Кужалі атрымалі новы ліст ад Якава Арыстархавіча. Мінулы раз, апроч адказу на яго ліст, паслалі яму скрыначку з прадуктамі — пасылку: трохі сала, цыбулі, сухароў.

Валодзя дастаў з канверта ліст, разгарнуў, стаў чытаць, што піша хросны.

«Добры дзень, шаноўныя Лявон і Фёкла!

Вельмі рады, што Вы азваліся, ушанавалі мяне лістом. Вялікі дзякуй за пачку, якую я таксама атрымаў. Ліст ішоў амаль два месяцы, але дайшоў, я яго атрымаў. Дзякуй, што турбуецеся маёй сціплай асобай. Чалавека звычайна кідаюць усе тады, калі яму асабліва цяжка. Адзіноту, самі ведаеце, не лёгка вынесці. Удзячны вам, што памятаеце пра мяне, не забываеце. Цяпер я знаходжуся на іншай працы, у калгасе, загадваю пчэльнікам. Пасекай, як тут кажуць. Пасека знаходзіцца ў такім месцы, якое называецца заімкай. Гэта як бы дача ў тайзе. Было 24 вуллі, а цяпер за мой час работы ўжо 35. З'яўляюцца маладыя раі, і я іх рассяляю. Люблю пчолак. Здаецца, злавіў бы ды пацалаваў. Пчолкам у тайзе, на выгодзе, надта добра. Не ведаў, што неблагім меданосам можа быць нават звычайная бяроза. А пчолкі, аказваецца, любяць бярозавыя слёзы, сядаюць на свежыя спілаваныя пні, ласуюцца салодкімі кроплямі, збіраюць з лісцікаў смалу.

Часам вару медавуху, бо любіць заглянуць да мяне начальства. Старшыня калгаса Недапупаў і іншыя таварышы, у тым ліку бухгалтар. Паабяцаў ім сем пудоў мёду. Не ведаю, аднак, ці выканаю план. Медазбор добры, таёжны. Тайга — гэта некранутае царства прыроды з непрахадзімымі зараснікамі, балотамі, рэкамі і ручаінамі. А якія магутныя дрэвы! Некаторыя ўжо аджылі свой век, стаяць сухія, мёртвыя, голыя, бо і кара з іх апала. На такіх дрэвах будуюць свае гнёзды арлы і жывуць у аддаленні ад іншых птушак, як на хутары.

Куды толькі ні закіне чалавека лёс! Вялікая сіла — лёс, але звязаны лёс, як вядома, з характарам, нават, кажуць, абумоўлены ім. Так гэта ці не так, але жыву па абстаноўцы, нікога не крыўджу. Здаецца, што і мяне беражэ Бог. Спачатку думаў, што ўсё, усё для мяне скончылася, што разбурыўся свет. Апанавалі безнадзейнасць і адчай. Але не! Па часе настрой памяняўся на больш мяккі. Надзеі не трачу. Гэта неяк і супакойвае. Побач тут каля мяне ў тайзе цячэ сабе рэчка, але вузейшая за нашу Лосьну, таксама прыгожая. Але наша Лосьна лепшая. Я ўсё трымаю ў памяці: і Альбэрцін, і гаспадарку, і раку Лосьну, і сад, і пчэльнік. Усяго не пералічыш, што згадваецца. Нядаўна ўспомніў, як хацеў у вайну ў пушчанцаў купіць ветрака ды паставіць яго ў Альбэрціне. Атрымаў ліст ад Амброжыя. Напісаў яму, што жыву я тут прымерна так, як жыве прускаўскі Гамон.

І яшчэ думаю, як перахоўвае Амброжый тыя мае абразы, што засталіся пасля таго, як разабралі хату.

Надта прыгнятае туга па родных мясцінах. Адчуваю, што спаў з цела, але гэта, можа, і добра, лягчэй хадзіць, лягчэй сябе насіць. Спадзяюся ўсё ж такі на лепшае. Чакаю на адмысловую камісію, якая павінна разгледзець паперы і вырашыць маю справу. Рыхтуюся да зімы, купіў бушлат. Не новы, праўда, але спатрэбіцца. Зіма тут суровая, шмат снегу, маразы, але як сонца выгляне, снег растае.

Не ведаю, што будзе далей, але, можа, Бог дасць, яшчэ ўбачымся. Кожныя шэсць месяцаў, раз у паўгода, пішу скаргі. Яшчэ ў турме адзін чалавек з ніжніх нараў, на якіх ён спаў, навучыў, як іх пісаць.

На гэтым пакуль што стаўлю кропку. Бывайце здаровы. Маё шанаванне Васілю і яго жонцы, а таксама майму крэсніку Валодзі. Як ён вучыцца ў вас?

З прывітаннем, Якаў Пац.

1 верасня 1952 г.»

— Доўга ж яно ішло, — сказаў Лявон, маючы на ўвазе пісьмо. — Як з Амерыкі.

— Сібір далёка! — уздыхнула Фёкла.

Ліст у адказ пісаў Валодзя пад дыктоўку Лявона і Фёклы.

«Дарагі Якаў Арыстархавіч!

Надта ўсцешна было атрымаць ад цябе пісьмяцо. Радыя за цябе, што ты жыў і здароў, верым, што хутка будзеш на волі. Мы таксама пакуль што жывыя і здаровыя. Цяпер мы працуем у калгасе за трудадні. Мінулым разам атрымалі па сто грамаў жыта на трудадзень. Пакінулі дваццаць сотак зямлі, на якой садзім картоплі. Паразбіралі ў гаспадароў клуні, пабудавалі стайню. Словам, новага шмат.

Гамон, якога ты згадваеш у сваім лісце, пайшоў у папы. Ужо рукапалажылі. Хадзіў я ў Альбэрцін, бачыўся з Амброжыем. Абразы Амброжый, пасля таго, як Мірык перавёз хату ў Брэст, перанёс да сябе і цяпер перахоўвае ў сваёй хаце. Прыходзяць людзі, плацяць і бяруць, каму трэба. Некаторым у хату трэба, але большасць маладыя, якія бяруцца і збіраюцца вянчацца. Без іконы вянчацца не будзеш.

Паўліна цяпер знаходзіцца пры Амброжыі, у Брэст яе не забралі. Падтрымлівае Амброжыя. Жывуць, дзякуй богу, у суладдзі і згодзе.

Вельмі спачуваем табе, дружа, у тваёй долі, на тваім цярністым шляху, і спадзяёмся, што хутка ўбачымся. Бог вялікі ў сваіх нябесных міласцях, не забудзе ён і пра нас.

Вася жыве і працуе ў Брэсце. Перавёз, як і Мірык, хату, забраў сям’ю...»

Усе змоўклі, Валодзя перастаў пісаць, наступіла паўза.

— Што яшчэ напісаць? — спытаў унук, зірнуўшы то на Фёклу, то на Лявона.

— Пішы прыветы і паклоны, — сказала Фёкла.

«Хутчэй вяртайся, Якаў Арыстархавіч! Чакаю цябе, як першага голуба пасля сусветнага патопу», — прадыктаваў Лявон.

Фёкле спадабаўся гэты крыху высакапарны выраз пра «першага голуба пасля сусветнага патопу».

— Умееш сказаць, — пахваліла яна мужа, — гэта яго падтрымае.

Валодзя скончыў пісьмо, як заўсёды:

«Паклоны табе перадаюць Васіль, і Прося, і хрэснік Валодзя. Моцна цябе абдымаем і чакаем.

Лявон і Фёкла Кужалі.

5.11.1952 года».

Пачыналася зіма. Яшчэ трохі — і з’явяцца белыя мухі.

## XVI

Зазімкам узяліся пакладаць баранчыкаў. Стварылі спецгрупу, у якую ўвайшлі ў асноўным праўленцы. Абавязкі ветэрынара ўзяў на сябе Багатэль, які, паводле яго слоў, меў адпаведную практыку. Чалавек, здавалася б, рахманы, а ўпраўляўся спраўна і ўвішна. Астатнія дапамагалі, лавілі бедных баранчыкаў, вязалі і цягнулі на гэтую экзекуцыю.

Мерапрыемства заняло не так і шмат часу. Пад вечар больш як два дзясяткі баранчыкаў былі пазбаўленыя статусу маркачоў. Затое з іх можна будзе атрымаць добрую воўну. Скончыўшы, параіліся, што рабіць далей. Падумалі пра тое, што не лішнім было б і падмацавацца. Дзеля гэтага Хвядзюшка запрасіў да сябе ў хату, а жонка яго Нінка ўзялася падсмажыць тое, што аднялі ў бараноў і што апрыходаваць інакшым чынам не ўяўлялася магчымым.

Памыліся, ручніком, які падала Нінка, выцерлі твары і рукі. Да Галені паслалі Цярэшку Макацёра, які збегаў і прынёс пад палой двухлітровы гляк, заткнуты газетным коркам.

У лёгкім вазку прыехаў старшыня Прыбылоў. Конь пад акном выскаліў зубы і дзіка заіржаў. Старшыня меў, відаць, неблагі нюх, пераступіў парог якраз у той момант, калі ў Нінкі на кухні засквірчэлі на скаварадзе барановы семяннікі. Зняў кажух і павесіў ў кутку, прыгладзіў валасы. Нядаўна галіўся, бо твар са свежымі брытвеннымі парэзамі, залеплены паперкамі. Апрануты старшыня па-моднаму, у «сталінку». Гэта нешта сярэдняе паміж вайсковым фрэнчам і цывільным гарнітурам. Так апраналася ўсё начальства. Пад напятымі гузікамі выпіраў ёмісты жывот, ільснілася над тугім каўняром чыста паголенае падбароддзе. Пад яго мажной постаццю рыпелі маснічыны. Паводзіў ён сябе вальяжна, як гаспадар.

— А я спачатку пад’ехаў да клуні, — сказаў ён, павітаўшыся з кожным за руку, — там вас ужо няма. Ну, думаю, не іначай як у брыгадзіра, смажаніна...

Усе засмяяліся.

— На возе нязручна, — дадаў старшыня. — Каня трэба мець, я на кані прывык. Трэба, каб рысак пада мною быў.

— На кані хутчэй, — згадзіўся Мікіта Галёнка. — Тады ўсюды паспець можна. Асабліва на рысаку.

— На рысаку ого-го! — сказаў Макацёр, вясёлы ад таго, што прадстаіць выпіўка.

Старшыня запытальна паглядзеў на падначаленых:

— Ну, як справы?

— Справіліся! — далажыў Хвядзюшка. — Дваццаць чатыры баранчыкі вылегчалі.

— Справіліся! — адгукнулася Нінка.

— А я з Рытатуем за торфаперагнойныя гаршчкі змагаўся. Апошняе слова агратэхнікі! Садзі, кажу, вучняў гаршчочкі рабіць! А Рытатуй не разумее, але я яму ўстаўлю мазгі! «Хай, — кажа, — вучаць прадметы». Прадметы твае нікуды не ўцякуць, ты аб працоўным выхаванні падумай! Без працоўнага выхавання нельга!

— Нельга! — паўтарыў словы старшыні Галёнка.

— Гаршчочкі — гэта партыя добра прыдумала! — падхапіў Хвядзюшка. — Гарантаваны ўраджай! Мяшаюць гной з торфам, робяць кампост і размяркоўваюць па гаршчочках, і болей нічога не трэба.

— Наву-ука! — прагудзеў Багатэль.

— Рукі памылі? — паўторна спытала Нінка.

— Памылі! — за ўсіх адказаў старшыня.

— Ну, то сядайце! Хопіць размоў, сядайце!

— Перасохла ў роце, — прызнаўся Цярэшка Макацёр, назіраючы, як гаспадыня ставіць на стол скавараду са смажанінай і побач міску з адваранай бульбай і міску з квашанай капустай, перасыпанай чырвонымі журавінамі.

Каб змясціцца ўсім, стол выцягнулі з кутка на сярэдзіну хаты, прысунулі лаўку і столакі і пачалі сядаць. Хвядзюшка паставіў на стол гляк і пару шклянак. Усе сачылі за яго рухамі. Багатэль узяў гляк, ашчаперыўшы яго абедзвюма рукамі, зубамі выняў корак і першаму наліў старшыні. Той не адмовіўся. «На ўсё добрае! Каб вялося, пілося і маглося!» — прамовіў ён, выпіў і не паморшчыўся. Па чарзе выпілі ўсе, адведалі смажаніны.

Пачуўся стук відэльцаў.

— Недаваранае! — сказаў пра самагонку Хвядзюшка. — Страчвае нешта Галеня кваліфікацыю.

— Баялася кабеціна, каб брага не перастаяла, раней гнаць пачала, — патлумачыў Мікіта.

— Для здароўя карысна, кроў ачышчае, — сказаў Багатэль.

— І мазгі! — з упэўненасцю дадаў Хвядзюшка. — У мяне мазгі чыстыя.

— Галеня ўмее, яна табе з чаго хочаш самагонку выцісне, — загаманіў Макацёр. — Нават з табурэткі.

Зноў усе зарагаталі.

— Адышла цяпер мода на кілішкі, шклянкамі п’юць, — зазначыў Багатэль, нібы зайздросцячы тым, хто можа гэта сабе дазволіць.

— Шклянкамі п’юць, бо спяшаюцца, — патлумачыў Мікіта. — Каб кілішкам піць, трэба мець час, а яго няма.

— Піццё гарэлкі, таварышы, асабліва самагонкі, — гэта адступленне ад партыйнай лініі, — адзначыў старшыня Прыбылоў, — але, як вядома, у кожным правіле ёсць свае выключэнні.

Усе насцярожыліся, чакалі, каб зразумець, да чаго ён хіліць.

— У ідэалогіі я падкаваны, як конь, — зірнуўшы на застольнікаў, пахваліўся Прыбылоў і дадаў: — Конь павінен быць падкаваным хоць бы на пярэднія ногі, а я падкаваны на ўсе чатыры. Са мной не прападзеце, я памылак не раблю...

Кажуць, што характар чалавека спазнаеш толькі тады, калі ён стане тваім начальнікам. Гэта, па ўсім відаць, і быў такі выпадак. Шклянка зноў пайшла па кругу. Старшыня выпіў, перавёў дых, расшпіліў каўнер, ікнуў. Пачуваў сябе раскавана, разняволена. Усе адчувалі задавальненне ад таго, што старшыня гаворыць і паводзіць сябе з імі па-простаму, як бы нават па-сяброўску.

Пачалі хваліць смажаніну.

— Надта, надта смачная! — захапляўся Багатэль.

— Не смачная, а смачныя, бо іх шмат, — паправіў яго Цярэшка. — Яйцы!

— Яйцы — гэта сі-іла! — нараспеў сказаў Галёнка.

— Гы-гы-гы, — засмяяўся Макацёр. Ён браў шкваркі рукамі, па пальцах цёк тлушч, аднак выцерці іх аб абрус не рашаўся, баяўся гаспадыні.

— Пальцы трэба аблізваць, — параіла Нінка. Цярэшка гэтак і зрабіў. Захмялеў ад першай, але ёмістай чаркі, выглядаў павесялелым.

— Як сяду есці, дык, здаецца, еў бы ды еў, а як працаваць, дык нейкая млявасць, — прызнаўся ён.

— Смаката! — хваліў Багатэль, еў, акуратна варочаючы моцнымі сківіцамі.

Гаспадыня запаліла падвешаную да столі лямпу.

— Яшчэ на адну скавараду хопіць! — паабяцала яна.

Мікіта падняўся, прайшоў у кут, дзе стаяла вядро з вадой, зачарпнуў і выжлукціў цэлы кубак. Потым прасунуў руку пад крысо пінжака і пачасаў паясніцу.

Яшчэ раз выпілі, пусціўшы па кругу шклянку. Хвядзюшка кульнуў і папярхнуўся.

— Не ўмееш піць! — паўшчуваў яго старшыня.

— Яшчэ навучыцца! — зарагатаў Цярэшка. Брыгадзір паглядзеў на яго непрыязна, нават папракнуў:

— Ну, але ж ты і абжора!

— Я абжора? Гэта ты абжора! — запярэчыў яму Макацёр, ткнуў відэльцы ў міску з капустай і цэлы ахапак піхнуў у рот.

Старшыня спыніў спрэчкі.

— Вось паслухайце, што мне Кужаль сказаў.

— Што? — у адзін голас адгукнуліся застольнікі.

Прыбылоў энергічна варухнуў галавой і паведаміў:

— Сказаў, што калісьці ў яго было на мэце завесці рыбную гаспадарку. У тых ставах, дзе ў вас так званая Крухмальня. Я гэтага Кужаля там і сустрэў. Прызнаюся вам, едучы ў Пруску, я не раз задзіўляўся на тыя ставы. Гніюць, зарастаюць. Хоць ты іх засыпай!

— Карасі там водзяцца! — радасна выпаліў Хвядзюшка. Яго падтрымалі:

— Карасі ёсць, толькі ніхто іх не ловіць, гразка там, у тых сажалках.

— Вылезеш чорны, як чорт! — зарагатаў Макацёр.

— А давайце падправім тыя ставы! — падаў думку старшыня.

— Гэта калісьці сам Падгурскі іх выкапаў, — прыгадаў Галёнка. — Ну, не сам, а нашы бацькі ды дзяды. А раней, мой бацька казаў, там наогул суцэльнае балота было. Скаціна грузла, дык вяроўкамі абвязвалі і выцягвалі. Усёй вёскай цягнулі. Вяроўкі тыя...

— Гэта калі было! — не даслухаўшы, перабіў яго Прыбылоў. — Цяпер не тое, цяпер усё памянялася.

— Памянялася! — паўтарыў за ім Макацёр.

— Мы гэтае балота абкультурым лепш, чым ваш Падгурскі! — цвёрда сказаў старшыня. — Не забывайце, што мы бальшавікі! Запруду зробім! Застаўню!

Усе адчулі, што гэты праект ужо цвёрда саспеў у старшынёвай галаве.

— Падгурскі — памешчык! — буркнуў Хвядзюшка. Як ні хацеў ён пазбавіцца, але ў ім, магчыма, у падсвядомасці, усё яшчэ жыў і страх перад панам, і павага да яго. Да пана, маўляў, нам далёка.

Прыбылоў адчуваючы гэта, бадзёра азірнуў прысутных і страсянуў у паветры кулаком:

— А чым мы ад Падгурскага горшыя? Мы гэнае балота залатым дном зробім!

— Не пары гарачкі, прадсядацель! — спрабаваў стрымаць старшынёўскі імпэт Хвядзюшка, абмацваючы і шкрабучы патыліцу. — Гэта ж працы колькі! Ачысціць іх трэба, запрудзіць! Трэба падумаць, агледзецца... — Хвядзюшка як бы ў задуменні схіліў убок галаву.

Брыгадзірава нерашучасць выклікала ў старшыні абурэнне — у гэтым ён убачыў пярэчанне сваім намерам.

— Што значыць «агледзецца»? Падобным хістанням, таварышы, у нас не месца. На тое мы і калгас утварылі, каб не хістацца! Аглядацца, як прапаноўвае брыгадзір, ніхто не будзе! Мы павінны ўпярод рухацца, толькі ўпярод! Ды яно і казе панятна.

Старшынёў гнеў успыхнуў нейк нечакана, раптоўна, але гэтак і пагас. Прыбылоў цешыўся сваімі планамі. Яны здаваліся яму як бы нават ужо рэалізаванымі.

— Рыбу можна будзе і прадаць! — не звяртаючы ўвагі на Хвядзюшку, працягваў тлумачыць старшыня. — Ды мы ўвесь Брэст загацім рыбай! Барановы семяннікі смачныя, а карп яшчэ смачнейшы. Такі, што язык праглынеш! Цяпер у нас калгас, а будзе яшчэ і рыбгас! Хай ведаюць Прыбылова!

Усе аціхлі, слухаючы. Багатэль ажно раскрыў рот.

— У мяне ўжо ёсць план распачаць будаўніцтва запруды, — прызнаўся старшыня. — Трэба ж падняць узровень вады, каб рыбы было болей. Малька закупіць. Хлопцы, рыбу будзем есці і на продаж застанецца. У Расіі вунь якія плаціны ўздымаюць! Куйбышаўская! Сталінградская! А мы? Няўжо мы здрэйфім? Бальшавікі перад цяжкасцямі не спыняюцца.

Прыбылоў намагаўся гаварыць пераканаўча, і ад старання ў яго ажно ўздрыгвала падбароддзе. Ён расшпіліў яшчэ адзін гузік, аслабіў каўнер.

Захваляваўся нават Макацёр:

— Я, хлопцы, вялікага карпа бачыў! — загаманіў ён. — У Берасці, у рыбным магазіне, што каля Малога базара. Ну, можа, з пуд будзе, а можа, і болей. Як конь! Адзін ужэнднік[1] пузаты яго купіў, дык ледзь у тым карыце злавілі. Яго ловяць, а ён кусаецца!

— Хто — кусаецца? — не зразумеў Багатэль.

— Карп! Не ўжэнднік жа будзе кусацца. У газету яму загарнулі, ледзь панёс.

— Вот і нам такая рыба патрэбна! — бразнуў аб стол даланёю Прыбылоў. — З такой рыбай будзем у перадавіках.

— Калі начальству рыбы паднесці, дык і начальства паспрыяць можа, — дадаў недурны Галёнка. — Не падмажаш — не паедзеш. Хто добра мажа, той хутка едзе.

— Гэта само сабой, — заўсміхаўся старшыня. — Буду ставіць пытанне ў раёне.

— Варта паставіць, — ухваліў Багатэль.

— Я, таварышы, і сам разбіраюся, што да чаго, і ў справах непамыльны, — прызнаўся старшыня, — але без нашай партыі не магу, збіраюся паступаць.

Яны закурылі, напоўніўшы хату тытунёвым дымам і пахам. Чуваць было, як на кухні, на патэльні, скварчэла і верашчала новая порцыя барановых яйцаў.

Галёнка зірнуў на бутэльку:

— Добрае дзела не шкодзіць і паўтарыць.

— Лыкнем, бо адвыкнем, — засмяяўся Цішка і павярнуўся да гаспадыні: — Ніна, падкінь яшчэ тых яец, а то пустая лыжка горла дзярэ.

Ніхто не скардзіўся на нездароўе, страўнікі працавалі выдатна, падстаў для дрэннага здароўя не было.

— Хлопцы, усё паўтарыцца, — запэўніў Галёнка, — апроч добрай кампаніі.

Выпілі яшчэ па адной. Старшыня абвясціў тост:

— За здравіе таварыша Сталіна! За нашага правадыра і вучыцеля!

Абвясціў і, не спяшаючыся, акуратна, выхіліў паўшклянкі ў рот, панюхаў скібіну хлеба і пачаў закусваць. Бялкі яго асалавелых ад гарэлкі вачэй прыкметна пачырванелі.

— А яйцы, хлопцы, за мілую душу ідуць! — круцячы галавой, дзівіўся Галёнка.

---

[1] Ужэнднік — чыноўнік (*польск.*).

— Барановыя! Смачныя! — падхапілі сябры.

— Ваняюць, — жартам запярэчыў старшыня.

— Чым? — здзівіўся Багатэль.

— Чымсьці грэшным...

Зарагаталі ўсе разам. Засмяяўся і старшыня:

— Я жартую.

— А я грачаную кашу люблю са скваркамі, — прызнаўся Хвядзюшка.

— А дзе яе табе ўзяць? — выгукнула з кухні Нінка.

Счакаўшы, стаў казаць Галёнка:

— Мост цераз Плісу варта было б паправіць. Мост ужо такі, што конь можа і нагу пакалечыць. Недахопы ў нас яшчэ ёсць.

— Ну, гэта і казе панятна, — зноў прыгадаў казу старшыня.

— Ага, ага, — усе заківалі галовамі.

Прыбылоў паглядзеў на Галёнку з падкрэсленай увагай:

— Мост паправім, — сказаў ён і дадаў: — Але ты, Мікіта, нашу рэчаіснасць не ачарняй, не трэба. Гэта нікому не дазволена.

Абед скончыўся, калі ўжо добра сцямнела. Праўленцы пачалі ўставаць з-за стала і нікому не дзякуючы выходзіць з хаты. Чакала свежае паветра.

Прыбылоў, смеючыся, звярнуўся да Нінкі:

— Вы, гаспадыня, у наступны раз зрабіце нам цабэрак вінегрэту на закуску. Гэта з буракоў ды з картопель.

— Алей трэба!

— Няўжо не знойдзем алею?

— Але ж і галава ў нашага старшыні, — пахваліў яго Галёнка, зноў напіўшыся з вядра, — не галава, а дом Саветаў!

У гэтай хвальбе была і нейкая іронія, але ўсе знаходзіліся на падпітку і двухсэнсоўнасці ніхто не заўважыў.

— А як ты думаў! — строга паглядзеў на яго брыгадзір. — З такім не прападзеш.

Пасля гасцей, застолля і спрэчак у хаце стала ціха.

***Працяг будзе.***





Генадзь АЎЛАСЕНКА

# І ВЯДЗЕ МЯНЕ ДАЛЕЙ СЦЯЖЫНКА РОСНАЯ...

## РАНДЭЛЬ

Было ў юнацтве тысяча дарог,
А я чамусьці на сцяжынку збочыў
(Нібыта штосьці засляпіла вочы!),
А потым павярнуць назад не змог…

Не ведаю: сюды паклікаў Бог
Ці сам звярнуў да новага ахвочы?
Было ў юнацтве тысяча дарог,
А я чамусьці на сцяжынку збочыў!

Тут аксамітам сцелецца мурог,
Тут салаўіны спеў гучыць да ночы…
І мо таму я па сцяжынцы крочу,
Хоць іншы шлях, вядома ж, выбраць мог…
Было ў юнацтве тысяча дарог…

---

***Аўласенка Генадзь Пятровіч*** *нарадзіўся 16 жніўня 1955 года ў вёсцы Ліпавец Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў біялагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Выкладаў біялогію і хімію ў Вайнілаўскай школе Чэрвеньскага раёна. Зараз працуе намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Бярозка».*

*Аўтар паэтычнага зборніка «Час збіраць камяні» (2003), кніг прозы «Дзікія кошкі Барсума» (2009), «Пленники черного леса» (2011), «История вместо математики» (2012), «Ключ, які нічога не адмыкае» (2014), «Разрешите стать вашим слугой» (2014), «Уродка» (2014), «Пещера» (2015), кніг для дзяцей «Вася Лайдачкін у краіне школьных звычак» (2009), «Удивительные приключения маленького Ветерка из Вентилятора» (2009), «Новые приключения маленького Ветерка из Вентилятора» (2010), «Ветерок и госпожа Зима» (2012), «Казкі дзядулі Дняпра» (2013), «Дашачка і чароўныя акуляры» (2014), «Ветерок и Крысиный король» (2014) і інш.*

## ВЫПАДКОВА

***Усё на свеце выпадкова…***
Васіль САХАРЧУК

Выпадкова…
Як жа ўсё на свеце выпадкова!
Нават тое,
што здараецца штодня…
Выпадкова
Выпадае цвік з падковы
І саб'ецца
бездакорны ход каня…

Выпадкова
дождж пральецца з хмаркі шэрай.
Выпадкова
хмарка тая праміне…
Выпадкова
я табе так шчыра верыў!
Выпадкова
ты паверыла не мне…

Па мурогу
грозна тупаюць падковы,
Як сігнал,
ірвецца ў неба чорны дым…
Толькі цвік
з падковы выпаў выпадкова,
Толькі вершнік шчэ не ведае аб тым!
Толькі куля
рана вылецела з рулі,
Толькі позна
на эфес лягла рука…
Выпадкова
вершнік стрэне тую кулю,
Выпадкова
праміне клінок стралка…

Мо таму,
што ўсё на свеце выпадкова,
Нават тое,
што здараецца штодня?
І калі б
усе цвікі былі ў падковах,

То не збіўся б
на імгненне ход каня…

А магчыма,
мы прымаем памылкова
Выпадковасць
за святую навіну?

Я цябе
Сустрэў калісьці выпадкова…
Ну, а заўтра
выпадкова праміну…

## ПЕРАЛІЎНІЦА

Я ішоў лясной сцяжынкай
Роснай раніцай,
Ды спыніўся,
Бы паклікаў хто мяне.
Штосьці сіняе
Блішчыць, пераліваецца
Ля сцяжынкі…
Што там: кветка альбо не?

Узмахнула «кветка»
Сінімі «пялёсткамі»,
Узляцела,
Зноўку села на траву…
Зразумеў я: то ж матыль!
Які дзівосны ён!
Ну а назву…
Назву зараз назаву!

Пераліўніца сядзіць,
Пераліваецца,
Ля сцяжынкі
З каляінкі п’е ваду.
Узляціць…
І сярод дрэў ізноў схаваецца!
Днём у лесе
Я наўрад яе знайду.

Што ж рабіць?
Прыходзіць думка тут раптоўная:

«Мо злавіць?
Чаму маруджу я дарма?»
Дома маю я калекцыю грунтоўную,
Ды такога матыля яшчэ няма.

Гэта вам і не бялян,
І не крапіўніца…
Пачынаю падыходзіць да яе.
Я крадуся ўсё бліжэй…
А пераліўніца
Па-ранейшаму
Ваду ля сцежкі п’е.

Ды рука мая
Чамусьці не ўздымаецца:
Пераліўніцы —
Не проста матылі!
Крылцы тонкія
Блішчаць, пераліваюцца,
Дыяменты беларускае зямлі!

Я злаўлю —
А раптам тут яна апошняя?
Узмахнуў рукой…
Няхай яна ляціць!

І вядзе мяне далей
Сцяжынка росная…
Я іду…
А пераліўніца дзівосная
Паміж дрэў
Пралескай сіняй мільгаціць.





**Алесь ВЕТАХ**

# СВАЯ ДОЛЯ

*Апавяданне*

Кацярыне зноў сніліся цяжкія роды яе першынца. Хутка адышлі воды, а дзіця ўсё не паказвалася, затрымлівалася там, у мацярынскім улонні, быццам не жадала з'яўляцца на вочы людзям. Тады вопытная акушэрка ўзяла складзены ў некалькі столак ручнік і, паклаўшы на выпуклы жывот маладзенькай парадзісе, пачала лёгенька націскаць ім зверху на плод, дапамагаючы яму вось такім чынам выбавіцца на свет. Кацярына ад пякотнага болю і роспачнага страху дыхала ўзахлёб, цярпліва, сцяўшы вусны, стагнала, намагалася рэагаваць на загадныя вокрыкі акушэркі і тужылася з усёй сваёй сілачкі. Вочы ад натугі, здавалася, вось-вось выскачаць з арбіт ці лопнуць, як бурбалкі, а сэрца не вытрымае шалёны галоп і выбухне, разляціцца на дробныя кавалачкі. Жанчыны ў бялюткіх халатах доўга завіхаліся пры ёй, змакрэлай парадзісе, і ўсё ж далі рады, каб гэты малюпасенькі хлопчык сваім першым крыкам абудзіў у ёй пачуццё бязмежна-вялікай мацярынскай радасці.

А затым Кацярыне снілася, што яна са спавітым дзіцяткам, загорнутым у байкавую пялюшачку, стомлена перабірае босымі збітымі нагамі шпалы па чыгуначным палатне. Марудна ідзе, цягнецца, ашчаджаючы сілы, пад нялітасцівым спякотным сонцам. І гэтай пакутнай хадзе, здаецца, няма канца. Чыгунка, абапал якой разлёгся лясны гушчар, вядзе ў далеч, за распалены бела-блакітны небасхіл. Невыносная несупынная хада доўжыцца, у сне яна забірае апошнія сілы жанчыны, якая хвалюецца, каб хаця ўтрымаць немаўля і не ўпасці на чыгуначны шлях…

Васілёк нарадзіўся на світанку, дзесьці а палове пятай раніцы, за двое сутак да той хвіліны, калі за вокнамі радзільнага дома пачуўся густы працяжны гуд, падобны да навальнічнага, але адрозны тым, што ён не сціхаў ні

---

*__Алесь Ветах (Бельскі Алесь Іванавіч)__ нарадзіўся 23 ліпеня 1963 года ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці.*

*Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1986). Доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ. У 2000—2002 гг. узначальваў лабараторыю літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. З 2001 г. адначасова — галоўны рэдактар часопіса «Беларуская мова і літаратура».*

*Выдаў кнігі прозы «Ружовая знічка» (1994), «Хроніка смутку» (1999). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (2000).*

*Выступае як літаратуразнавец і крытык.*

на хвілю, а, наадварот, мацнеў, шырыўся, запаўняў усё наваколле. Уяўлялася, быццам хтосьці дужа вялікі і магутны недзе далёка з усёй сілы дзьме ў нябачную іерыхонскую трубу, гул якой пагрозліва коціцца ў нябёсах па-над зямлёй. Кацярына ўзняла галаву і, падпёршы яе левай даланёй, услухоўвалася ў гэтае манатоннае і гнеўна-злавеснае гудзенне, і яно трывожнаю ўтрапёнасцю адгукалася ў чуйнай, уражлівай жаночай душы. Здавалася, вось-вось пачуецца постук буйных дажджавых кропель і пачнецца страшная ў сваёй неўтаймаванасці навальніца: з вогненнымі стрэламі маланак і аглушальнымі перуновымі грымотамі. Маладая маці ляжала сцішана і баялася варухнуцца, толькі мацней гарнула да сябе дзівосны і самы дарагі на свеце скрутачак-цуд — малюсенечкае дзіцятка з кранальным вострым носікам і ружовымі шчочкамі. «Мая ты бобінка», — падумалася ёй са шкадобаю ў гэтую змрочную пераднавальнічную хвіліну.

І раптам на дварэ побліз грымнула, ды так незвычайна моцна, нібы сто перуноў. Скалануўся будынак раддома, і, здавалася, страсянулася ўсё навокал. Са звонам пасыпалася шкло, і праз вокны ў пакой шуганоў чорны едкі дым. Затым рванула зноў, яшчэ бліжэй, ускалыхнуўшы паветра, і магутная выбуховая хваля раз’юшана пачала крышыць, руйнаваць будынак: з грукатам упала некалькі бярвёнаў, трашчалі дошкі, ляцелі кавалкі драўніны, на галаву пасыпалася кастрыца. Раддомаўскія пакоі ўмомант запоўнілі роспачныя крыкі жанчын, якія, нічога не цямячы, спуджана мітусіліся, спрабуючы ратавацца. Кацярына таксама ўскочыла і адразу падхапіла на рукі дзіця, кінулася з адчаем да выхаду. На бягу яе працяла вострая пякуча-панічная думка: «Усё! Канец свету!» Маладзенькая маці ў поцемках намацала крук і рыўком адчыніла дзверы, выскачыла на панадворак і паспела прабегчы крокаў з трыццаць ці крыху больш, як бухнула так, што здрыганулася, бы ў ліхаманкавым прыпадку, зямля. Заклала вушы, нейкая нябачная сіла рэзка і моцна штурханула ў плечы — і Кацярына, тулячы да сябе скрутак з дзіцем, павалілася долу. Будынак радзільнага дома пачаў імгненна развальвацца, рассыпацца з грукатам па баках, нібы яго крушыў шалёны смерч. Увобмірг абваліўся масіўны дах, узвіліся агністыя языкі полымя і ўзняліся чорныя слупы дыму. Кацярына распласталася ніцма, побач з ёю ў сполаху плакала-крычала немаўля, якое неўзабаве пачало заходзіцца ад прарэзлівага енку…

Жудасны гул патроху аціхаў, аддаляўся. Густым шлейфам да ракі плыў чорны чадны дым. Кацярына ўздрыгнула, калі яе нехта пакратаў за плячо. Яна павярнула галаву і ўбачыла, што над ёю схілілася фельчарка — але не ўчарашняя, а незнаёмая, якая заступіла звечара на змену. Маладая маці, аглушаная выбухамі, усё ж учула бездапаможны дзіцячы плач і крык, паднялася і пераняла ў фельчаркі запэцканы скрутак з немаўлём. Суцішваючы малога, Кацярына разгледзела пры старой разложыстай бярозе некалькі гэткіх жа, як яна, маладзенькіх жанчын у сподніх з бруднымі плямамі сарочках. Адна з іх, невысокая і паўнатварая, таксама гушкала-гойдала спавітае дзіця, другая нацягвала на сябе сіні джэмпер, трэцяя, з выпуклым жывоцікам і растрапанымі валасамі, сядзела нерухома, быццам у непрытомнасці. Збялелая, перасільваючы дрыжыкі, Кацярына наблізілася да бярэзіны і, выдаючы свой разгублены позірк, ціха спытала:

— Што ж гэта за ліха такое?

Яна прамовіла такім голасам, нібы ўзмалілася, просячы сказаць праўду пра тое, што здарылася, хоць і сама прадчувала нядобрае, жахлівае. Перш здавалася, быццам пачаўся магутны землятрус, пра які яшчэ не так даўно Кацярына

рына чула ў школе. Ніхто з маладых жанчын не азваўся, не зважаў на яе, бо, хутчэй за ўсё, быў ці ў шоку, ці проста не ведаў адказу на пытанне, якое цяпер турбавала-даймала гэтых няшчасных ахвяр раптоўнага паветранага налёту. Заняменне і маўчанне застылі на маркотных тварах. Следам сюды падышла фельчарка, якая пачула прамоўленае і, адкінуўшы праваю рукою пасму акрываўленых валасоў з пакрамсанага ілба, выказала версію-здагадку:

— Вайна гэта, мабыць, вайна, от што. Яна, шаляніца, наляцела, уздыбіла ўсё дагары нагамі. Я чую яе хціві дух. Далдонілі, далдонілі — і яна тут як тут. Дальбог, гэтая паскудніца прыйшла. Ратавацца нам трэба.

Зноў пачаў плакаць і крычма крычаць Кацярынін першынец…

Яшчэ моцна тлелі недагаркі на папялішчы раддома, калі да жанчын пачало дакочвацца рэха далёкіх выбухаў і страляніны. «Пэўна, пры мяжы», — думала Кацярына, седзячы з малым на каленях у засені і тулячыся спінай да тоўстай бярозавай кары. Ды і астатнія не сумняваліся: там ідзе бой і гінуць людзі. У Кацярыніных адчуваннях пульсаваў трывожны неспакой, яе прыгнечвалі жах і роспач ад невядомасці і неадчэпнай думкі пра тое, што будзе далей — праз хвіліну, гадзіну, да канца гэтага вар'яцкага дня. Здавалася, свет раптоўна перакуліўся, перайначыўся і ўсё навокал зрабілася падманлівым, несапраўдным. Яна, Кацярына, нібы апынулася ў цяжкім мройлівым сне і не магла зразумець, што да чаго, чаму накацілася гэтая грозная вайна-навальніца. Баялася маладзенькая маці не за сябе, а за яго, маленькага Васілька. Усім сэрцам трывожылася і пра свайго Косціка, мужа-пагранічніка, які цяпер недзе там, на заставе, ваюе, бароніць парушаную мяжу. Кацярына пакутліва думала пра нечаканую бяду-няшчасце і ўсёй існасцю клікала на помач міласэрнага Бога, каб збярог яе Косціка, каб спыніў насланнё, што знянацку абрынулася на іхнія галовы. «Як ён? Ці не ранены?» — надломваючы душэўны стан, наскрозь прастрэльвала думка, і хоць жанчына адпрэчвала гэтае сваё несусветнае хваляванне, але ніяк не магла стрымаць сябе, калацілася ад адной згадкі пра любага-даражэнькага Косціка. Не ведала і вымяркоўвала, што рабіць далей. Калі Кацярына кранулася з месца, каб ісці з дзіцем туды, у бок далёкай заставы, фельчарка, аклікнуўшы яе, строга загадала:

— Стой! Ты куды? Хіба не чуеш, як страляюць? Ачомайся, не рабі глупства! — І, намагаючыся пераканаць яе, Кацярыну, дадала: — Ты яшчэ дужа кволая, ногі ледзьве трымаюць. Нельга туды, там сапраўдная вайна, а не манеўры якія. Разумееш? Ці ў пекла з дзіцем захацела? Словам, не рыпайся! Я сказала!

Кацярына пакорліва спынілася, аднак патлумачыла свой намер:

— Там мой муж Косцік. Лейтэнант Малышаў. Ён жа так сынульку на свет чакаў. Хай пабачыць нашага Васілька.

— Толькі не цяпер, дарагуся, не сёння, — і фельчарка, жанчына немаладога веку, быццам клапатлівая маці, паклала ёй руку на плячо, пачала супакойваць і засцерагаць ад небяспекі: — Паспее твой Косцік і нацешыцца з малога. У вас цэлае жыццё наперадзе. Хай там з хлопцамі павае трохі, няпрошаных гасцей ім трэба выкурыць. Яны ведаюць сваю справу, хутка справяцца. А табе дзіцятка зберагчы трэба. Гэта твой мацярынскі абавязак! Зразумела?!

— Ага, — і яна хітнула галавой у знак разумення і згоды.

— Вось і добра, — заключыла фельчарка, узіраючыся ў бок няблізкай заставы, дзе на баявых пазіцыях разгарнуліся трагічныя падзеі першага дня вайны…

На скрыжаванні, непадалёк ад радзільнага дома, дакладней, таго, што засталося ад яго пасля бамбёжкі і пажарышча, спыніліся два грузавікі — так званыя палутаркі, на адной з якіх сядзелі жанчыны з дзецьмі, а ў кузаве другой, пра што стала вядома пасля, ляжалі параненыя.

— Кацюша! Каця! Бяжыце сюды! — гукала і махала рукою з машыны хударлявая жанчына ў ружовай блузцы і белай касынцы: яна, калі палутарка вымкнула на скрыжаванне, адразу разгледзела сярод людзей пад дрэвам жонку лейтэнанта Малышава. Кацярына схамянулася і не верыла сваім вачам, калі перад ёй паўстала машына і адтуль яе гучна паклікалі. Узнімаючыся з долу, яна ў схіленай да кабіны жаночай постаці пазнала Веру Анісімаўну, жонку палітрука пагранатрада, з якой пазнаёмілася літаральна ў той дзень, як яны прыехалі на месца ягонай службы.

— Не марудзьце, галубка мая, узлазьце хутчэй! — прасіла, прыспешваючы Кацярыну, Вера Анісімаўна, якая падхапіла працягнутае ёй спавітае дзіця, а затым падала руку ўзрадаванай маці, што гэтак нечакана сустрэла сваю знаёмую. На хвілю нават крыху на душы адлягло. Ды радасць яе была мімалётная, бо, апынуўшыся ў кузаве, убачыла замаркочаных, унураных жанчын і напалоханых дзяцей, якія моўчкі туліліся да сваіх матуль. Машына рэзка тузанулася і паехала.

— Што там, на заставе? — пільна гледзячы ў вочы жонкі палітрука, адразу ж з нясцерпнай гарачлівасцю пацікавілася Кацярына.

— Ох, лепш не пытайцеся, Кацюша. Цяжка перадаць і пераказаць, што там робіцца, — уздыхнуўшы, прамовіла пазмрачнелая Вера Анісімаўна: адчувалася, ёй не хацелася гаварыць, каб не хваляваць маладзенькую маці. Яна паведаміла галоўнае, асноўнае: — Германец на нас напаў, вайною рушыў. З гармат доўга стралялі з таго боку. Затым праз мяжу лавінай рынуліся. Нашым цяпер даводзіцца атаку за атакай адбіваць. Пакуль ваююць, трымаюцца. Магчыма, з тылу вось-вось дапамогу прычакаюць, тады і пагоняць назад гэтую нахабную банду, — і перайшла да гаворкі пра тое, што тычылася яе, Кацярыны: — Ваш Канстанцін Андрэевіч неяк усё ж вырваўся на хвілінку, прыбег, калі нас на машыны садзілі. Вельмі прасіў заскочыць і забраць вас з раддома. Ён сёння планаваў як мага хутчэй прыехаць сюды. Самі ж разумееце: каб жа не гэтая страшная навала… — і пасля нядоўгай паўзы працягвала: — Казаў мне, што хлопчык нарадзіўся. Ён перадаў вам клуначак. Вось, калі ласка, вазьміце, — затым, разглядаючы засяроджана, уважліва тварык немаўляці, абмовілася: — Шчаслівы ваш Косця: сынок падобны да свайго татусі. Яго маленькая кропелька.

У гэты момант дзіця моцна заплакала. Напэўна, Васілёк адчуў чужыя рукі ці проста яму захацелася падсілкавацца маміным малачком.

Палутарка, падымаючы слуп белага пылу, імчала ў бок чыгуначнай станцыі…

Маладзенькі лейтэнант заўважыў яе, Кацю-Кацярынку, у клубе пагранічнікаў, дзе яна выступала ў складзе дзявочай вакальнай групы на канцэрце мастацкай самадзейнасці. Было тое на самым схіле лета 1939 года, акурат мінаў другі месяц яго службы. Дзяўчаткі, мястэчковыя школьніцы, з незвычайнай прачуласцю спявалі лірычную песню і вадзілі на сцэне карагод. Сярод іх вылучалася чарнакосая, статная і мілавідная красуня ў чырвона-чорнай вышыванцы, нечым падобная да цыганачкі. Яна рабіла плаўныя, грацыёзныя рухі і лагодна, неяк загадкава ўсміхалася. Маладому лейтэнанціку, хлопцу высокаму, дужаму і вельмі сімпатычнаму, падалося, што тая ўсміхаецца толь-

кі яму ў гэтай вялікай глядзельнай зале. Вось, маўляў, яму першы падарунак лёсу за службу на пагранічнай заставе. Косцю Малышаву, усхваляванаму дзявочым харастром, адразу ж нясцерпна захацелася пазнаёміцца з ёю, гэтай чарнявай мясцовай прыгажуняй. Раптам гучна затахкала сэрца, і, здавалася, міжволі запаліўся нябачны агеньчык, які трымцеў, разгараўся і напаўняў усю істоту лагодаю-цеплынёй. Як слаўна і цудоўна, што ён тут і мае шчасце бачыць гэтую гожанькую кветачку! Грудзі хлопца распірала нецярплівасць, ён мроіў пра магчымасць знаёмства з ёй і ўчапіўся цяпер за адну-адзіную думку — як знайсці зручны момант, каб падысці ці падступіцца да юнай незнаёмкі. Яго абнадзейвала і суцяшала тое, што далей у клубе будуць танцы, і, хутчэй за ўсё, яна застанецца пасля канцэрта, а таму наперадзе ёсць выдатны шанец, каб спраўдзіць таемнае жаданне.

І Малышаў не памыліўся. У зале пасля воплескаў і авацый вокамгненна прыбралі, рассунулі па баках крэслы і пачаў іграць духавы аркестр. Першымі загучалі «Дунайскія хвалі». Лейтэнант Малышаў, гамонячы ў гурце маладых афіцэраў, наважыўся і рашуча рушыў наўпрост праз усю залу да купкі мясцовых дзяўчат. Дарма ён спадзяваўся на поспех, бо здарылася непрадбачанае, нечаканае: дзяўчына здзіўлена і неяк насцярожана зірнула на яго, раптам імгненна запунсавелася, з ніякаватасцю апусціла вочы, а затым палахліва адступілася ўбок і стрымгалоў кінулася наўцёкі. Прыгаломшаны, прысаромлены і разгублены лейтэнант не ведаў, дзе сябе падзець. Толькі з лёгкай абуранасцю і неўразуменнем прамармытаў:

— Нейкая дзікая, ці што?..

Крыўда і горыч даймалі хлопца, які атрымаў вось такую, як здавалася, ганебную адмову мясцовай ганарліўкі. Каб ведаў, што тая такое адчыбучыць, то і не рыпаўся б, а так хлопцы толькі ўвесь вечар абсмейвалі, выскаляліся, дапякалі шпількамі. «Ну, краля! От, цыпа-цыганка!» — злаваў і гневаўся Косця. І зусім дарэмна. Калі глядзець і запабягаць наперад. Аднак у той момант праз бурную неўтаймоўнасць эмоцый ён не мог дайсці розумам, дапяць, як кажуць, і адчуць, што зрабіў свой першы, хай сабе няўдалы, лёсавызначальны крок да моцнага і вялікага кахання.

Па-сапраўднаму іх пазнаёміў яго вялікасць выпадак. Але ж усё, што здараецца, бывае не само па сабе, а таму, што Бог так дае. Магчыма, разуменне гэтага прыходзіць толькі праз шмат гадоў чалавечага жыцця. Пагранічнікі разам з мясцовай школай рыхтавалі восеньскі баль. Начальнік клуба, так званы культмасавік, сібірак Гарчакоў паклікаў і прапанаваў яму, Малышаву, вясёлы і прыемны занятак — падрыхтаваць з якой-небудзь маладзенькай настаўніцай беларускі танец, лепш за ўсё, маўляў, польку. І, падміргнуўшы па-змоўніцку вокам, сказаў: «На танцулях, як навучышся, тваё майстэрства будзе ацэнена і запатрабавана. Каб ведаў: тутэйшыя дзяўчаты толькі полечку і скачуць. Так што поспех гарантаваны, адбою ад іх не будзе. Усе красатулі — твае! Давай пад вечар джгай на перадавую ў школу. Я ім паабяцаў некалькі маладых арлоў прыслаць. Цяжка прыйдзецца ў вучэнні, затое лёгка на асабістым фронце. Чалавек ты здатны, усё атрымаецца». І як у ваду глядзеў учэпісты, настойлівы і хітрамудры Гарчакоў: лейтэнант любіў вальсіраваць і іншыя розныя танцы, цягнула і да знаёмстваў з мясцовымі красунямі, хоць і адбылася першая, як здавалася, асечка, таму пагадзіўся на павышэнне сваёй боегатоўнасці на культурным фронце…

Кацярынка, пабачыўшы таго самага лейтэнанта, зардзелася і вінавата адвяла позірк. Яна доўга дакарала сябе за гарачлівы, брыдкі, нават непры-

стойны ўчынак. Пабегла, як дурнічка, быццам нейкі нячысцік штурхануў у каршэнь, не падумала, што чалавек трапіць у няёмкае становішча. Цяпер дзяўчыне было прыкра, не па сабе, яна стаяла счырванелая ў здранцвенні, ёй дужа хацелася праваліцца скрозь зямлю. Лейтэнант, відаць, адчуў яе ўсхваляванасць і перажыванні з-за таго, што адбылося паміж імі, зрабіў выгляд, што нічога раней не здарылася і спытаў:

— Прабачце, як вас завуць?

— Каця, — ціха прамовіла ў адказ дзяўчына.

— А я лейтэнант Малышаў, ці для вас проста Косця, — і працягнуў ёй руку.

Яна сарамліва падала яму сваю і ледзь прыкметна ўсміхнулася.

Так яны пачалі танчыць польку на першай рэпетыцыі. Школьная дырэктарка і кіраўніца мастацкай самадзейнасці стварыла чатыры пары, падбірала адно аднаго па росце, яшчэ толькі ёй вядомых крытэрыях. Лейтэнанту Малышаву выпала яна, Каця-Кацярынка. Апрача яго, у парах-дуэтах апынуліся два сяржанты і малодшы лейтэнант Бяляеў. А са школьнага боку ў танцорах былі дзве настаўніцы і дзве вучаніцы выпускнога класа — усе прыгожыя і вабныя. Але яна, Кацярына, глядзелася, бадай, самай пекнай і зграбненькай. Малышаў трымаў дзяўчыну за руку і трымцеў, хваляваўся, быццам хлапчук-падлетак, хоць і выглядаў нашмат старэйшым за яе, нібыта вайсковая форма дадавала яму сталасці і большай упэўненасці ў сабе. Ад такога нечакана шчаслівага павароту лёсу ён быў на сёмым небе.

Пасля трэцяй рэпетыцыі лейтэнант асмеліўся і наважыўся на праводзіны. Прапанаваў — і Кацярына пагадзілася, хоць і непакоілася: толькі б у прыцемках не патрапіць на каго-небудзь з бацькоў ці суседзяў. Крый божа, каб тое не здарылася. Не хацелася б, каб пасля матуля ці бацька ўшчувалі і казалі, што трэба пра вучобу дбаць, а не на хлопцаў заглядвацца. Кацярыне ўвесну мінула толькі шаснаццаць, і дзяўчына яшчэ ні разэчку ў жыцці не цалавалася. Яе больш займала мара пра інстытут, хацелася вывучыцца на настаўніцу. Там, у вялікім горадзе, думалася і верылася ёй, яна і сустрэне сваё сапраўднае каханне. Але яе напаткала іншая доля. Кацярына хутка і моцна закахалася тут, у сваім невялікім мястэчку. Яна і сама не ведала, ды і не магла б, напэўна, растлумачыць, як сімпатыі да гэтага маладзенькага лейтэнанта перараслі ў штосьці большае. Сваім далікатным сэрцам дзяўчына адгукнулася на яго ўзнёслыя і пяшчотныя словы-пачуцці. Першы нясмелы пацалунак абудзіў нешта дасюль невядомае ў ёй, і Кацярыне хацелася зноў і зноў зведаць гэтыя вострасалодкія адчуванні. Яна трымцела ў моцных гарачых абдымках, млела ад галавакружных ласкавых дотыкаў, адказвала, як даверлівае дзіця, шчырай узаемнасцю. Каця кожны надвячорак бегла, літаральна імчала на чарговае спатканне. Яна адчувала, што ўжо не можа без яго жыць. «Любіцца з кімсьці наша Кацька», — паведаміла яе маці свайму мужу Тарасу разгаданую таямніцу, як толькі заўважыла відавочныя перамены ў паводзінах дачкі: тая шмыгала сюды-туды, нібы не знаходзіла месца, раз-пораз глядзелася ў люстэрка, хуценька пераплятала чорную касу.

Хто ён, Кацярынін кавалер, бацькам стала адразу зразумела, калі на клубнай сцэне яны пабачылі, як гарэзліва, імпэтна іх дачка скакала полечку з маладзенькім лейтэнантам-пагранічнікам…

Яе каханы не прыйшоў на спатканне — і дзяўчына выплакала дарэшты слёзы, калацілася ад пякучай крыўды. Чакала-чакала, а Косцік не з’явіўся пры старым закінутым свіранку, хоць прагледзела ўсе вочы. «Мабыць, разлюбіў.

Пэўна, нацешыўся», — з пакутлівым болем думала яна, адчуваючы сябе падманутай і пакінутай. Вярнулася дамоў і да ранку, абхапіўшы падушку, душылася пякучымі салёнымі слязьмі.

Аднак яе лейтэнант пад вечар наступнага дня неспадзявана завітаў у іхнюю хату. Дзяўчына мыла посуд і ад нечаканасці ледзь утрымала гранёную шклянку, крыху злякнулася, бо адчула: нешта здарылася. Здзівілася не менш, а можа, і больш, гэтаму раптоўнаму візіту і Кацярыніна маці, якая адразу прыўзнялася з-за стала і першай адгукнулася на яго «Добры дзень!», з ветлівою ўсмешкай запрасіла нечаканага госця прысесці.

— Вось прыйшоў развітацца, — засмучана сказаў ён і краем вока павёў у бок Кацярыны, якая выцірала ручніком мокрыя рукі.

— Дачушка, сабяры што-небудзь на стол, — загадным тонам падштурхнула маці Кацярыну, каб тая не стаяла, як укапаная.

— Не-не, нічога не трэба. Я ўсяго на хвілінку, не больш, — адмаўляючыся, прамовіў ён і папрасіў: — Хіба, калі можна, то глыток халоднай вады.

Кацярына хуценька падала лейтэнанту шклянку вады, і той, выпіўшы яе, зірнуў на ручны гадзіннік і сказаў:

— Часу вобмаль, таму скажу галоўнае. Ведаеце, маці, кахаю я вашу Кацю. І кахаць буду заўсёды. Хацеў бы прасіць вашага дазволу ажаніцца з ёй. Праўда, не цяпер, а як вярнуся. На днях з’еду адсюль. Я ж чалавек вайскова, а загад ёсць загад.

Кацярына зрабілася пунсоваю, як мак у гародчыку, збянтэжана і вінавата пазірала на маці, не ведаючы, што тая скажа на ўсё гэта. Крыўда на хлопца, якая азмрочвала дасюль дзяўчыну, умомант знікла, яна ўжо не згадвала з прыкрасцю ўчарашняе, а ўзрушылася так, што сэрца моцна стукацела і магло выскачыць з грудзей. Праўда, яна з горыччу і дакорам падумала: «А маёй згоды не папытаў. Быццам я лялька ці рэч якая». Лейтэнант Малышаў прыйшоў сватацца, і маці з дачкою адчулі ўсю яго рашучасць, упэўненасць у сваіх словах. Кацярына памятала, як мястэчковыя кабеты, згадваючы сватанне, казалі: калі бяруць — ідзі, бо такая бабская доля. Аднак дзяўчыну ўскалыхнула пачуццё вялікай трывогі, і гэтая неспакойная хваля гойдалася-білася там, усярэдзіне, і ёй нясцерпна захацелася кінуцца да Косціка, моцна-моцна пацалаваць яго і задаць тысячу пытанняў: куды? навошта? а мо назаўсёды? ці вернешся, як абяцаеш, і калі? мо разлюбіш? як я буду без цябе? Божачкі, што рабілася на яе душы, якая бура-стыхія вІравала ў ёй!

Маці моўчкі выслухала патэнцыяльнага жаніха, прэтэндэнта на руку яе адзінай дачушкі і раптам усвядоміла, што гэта не гульня ў сватанне, а сур’ёзны намер маладога чалавека, які пакахаў яе дзіця і марыць назаўсёды забраць яго з сям’і. Калі вернецца і ажэніцца, то павязе некуды ў свет, далёка ад роднае хатачкі. Але ж яна ўжо амаль дарослая. Паглядзеўшы на Кацярынку, цяпер выяўна ўбачыла ў ёй штосьці недзіцячае: туга наліліся і выпукліліся маленькімі гарбузікамі грудзі, трохі пакруглела, і ад гэтага ў яе постаці з’явілася жаночая вабнасць. Вось такая яна, нявестачка. «Ранняя», — падумала маці пра сваю Кацьку. Ды нічога не зробіш, бо гэткая жаночая доля наканавана ёй ад самай калыскі — прыйшла пара збірацца замуж, раджаць і гадаваць сваіх дзетак. І чамусьці яшчэ вельмі шкада стала гэтага маладзенькага афіцэра і файнага хлопца: дужа ён прыглянуўся, спадабаўся на тым канцэрце ў скоках з яе Кацярынкаю. «Прыгожая пара», — падумалася тады не ёй адной.

— Ды калі ўжо так, то чакайце адно аднаго, — нічога не маючы супраць іх узаемінаў, абнадзейвала маці магчымага будучага жаніха.

Яна адчувала: галоўнае — захаваць далікатнасць і не нашкодзіць пярэчаннем ці адмоваю, не заступаць маладым упоперак дарогу, бо ўсё ў жыцці, пэўна ж, пойдзе сваім парадкам, як Бог таго пажадае. Колькі яны тут ведаюць адно аднаго — сышліся, пагулялі, а цяпер ніхто не ведае, што будзе далей. Ясна адно як белы дзень: ён некуды з’едзе, а яна застаецца.

Кацярына ведала: калі маці не адмаўляе, то бацька яе добры, ён тым больш пагодзіцца з тым, што кажа маці, будзе падтакваць ёй і пацісне па-мужчынску руку будучаму зяцю. Дзяўчына ўзрадавалася, аднак знешне аніяк не выдавала свайго пачуцця. Але як толькі Малышаў кінуў позірк на свой ручны гадзіннік і падняўся, раптам вочы яе заліліся слязьмі. Кацярына пайшла за ім следам з хаты, правяла да весніц. Ішла, усхліпваючы, і з разгубленай няўцямнасцю ціха мармытала: «Як жа так! Я ж…» Пры весніцах Косця з пяшчотаю абняў дзяўчыну за плечы і моцна прыпаў да яе дрыжачых вуснаў.

— Ты мая любая, харошая, даражэнькая…

— Як жа так?!. — неўразумела працягвала шаптаць яна і наўзрыд заплакала.

— Кацька, брыльянтавая мая! Ты толькі пішы, чакай — і я абавязкова вярнуся. Мы абавязкова будзем разам. Штодня, заўсёды, усё жыццё! Чуеш?!

Хлопец спрытна падхапіў яе на рукі і лёгка кружлянуўся некалькі разоў па гадзіннікавай стрэлцы. На развітанне ёй, заплаканай і засмучанай ад пачуцця безвыходнасці, ён, падбадзёрваючы, радасна выгукнуў:

— Каця! А першы танец за мною! Ох, і ўрэжам мы з табою полечку, падэшвы гарэць будуць! Рыхтуйся, дамо жару!

Лейтэнант Малышаў заспяшаўся да штаба пагранатрада. Адтуль шлях яго ляжаў на заставу…

Акурат мінуў цэлы год, як Канстанцін пакінуў мястэчка. Мяжа пасля верасня 1939 года пасунулася далёка на захад. Кацярына маркоцілася, не магла дачакацца першай весткі ад свайго мілага і дарагога Косціка. Не ўтрымлівалася і ледзь не штодня выбягала насустрач паштарцы. «Падскоквай, Кацька, скачы!» — урэшце радасна выгукнула цётка Маня з канвертам у выцягнутай руцэ. Лейтэнант Малышаў гэтак жа з нецярплівасцю чакаў першага ліста. А потым яны бесперастанку пісалі адно аднаму, не стамляліся брацца за пяро, бо клікала-гукала сэрца. Закаханыя ліставаліся доўга, аж да самага вяселля. Не проста падтрымлівалі сувязь-ліставанне, а пісалі, выказваючы шчырыя сардэчныя пачуцці, свае настроі, усё самае таемнае. Кацярына адаслала каханаму больш за сотню лістоў і атрымала адказ на кожны з іх. Каб льга было скласці ўсе гэтыя лісты разам, то атрымаўся б цэлы лірычны раман — зразумела, пра яго і яе каханне. А далей яны з Косцем лічылі дні да першага спаткання пасля вымушанай разлукі. Час для Кацярыны цягнуўся спакваля, дужа марудна. Яна жыла светлымі ды сумнымі згадкамі пра свайго каханага-любага, мроіла пра іх супольную будучыню.

Доля не абмінула іх. Той дзень вяселля прыйшоў: ён вызвоньваў граннем скрыпкі, гармоніка і бубна, а затым грымеў на ўсю ваколіцу трубамі духавога аркестра. Сонейка агортвала мяккім цяплом восеньскі абшар, а пасля ўрачыстага шлюбнага роспісу маладых прыветліва і лагодна высвечвала ім шлях да бацькоўскае хаты. Вяселле з музыкай і скокамі гуло два дні. На сталах усяго было ў дастатку — Кацярыніны бацькі не пашкадавалі для адзінай дачкі апошняга. Гасцям пілося, елася і добра гулялася. Кацярына была самая шчаслівая на свеце, і Косця таксама зведаў вялікую асалоду-шчасце ад таго, што каханая дзяўчына ўрэшце стала яго жонкаю. Калі імпэтна вытанцоўвалі,

скакалі доўгачаканую полечку, то з імі ад радасці, здаецца, шпарка закруцілася сама зямля.

Першыя і ўсе наступныя ночы яшчэ больш зблізкалі іх у даверлівай і глыбокай адданасці адно аднаму. Косцю здавалася, што гэтыя дзявочыя вусны, шчочкі, смуглая шыя з радзімкай-крапінкай выключна для таго, каб цалаваць-расцалоўваць іх бясконца. Ён ужо толькі і ведаў, што прагнуў пацалункаў і мілавання.

— Вось і паслаў мне Бог такую гожую і слаўную жоначку. Ашчаслівіў, узнагародзіў, — з пяшчотнай удзячнасцю прамовіў Косця, лежачы пры сваёй чароўнай і дарагой палавінцы.

— Слаўны камандзір Чырвонай Арміі згадвае Бога? — з лёгкай іроніяй спытала Каця, хоць, пэўна, у ёй загаварыла камсамолка, выхаваная савецкай школай, і паглядзела на мужа здзіўленымі вачыма з хітрынкай: — Не пазнаю свайго Косціка, аж не верыцца, — і ці то сур'ёзна, ці то крыху жартаўліва заўважыла: — А мо гэта нас таварыш Сталін блаславіў?

Косця выразна зразумеў тонкі намёк сваёй абранніцы: яна вучыла яго полечцы на школьнай сцэне перад вялікім, нават агромністым партрэтам правадыра і бацькі народаў. Сталін, здавалася, крыху загадкава прымружваў вока і лагодна ім усміхаўся, гледзячы, як маладая пара нехлямяжа асвойвала першыя рухі і каленцы, а пасля заскакала, нібы завядзёная. І ўсё ж Малышаў адчуў ніякаватасць, нават трохі збянтэжыўся, думаючы, што не варта ім, маленькім людзям, чапаць самага галоўнага і вельмі пільнага чалавека ў краіне, тым больш дазваляць нейкія жартачкі. Сталін, маўляў, гэта святое. Яму не спадабалася Кацярыніна недарэчная фрывольнасць, аднак ён не захацеў дакараць маладую жонку за гэта, а дазволіў сабе падкпіць з роднага ёй чалавека — бацькі:

— Блаславіў мяне добра твой татуся: так моцна пацалаваў, што ледзь паўгубы не адкусіў.

Гэты жарт-кпін прыйшоўся Кацярыне не даспадобы.

Вось так пачыналася іх сямейнае жыццё. Цяпер яны былі адно цэлае, маленькая ячэйка ў сотах чалавечай супольнасці. Трэба было будаваць і мацаваць маладую сям'ю. Праз дзень яны развіталіся з бацькамі, падзякавалі ім за вяселле і падаліся на новае месца службы лейтэнанта Малышава…

Косця цэлымі днямі прападаў на заставе, ля памежнай паласы. Да таго ж прыслалі новае папаўненне, і лейтэнант займаўся з маладымі байцамі, знаёміў іх з асаблівасцямі службы ў прыгранічнай зоне. Кацярына перш хацела ўладкавацца хоць на якую працу, каб не марнець у чатырох сценах, пазіраючы раз за разам на гадзіннік. Косцік, здаецца, не быў супраць. Нават паспеў дамовіцца, што яе возьмуць працаваць у гарнізонную бібліятэку-чытальню. Што ні кажы, а Кацярына паступіла ў педінстытут, была там амаль круглай выдатніцай. Аднак на вучобу больш не паехала, бо пайшла замуж і цяпер пакуль пра тое не шкадавала.

Бацькі, асабліва маці, дык наадварот перажывалі, што дачка адмовілася вучыцца і аддала перавагу замустваў, паехала з мужам у далёкія чужыя мясціны. Магла б стаць настаўніцай, як марыла, а так, мусіць, застанецца недавучкай, усяго толькі жонкаю кадравага афіцэра. Як ні дзіўна, але на адгаворы і скавытанне жонкі з асуджэннем адрэагаваў Тарас, бацька Кацярыны. Той не змоўчаў, як зазвычай, а заступіўся за дачушку:

— Кахае яна, разумееш? Ды і хлопец на ўсе сто. Такія на дарозе не валяюцца. Лейтэнант, афіцэр, начальнік заставы. А будзе мо палкоўнікам

ці генералам! Во як! Заладзіла з гэтаю вучобаю, быццам на ёй свет клінам сышоўся.

— Чакай, чакай! А на чым, па-твойму, трымаецца ён, гэты свет? — здзіўляючыся раптоўнай смеласці свайго мужа, спытала, нібы на строгім іспыце, крыху ўгневаная Кацярыніна маці.

— На чым, на чым… — не жадаючы ўвязвацца ў спрэчку з жонкаю, мармытаў пад нос Тарас, а пасля незадаволена буркнуў: — Сама ведаеш.

— Дык на чым? — даймала, дапытвалася Марыся, Тарасава жонка.

— Вось дачка выйдзе на двор, тады скажу.

— Кацька, схадзі вядро вады ачэрпай! — загадным тонам выгукнула маці і, верхаводзячы ў хаце, працягвала распальваць сварку.

Кацярына падалася з хаты да студні і не чула, пра што яны там, можа, з паўгадзіны гаманілі, але ў сенцах да яе даляцеў бацькаў прыглушаны голас: «Гляджу на цябе і дзіўлюся, быццам нічога не петрыш. Для бабы галоўнае не кніжкі з навукаю, а жаночая доля. А ўсё астатняе прыкладзецца. Захоча — вывучыцца. Кацька, доня наша, вунь шчасцем свіціцца, дык што табе яшчэ трэба?! Сама абяцанку ім дала, а цяпер, значыцца, у кусты. Не атрымаецца гэтак, галубка! Ах, Марыся, Марыся!..» Змірылася маці з Кацярыніным выбарам і далей са сваім Тарасам пачала рабіць так, каб дагадзіць адзінай дачцэ і тая пасля не мела ніякай крыўды. Выкланялася Кацярына мамачцы і бацьку, дзячыла за ўсё, і горка-радасныя слёзы дзяўчыны сыпаліся на вясельны стол.

А цяпер ваеншчына крута мяняла яе жыццё і лёс. Уладкоўвацца на працу, аднак, не пайшла. Неўзабаве яна пачала сябе блага адчуваць. Не магла дакрануцца да яды, бо рабілася млосна, круціла нутро, ледзь не выварочвала. Косця тэрмінова адвёз хворую жонку ў шпіталь да лекара, які агаломшыў не страшным дыягназам, а радаснаю весткаю: Кацярына зацяжарала, і ў іх народзіцца дзіцятка. Косця марыў пра сына і шчыра сказаў жонцы пра сваё жаданне, а яна, хоць і думала пра нараджэнне дачушкі, не прызналася. Хай лепш будзе найвялікшым, самым дарагім падарункам яму маленькі сынок, а дзяўчынку яна народзіць пасля — і будзе ў іх цэлая сямейка. Яны пачалі жыць гэтым радасным тамленнем у чаканні дзіцяці. Косця і Кацярына дамовіліся: народзіцца хлопчык — будзе Васілёк, а дзяўчынка — дык назавуць яе Васілінкаю. Божа, якая бязмежная Твая шчодрасць і любоў: і да таго, каму Ты праз каханне даеш жыццё, і да кожнага з бацькоў, калі ўліваеш ў сэрца вялікую радасць і запальваеш нязгаснае святло-надзею на будучыню! Хвала і ўдзячнасць Табе, Госпадзі, ад народжаных і тых, хто народзіцца на гэтай зямлі! Кацярына не проста інтуітыўна, а ўсёй існасцю адчувала: пад яе грудзямі б’ецца сэрцайка яго, малюсенечкага Васілёчка. Будучая маладая маці разам з лекарам падлічылі, што роды прыпадаюць прыкладна на сярэдзіну — канец чэрвеня. А час няўмольна бег наперад: мінуў месяц, другі, трэці…

Першая палутарка з раненымі завярнула да шпіталя, ды тут яна не затрымалася, выкіравалася на гравійку. Другая машына з жанчынамі і дзецьмі, якую далей суправаджала фельчарка з раддома, адстала, хоць і рухалася следам. Даехаўшы да чыгуначнага пераезда, аўтамабіль нечакана трапіў пад налёт варожых самалётаў з белымі крыжамі. Усчаліся роспачныя крыкі і паніка. Чэргі куль, выпушчаныя з кулямётаў, наскрозь прашылі жалезную абшыўку грузавіка, пасеклі шкло і трапілі ў людзей: абмёр і заліўся крывёю твар шафёра, адразу ж загінула некалькі жанчын і малая

дзяўчынка, кагосьці параніла. Кацярына першай перакінулася праз борт кузава і апынулася на зямлі, пераняла дзіцятка, дапамагла саскочыць Веры Анісімаўне, і жанчыны што было сілы кінуліся бегчы ў бок невялікага пералеску, што падступаўся да чыгункі. Самалёты, на шчасце, не вярнуліся, а пачалі бамбіць станцыю. Ад страху ў маладой маці калацілася, ледзь не выскоквала сэрца. Яны з Верай Анісімаўнай заскочылі ў глыб маладога хвойніку і пападалі ў высокі травастой пры тонкіх, невысокіх дрэўцах. У Кацярыны ўзмакрэла спіна, дрыжэлі, аж гулі, ногі. Жонка палітрука, засопшыся, цяжка наўзахлёб дыхала, аднак з палёгкаю абмовілася: «Пранесла, дзякуй Богу!» У яе сціснула скроні і моцна звінела ўвушшу. Васілёк зморшчыў тварык і заплакаў, просячы мамчыных грудзей. Кацярына расшпіліла верх сукенкі, якую яшчэ на машыне дастала з чамадана і дала ёй апрануць Вера Анісімаўна, прыставіла да дзіцячага роціка цыцку — малы ўхапіў сасок і пачаў прагна смактаць.

Праз нейкі час абедзве жанчыны вярнуліся да машыны. Яны забралі чамадан з рэчамі і пашыбавалі да чыгуначнай станцыі, дзе пасля бамбёжкі навокал шугаў пажар, высока ўздымаліся чорныя хмары. Вера Анісімаўна раптам схамянулася, быццам апамятавалася, і спынілася, сутаргавым рухам рукі затрымала Кацярыну, і, пільна ўзіраючыся ў працяг задымленага неба, сказала:

— Не, Кацюша, туды ісці не варта. Задыхнёмся ў гэтым смуродзе. Тым больш вы з дзіцем. Трэба выходзіць да чыгункі і, як раіў мой муж, неяк дабірацца да Полацка. Там нам з вамі можна будзе запыніцца ў яго далёкай сваячкі. Ніхто не ведае, колькі будзе доўжыцца гэтая праклятая сутычка. Бойка не на жарт усчалася. Добра, калі яна на дзень-другі… А калі будуць ваяваць месяц, два, ці, крый божа, год ці болей? Гэта ж вайна, а войны заканчваюцца не хутка. Вунь Першая сусветная колькі часу доўжылася, высмактала ўсе сілы, у вантробы ўелася.

Усё, што здарылася і што Кацярына пражыла з самага рання і да апоўдня, здавалася кашмарным сном. Ёй, маладой маці з толькі-толькі народжаным дзіцем, не верылася, што вайна будзе доўгай, яна шчыра спадзявалася, што калатнеча, у якую патрапіла, скончыцца да вечара ці яшчэ раней. І ўсё стане як учора ці тыдзень таму: яна будзе чакаць са службы свайго Косцю. Яны разам будуць люляць, пяшчоціць і гадаваць чаканага-жаданага сыночка.

— Але ж 17 верасня як усё пачалося, так неўзабаве і суціхла. Фінская хутка скончылася, — заўважыла з веданнем нядаўніх рэалій Кацярына і ўзрушылася: — Нашы, як бачыш, ім хвост прышчэмяць. Як прыперліся, так і пакоцяцца, пабягуць, як пацукі, — і з журлівай тугой, трывогай у голасе прамовіла: — Толькі б Косціка майго куля не зачапіла, не пакалечыла. Усё ж на вайне ўсякае бывае.

Вера Анісімаўна, адукаваная і разважлівая інтэлігентка, мабыць, мела ўласнае меркаванне, аднак быццам пагадзілася з тым, што гаворыць гэтая маладая жанчына, якая так хвалюецца і пра мужа-афіцэра, і пра дзіцятка, што нарадзілася проці невядомага новага ліха.

— А мо і так, як вы кажаце, будзе. Гадаць цяжка, але каб жа напароўся немец на востры штык — і дух вон, і вайне канец, то добра было б, — сказала Вера Анісімаўна і ўпэўнена дадала: — Ніхто і нішто не пераваюе наш народ. Гэта дакладна, — і далей, беручы на сябе адказнасць за іх траіх у гэтую скрушную хвіліну, прапанавала: — Будзем трымацца разам. Трэба шукаць часовага прытулку. Рушым уздоўж чыгункі на Полацк. Мо пашэнціць і хто падбярэ па дарозе, хоць трохі падкіне.

Перад чыгуначным пераездам жанчыны збочылі з бальшака на вузкую пясчаную дарогу, якая бегла, вілюжачыся, далёка-далёка наперад, быццам стварала канкурэнцыю шляху для руху цягнікоў: калі маеш патрэбу ці мусіш дапяць вялікага горада, то запрагай вазок і едзь сабе паціху, любуйся акаляючымі краявідамі. Моцна пякло і сляпіла гарачае сонца. Кацярына з Верай Анісімаўнай доўга крочылі, шкандыбалі, сунуліся і страцілі нямала сіл, пакуль праваруч не заўважылі невялікі хутар. На спёцы сушыла і катавала смага. І таму гэтыя хутаранскія пабудовы ўжо здалёк здаваліся жаданым прыстанкам. Натомленыя жанчыны з навярэджанымі, запыленымі нагамі ступілі на панадворак — забрахаў і кінуўся ў іх бок вялізны калматы сабака. З хаты выйшла немаладога веку гаспадыня і насцярожана зірнула на дзвюх незнаёмых кабецін, апраненых, як адзначыла яна, па-гарадскому. Хутаранка падумала, што гэта матка і дачка, якія дыбаюць пехатою з няблізкай дарогі. Вера Анісімаўна і Кацярына павіталіся — тая моўчкі хітнула галавой. Скрутачак з дзіцем абудзіў у душы гэтай з выгляду суровай жанчыны шкадаванне, жаданне дапамагчы найперш маладзенькай маці. Праўда, яна не запрасіла незнаёмых падарожных людзей у хату, штосьці яе, аднак, стрымлівала, а патрухала да варыўні і адчыніла дзверы гэтай велікаватай пабудовы. Такі яе жэст быў ужо вялікім шчасцем. Хутаранка, як лічыла патрэбным, прывеціла і прытуліла змораных жанчын, ад якіх даведалася, што пачалася вайна. Па ўсёй бачнасці, да пачутага паставілася з недаверам, бо на вестку ніяк не адрэагавала, не ўзрушылася: мабыць, меркавала, што гэтая падзея абміне яе адзінокі хутар. Або проста яна, унураная і негаваркая кабета, і знаку ніякага не хацела падаваць, быццам яе турбуе тое, што здарылася. Мала чаго людзі могуць нагаварыць, а пасля высветліцца, што тая праўда ніякая не праўда, а хлусня хлуснёй, нечая прыдумка, наўмысны зман. Жыццё, відаць, прымусіла хутаранку нікому стрэчнаму і чужому не даваць веры, не панікаваць, не лямантаваць і не скавытаць, як што якое, адразу, без пары і доказаў. Увачавідкі яна яшчэ не пераканалася, што хтонебудзь ці нешта ёй пагражае. Ды не гэта істотнае, а тое, што хутаранская дбайная гаспадыня напаіла і накарміла іх, пусціла на начлег, хай сабе і ў варыўні. Вера Анісімаўна і Кацярына потым пераканаліся, што нездарма яна не паклікала іх у сваю хату з квадратнымі маленькімі вокнамі. Праз нейкі час адтуль цераз парог выпаўз мажны, але маларослы, як карлік, хлопец-калека з усохлымі, быццам куксы, рукамі. Ён адразу ж гучна зарагатаў, як сам не ў сабе: «Гы-гы-гы!» От яна, прыгорбленая і хмурая, нібы нелюдзімая кабета, і не хацела паказваць сваё мацярынскае гора, сваё няшчасце. Кацярына глядзела на гэтага пакаранага Богам сына гаспадыні, тое, як ён высалоплівае, нібы пацвельваючыся, з жоўтым налётам язык, штосьці неразборліва гугнявіць, і нейкі страхотлівы жах і шкадаванне адначасова апаноўвалі яе. Нязвыклае, анамальнае, і вось цяпер пачварнае, што яна пабачыла, яшчэ больш напружвала і без таго ўзбуджаны душэўны стан маладзенькай маці на мяжы нервовага зрыву.

Раніца ў начлежнай варыўні зноў аглушыла Кацярыну, як выбух бомбы. Здавалася, яна з Верай Анісімаўнай сяк-так пераначавалі. Аднак здарылася нечакана-жахлівае, непапраўнае. Вера Анісімаўна, пераўзбуджаная і натомленая, доўга не магла заснуць і ціха стагнала, цярпела і слоўцам не паскардзілася на дрэннае самаадчуванне. Кацярына думала, што ёй баляць пасля дарожнай хады ногі, бо і сама адчувала вярэдлівае ныццё ў каленях, як і стому ва ўсім целе. Як-ніяк, а яна яшчэ не ачомалася ад родаў ды мусіла прайсці такі немалы кавалак шляху. Кацярына, пакарміўшы дзіцятка,

аклікнула Веру Анісімаўну. Тая не адгукнулася, маўчала, быццам моцна спала. Кацярына паклікала яе зноў. Вера Анісімаўна ляжала нерухома, падкурчыўшы ногі. Тады Кацярына падышла да жонкі палітрука, прыслухалася і пакратала яе за плячо, затым, углядаючыся ў бледны твар жанчыны, пачала тую катурхаць, будзіць. Ды Вера Анісімаўна ноччу аддала Богу душу. На Кацярыну накацілася хваля роспачы, і яна выбегла на хутаранскі падворак, закрычала адчайна, як звар'яцелая. На гэты крык прыбегла гаспадыня, агледзела здранцвелае цела начлежніцы і ўсё зразумела: ратаваць ужо не было каго. Яна, калі вымкнула ў праёме дзвярэй, прамовіла ціха і спакойна, як быццам казала пра звычайнае і гранічна яснае:

— Даў Бог лёгкую смерць.

Напэўна, калі б Кацярына ўмела, дык загаласіла б, як гэта робяць кабеты ў такую скрушную хвіліну. Аднак яна толькі доўга рыдала і не магла супакоіцца. Вера Анісімаўна, яе спадарожніца, засталася спачываць вечным сном у доле ля незнаёмага хутара.

Кацярына ў той жа дзень наважылася ісці далей, але гаспадыня хутара не пусціла яе. «Куды ты? Не дуры, розум май. Ты ж як у гарачцы. Дзіцянё сваё пашкадуй», — засцерагаючы і ўшчуваючы, сказала яна. Кацярына яшчэ ноч неяк перакантавалася ў пуні на зляжалым сене. Але знемаглася ад бяссонніцы. Сполашна па некалькі разоў падхаплівалася, бо апаноўвалі, ціснулі цяжкія думкі, уваччу ўвесь час мроілася здань Веры Анісімаўны. Гэты яе неспакойны, узрушаны стан быццам адчула дзіця, якое прачыналася, плакала і не хацела браць грудзі. На золку Кацярына ціха пакінула хутаранскую сядзібу. Яна напрасткі праз абраселую лугавіну выкіравалася на ранейшую дарогу, па якой яшчэ заўчора ратавалася з Верай Анісімаўнай ад чорнай бяды, ліхога наслання. Вяртацца назад, вырашыла яна, не варта, трэба дабірацца на радзіму да бацькоў. «Мамачка, матулька мая», — са слязьмі на вачах бездапаможна шаптала яна. І хоць белая пялёнка туману засмужвала шлях, Кацярына рухалася ўсцяж чыгункі далей, на ўсход. Дарога, верылася ёй, прывядзе дамоў. Толькі там, у роднай хаце, яе паратунак…

Доўгая плынь бежанцаў, а ў іх ліку і Кацярына, дацякла да Полацка. Горад, буйны чыгуначны вузел, бамбілі нямецкія самалёты, і таму паўсюль кідаліся ў вочы сляды наступстваў авіяцыйнага налёту. Па дарозе Кацярыне добра-такі падфарціла: сівабароды дзед, які кіраваў канём, расчуліўся і паклікаў яе з дзіцем сесці на калёсы, і яна ехала-калывалася на ёй большую частку шляху. Турбавала тое, што ў грудзях менела і менела малака, а Васілёк плакаў штораз мацней і даўжэй.

Рух цягнікоў праз бамбёжку быў парушаны. Кацярыну зноў ахапіла роспач, штосьці горка-даўкае сцінала горла, і міжволі нагортваліся слёзы. Маці з дзіцем падалася ў бліжэйшы двор, папрасіла вады, бо дужа хацелася піць. Потым у поўнай прастрацыі яна хадзіла сюды-туды побліз вакзала, назіраючы людскую мітусню і валтузню. За дзень напякло ў галаву, і Кацярына, выцершы з ілба кропелькі поту, прымасцілася на драўлянай лаўцы ў засені старой таполі. Васілёк пасля таго, як накрычаўся, заснуў. «Няўжо, бедненькі, нешта сніць?» — здзіўлена пазіраючы, падумала яна, але гэта, мабыць, занадта для такой малечы, бо ён, уласна кажучы, яшчэ і не жыў на гэтым свеце, нічога не бачыў: толькі ссе сабе, спіць і цяпер найбольш крычыць-гукае. Кацярына, расшпіліўшы гузікі на сукенцы, агледзела, абмацала грудзі: непакоіла, што яны абмяклі і ў іх слаба прыбаўлялася малако. «Хаця б хапіла, хаця б усё было добра», — хвалявалася матчына сэрца.

Ужо амаль проці ночы Кацярына напрасілася ў тым жа двары, дзе набірала ваду, на начлег. Яна нясмела пастукала ў дзверы і гатова была ўпасці да ног гаспадароў невялікага цаглянага дома, каб толькі ўвайшлі ў яе становішча, зразумелі бяду-няшчасце беспрытульнай жанчыны ў чужым горадзе. Яна са шчымлівай шкадобаю ўвесь час згадвала Веру Анісімаўну, у якой тут, у Полацку, меўся нехта з мужавых сваякоў, і каб яны з ёю цяпер былі разам, то хоць на нейкі час знайшлі б прытулак. «Эх, доля ты мая, доля», — з горыччу падумалася жанчыне пасля таго, як ледзьве ўгаварыла паўнатварую мажную гаспадыню пусціць дзе-небудзь прыткнуцца пераначаваць. Тая, спахмурнелая і незадаволеная, перавальваючыся з нагі на нагу, падалася ў свой цагляны мур. Здавалася, Кацярына парушае сямейны спакой, штурмуе чужую крэпасць. Але ж у гэтым вінавата не яна, а шалёная праклятая вайна, якая, несучы з сабой пагрозлівую небяспеку, змусіла яе і многіх іншых людзей ратавацца ад смерці і калецтва, уцякаць, часта без супынку і адпачынку, кудысьці ў свет, туляцца і блукаць, шукаючы прыстанак. Гаспадыня ў поцемках са скрухаю роспачным голасам наракала, і гэта было чуваць Кацярыне, што адбою няма ад бежанцаў, а пасля паведаміла, што на гэты раз просіцца нанач маладзенькая маці з немаўлём на руках. Яны яшчэ, можа, з хвіліны тры размаўлялі між сабой, але потым муж гаспадыні, відаць, чалавек строгі і незгаворлівы, усё ж злітасцівіўся і палагаднеў: маўляў, хай тая пасцеле на тапчане ў верандзе. Кацярына, затаіўшы дыханне, слухала гэтае слаба чутнае шаптанне гаспадароў і з надзеяй, молячы ў думках Бога, чакала згоды. І Гасподзь быццам пачуў маладую гаротніцу.

Кацярына прыснула ненадоўга. Ноч прайшла без жаданага спачынку. Яе хлопчык дрэнна спаў: ледзь не праз кожную гадзіну ён пачынаў тузацца, крэкчучы, затым плакаў і крычаў датуль, пакуль матчыны рукі не суцішвалі і не закалыхвалі яго зноў. Гаспадары, напэўна, дзесяць разоў пашкадавалі, што пусцілі да сябе гэтую бежанку з неспакойным, капрызлівым дзіцем.

Чэрвеньская раніца зноў паклікала яе, нявыспаную і змэнчаную, у няблізкі шлях-дарогу. У думках яна імкнулася, нават ляцела, як птушка-пташыначка, дахаты. Нясцерпна хацелася хутчэй убачыць сваю дарагую матулю, каб тая прытуліла, пашкадавала, суцешыла. Кацярына, сама маладзенькая зялёная маці, адчувала сябе дзіцем — няшчасным і бездапаможным. Тым не менш у гэтую страшную на зямлі хвіліну яна востра разумела галоўнае: трэба ратаваць сваё дзіцятка, іхнюю з Косцем маленькую крывіначку, кветачку кахання — Васілька-Васілёчка...

У бежанскім натоўпе Кацярына цярпліва трымалася некалькі сутак. Насустрач упершыню прасунулася доўгая калона чырвонаармейцаў і машыны-палутаркі з прычэпленымі гарматамі. Разам з людзьмі, сарванымі са сваіх абжытых месцаў і пагнанымі страхам смяротнай небяспекі, Кацярына рухалася ў адваротным кірунку, на ўсход, як мага далей ад жахотнай і незразумелай бяды-вайны-навалы. Большую частку дарогі маладая маці брыла басанож па гарачым пяску. На спёцы, канаючую ад смагі, Кацю даймала неадчэпная цяжкая мроя: за ёю ўвесь час бяжыць, нібы вялікі воўк, калматы чорны сабака: здавалася, гэта ажыло нейкае шалёнае, страхотлівае ліха, якое ў абліччы раз’юшанай пачвары злавесна дыхала ў патыліцу, штурхала і шпарка даганяла. І гэтае ліха насцігла мігам: з-за лесу з ровам выскачылі самалёты з белымі знакамі-крыжамі і мчалі на нізкай вышыні. Крылатыя машыны, быццам агромністыя хіжыя птушкі смерці, неслі з сабою жах: па наваколлі разнесліся людскія крыкі, усчаліся паніка, штурханіна, уцёкі. Іржалі ўздыбленыя коні і

грукаталі падводы. Самалёты скінулі адна за адной некалькі бомб. Ад моцных выбухаў рвалася і разляталася на кавалкі зямля. Свінцовы град куль лінуўся на галовы шматлікіх ахвяр. Гэты свет раптоўна ператварыўся для людзей у пекла. Кацярына з дзіцем, як і ў мінулы раз, калі была з Верай Анісімаўнай, адразу ж памкнулася да лесу, хоць цяпер да зялёнага сховішча трэба было бегчы нашмат далей. Лётчыкі з самалётаў высочвалі людзей і пускалі па іх чэргі куль.

Зноў ёй пашэнціла: уцякла, уратавалася. Кацярына калацілася ад страху, сэрца моцна і гучна білася, як быццам грукала ў барабан. Беднае немаўля, пакуль маці бегла да ляснога масіву, ледзь не сканала ад енку і плачу. Хутчэй за ўсё, дзіця ад шалёнага бегу і трасучкі злякнулася, бо забаўляла Кацярына малое дужа доўга, нават не стрывала і ад вар'яцкай роспачы прыкрыкнула, пра што пасля горка шкадавала, не магла дараваць сабе гэтую хвілінную слабасць. Цяжка было зразумець: чаму гэтыя немцы на самалётах ваявалі менавіта з ёю, звычайнай жанчынай, якая не трымала ў руках ні зброі, ні нават яловага ці арэхавага кія. Дзесьці ззаду перамяшчаліся вайскоўцы, дык сустракаць бомбы і кулі — гэта іх суровая салдацкая доля, бязлітаснае наканаванне ва ўмовах вайны. А тут гінулі жанчыны, малыя дзеці, старыя — і тыя на самалётах мелі відавочны намер, каб іх забіваць. Значыць, гэтая вайна — бяда на ўсіх, усеагульная калатнеча, і ў сваёй лютасці і сляпой нянавісці яна не пашкадуе нікога.

Кацярына пасля таго, як акрыяла-ачомалася, рушыла ў дарогу. Яна адшукала чыгунку і па ёй упарта падалася наперад. Зведанае, перажытае толькі ўзмацняла жаданне як найхутчэй патрапіць у родныя мясціны, дабрацца, дабрысці да бацькоўскае хаты…

Жанчына знемаглася ад пакутлівых сноў, якія забралі яе душэўную раўнавагу і спакой. Жыццё прабегла як адзін дзень ці адна ноч, усё ў памяці спрасавалася, зрабілася невыразным і цьмяным. Кацярына на схіле свайго веку не любіла згадваць былое, але яно само нечакана вярталася ў сны і такім чынам нагадвала пра сябе. І тады яна шчыра малілася, пры гэтым наведвала кожную нядзелю царкву, хадзіла да споведзі, трымала пост, запальвала свечкі і памінала сваіх. Бог дапамог ёй трымацца праз гады і да апошняга, і яна не мела нараканняў, што нешта не гэтак і не так. Жанчына навучылася трываць боль, пакорліва прымала лёс як наканаванне. Хоць да гэтага, пакуль не змірылася са сваёй доляй, гневалася, вера слабела, губляўся ўсялякі сэнс і ўсякая надзея, і таму хацелася як мага хутчэй накласці на сябе рукі. Жадалася, каб міласэрны Бог не зацягваў яе прысутнасць на гэтым свеце і забраў туды, дзе на парозе вечнасці яе будуць сустракаць родныя ды блізкія людзі і яна пабачыць маленькага белага анёлачка. «Там лепей», — думалася ёй. Аднак яна жыла і гаравала, бо ведала: на тое воля Божая…

Кацярына раптоўна ўспомніла пра Бога, ахопленая жахам, на цярністай дарозе вайны. Згадвала з воклічамі, малітоўнымі зваротамі пад бамбёжкай варожых самалётаў з верай і надзеяй на паратунак. Маладзенькая жанчына-маці зведала хвіліны ціхай уцехі, што Гасподзь не даў яе з дзіцем на згубу нямецкім жалезным каршунам, якія страшэнна лютавалі, пакідалі пасля сябе на зямлі смерць і чалавечую кроў. Ды потым, як лічыла яна, Усявышні раптам пакінуў яе, быццам забыў ці не зважаў на просьбы-заклінанні. Жанчына клікала яго ўсёй сваёй мацярынскаю існасцю, але чамусьці не дагукалася.

А здарылася самае жахлівае, невыносна цяжкае. Больш балючага і пакутнага на зямлі, мабыць, не бывае. Марудная, утомная дарога да роднага кутка забрала не толькі сілы, але і парвала сэрца ў хваляваннях, трывогах. Вайна тэрарызавала жанчыну-бежанку, падымала ў яе душы вялікі страх і хвалі чорнай усёабдымнай буры-непагоды. Калі ў грудзях прапала малако, яна горка заплакала ад роспачы і бяссілля, што не можа даць ніякай рады гэтай раптоўнай бядзе. Яе хлопчык ужо і без таго пакутаваў ад нястачы харчавання, а пасля пачаў штомоцы крычаць да знямогі ад голаду. Яго плач-скарга звінеў увушшу і, здавалася, запоўніў увесь свет. Кацярына дрыжэла, калацілася над дзіцем, ратавала яго як магла. Яна падалася на пошукі якой-небудзь бліжэйшай вёскі, каб разжыцца на малако. Патраціла нямала часу. Урэшце, жанчына знайшла так патрэбнае каровіна малако, але яно ці не пайшло Васілёчку і нейк нашкодзіла, ці проста ён ужо захварэў, бо пасля крычаў і не сціхаў, затым пачаў канаць. З Кацярыніных вачэй толькі ліліся слёзы, яна не ведала, як уратаваць малое, і сэрца яе сціскалася ад вялікага адчаю. Нейкая нябачная сіла забрала яе сыночка, і яна з болем, горыччу перажывала сваё раптоўнае агромністае гора-няшчасце. «Бог даў — Бог узяў», — казалі ў такіх выпадках у яе мястэчку. Жанчына пад пякучымі промнямі нялітасцівага летняга сонца адчувала ўсю моц крыўды і несправядлівасць кары нябеснай. І яна быццам звар’яцела ад нязноснага болю і пякельнага гора. З яе душы вырваўся цяжкі стогн і нястрымная скарга-дакор: «За што, Госпадзі? За якія грахі? Чаму забраў маё дзіця, маю долю?» Нервова дрыжэлі Кацярыніны вусны, расколвалася напалам галава, разрывалася мацярынскае сэрца, нешта душыла і перахоплівала дых. Маладой жанчыне хацелася аднаго — тут жа сканаць разам са сваім дзіцем.

Вярнулася Кацярына дахаты змардаваная дарогай, прыбітая горам. Спачатку трызніла, а затым мо з тыдзень як змярцвелая ляжала ў пасцелі. Калі неяк апрытомнела і ўсё ж пачала выходзіць на двор, то свет ёй быў нямілы, яна штосьці мармытала, бязгучна соўгалася, не ведаючы, куды сябе падзець. Гледзячы на даччыны пакуты, сэрца Кацярынінай маці сціскалася ад шкадобы і жалю. Яе суцешлівыя словы і просьбы не марнаваць сябе дарэшты не мелі ўплыву і выніку, бо не здолелі перабіць цяжкія думкі і суняць безнадзейную скруху.

— Хадзем, дачушка, у царкву. От пабачыш, на душы палягчэе. І дадала: — Цяперака ў нашым мястэчку зноў царква. Бацюшка служыць, людцам нешта раіць, дапамагае.

— Чым? — з недаверам спытала ціхім, сумным голасам Кацярына.

— Словам, дзіцятка, малітваю, падказкаю.

— Але ж ён не верне мне майго Васілёчка, не ўваскрэсіць, — з пранізлівай тугою, прыгнечана сказала на гэта яна ў адказ.

— Не ўпарцься, дачушка, не трэба. Іншага месца для ўцехі няма. Я гэта па сабе ведаю. Памятаю, як тата мой, малады зусім быў, на лесанарыхтоўках загінуў. Пахавалі тату, а ён мне сніўся і сніўся. Плакала і сумавала па ім без меры. Ён дужа моцна мяне любіў, і я яго таксама. Дык мы з маёй маці-нябожчыцай у царкве паратуначак знайшлі. Адну свечачку паставіла, наступны раз — другую. І шчыра малілася. От так пакрысе акрыяла. Табе таксама малітвачка не зашкодзіць, трэба паспавядацца, выгаварыцца…

Кацярына набліжалася да адчыненых дзвярэй Мікалаеўскай царквы ў чорнай хустцы, як цень, пагляд яе пры гэтым быў няўцямны, адлучаны ад рэальнасці, бо вочы засціла шэрая смуга-плёнка. Зайшла туды — і лёгкая прахалода, настоеная на пахах воску і ладану, дыхнула ёй у твар. Па абодвух

баках царкоўнага будынка стаяла дзве купкі жанчын са свечкамі ў руках. Перад алтаром, махаючы кадзілам, маліўся бацюшка. Кацярына ціхенька замерла ў левым кутку царквы, пры самай сцяне з абразамі, і слухала малебен. Раптам заспяваў хор і пад высокім купалам залуналі жаночыя і дзіцячыя галасы: «Господи, помилуй». Бацюшка вёў далей богаслужэнне, прыхаджане схілялі галовы і хрысціліся. Царкоўныя спевы зноў і зноў ускалыхвалі душу маладой жанчыны. Здавалася, туды, у сярэдзіну, мякка, лагодна цякуць і плывуць, нібы ручаёк, малітоўныя словы і наталяюць, размякчаюць перасмяглую і патрэсканую глебу: «Господи, воззвах к Тебе, услыши мя! Услыши мя, Господи! Господи, воззвах к Тебе, услыши мя! Вонми гласу моления моего, внегда воззвати ми к Тебе. Услыши мя, господи! Да исправится молитва моя яко кодило пред Тобою: воздеяние руку моею, жертва вечерняя…» І слёзы міжволі каціліся з яе вачэй, абуджалася змарнелая ў пакутах, амярцвелая душа. Пасля службы бацюшка па просьбе Кацярынінай маці пагаварыў з яе дачкою. Маладая жанчына, страціўшы дзіця і веру ў справядлівасць свету, перш думала, што няправільна робіць, ідучы ў царкву, а цяпер, калі ў яе грудзях нешта зварухнулася, яна выплакалася-ачысцілася, хоць, здавалася, і слёз тых у яе ўжо не было. З нямою пакорлівай увагай і нейкай шчымлівай надзеяй Кацярына слухала, убіраючы ў сябе тое, што кажа настаяцель царквы. А ён сказаў, што яе дзіцятка Бог ласкава прытуліў у нябёсах, што яе хлопчык цяпер крыляе анёлкам і яму там добра і лёгка, зусім не так, як тут, на грахоўнай зямлі, дзе столькі крыві, болю і пакут. Бог, маўляў, лагодны і міласэрны, дае жыццё вечнае. А таму забірае да Сябе адразу самых-самых чыстых, нявінных і бязгрэшных — гэта значыць, народжаных дзетак-немаўлят, якіх агортвае там, у Царстве Нябесным, Сваёй вялікай любоўю і шчырай бацькоўскай апекаю-мілатою, покрывам «благодати». Кацярыне, маладой асірацелай маці, наканавана шчаслівая, хоць і ахвярная доля, — навечна аддаць сваё дзіця «Цареви нашему Богу» дзеля чыстага, лёгкага жыцця ў «свышнем мире». «Радуйтеся и веселитеся, яко мзда ваша многа на небесех», — суцешваючы няшчасную жанчыну-маці, казаў бацюшка. І плата яе, Кацярыны, цяпер здавалася не цяжкаю карай, а, як пераконваў чалавек у чорнай сутане, вышэйшай мацярынскай ахвярнасцю, найвялікшым дарам Богу, які жыццё Сына Свайго таксама не пашкадаваў і прынёс у ахвяру свету дзеля яго ўратавання. І зрабіў гэта з любоўю да людзей. Цяжка ахвяраваць жывому чалавеку. Аднак і нам трэба ахвяраваць не з крыўдай-скаргаю, а з любоўю да Бога-Хрыста. Страты чалавечыя часам надзвычай цяжкія і балючыя, і, бывае, немагчыма зразумець іх прычыну і сэнс без звароту да Бога ды веры. Вось і Кацярына вярталася з царквы з невялікаю, нават кволаю палёгкаю, але паступова яна ўсё часцей хацела слухаць бацюшку, які раіў не губіць сябе ў горы, а імкнуцца верыць ва Усявышняга, ратавацца малітваю. З цягам часу яе жыццё набыло пэўныя межы і абрысы, усё здавалася на сваім месцы і гэткае, як таго Бог пажадаў. Яна пакорліва змірылася са сваёю доляй, накрэсленай звыш, цярпліва чакала перамен да чагосьці лепшага.

Але тое лепшае так чамусьці і не надышло. Калі вайна задоўжылася і цацілася далей, да самай Масквы, Кацярына прасіла-маліла аднаго: каб Бог уратаваў, збярог яе мужа Косціка. «Дзе ён? Ці жывы?» — думала яна доўгімі начамі, якія наганялі цяжкую, вярэдлівую нуду і тугу. Спадзявалася яна на Усявышняга, што ўсцеражэ ад ліхога, не дасць здарыцца кепскаму і найгоршаму, прывядзе мужа здаровым і цэлым да яе, стомленай і спакутаванай за гады вайны. Верылася ў цуд, спрыянне нябёсаў. Па-ранейшаму муляла думка, што трэба будзе трымаць перад мужам адказ, тлумачыць, чаму ў гэтую крыжовую

ліхую часіну не зберагла, не выняньчыла іх сыночка. І зноў здавалася, быццам марна верыла і дарэмна мела надзею: пасля вызвалення яна атрымала пахаронку, у якой паведамлялася, што лейтэнант Малышаў загінуў смерцю храбрых 3 ліпеня 1941 года. Аўдавелая жанчына пажухла на доўгія гады, счарнела ў сваім горы. Яна не знаходзіла супакою датуль, пакуль не адпакутавала, не прычакала дня, калі на тле яе душы не зачапліўся кволенькі агеньчык святла. І, магчыма, Кацярына згарэла б ад болю і крыўды альбо пайшла б і захлынулася ў рацэ, каб больш не жыць, не трываць гэтую зямную юдоль, нечалавечыя выпрабаванні. Маці сказала Кацярыне, што трэба маліцца і за сыночка, і за Косціка, якога забілі на самым пачатку вайны. Пераконвала, што ім патрэбна яе памінанне, шчырая малітва. Бацюшка ў царкве казаў, што яна не адна з такой доляй салдаткі, што воіны мелі заклік Бога спыніць д’ябла цемры, каб не надышла чорная ноч і не перамагло зло-ліха. У самай першай гутарцы з Кацярынай ён нагадаў, што Гасподзь узышоў на Галгофу і аддаў жыццё дзеля іншых людзей, дзеля ўсяго чалавецтва. Кацярына ўкленчвала перад абразамі і доўга малілася. Памінальнае маленне стала неспатольнай патрэбай, самым важным, галоўным сэнсам існавання гэтай жанчыны-пакутніцы, якая штонядзельку прыходзіла ў царкву, імкнучыся знайсці глебу пад нагамі і выстаяць на вятрыстым скрыжаванні лёсу. «Хрысце Божа! Маці Нябесная!» — з гэтых малітоўных слоў-зваротаў пачынаўся і заканчваўся дзень. Адзінае, што ёй засталося, дык гэта жыць дзеля памяці. Яна адпаўзла ад ямы-бездані, не нарабіла ніякага глупства. Кацярына перанесла нягоды, гаравала і жыла, бо трэба было жыць...

Сыночак часта наведваўся ў яе чорна-белыя сны, але бачыла яго не з сабой. Яе хлопчык ляжаў неспавіты, раскінуўшы ручкі, і пакрэктваў, быццам хацеў есці, але ніводнага разу не патурбаваў яе сваім крыкам-плачам.

Аднак раптоўна ён прысніўся інакш. Кацярына прахапілася. Яна доўга думала пра ўбачанае, прыснёнае. Сэрца моцна стукала, і жанчына, перавёўшы дыханне, дрыготкаю рукою запаліла святло. Яе Васілёк прысніўся хлопчыкам-анёлкам з маленькімі крыльцамі і жоўтай палосачкай-німбам над галавой. І вось ён, нібы легкакрылая птушачка, ляціць і дзьме ў дудачку. Кацярына разгледзела яго сінія вочкі і бялёсую кучаравую, як у ягняці, галоўку. Затым Васілёк-Васілёчак паклікаў яе: «Мамачка! Мама!» Кацярына ў белай сукенцы, як галубка, лёгка адштурхнулася босымі нагамі ад зямлі і паляцела за ім туды, за далягляд, пад самыя аблокі, у далёкі неабсяжны свет на ружова-залацістае ззянне. Яна ўбачыла гожыя кветачкі, рознакаляровых матылькоў, салавейчыкаў на галінках дрэў з чырвонымі яблычкамі, белых лебедзяў на гладзі вялікага блакітнага возера. То быў дзівосны і чароўны рай. І быццам мроілася светлая ява, а не прывідная прыўкрасная казка.

Кацярына за столькі гадочкаў упершыню ўбачыла каляровы сон. «Дзівадзіўнае, дый толькі», — думалася жанчыне, бо ўсё для яе і ў жыцці, і снах паблякла, пазмрачнела, страціла вабнасць і цікавасць. Ды рай прысніўся зноў. Хлопчык-анёлак граў на дудачцы і клікаў, мабыць, у нябесны вырай…

Кацярына звечара пайшла да сваёй суседкі Ганны і ласкава папрасіла:

— Прыглядзі маіх курачак. Сыпні з паўкварты пшанічкі. — І, непакоячыся пра сваё курынае сямейства, дадала: — Дні цяперака надта спякотныя, дык, калі што, пад абед плюхні вады ў чаропку, каб горлейка куркам дзе было памачыць.

— А ці хутка вернешся, Кацярынка? — пацікавілася Ганна.

— Як толькі, дык адразу, — адказала яна. — Можа, дасць Божа, не забаўлюся.

— А куды ты, калі не маеш сакрэту?

— Адлучыцца мне трэба. Адно месца дужа пільна наведаць хачу, — ухіляючыся ад прамога адказу, мовіла Кацярына. — Праўда, далекавата ехаць. Ды я скоранька злятаю.

— Не раўнуючы, як маланка. Бач ты, якая порсткая знайшлася. Бытта не тупаціш, а бегаеш мадарней за божую кароўку, — жартуючы, падкпіла Ганна, бабуля такога ж веку, як і яе старэнькая суседка.

Яна падалася туды, дзе ў вайну памёр і застаўся яе Васілёк-Васілёчак. Жанчына добра памятала, што пахавала сваё немаўлятка пад маладзенькай рабінкай. Невялікі насып-горачку пазначыла круглым, як яйка, камянём: ён быў гладкі, быццам кімсьці злеплены, а потым узяў і застыў, адмыслова зацвярдзеў. Кацярына ехала да Крывічоў — станцыі, побліз якой і аддаў душу Богу яе хлопчык. Цяпер гэты анёлак з васільковымі вачыма лётае ў бязмежным блакіце нябёсаў…

Кацярына ўжо нібыта павінна была вярнуцца дамоў. Але яе весніцы так і не рыпнулі, панура маўчалі і дзверы старой хаціны. І нікому ніякай справы не было, дзе гэтая гаротніца, куды паехала і чаго. Суседка Ганна занепакоілася першай, падняла трывогу.

Жанчыну шукалі не адзін дзень і не адзін месяц. Знікла, прапала — і ні слыху, ні дыху. Пасля ўсё ж прыйшла вестка, што яна заснула вечным сном пад тымі далёкімі Крывічамі. Высветлілася гэта, калі яе дзесьці пахавалі ўжо. «Такая яе доля», — цяжка ўздыхнуўшы, падсумавала Ганна. У нядзельку яна пайшла ў царкву і паставіла свечачку за спачын рабы божай Кацярыны. Праслязілася ў ціхай жалобе.

Што ж, усё мае на гэтым свеце пачатак і канец. Зямное жыццё нявечнае, і пражыць яго бывае досыць нялёгка, бо трэба прайсці праз страты і выпрабаванні, цяжкасці і пакуты. У кожнага свая доля. У кожнага свой крыж.





Вольга ШПАКЕВІЧ

# СВЯТА СЯРОД БУДНЯ

## ГАРМАНІСТ У ПЕРАХОДЗЕ

Гарманіст, сыграй «Пакуты»!
І гармонік не шкадуй.
Да мелодыі прыкута,
Я зракуся сумных дум.

Я забуду пра турботы.
І пра час, які бяжыць.
Бо чароўны гэты дотык
Не да кнопак — да душы.

То раздолле, то зацятасць,
То свабода, то адчай.
Сярод будня — раптам свята
З гарманістава пляча.

Да разрыву мех раздзьмуты,
Спорна радасць пацякла...
Гарманіст, сыграй «Пакуты»!
І ліні ў душу святла!

* * *

Дзе лясы непралазна густыя,
Дзе цалуе рака берагі,
Воскам сонца зімовае стыне, —
Там мой край назаўжды дарагі.

---

*__Вольга Шпакевіч (Бірук Вольга Цімафееўна)__ нарадзілася 14 снежня 1956 года ў вёсцы Кароцічы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.*

*Скончыла філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1978). Выкладае беларускую мову і літаратуру ў гімназіі № 25 г. Мінска.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «І тку жыцця сувой», суаўтар калектыўных зборнікаў паэзіі «І гаспода мая, і мой храм», «И снова душу греет благодать», «Созвучие», «На крылах натхнення».*

Зелянейшай травы і мякчэйшай
Я не бачыла болей нідзе.
Маладзік грабянцом голле чэша,
А сяло, як мурашнік, гудзе.

Прыязджаю так рэдка здалёку,
Час ляціць хуткакрылай стралой,
Зноў буслiны даносіцца клёкат
Ад суседавай хаты старой.

Пра жыццё землякі распытаюць,
Я ж у іх — пра паводку вясной,
І гаючай вады паспытаю,
Як калісьці, з крыніцы лясной.

І падхопіць мелодыю вусціш,
Што ні клён — залаты парасон…
Потым доўга ўспамін не адпусціць.
Будзе вёска прыходзіць у сон.

## БЕРАСЦЕНЬ

Берасцень — старажытны мой цуд
З пахам лугу і летняга неба,
Мае сілы крыху падмацуй
Той вадой, што запасіла глеба.

Не піла я смачнейшай вады,
Чым твая, з прахалоднай крыніцы.
Пачастуй мяне зноў, як тады,
Дай мне соку Радзімы напіцца.

Берасцень, белабок-берасцень,
Падарунак прыемнейшы чыйсьці.
Я наведвацца буду часцей,
Каб душу наталіць і ачысціць.

## ПАСЛЯ ДАЖДЖУ

Пасля дажджу такая ціша:
Зямля, здаецца, не дыхне,
І вецер лісце не калыша,
Спакойна хвалі спяць на дне.

Папасвіць зоркі месяц выйшаў,
Аблюбавалі рыбы вір…
Пасля дажджу такая ціша,
Нібы на свеце ўсюды мір.

Віктар ШНІП

# ЗАЎТРА БЫЛА АДЛІГА-2

*

*1.08.2014.* Ужо амаль дзесяць дзён гарачыня за 30 градусаў. У гэтыя дні да мяне са сваімі творамі не прыйшоў ні адзін аўтар...

*

*1.08.2014.* Сто гадоў як пачалася Першая сусветная вайна. У той час яна называлася Еўрапейскай вайной. У 1916 годзе ў раёне Крэва загінуў мой прадзед Янка Шніп (улан царскай арміі). Там і пахаваны ў брацкай магіле...

*

*2.08.2014.* Ад спёкі з Людай уцяклі ў Лошыцу. Апошні раз там разам шпацыравалі гадоў пятнаццаць таму. Дзеці нашы былі яшчэ малымі. Ездзілі паглядзець на рыцарскі турнір. Недзе ў нас ёсць фотка, дзе наш малы Максім стаіць каля рыцара і трымаецца за меч. Тады ён сказаў: «Буду рыцарам!..»

На ўваходзе ў парк прадаецца марозіва, квас і вада. Чаргі аніякай. З яблынь асыпаюцца яблыкі, з дрэў пажаўцелае лісце. Хочацца разуцца. Чым глыбей у парк, тым больш людзей. Хто на лаўцы, хто пад дрэвамі, хто проста прагульваецца. Старых няма...

Сустрэлі некалькі пар маладажонаў. Нявесты ў белых, як са снегу, сукенках. Жаніхі ў чорных касцюмах, як маладыя Чычыкавы. Пазіруюць для фатографаў. То абдымаюцца, то цалуюцца. Пацалаваўшыся, адзін жаніх доўга вусны выціраў. Ад памады, а можа, дзяўчына яго ўкусіла? Словам, не парк, а фота-салон...

Зайшлі ў музей. Сані, брычкі, вазы, прасы, самавары, гаршкі, скавароды, каструлі, талеркі, адзенне. Манекены, якія, відаць, яшчэ нядаўна сядзелі ў крамах, цяпер тут апрануты, як паны і паненкі ў даўнія часы. Ёсць на што паглядзець. За намі хадзіла музейшчыца. Расказвала, што тут ёсць і чаму яно тут ёсць. А можа, баялася, каб чаго не ўкралі...

Пасля музея пайшлі да вады. А там кругом моладзь, якая тут, проста ў парку, гуляе вяселлі. Шашлыкі, памідоры, агуркі, шампанскае, віно, гарэлка. І не трэба ніякіх рэстаранаў...

Вада ў рацэ, як вылітая вон гарбата...

Схадзілі да рэштак млына, пабудаванага ў 1901 годзе па праекце І. Каселя. На цэгле свежыя надпісы кшталту: «Здесь были...» Сцены агароджаны слупкамі з ланцугом. З боку ракі ланцуг ужо нехта ўкраў.

Зайшлі ў рэшткі млына. Над намі высокае неба, як вада, якая чакае свайго часу, каб зноў круціць жорны...

Раней у парку столькі валуноў не было, як цяпер. Яны так раскладзены сярод дрэў і яблынь, што, здаецца, гэта камяні сцен вялікага-вялікага замка, якія прараслі з зямлі...

## Чарнасліў

*3.08.2014.* У нашым садзе чарнасліву не было, і я да школы не ведаў, што ёсць такія слівы. Ідучы ў першы клас па дарозе паўз чужы сад, я заўважыў каля плота маладое дрэўца з незвычайнымі пладамі. Некалькі дзён я спыняўся каля саду, але не асмельваўся сарваць сліву, каб пакаштаваць. І калі я сарваў сліву, тут жа каля мяне з’явіўся гаспадар, які мяне так адчытаў, што я пасля некалькі гадоў баяўся блізка хадзіць каля ягонага саду. З таго часу ў мяне з’явілася мара, каб у нашым садзе рос чарнасліў. На жаль, мая мара так і засталася марай. І сёння, купіўшы кілаграм чарнасліву, я ўзгадаў сад, у якім рос чарнасліў, і дзядзьку, які яго сцярог ад вясковых дзяцей. І сёння няма ні таго дзядзькі, ні таго саду...

*

*4.08.2014.* Еду ў аўтобусе з працы. Стаю. Непадалёку сядзіць п’яны, пачарнелы ад штодзённай спёкі мужык гадоў сарака з пакрыўленым носам і падбітым вокам. Паблізу яго стаіць маладая прывабная жанчына ў кароткай спадніччы. П’яны глядзіць на прыгажуню так, нібыта ён малады Ален Делон, а я на іх, як на карціну «Няроўны шлюб»...

## Гарбузок

*4.08.2014.* Пачатак лета. Я перайшоў у другі клас. Канікулы. З сябрамі Тонікам Руткевічам, Сашкам і Віцькам Балотнікамі каля плота сялібы дзядзькі Бурага гуляем у карты. У Пугачах пасля вяртання ад бабулі Ганны я жыву другі год. Тут шмат для мяне новага і цікавага. Гуляючы ў карты, я заўважыў, што за плотам, толькі працягні руку, у траве ляжыць маленькі, сантыметраў дзесяць, зялёны гарбузок. Ён мне так спадабаўся, што я вырашыў: калі закончым гуляць і я застануся адзін, то абавязкова яго сарву і прынясу маме. Нагуляўшыся ў карты, я, каб ніхто не бачыў, сарваў гарбузок і прынёс дамоў. «Дзе ўзяў?» — адразу ж запыталася мама. Я прызнаўся. Мама, накрычаўшы на мяне, загадала аднесці гарбузок туды, дзе ён рос. Наплакаўшыся, я паклаў гарбузок на месца і доўгі час прасіў Бога, каб ён дапамог гарбузку прырасці да сцяблінкі, на якой ён нарадзіўся...

## Гарачыня і вада

*5.08.2014.* Такая гарачыня, як сёлета, бывала і ў маім дзяцінстве. Я тады з сябрамі цэлымі днямі хадзіў у адных трусах ад сажалкі да сажалкі. З цягам часу многія вадаёмы перасыхалі і мы лезлі ў брудную ваду каля дарогі, дзе, часта, уцёкшы з пашы, стаялі каровы. Цяпер у тую сажалку мяне ніхто калом не загнаў бы, а тады ж мы разам з каровамі сядзелі ў вадзе, як жабы...

*

*5.08.2014.* Холадна там, дзе нас няма...

## Гарачыня

*5.08.2014.* Узгадаўся ліпень 1987 года. Я ў Тбілісі на свяце паэзіі Уладзіміра Маякоўскага. Гарачыня! Пад сорак. Вечарам нас прывезлі з гор, дзе мы жылі на турбазе імя Барыса Дэніладзэ, на чыгуначны вакзал, каб ехаць у Кутаісі. Пачало цямнець. Запалілі святло і праз некалькі хвілін на вакзал апусцілася зялёная хмара саранчы. Ідзеш, а пад нагамі, як снег зялёны, хрум-хрум-хрум. Падышоў цягнік. Увесь залеплены саранчой. Ды і на нас саранчы, як на бяздомных сабаках блох.

У вагонах, як у печы. Усё гарачае, не даткнуцца. Мы параспраналіся да трусоў. Сядзім, як у лазні. Хлопцы ў адным вагоне, дзяўчаты ў другім. Ехаць кіламетраў 150, а сунуліся амаль восем гадзін. Спрабавалі заснуць, ды не змаглі. Прыехалі раніцай. Толькі выйшлі з цягніка, як зайграла музыка і да нас з кветкамі кінуліся піянеры. Мяне, як новага лаўрэата прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага, тут жа пад рукі падхапіла начальства і павяло даваць інтэрв'ю для рэспубліканскага тэлебачання. Не памятаю, што я тады гаварыў, але памятаю, што была гарачыня...

*

*6.08.2014.* Нарэшце парадаваў дождж. Невялікі, але з грымотай. У дзяцінстве ў вёсцы, калі падоўгу стаяла сухмень, я чуў ад людзей, што трэба забіць жабу, тады і дождж пральецца. Мне вельмі хацелася дажджу, але я жаб не забіваў…

*

*6.08.2014.* Пасля дажджу вяртаюся з працы. Каля крамы «Алеся» бачу, ідзе народны артыст Расціслаў Янкоўскі. Ён з мыліцай, а ў другой руцэ кавенька. Артыст спыніўся, прысеў на лаўку, як у тэатры ў ложу, і стаў глядзець на вуліцу перад сабой, як на вялікую тэатральную сцэну, па якой і я прайшоў, як масоўка...

*

*7.08.2014.* Кожную раніцу, едучы на працу, выходжу на прыпынку, што насупраць кафедральнага сабора. Спыняюся каля прыступак, што вядуць да Храма, і дзякую Богу за тое, што Ён ёсць. І я не адзін такі. І амаль кожны раз побач з намі спыняюцца мужчыны і жанчыны, якія, гледзячы на Храм, прыпальваюць цыгарэты...

*

*7.08.2014.* Часам хочацца жыць, як у рамантычных фільмах, дзе ўсё добра канчаецца...

*

*8.08.2014.* Маладзік, як палавінка залатога пярсцёнка...

*

*9.08.2014.* З Людай з'ездзілі ў Пугачы. За тры тыдні, што не быў у вёсцы, травой сяліба не зарасла і грады не засохлі...

У хаце цёпла, як было пры маме...

Кветкі каля хаты, пасаджаныя мамай, усё цвітуць і цвітуць, нібыта вечныя...

Не ўсе яблыкі, апаўшы на зямлю, схаваліся ў траве. Над імі восы, як залатыя анёлы...

Каля плота сумуе крапіва. Толькі адна яна, калі гаспадароў няма дома, абараняе і абараняецца...

На павуцінцы вісіць вішнёвы лісток, як маятнік гадзінніка, які спыніўся...

Спалохаў жабу ў траве і сам спалохаўся...

Агуркі на градзе вялікія і пажаўцелыя, як напоўненыя спёкай і сонцам...

На плоце гаршчок, як шалом Дон Кіхота, які тут без нас начаваў...

Суседзяў на вуліцы не бачна, нібыта ўсе пайшлі на фронт (на жніво)...

Каларадскі жук паўзе па ганку, нібыта цяпер ён тут гаспадар...

Рвём цыбулю. Яна не супраціўляецца. А моркаўка і буракі яшчэ добра трымаюцца за родную зямлю...

На комін села незнаёмая птушка, нібыта на цэнтр зямлі...

Шкельца ў траве, як ільдзінка, што не растала з зімы, калі памерлі мама і тата...

Заехалі на Ракаўскія могілкі. Дзякуй богу, новых магіл няма...

У метрах дзесяці ад бацькавых магіл у траве каменны помнік шаснаццацігадоваму хлопцу, які памёр у сакавіку 1908 года. Далей таксама старыя пахаванні, але яны зараслі травой і асіннікам...

Жытняе поле. Буслы, як брыгадзіры з закладзенымі за спіну рукамі, ходзяць за камбайнамі...

Прыехалі дамоў, як з неба спусціліся...

*

*10.08.2014.* Прачнуўся ад крыку чаек за акном. Вызірнуў на вуліцу. Мінск...

*

*11.08.2014.* Калі п’янку нельга адмяніць, то яе трэба ўзначаліць…

*

*12.08.2014.* Вяртаючыся праз дождж дахаты, пачуў радкі:

Пасля спякоты дождж прыйшоў,
Як за вайной прыйшла вайна,
З якой не прыйдзе хтось дамоў,
Бо не апошняя яна,
Як гэты дождж, які ідзе,
Змываючы твае сляды.
Нам кепска як усё ў вадзе,
Нам кепска ж гэтак без вады.
І мокры прыйдзеш ты дамоў,
Прашэпчаш, гледзячы з вакна:
«Пасля спякоты дождж прыйшоў,
Як за вайной прыйшла вайна..»

*

*13.08.2014.* Прыходзіла сястра Анатоля Сыса Валянціна. Атрымала даўні ганарар за кнігу брата: «Цяпер не трэба будзе з сястрой складацца на юбілей Анатоля». Раней яна ўсё ніяк не магла прыехаць з Брэста. Цяпер у Мінску ў дачкі, глядзіць унучку, якая пойдзе ў другі клас. Я падпісаў Валянціне свайго «Пугачоўскага цырульніка». Яна прачытала дэдыкацыю і заплакала…

*

*13.08.2014.* Хадзіў на Вайсковыя могілкі. Сёння Дзень памяці Якуба Коласа. Было шмат людзей. Некаторыя прыйшлі дзякуючы абвестцы, што прагучала па радыё...

Усе, хто прыйшоў, паклалі кветкі да помніка Якубу Коласу, а сын Якуба Коласа Міхась Канстанцінавіч да Янкі Купалы...

Увесь час, пакуль людзі збіраліся, на могілках гудзелі газонакасілкі. Праз пару хвілін, як пачаліся выступленні, газонакасілкі заціхлі. Тры касцы ў метрах пяцідзесяці прыселі і сталі назіраць, што адбываецца каля помніка...

Было тэлебачанне. Было некалькі фотакораў і журналістаў. Было светла і ўсе мы, прысутныя, былі ў цэнтры Беларусі...

Быў Уладзімір Содаль. Ён, па-мойму, цяпер зусім кепска бачыць. Як ён дабраўся — не ведаю. Збіраў у прысутных пісьменнікаў аўтографы ў факсімільнае выданне «Дудкі беларускай» Багушэвіча. Калі ўсе разыходзіліся, да Уладзіміра Ільіча падышоў хлопец і прапанаваў давесці яго дахаты...

Яшчэ доўга чалавек дзесяць стаялі з сынам і ўнукамі Якуба Коласа і гаварылі пра жыццё-быццё. І толькі тады, як мы крыху адышліся ад помніка, зноў загулі газонакасілкі...

*

*14.08.2014.* Прыдворныя паэты і прытворныя...

*

*14.08.2014.* Раніца. Дождж, як пачатак патопу. Стаю на прыпынку на Нямізе. Вуліца павольна ператвараецца ў раку. Спыняецца патрэбны мне аўтобус, і я еду ў ім, як у лодцы дзеда Мазая мокры заяц…

*

*16.08.2014.* Рэдакціраваны попел...

*

*16.08.2014.* Глядзеў серыял пра Уладзіміра Маякоўскага. Добра, што гучала шмат вершаў. Дрэнна, што застрэліўся. Не люблю, калі фільм, як і жыццё, канчаецца смерцю...

*

*11.09.2014.* Даведаўся, што 4 жніўня памёр паэт Святаслаў Макаль (сын паэта Петруся Макаля). Яму было крыху за пяцьдзясят. У 1992 годзе Святаслаў выдаў кнігу вершаў «Дзверы насцеж». Па сённяшні дзень памятаю ягоныя немудрагелістыя радкі:

Гледзячы ў бінокль,
можна ўбачыць
зоркі…
Гледзячы ў бінокль,
можна не заўважыць,
што ў цябе пад нагамі…

*

*11.09.2014.* «А я нешта павесялеў!» — сказаў я і ўспомніў, што так часам мне казаў бацька пра свой настрой, калі я ў Мінску даглядаў яго. Бацьку, каб павесялець, хапала добра паесці. А я павесялеў з таго, што напісаў верш. Цяпер думаю, ці есці грыбы, якія сын прывёз з лесу і якія цяпер варацца. Грыбы варацца ўжо другую гадзіну, а я, час ад часу, падыходжу да каструлі і, гледзячы на вар, сам сабе кажу: «Па-мойму, тут большая палова атрутных грыбоў!» Шкада выкідаць, але і есці страшна…

*

*12.09.2014.* Прыходзіў Алесь Бельскі. Яго можна слухаць бясконца. І пра літаратуру, і пра наша жыццё-быццё. Думаю, што студэнты любяць Алеся Іванавіча. З ім добра. Алесь абяцаў да канца года прынесці зборнік выбраных вершаў паэтаў, якія загінулі на вайне. Выдадзім у серыі «Паэзія XX стагоддзя». З выдавецтва пайшлі разам і амаль гадзіну ішлі да майго прыпынку, стаялі, успаміналі тых, каго ўжо з намі няма. Шкадавалі, што амаль не перавыдаюцца пісьменнікі, на творах якіх мы выраслі, якія былі ў нас настаўнікамі. Ад Алеся даведаўся (яму казалі знаёмыя выкладчыкі з універсітэта), што пасля смерці Вольгі Казловай (кватэра была прададзена) кнігі і часопісы з рэдкімі аўтографамі пісьменнікаў і дзяржаўных дзеячаў валяліся на сметніцы і ў іх капаліся бамжы. Алесь і сёння шкадуе, што, калі быў у гасцях Вольгі Васільеўны незадоўга да яе смерці і яна яму прапанавала ўзяць са сваёй бібліятэкі ўсё, што хоча, ён пасароміўся гэта зрабіць…

*

*12.09.2014.* З Людай хадзілі ў тэатр аднаго акцёра «Зьніч», які паказвае спектаклі ў культурным цэнтры касцёла св. Сымона і св. Алены. Запрашэнне атрымалі раніцай ад гаспадыні тэатра Галіны Дзягілевай. Сёння пачатак новага тэатральнага сезона, які для «Зьніча» стаў дваццаць пятым, і пачаўся ён спектак-

лем «Любіць» на вершы Анатоля Вярцінскага. Ідучы ў касцёл, мы думалі, што там сабярэцца шмат нашых знаёмых. Прыйшлі. Са знаёмых сустрэлі Анатоля Вярцінскага і Уладзіміра Васілевіча. Аднак зала была амаль поўная. У асноўным школьнікі, для якіх і адрасаваны спектакль. Слухаючы Галіну Дзягілеву, я ўспамінаў тыя часы, калі… На жаль, тыя часы прайшлі. І ўсё ж ёсць каму слухаць беларускую паэзію ў выкананні «Зьніча». За маёй спінай сядзела маладая пара і, калі пачаўся спектакль, хлопец сказаў: «Ух ты! Па-беларуску!» Спектакль ішоў амаль паўтары гадзіны. Недзе ў яго сярэдзіне Галіна Аляксееўна закашлялася і папрасіла вады. Пакуль супрацоўніца тэатра несла кубак, на сцэну выйшаў Анатоль Вярцінскі і прапанаваў акцёрцы адпіць з яго пляшачкі. Дзягілева не адмовілася, і тут жа ўся зала ўзарвалася апладысментамі. Атрымалася так, нібыта гэта ўсё было па сцэнарыі. Калі спектакль закончыўся, слухачы хвілін дзесяць не разыходзіліся. Некаторыя школьнікі фатаграфаваліся з Дзягілевай і Вярцінскім, дарылі кветкі…

*

*13.09.2014.* Некалькі дзён таму фотамайстра Юрый Іваноў запрасіў на сённяшні дзень у Мінскую ратушу на ўрачыстую перадачу сваёй фотакарціны «Лятучка. 1987 год» у музей сталіцы. З Людай выйшлі зараней, каб прагуляцца па святочных вуліцах. Зайшлі ў кнігарню «Цэнтральная», дзе сустрэлі Зміцера Юркевіча. Ён запрасіў нас на прэзентацыю часопіса «Тэксты», які прысвечаны Тадэвушу Рэйтану. Імпрэза адбудзецца ў Палацы мастацтваў 26 верасня. Потым мы няспешна пайшлі да ратушы. Паслухалі выступленні аркестра, народных хораў. Зайшлі ў ратушу і адразу трапілі на выставу Юрыя Каралевіча «Рэмінісцэнцыя», на якой прадстаўлены жывапісныя партрэты гістарычных дзеячаў Беларусі. З мастаком я пазнаёміўся сёлета ў Вязынцы падчас свята паэзіі. Усяго на выставе прадстаўлены пятнаццаць партрэтаў. У асноўным гэта самыя значныя асобы Вялікага Княства Літоўскага: вялікія князі Гедымін, Альгерд, Кейстут, Вітаўт, Ягайла, прадстаўнікі дынастыі Радзівілаў. Карціны ўражваюць. Яны надаюць ратушы значнасць. На імпрэзу да Юрыя Іванова прыйшлі народныя артысты Ігар Лучанок і Эдуард Зарыцкі, народны мастак Іван Міско, і яшчэ шмат вядомых людзей. Вёў імпрэзу кінарэжысёр Аляксандр Карпаў-малодшы. На перадачы фотакарціны музею Мінска прысутнічала і гераіня самога здымка, якому ўжо дваццаць сем гадоў. Жанчына па сённяшні дзень працуе на камвольным камбінаце. З прыемнасцю паслухалі песні з рэпертуару мулявінскіх «Песняроў» у выкананні Анатоля Кашапарава. Іван Міско ў перапынках паміж выступленнямі сяброў Юрыя Іванова фатаграфаваў Эдуарда Зарыцкага. Відаць, збіраецца рабіць скульптурны партрэт кампазітара. Даючы слова Эдуарду Барысавічу, Юрый Іваноў на нейкі момант забыўся ягонае прозвішча, і кампазітар тут жа падказаў: «Моцарт!» Ігар Лучанок некалькі разоў падыходзіў да мікрафона. На жаль, нічога не сыграў і не праспяваў. Архітэктар, кіраўнік творчага калектыву Анатоль Шабалін, якім была створана «Мінск-арэна», узгадваючы, як у маладосці разам з Анатолем Кашапаравым два гады спяваў у рэстаране гасцініцы «Юбілейная», сказаў: «А цяпер Анатоль амерыканец!» «Не! Беларус!» — у адказ выгукнуў Кашапараў. Выступіў і я. Пачытаў вершы. Пасля імпрэзы ўсе фатаграфаваліся, абменьваліся думкамі пра свята. А мы з Людай, крыху пабыўшы сярод бамонду, пайшлі ў «Планету сушы»…

*

*14.09.2014.* За акном цемра, як мёртвая вада…

*

*15.09.2014.* Па дарозе да Петрапаўлаўскага сабора я ізноў бачыў народнага артыста СССР Расціслава Янкоўскага. Ён ішоў з дзвюма кавенькамі, час ад часу

спыняючыся, разглядаючы людзей, якія абганяюць яго і якія ідуць насустрач. Расціслаў Іванавіч, якому 5 лютага наступнага года будзе 85 гадоў, ішоў прыгожа, як і належыць ісці народнаму артысту. Любуючыся Расціславам Янкоўскім, я з жалем падумаў, што, відаць, ніхто, акрамя мяне, не ведае, хто гэты стары, які ледзьве ідзе па Нямізе, як і я не ведаю, што за пажылы мужчына сядзіць у інвалідным вазку на ўваходзе ў дворык Петрапаўлаўскага сабора і просіць міласціну…

*

*16.09.2014.* У паветры праплыла павуцінка, якой былі завязаны дзверы ў восень…

*

*17.09.2014.* Выступаў у школе № 43, што на вуліцы Галадзеда. Прыемна было паслухаць «Баладу Еўфрасінні Полацкай», якую па памяці прачытала вучаніца. Чытала выразна і слова ў слова. Балада напісана даўно, а я і сёння на памяць яе не ведаю. Па-мойму, яна складаная для завучвання…

«А ці ёсць у вас вершы пра жывёл?» — паслухаўшы мае гістарычныя балады, нясмела запыталася школьніца…

*

*17.09.2014.* Не ўсе прыгажуні — прыгажуні і асабліва, калі ты цвярозы…

*

*17.09.2014.* Калі з мора дзьме вецер, ён заўсёды ў твой твар…

*

*18.09.2014.* Удзельнічаў у запісе тэлепраграмы «Дыя@блог P. S.», што выходзіць на канале «Беларусь 3». Вядучыя — Навум Гальпяровіч і Анатоль Зэкаў. Праграма пра гумар і гумарыстаў. Я на лаўры вялікага гумарыста ніколі не прэтэндаваў і цяпер не прэтэндую, але так атрымалася, што сёння вядучыя даказалі мне, што я ўсё ж вясёлы Сабака і сур’ёзны Граждан. Перад тэлезапісам грымёрша напудрыла мяне і я, паглядзеўшы ў люстэрка, сам сабе ў думках сказаў: «Харош! Асабліва ў змроку!» Пасля мяне запісваўся гумарыст Міхась Мірановіч. Сваёй чаргі ён чакаў амаль гадзіну. Ідучы на запіс, мы яму далі заданне напісаць новых эпіграм. Сказаў, што напісаў. Выйшаўшы са студыі на вуліцу, я ўбачыў грымёршу, сімпатычную дзяўчыну, якая сядзела на ганку і няспешна піла каву. І цяпер на вольным паветры, дзе з дрэў ападае першае залатое лісце, яна была яшчэ прыгажэйшай, чым тады, калі мяне рыхтавала да гумару…

*

*19.09.2014.* У выдавецтва прыходзіў мужчына. Пяцьдзясят дзевяць гадоў. Жанаты. Мае будаўнічую фірму. Зімой ён быў на цёплым моры. Там здзейснілася ягоная мара — мець каханку, якая б працавала настаўніцай. Жанчыне сорак гадоў. Разведзеная. Сын ужо дарослы. Закаханы мужчына за дзевяць месяцаў напісаў каля паўтысячы вершаў. Піша, хаваючыся ад жонкі і дзяцей, у пакоі, дзе стаіць акварыум. Блізкія думаюць, што ён да адурэння палюбіў рыбак. Каханка вершы набірае на камп’ютары, правячы граматычныя памылкі. Словам, мужчына мне ўсё расказаў, як «паэт паэту», пакінуўшы на памяць свае творы, сярод якіх і гэты:

Пусть темное, как ночь, вино
Так бережно хранящее прахладу утра,
Вольется в кровь. И в прошлом беды, севшие на дно,
А в будущем — цветы, любовь и камасутра.

*

*20.09.2014.* Прыснілася восень. Я прыехаў у вёску, каб жыць у роднай хаце. Зайшоў у залу. Змрочна. Са ўсёй столі капае вада. Чыстая. Спрабую спыніць, але вада пачынае цячы мацней. «Я ж тут сабраўся зімаваць…» — з жахам прашаптаў я і… прачнуўся.

## Ліда. Мураванка. Жалудок

*20.09.2014.* Дзякуючы прафсаюзнай арганізацыі выдавецтва са сваімі супрацоўнікамі ездзіў у вандроўку па маршруце: Мінск— Ліда— Мураванка— Жалудок— Мінск. Люда сказала: «Для нас гэта працяг нашай нядаўняй дарогі па Еўропе…»

У Ліду ехалі па маёй роднай Валожыншчыне. Час ад часу я дапамагаў Ярашу Малішэўскаму (наш гід) расказаць пра мясціны, якія мы бачылі праз аўтобуснае вакно…

На ўваходзе Лідскага замка нас чакаў навуковы супрацоўнік Лідскага гісторыка-мастацкага музея Алесь Хітрун. Я з ім знаёмы, і ён, павітаўшыся са мной, потым на працягу ўсёй экскурсіі стараўся гаварыць так, нібыта ўся экскурсія толькі для мяне. Алесь піша вершы. Здаецца, мае кніжку. Увесь час хацеў нас завесці ў музей Валянціна Таўлая, што побач з замкам. На жаль, большасць нашай групы не загарэлася жаданнем зайсці да паэта…

У Лідзе было Свята горада. Вакол замка гандлёвыя палаткі, шмат людзей, нібыта мы трапілі ў тыя часы, калі жылі князі…

Экскурсавод Алесь па знаёмстве мне дазваляў фатаграфавацца з экспанатамі замка. Калі я сеў за гасцінны княскі стол, да мяне падсела дачка нашай супрацоўніцы, і атрымаўся здымак: кароль Ягайла і Софья Гальшанская…

Лідскі замак мяне ўразіў, але не так, каб дух захапіла. Ён яшчэ нейкі як не жывы. Экспанатаў нямнога. Словам, замак яшчэ павінен напоўніцца духам беларускай даўніны…

Каля гасцініцы «Ліда» стаіць скульптура камандзіровачнага. Мясцовыя, убачыўшы нас, сказалі, што трэба ўзяцца за нос скульптурнага мужыка. Для чаго? Не растлумачылі…

Побач за агароджай царквы стаіць хата, на сцяне якой вісіць партрэт Сяргея Ясеніна, над якім прымацаваны кветкі. Каля плота стаіць вядро з яблыкамі. Відаць, у хаце жыве чалавек, які любіць паэзію і які, магчыма, сам піша вершы…

Лазілі на вежы. Вінтавыя лесвіцы вузкія і крутыя. На званіцы сядзелі галубы. Мы іх напалохалі, і яны паляцелі высока ў неба, каб расказаць былым абаронцам царквы, што сюды прыйшлі не ворагі, а свае людзі…

У вёсках Лідчыны і Шчучыншчыны вельмі шмат старых закінутых хат. Ды і многія тыя, у якіх жывуць людзі, выглядаюць не лепей. Гледзячы на іх, успамінаў сваю родную ў Пугачах…

Дамоў вярталіся, нібы з мінулых стагоддзяў…

*

*21.09.2014.* Прасядзеў цэлы дзень дома. Сумна, як вожыку ў тумане…

*

*22.09.2014.* Прыснілася, што я ў Пугачах дома ў дзядзькі Шуры (бацькаў стрыечны брат). Праз расчыненыя дзверы бачу, як у сенцы з другога пакоя выйшаў бацька, каб пакінуць хату. Спачатку я хацеў зрабіць выгляд, што не бачу яго, але тут жа ўстаў і пайшоў да бацькі, які ў мяне запытаўся: «Як у цябе справы?» «Яшчэ жывы» — адказаў я і абняў яго на развітанне…

*

*23.09.2014.* Прыходзіў Валера Гапееў. Ён цяпер у Мінску на вучобе. Гаварылі, гаварылі і прыйшлі да высновы, што ў нашай літаратуры амаль няма твораў пра 70—90 гады мінулага стагоддзя. Адным словам, Валера будзе не супраць пачытаць мой раман пра той час і мяне ў тым часе. Тое, што ў мяне атрымаецца напісаць цікавы твор, ён мяркуе па маіх шматлікіх (ужо надрукаваных) згадках пра перажытае. «З чаго пачаць?» — запытаўся я ў Валеры, і ён адказаў: «Пачні, як было на самай справе, з выпускнога восьмага класа, дзе ўсім хлопцам прапанавалі ісці вучыцца на трактарыстаў. Усе напісалі заявы, а ты адмовіўся…»

*

*24.09.2014.* Стаю на прыпынку. Спыніўся аўтобус. З яго выйшаў кампазітар Алег Чыркун і адразу падышоў да мяне. Павітаўшыся, Алег запытаўся: «Ну як там Масква?» — «Не ведаю…» — адказаў я. «Ты цяпер тут жывеш?» — «Тут». — «У Маскве ж бабкі харошыя…» — «А тут бабы харошыя…» — «Ты вельмі моцна на Шніпа падобны…» — «Няўжо?» — «Ты ж празаік Алесь Кажадуб?» — запытаўся кампазітар. «Ага!» — усміхнуўся я. «Ты вельмі моцна на Шніпа падобны!» — працягнуў размову Алег. «Мне гэта не дапамагае. Шніп мяне не друкуе», — я пачаў выконваць ролю Алеся Кажадуба. «А ты яму даўно свае творы аддаў?» — «Зусім не даваў!» — «Ну тады занясі!» — нібы загадаў, сказаў кампазітар, і мы яшчэ хвілін дзесяць гаварылі пра Шніпа. Нагаварыўшыся, разышліся, як у полі трактары…

*

*25.09.2014.* Холадна і няўтульна, як на мокрым дубе…

*

*27.09.2014.* Ездзіў у Пугачы…

Зайшоў у Заходні аўтавакзал, а там каля сотні старых па гадоў 70—80. І ўсе такія, нібыта сабраліся ехаць на той свет…

Праязджаючы каля Ракаўскіх могілак, каля святой крыніцы ўбачыў шмат народу. Жанчына, што сядзела побач, сказала: «Сёння свята — Узвіжанне Крыжа Гасподняга…»

Прыехаў у вёску. Адразу дождж перастаў і засвяціла сонца…

Да хаты па сухому не прайсці. Навокал вада. На вуліцы прарвала водаправод і ўжо амаль два месяцы цячэ вада каля нашай хаты…

Яблыкаў у траве, болей чым зорак у небе…

Хата жывая. Гадзіннік не спыніўся…

Прыехаў дзядзька Толя. Зааралі грады, пасеялі рапс. Мама была б задаволеная…

Пракапаў дзве неглыбокія канавы па метраў трыццаць. Адну каля плота на вуліцы, а другую ў садзе, каб вада сцякала. Праз гадзіну каля хаты пасушэла. І пры жыцці бацькоў водаправод нярэдка прарывала і вада падцякала пад хату і тады калгас браўся за рамонт не адразу. Цяпер калгаса няма і справы да вады, якая цячэ, нікому няма…

Міма праходзіў Тонік Руткевіч (сябар з майго дзяцінства), запытаўся: «Як там Мінск?» «Яшчэ стаіць!» — адказаў я…

На вуліцы пагаварыў з дзядзькам Шурам, з Лідай і яе мужам Валодзем. У вёсцы добра, і я вяртаўся ў Мінск, успамінаючы тыя часы, калі бацькі былі жывыя…

Яблык ляжаў на дарозе, нібыта зваліўся з неба…

У Мінск вярнуўся, як прачнуўся…

*

*28.09.2014.* Холадна. У скверы на лаўцы мужыкі сядзяць каля пляшкі з гарэлкай, як каля вогнішча…

*

*30.09.2014.* Пазнаёміўся з Базылём. Чалавек гаваркі. Жыве ў Амерыцы (верыцца і не верыцца) і ў свой час быў добра знаёмы з Анатолем Сысом. 12 лютага 2005 года Базыль зайшоў да Анатоля дахаты. Гаворачы пра сябе, Сыс сказаў: «Тры сняжынкі маю жыцця». «Так яно і атрымалася, што пасля нашай сустрэчы паэт пражыў тры месяцы». Развітваючыся, Анатоль абяцаў, што апошні верш ён напіша для мяне, і 25 красавіка ён напісаў:

Шрыфтам Брайлера на калядным снезе
Птушкі вершы пішуць.
А чытаю — рукі змерзлі.
Свае руны мне не вышыць.
Я аслепнуў.
Я аглухнуў.
Птушак не здагнаў — спяшаю,
а вясновы снег пажухнуў.
Часу — тры сняжынкі маю.
А памру — паэт мо прыйдзе…

Прачытаўшы верш, Базыль папрасіў падпісаць маю «Тутэйшую тугу» і абавязкова напісаць: «Дарую Базылю, з якім удвух мы ведалі паэта Анатоля Сыса, а пазнаёміліся толькі сёння 30.09.2014 года». Дзякуючы за дэдыкацыю, Базыль сказаў: «Мне Сыс падпісаў кнігу і паставіў дату 3003 год».

*

*2.10.2014.* Пабялелая марка маладзіка на блакітным канверце восеньскага неба…

*

*2.10.2014.* Сёння дудару, барду, паэту Зміцеру Сідаровічу было б 49. Я з ім пазнаёміўся дзякуючы маёй Людміле, якая вучылася на філфаку разам з жонкай Зміцера Марынай Місько. У нашым сямейным альбоме сустрэч ёсць запіс: «Нармалёва, Шніпы-Рублеўскія! Нармалёва. Пэўна, на такіх, як вы, трымаецца беларускі свет. Пазнаёміўшыся з вамі, мы гэта пачулі і адчулі шчыльна. Напачатку было цяжкавата. Потым — цудоўна. Людзі разышліся. Вы таксама. Мы таксама. Таму — нармалёва, Шніпы-Рублеўскія! Жонка дапіша астатняе, у мяне нямее рука. Даканчу думку, пэўна, іншым разам. Калі дажывём. Публікаваць гэта ня можна. Чытаць гэта ня можна. На нас трымаецца беларускі свет. Усё»... 14.08.93.

*P. S.*
Мы споры думкі беларускай
У рускамоўнай грамадзе.
Мы мусім біцца колам вузкім…»

Марына дапісала: «Вітаю цёплую сямейку і развітваюся з ёю. Спадзяюся, што гэтая сустрэча пакладзе пачатак сяброўства паміж нашымі сем’ямі. Натхнення вам, здароўя вашым дзеткам. Шчасце ў вас, дзякуй богу, ёсць. На векі вечныя. Амін. М. С»..

*

*3.10.2014.* Памёршы, мужчына вярнуўся ў сям’ю…

*

*3.10.2014.* У бібліятэцы імя Цёткі тэатр «Арт.С» правёў вечарыну, прысвечаную памяці Зміцера Сідаровіча. Каля трох гадзін гучалі Зміцеравы музыка, вершы, песні і было ўражанне, што ён побач з намі і слухае нашы расповеды. Узгадваючы дудара, Міхась Скобла расказаў і пра тое, як ён быў у яго ў гасцях на дзевятнаццатым паверсе і на пытанне: «Для каго ты тут іграеш?» пачуў: «Для неба!»…

*

*4.10.2014.* Мама часта мне казала, каб нікуды не хадзіў, сядзеў дома. Мамы няма, а я сяджу дома…

*

*5.10.2014.* Я на працы. У кабінет зайшоў Уладзімір Караткевіч. «У мяне тут хутка будзе юбілей. Хачу выдаць новы раман», — сказаў Уладзімір Сямёнавіч і паклаў перада мной тоўстую папку. Я зазірнуў у яе, каб даведацца як называецца новы твор Караткевіча, а там пуста, і я… прачнуўся.

*

*7.10.2014.* Прыходзіў фотамайстра Яўген Коктыш. Ягоныя здымкі надрукаваны ў кніжцы Барыса Крэпака пра Міхаіла Савіцкага. Гаворачы пра мастака, Яўген Фаміч узгадаў айца Віталя, які, будучы ў майстэрні Савіцкага, запытаўся: «Міхаіл Андрэевіч, хто ж пасля Вас?» Мастак больш за паўгадзіны не адказваў на пытанне, нібыта не пачуў яго, а потым, калі айцец Віталь агледзіў усе карціны, што былі ў майстэрні, сказаў: «Нікога!»

*

*8.10.2014.* Холадна. Чайкі на беразе Свіслачы, як першы снег…

*

*9.10.2014.* У яго была кніга ў блакітнай флэшцы на ружовым шнурку…

*

*12.10.2014.* Трэці дзень хварэю. Прыходзіў адведаць Алесь Квяткоўскі. Запрасіў на 19 лістапада на адкрыццё выставы ў галерэі Шчамялёва. Некалькі дзён таму Алесь тэлефанаваў Вітаўту Чаропку. На маё пытанне «Як там наш вялікі празаік?» Алесь адказаў: «Пачаў маляваць. Ужо мае каля дваццаці карцін. Пра Чарнобыль, пра пажары. Словам, запрашаў прыехаць паглядзець і ацаніць ягоныя работы».

*

*13.10.2014.* Сніцца родная хата. Вада. Бацька. Ужо чацвёртую ноч…

*

*15.10.2014.* Выступаў у гімназіі № 20. Старшакласнікі толькі слухалі, а малодшыя адзін перад адным падымалі рукі і задавалі пытанні на беларускай мове. Пазнаёміўся з настаўніцай Алай Рыгораўнай. Яна мая зямлячка. Яшчэ школьніцай чытала мае вершы ў Валожынскай раёнцы, некаторыя вучыла на памяць і з імі выступала на школьных святах…

*

*16.10.2014.* Сядзеў каля камп’ютара, як мыш каля сыру ў мышалоўцы…

*

*17.10.2014.* Нарэшце ў кватэру па трубах прыйшло цяпло. А за акном вечар чорны, як мокры воран…

*

*18.10.2014.* Высока ў бясхмарным небе вароны, як чорнае лісце ў вадзе…

*

*19.10.2014.* Прысніліся Лягезы. Паўстанне Каліноўскага. Я ў лесе. На ўзгорку каля Лягез адзін трымаю абарону. Страляю з ружжа і не трапляю ў ворагаў, якія абыходзяць мяне, не страляючы. Бачу, як далёка ў баку Пугачоў ідзе бой. Хачу дапамагчы паўстанцам, але раптам чую, што мяне на ўскрайку Лягез кліча маладая паненка. Уся ў белым. Я пакідаю сваю пазіцыю і спяшаюся да дзяўчыны. Не паспяваю дайсці, як бачу, што да яе падыходзіць малады афіцэр і абдымае. Я хачу іх застрэліць. Страляю і… прачынаюся.

*

*24.10.2014.* Прыходзіла сястра Еўдакіі Лось. Гадоў дзесяць таму яна забрала з выдавецтва ўспаміны пра паэтку і цяпер хоча, каб мы надрукавалі. «А дзе ж рукапіс?» — пацікавіўся я. «Дома». — «Чаму не прынеслі?» — «Баюся згубіць па дарозе»…

*

*25.10.2014.* Неба чыстае, як першы лёд…

*

*26.10.2014.* Неба, як манітор няўключанага камп’ютара…

*

*27.10.2014.* Абляцела лістота, і на дрэвах у парку зачарнелі вароніны гнёзды, як дзіравыя шапкі лесавіка, што цэлае лета бамжаваў у горадзе…

*

*28.10.2014.* Сустрэўся з мастаком Уладзімірам Лукашыкам. Узгадваючы памерлых паэтаў, Валодзя сказаў: «Сёння, ідучы да сваіх студэнтаў, задумаўся пра сваю смерць. Хачу, каб мяне пахавалі ў кашулі ў клетачку…» «Чаму ў клетачку?» — пацікавіўся я. «Мама заўсёды мне купляла кашулі ў клетачку. Калі памру, хачу, каб мама мяне здалёку пазнала…» — адказаў мастак…

*

*29.10.2014.* Размаўляў з Уладзімірам Лукашыкам. Гаворачы пра творчасць, мастак сказаў: «У нас жывапіс не цэніцца. У нас цэніцца халадзільнік!»

*

*30.10.2014.* Раніца. Я толькі што прыйшоў на працу. Не паспеў сесці за стол, як у кабінет зайшоў мужчына і гучна заявіў: «Я тут з Кіева прыехаў. Хачу ў вас кніжку выдаць!» «Аповесць? Раман?» — запытаўся я. «Не! Гэта маё навуковае даследаванне! Я напісаў яго ў вольны час ад працы на заводзе!» — сказаў госць з Кіева і расказаў пра тое, як усё кепска ва Украіне і што будзе яшчэ горш і скончыцца ўсё тым, што не будзе краіны. «Можна пачытаць?» — пацікавіўся я. Мужчына дастаў з партфеля вялізарную папку, на якой прыклеена жоўтая паперка, а на ёй напісана «Весенние сны Леонида Брежнева»…

*

*1.11.2014.* З сястрой Валяй і яе мужам Віцем ездзілі ў Валожын. Нарэшце маем усе дакументы на спадычну, што нам засталася ад бацькоў…

Ходзячы па Валожыне, сястра заўважыла, што на мяне некаторыя землякі глядзяць так, нібыта я ў нешта выпацканы. «Гэта ж нядаўна мяне некалькі разоў па тэлевізары паказвалі, відаць, пазнаюць…» — адказаў я і насунуў шапку на вочы…

У Пугачы прыехалі пасля абеду. На сажалках лёд. Хваляваўся за водапровод на кухні. Труба цэлая…

На яблынях ні лістоты, ні яблыкаў. Усё на зямлі. Сад, як забрукаваны яблыкамі…

Вясной купіў бензапілу. Ішоў дахаты з крамы, спынілася машына і нейкі нярускі так мяне разжалабіў расповедам, што яму на працы выдалі зарплату бензапіламі і цяпер ён не можа вярнуцца ў Расію, што я ўзяў і купіў рэч, якая мне асабліва і не патрэбна. Швагер Віця смяяўся з маёй дабраты, але месяц таму і сам папаўся на такога ж нярускага бедалагу і пашкадаваў яго, купіўшы сабе бензапілу. Сёння ў нашым садзе было шмат работы і, каб не новыя пілы, то паламаныя сукі мы б цэлы тыдзень пілавалі, а так справіліся за чатыры гадзіны.

Я з Віцем пілаваў, а Валя паліла на вогнішчы галлё. У шэсць гадзін сцямнела. Вогнішча мы не залівалі вадой. Яно было ў цемры, як невядомая галактыка, у якой мільёны зорак…

«Калі мама ўбачыць, што мы не затушылі агонь, будзе злавацца!» — я сказаў сястры і тут жа ў цемры з вуліцы пачуў незнаёмы жаночы голас: «Не пакідайце ж агонь. Затушыце…»

*

*3.11.2014.* Трава на беразе ракі трымаецца за пясок, як мы за час, у якім жывём…

*

*4.11.2014.* Мёртвае лісце перабягае дарогу і гіне пад коламі машын…

*

*4.11.2014.* Не было б Бога, не было б нікога…

*

*4.11.2014.* У выдавецтва некаторыя прыходзяць, як у сабес…

*

*5.11.2014.* Нізкакаларыйныя творы…

*

*5.11.2014.* Прыходзіла аўтарка. Ёй даўно за семдзесят. Гаворачы пра выданне кнігі, раптам перапынілася і сказала: «У вас на падаконні стаіць каштоўны вазон. За яго ў адной краіне можна вялікія грошы ўзяць!» «Чым ён каштоўны?» — пацікавіўся я. «Ён падвышае мужчынскую патэнцыю!» — «Дык што яго трэба есці?» — «Не! Ён расце і ў паветра вылучае сваю энергію. Такую ж сілу маюць фікусы. Пасля вайны Сталін даў загад, каб у кожнай хаце і кватэры былі фікусы. Мужчын тады было мала і тыя былі знямоглыя пасля вайны, таму фікусы дапамагалі паскорыць прырост насельніцтва». Пасля размовы я прайшоўся па рэдакцыйных кабінетах і амаль у кожным убачыў такі ж каштоўны вазон, як і ў мяне, а ў некаторых былі і фікусы…

*

*7.11.2014.* Чалавек дзесяць, з якімі размаўляў учора і сёння, віншавалі мяне са святам, не гаворачы з якім. Праўда, усе віншавальшчыкі былі старэйшымі за мяне...

*

*7.11.2014.* Чакаеш-чакаеш выхадных, а потым не ведаеш, чым заняцца ў гэтыя дні, і сядзіш у інтэрнэце, як кот на аўтобусным прыпынку…

*

*8.11.2014.* Сёння сем гадоў, як зусім не ўжываю напояў з градусамі. За гэты час прачытаў дзясяткі выказванняў у карысць таго, што трэба пакрыху выпіваць і толькі некалькі, што зусім не піць — гэта вельмі добра. За гэтыя сем гадоў памерла шмат знаёмых, якія пілі, як у бочку, і ніводзін, хто кінуў піць…

*

*9.11.2014.* Дзень скукожыўся, як на асфальце апалы ліст…

*

*10.11.2014.* Прыязджаў краязнаўца Міхась Казлоўскі, каб паглядзець вёрстку і афармленне кнігі Язэпа Драздовіча, якую ён склаў. Выданне атрымоўваецца вельмі шыкоўнае, а галоўнае — у ім будзе прадстаўлены амаль увесь Драздовіч. З Міхасём паўспаміналі нашы зямляцкія сцежкі-дарожкі, па якіх апошнім часам неяк не выпадае пахадзіць. Цяпер Міхась працуе над томікам Вячаслава Міхасёнка (доўгі час жыў і працаваў настаўнікам у Дубравах), дзе будуць і вершы, і проза, і ўспаміны пра Караткевіча, і ліставанне. Рукапіс ужо мае назву «Зазімак» — так кнігу пры жыцці хацеў назваць Вячаслаў…

*

*10.11.2014.* Першы раз за гадоў пятнаццаць быў у паліклініцы. Стаяў у чарзе, каб завесці асабістую картку, і чамусьці думаў, што стаю па пропуск на карабель, які вечарам вязе ў Амерыку ўцекачоў ад белай гвардыі…

*

*11.11.2014.* Сёння ў Інстытуце журналістыкі прайшоў дзень практыканта, на якім выступіць былі запрошаны Навум Гальпяровіч, Наталля Карпенка і я. Выходзячы з актавай залы, адчуў сябе студэнтам, які прытварыўся выкладчыкам…

*

*13.11.2014.* Ідучы ў бібліятэку імя Янкі Купалы на прэзентацыю сваіх кніг «Тутэйшая туга» і «Першы папяровы снег», меркаваў, што сабярэцца чалавек 20, ну максімум 30, як звычайна бывае на падобных імпрэзах у бібліятэках. І якраз сёння дома я забыўся мабільны і, каго хацеў з ранку асабіста запрасіць, каб прыйшоў, таго і не запрасіў. І тут на табе, ці то бібліятэчная абвестка каля гардэроба, ці то маё запрашэнне ў «Фэйсбуку», ці нешта іншае паўплывала на людзей, бо на прэзентацыю маіх кніг, якія выйшлі ў выдавецтве «Чатыры чвэрці», прыйшло каля сотні (а мо і больш) чалавек. Мне і песні спявалі, і вершы чыталі, і казалі, што я такі-сякі вялікі, а я слухаў і ўсміхаўся. Едучы дадому, падумаў: «А можа, мне ўсё гэта прыснілася?..»

*

*13.11.2014.* За апошнія тры тыдні да мяне прыходзіла некалькі празаікаў, якія заявілі: «Я вам прынёс «Вайну і мір»! Друкуйце!» Гаворачы з імі пра «Вайну і мір», я даведваўся, што мае новыя знаёмыя да канца не дачыталі твор Талстога, бо «яго без прымусу, што быў у школе, немагчыма чытаць»…

*

*14.11.2014.* Ужо даўно рукапісы не змяшчаюцца на выдавецкія паліцы, і я новыя кладу на верх шафы. Сёння зірнуў на пажаўцелыя папкі і чамусьці ўспомніў бацьку, і ўва мне прагучала бацькава: «Гэтых дроў хопіць на некалькі гадоў!»

*

*15.11.2014.* У скверы размінуўся з бамжом, які спяваў: «Мой адрес не дом и не улица, мой адрес Советский Союз…»

*

*15.11.2014.* За сценкай забрынкала піяніна, і я чамусьці ўспомніў сваё кватараванне ў цёткі Галі на вуліцы Мендзялеева. Мне было пятнаццаць гадоў. Я вучыўся ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме. Кожны вечар над намі па гадзіне, а то і болей нехта брынкаў на піяніна. Мае сваякі слухаць музыку перад сном не любілі, і я, ведаючы гэта, вырашыў падпільнаваць музыканта і адвучыць яго іграць па вечарах. Праз некалькі дзён я высветліў, што на піяніна брынкае даўганосы хлапчук, на пяць гадоў маладзейшы за мяне. І вось аднойчы я падпільнаваў яго ў пад’ездзе і, узяўшыся за штрыфлі пінжака, запытаўся: «Хто ты такі, што кожны вечар не даеш людзям спакойна легчы спаць?» «Я Дзіма…» — прашаптаў даўганосы. «Я зараз цябе паб’ю, калі ты не паклянешся, што болей не будзеш іграць па вечарах!» — грозна заявіў я. «Добра. Але мне трэба іграць, бо я здымаюся ў фільме пра Бураціну», — сказаў Дзіма. Казка пра Бураціну была адной з маіх любімых, і яшчэ некалькі гадоў таму я з сёстрамі ў вёсцы ставіў спектакль па гэтым творы. Хлапчук быў вельмі падобны на Бураціну, і мне раптам расхацелася яго біць, бо, б’ючы яго, я б пабіў свайго літаратурнага любімца, а любімых жа не б’юць. І ўжо недзе праз паўгода ў кінатэатры я глядзеў фільм «Золотой ключик, или Приключения Буратино», дзе ў галоўнай ролі быў Дзмітрый Іосіфаў, які жыў нада мной і якога я хацеў адвучыць іграць на піяніна…

*

*17.11.2014.* Некалькі тыдняў таму адной паэтцы я сказаў, што над яе рукапісам яшчэ трэба добра папрацаваць, каб атрымалася кніга вартая выдання. У пятніцу паэтка патэлефанавала і адразу заявіла: «Я ўсю ноч плакала пасля размовы з вамі!» Падобнае ад паэтак чую не ўпершыню. Некаторыя старыя творцы, якія ў свой час нешта паспелі выбіць у выдавецтвах, палохаюць тым, што яны памруць і будуць мёртвымі прыходзіць да мяне і пытацца: «Чаму не выдаў кніжку?» Такіх, дзякуй богу, нямнога, але яны ёсць. І шкада іх, і дапамагчы ім цяпер амаль немагчыма, і самае галоўнае — яны не разумеюць, што, калі іх гадамі нідзе не друкуюць, то і выдавецтва не выдасць кнігу. Чацвёрты дзень думаючы пра слёзы паэткі, захацелася дажыць да таго часу, калі знойдзецца чалавек, які пасля размовы (не толькі са мной!) пра яго слабенькія творы, патэлефануе і скажа : «Я ўсю ноч не спаў і вырашыў, што болей пісаць не буду, а калі буду, то не буду хадзіць па рэдакцыях і не буду займацца скаргамі!»

*

*18.11.2014.* Галодны, як камар…

*

*18.11.2014.* Ідучы вечарам дахаты, у небе на воблаку ўбачыў радкі:

Ты піў віно з жаночай туфлі
І белай ружай заядаў.
Ад пацалункаў вусны пухлі,
Калі жанчыну цалаваў.
А што было далей — не помніш,

Дамоў вярнуўся, як з вайны
Ці з нейкае каменаломні,
Каб сніць вангогаўскія сны…

*

*19.11.2014.* У бібліятэцы імя Цёткі ўдзельнічаў у адкрыцці выставы мастака Валерыя Сенчанкі. За час працы ў выдавецтве я прывык да яго, як да добрага традыцыйнага дызайнера кніг і таму тое, што ўбачыў на выставе, было для мяне прыемнай нечаканасцю — у карцінах жывуць Беларусь, Украіна і Паэзія. Валерый Іванавіч на мастака не вучыўся, хоць і спрабаваў паступіць. Пасля вучобы ў Маскве трапіў інжынерам на завод «Інтэграл». Там было літаб’яднанне. Пасябраваўшы з заводскімі паэтамі і аздабляючы іх падборкі вершаў у заводской газеце, звярнуў на сябе ўвагу таго начальства, якое разбіралася ў мастацтве. І ўжо ў 90-я гады Валерый Сенчанка на «Інтэграле» працаваў дызайнерам гадзіннікаў «Электрон». Аднавясковец і сябра Валерыя Іванавіча расказаў, як трыццаць пяць гадоў таму яны былі ў кафэ, дзе паблізу сядзелі дзяўчаты, сярод якіх адна спадабалася яму. Як пазнаёміцца? І ён папрасіў Валерыя Іванавіча, каб той на сурвэтцы намаляваў партрэт прыгажуні. Калі партрэт быў гатовы, сябра дапісаў свой тэлефон і просьбу патэлефанаваць. Праз два тыдні дзяўчына патэлефанавала, і вось ужо 35 гадоў яны жывуць разам і сябруюць з сям’ёй Валерыя Сенчанкі…

*

*21.11.2014.* Учора нарэшце выпаў снег. Сёння растае. З берага Свіслачы ўзляцелі чайкі, як першы снег узляцеў…

*

*23.11.2014.* З Людай едзем у тралейбусе. Размаўляем. У салоне чалавек дзесяць. На чарговым прыпынку зайшоў мужчына гадоў сарака пяці, сеў насупраць нас. Праз хвілін пяць запытаўся: «Адкуль вы?» Я хацеў адказаць, што мы з калгаса, але стрымаўся і сказаў: «Мы з Мінска!»…

*

*24.11.2014.* Я ў вёсцы. Сяджу за камп’ютарам. Адчыняюцца дзверы. Да мяне прыйшлі манахі: «Мы з Грэцыі. У свеце вялікая бяда…» «Якая бяда?» — запытаўся я і нічога не пачуў у адказ. Манахі завязалі мне вочы і павялі. «Куды мы ідзём?» — хвалююся я. Праз нейкую хвіліну мы спыняемся. Адчуваю, што мы ў старажытнай Грэцыі. «Яму трэба тэрмінова выкалаць вочы!» — чую голас. Мяне садзяць на вялікае крэсла, якое падобнае на трон, прывязваюць. «Для чаго вы хочаце пазбавіць мяне зроку?» — пытаюся я. «Сёння загінуў Гамер, а праз тыдзень ён павінен быў пачаць ствараць «Іліяду»…» — чую ў адказ і… прачынаюся ад болю ў вачах…

*

*25.11.2014.* Нас многа, а ён адзін, як кропка ў канцы сказа.

*

*27.11.2014.* Прыходзіў стары. У кажуху і ў валёнках. У торбе прыносіў раман. Напісаны ад рукі. Амаль не прачытаць. Стары глухаваты. Яму 80 гадоў. На маё пытанне «Адкуль вы?» ён сказаў: «Я цяпер жыву ў Мінску, а так усё сядзеў у турмах у Сібіры…»

*

*28.11.2014.* У Інстытуце журналістыкі размаўляў з Пятром Жаўняровічам пра тое, як студэнты з інтэрнэта спісваюць курсавыя і, перакладаючы іх з рускай на беларускую мову праз гугл, трапляюць у камічныя сітуацыі. Найбольш пасмяяліся з курсавой, дзе старонка з заключэннем была пазначана словам «Зняволенне»…

*

*29.11.2014.* Алесь Квяткоўскі прапанаваў разам з’ездзіць у Гарадскую мастацкую галерэю твораў Леаніда Шчамялёва. Там працуе выстава ягоных карцін «Зімовыя сны пчол». Паехалі. Далекавата ад майго дома, але не шкадую, што пабыў у галерэі. Сабралася крыху людзей, якім у мароз захацелася памаляваць першы снег пад наглядам Алеся. Сярод маладых жанчын і маладых мам з дзецьмі быў Вітаўт Чаропка. Ён мне падарыў сваю новую кнігу «Геркулес, Руды і Пярун (Радзівілы-пераможцы)». Перад тым, як пачалося маляванне, я пачытаў цыкл хоку «Зімовае». За сталом, які быў складзены маладзіком, сядзела дванаццаць мастакоў, як дванаццаць апосталаў. Усе малявалі, а я сядзеў каля Чаропкі і натхняў яго ўспамінамі пра нашы маладыя гады. Алесь Квяткоўскі хадзіў кругамі каля стала і падказваў, як трэба маляваць. Гледзячы на яго, мне чамусьці ўспомніўся Астап Бэндар, які даваў сеанс адначасовай гульні ў шахматы ў вёсцы Васюкі. Я пра гэта сказаў Вітаўту і ён запытаўся: «А дзе Панікоўскі?» «Ён каля цябе сядзіць!» — адказаў я. Калі скончыўся наш пленэр, Вітаўт падпісаў сваю работу «Ранні снег» і падарыў мне. Развітваючыся з гаспадыняй галерэі Крысцінай Лядскай, я прапанаваў, пакуль працуе выстава Алеся, яшчэ раз зладзіць падобны пленэр. Супраць не было нікога…

*

*29.11.2014.* З Людай глядзелі фільм. Адзін з эпізодаў распавядае пра фотавыставу, на якую прыйшла карэспандэнтка. У час размовы, стоячы каля фотаздымка, дзе кат расстрэльвае ахвяру, арганізатар выставы запыталася ў журналісткі: «А вы, у глыбіні душы, на якім месцы хацелі б быць: на месцы ахвяры ці ката?» Дзяўчына не адказала і пакінула памяшканне. Люда паўтарыла пытанне для мяне. І я адказаў: «Пры гэтым пакаранні, што на здымку, быў трэці чалавек — фатограф…»

*

*30.11.2014.* У Алеся Квяткоўскага ёсць цыкл карцін «Пагоня на Грунвальд». Адна з работ цыкла прысвечана Вітаўту Чаропку. Ён сядзіць на кані на чале першай харугвы. Учора на пленэры ў галерэі Шчамялёва, узгадаўшы пра гэтую карціну, я сказаў Вітаўту, што Алесь, малюючы яго, казаў: «Чаропка будзе ехаць у першай харугве. Яго першым і заб’юць!» Пачуўшы гэта, Вітаўт, смеючыся, замахаў рукамі: «Не хачу быць у першай харугве! Хачу ў абоз! Я жыць хачу!»

***Заканчэнне будзе.***



Леў КОЛАСАЎ

# АКУПАЦЫЯ*

* * *

Восенню 1941 года гарадская ўправа аб'явіла, што ў школах Лунінца (агульнаадукацыйнай і тэхнічнай) пачынаюцца заняткі, таму патрэбна прывесці памяшканні ў парадак (пасля захопу горада там размяшчаліся нейкія ваенныя арганізацыі, была казарма). Дырэктарам школы прызначылі лунінчанку Аляксандру Тулейку (пасля вайны за супрацоўніцтва з нямецка-фашысцкімі акупантамі яна была асуджана на 10 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў па сумна вядомым 58-м артыкуле). Будынак школы знаходзіўся ў безнадзейным стане. Многія вокны былі выбітыя; разбураны паліўны склад, прыбіральня, дапаможныя памяшканні; забруджаны двор; разбіты парты, пашкоджаны класныя чорныя дошкі; раскрадзена маёмасць. У даваенныя гады ў школе быў невялікі фізіка-хіміка-біялагічны кабінет. У ім меліся мікраскоп, электрычная машына, праекцыйны апарат з наборам шкляных дыяпазітываў па гісторыі Польшчы (захаваліся з польскага часу), а таксама савецкіх — пра паходжанне чалавека, флору і фаўну Зямлі ды інш. Ад абсталяваня нічога не засталося — усё было разрабавана. Па двары валяліся дыяпазітывы, глобусы (імі нямецкія салдаты гулялі ў футбол), сарваныя са сцен партрэты кіраўнікоў СССР, карты ды шмат іншай маёмасці, патрэбнай для навучання, але не патрэбнай акупантам. Дырэктар школы прыклала шмат намаганняў, каб прывесці будынак і двор у парадак. З дапамогай бацькоў школьнікаў і прысланых управай рабочых удалося гэта зрабіць. У канцы верасня — пачатку кастрычніка прыступілі да заняткаў. Школу адкрылі мітынгам, прамовамі, падзякамі «вызваліцелям». Але не было ні настаўнікаў, ні падручнікаў. Усе савецкія кнігі, купленыя школай для агульнага карыстання ці прысланыя ў падарунак вучням Заходняй Беларусі з многіх гарадоў БССР і нават СССР, мастацкая літаратура са школьнай бібліятэкі — усё было звалена ў кучу у адным з класаў і зачынена на ключ. Дырэктар Тулейка загадала нікога туды не пускаць. Нейкая камісія павінна была праверыць гэтыя кнігі ды падручнікі і вырашыць, якімі можна карыстацца, якімі — не. Урокі ішлі без падручнікаў. У малодшых класах вялося вуснае навучанне, у старэйшых — нешта канспектавалі. Цяжкая гэта была вучоба.

Зачынены клас з кнігамі не даваў спакою многім вучням. Чацвёрка школьнікаў — Міхаіл Колб, Аркадзь Ляшкевіч, Пажарыцкі і я — вырашылі туды залезці і ўкрасці ў Тулейчыхі кніг. Кожны з нас узяў каля 10-ці, якія найбольш спадабаліся. У мяне былі «Казкі Гауфа», том «Гісторыя артылерыі», «Рускія народныя казкі і быліны», аповесць пра Сяргея Кірава «Хлопчык з Уржума», «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра і некалькі іншых. Выйшлі мы, як і ўвайшлі, — праз акно ў школьны двор. Але аказалася, што нехта бачыў, як мы неслі кніжкі дамоў, і данёс пра гэта. Нас выклікала дырэктар, насварылася і загадала вярнуць кніжкі ды прывесці бацькоў. Частку ўзятага мы занеслі назад, перажылі дома непрыемнасці, але нас усё роўна выключылі са школы. Суцяшала толькі тое, што праз

* Заканчэнне. Пачатак у № 5, 2015 г.

два-тры тыдні школа была зачынена, а ў будынку размясціліся нейкія ваенныя ўстановы, казарма і г. д. Маёмасць школы (у тым ліку і ўсе кнігі) была выкінута ў двор і паступова спалена. Я вярнуў не ўсе кнігі. Яшчэ доўга ў хатняй бібліятэцы захоўваліся «Казкі Гауфа», «Гісторыя артылерыі» і шмат разоў перачытаныя «Незвычайныя прыгоды Карыка і Валі».

Ненавісная дырэктарша Тулейка нядоўга заставалася без працы. Яна арганізавала школьныя заняткі дома ў дзве змены. На вуліцы 17 Верасня яна валодала двума дамамі, у адным з іх і была адчынена школа. За навучанне арыфметыцы, рускай мове, пачатковай алгебры, геаметрыі і некаторым іншым прадметам (для дзяўчынак — кройкі і шыцця, вязання і асновам дамаводства) трэба было плаціць карбованцы ці больш устойлівую валюту — рэйхсмаркі, але можна было і прадуктамі. Нягледзячы на нядаўні інцыдэнт з крадзяжом кніг і высвятленнем адосін з Тулейка, мае бацькі (яны былі знаёмыя з настаўніцай яшчэ з польскіх часоў) вырашылі, што я павінен наведваць гэтую школу — якая ні ёсць, а ўсё ж адукацыя. Давялося мне разам з 15—20 аднагодкамі стаць вучнем «прыватнай школы мадам Тулейка» і чатыры разы на тыдзень вучыцца там за плату грашыма, садавінай і гароднінай. Так працягвалася недзе паўгода.

У 1942 годзе акупанты адкрылі ў Лунінцы ўкраінскую школу. Размяшчалася яна ў драўляным доме — былой яўрэйскай сінагозе на вуліцы Прыпяцкай. Выкладанне некаторых прадметаў вялося тут на ўкраінскай мове. У Лунінцы не было настаўнікаў, якія б ведалі яе, іх прыслалі з Заходняй Украіны. Гэта былі ярыя нацыяналісты, антысаветчыкі, русафобы. Нас навучалі заходняй гаворцы ўкраінскай мовы, якая адрозніваецца ад усходняй. Выкладаў нам украінскую мову, гісторыю і літаратуру Пятро Максімільянавіч Івахно. У Роўна нават выпусцілі два падручнікі для ўкраінскіх школ. Адзін з іх называўся «Кабзар» — нешта накшталт нашага «Буквара», але для старэйшага, чым першаклашкі, узросту. На першай старонцы быў змешчаны партрэт Тараса Шаўчэнкі і яго верш пра Украіну. А вось далей… На малюнках з подпісамі на ўкраінскай мове ўвасаблялася гісторыя Германіі ў саюзе з Украінай пад лозунгам: два народы — адзін лёс. Праслаўлялася дзейнасць нямецкіх улад ва Украіне, ухваляўся «вызваліцель» Гітлер і яго паплечнікі. У гэтай кнізе было шмат вершаў. «Пан Пятро» прымушаў нас вучыць на памяць прысвячэнне рэйхскамісару Украіны Эрыху Коху. Зразумела, на ўкраінскай мове. За няведанне «пан Пятро» лупіў нас тоўстай драўлянай лінейкай і прымушаў стаяць цэлы ўрок па стойцы смірна.

Любіў здзекавацца з вучняў і яшчэ адзін настаўнік украінскай школы. Ён выкладаў нешта накшталт працы: вучыў слясарнай справе, розным гаспадарчым навыкам. У дзяўчынак, дарэчы, была свая настаўніца па дамаводстве і навучанні на сакратара-машыністку. Немцам патрабаваліся не вельмі адукаваныя людзі ніжэйшай расы. Лік да 1000, 4 арыфметычныя дзеянні, уменне нешта прачытаць, распісацца, ведаць што-ніштo пра Германію — вось і ўся навука. Іншая справа — гаспадарчая праца, падпарадкаванне гаспадарам. Гэтаму і вучыў нас настаўнік Баброў. Сам ён быў лунінецкім, доўгі час выкладаў у тэхнічнай школе. І ў польскі час вылучаўся крутым норавам. Цяпер жа, ва ўкраінска-нямецкай школе ён стаў яшчэ больш лютым. Пастаянна хадзіў з дубовай лінейкай. Мог без дай прычыны сказаць: «Дай, дрэнь, лапу!» — і тут жа абрынуць на далонь вучня град udараў лінейкай. Рука распухала і страшна балела, а Баброў казаў, што толькі так можна навучыць «наша быдла» ўменню працаваць. Вучні далі яму мянушку Падлец. Зразумела, адносіўся ён так не да ўсіх. Разам з намі вучыліся дачка інспектара школы Людміла Васілевіч, дзеці сваякоў бургамістра Якубіка і некаторых іншых тагачасных начальнікаў. З імі Падлец паводзіў сябе ветліва і карэктна. У чэрвені — ліпені 1944 года Баброў некуды знік.

Вясной гэтага ж года акупанты зачынілі школу — набліжаўся фронт. Настаўнікі-украінцы некуды збеглі, спяшаліся і немцы — ім было ўжо не да адукацыі «ніжэйшай расы». Усе вучні-хлопчыкі былі мабілізаваны (менавіта так!) пад распіскі бацькоў і пераведзены на работу (не на вучобу!) у тэхнічную школу. Наведванне было абавязковым. Калі хто-небудзь не з’яўляўся на заняткі, за ім пасы-

лаўся «бобік»-паліцэйскі. За неаднаразовую няяўку пагражаў арышт. Усе хлопчыкі ад малога да вялікага збівалі ў школе драўляныя скрыні з накрыўкамі, у якіх рабіліся невялікія круглыя адтуліны. Кіравалі работамі той жа Баброў і некалькі немцаў-сапёраў. Яны ж і вывозілі некуды дзённую выпрацоўку. Як потым высветлілі, скрыні былі прызначаны для ўзрыўчаткі, дзіркі ў накрыўках для ўзрывальніка. Карацей кажучы, у тэхнічнай школе рабіліся ўпакоўкі для мін. Аднак праз тыдні тры работы скончыліся — у школу ніхто не хадзіў. А дырэктарам украінскай школы зноў была стала Тулейка, якая і аб'явіла пра яе ліквідацыю.

Справядлівасці дзеля варта зазначыць, што сярод выкладчыкаў украінскай школы былі і прыстойныя людзі. Запомнілася ж вучоба больш шматлікімі інспекцыямі нямецкіх чыноўнікаў з Роўна і Пінска, апранутых у мундзіры гарчычнага колеру, са свастыкай на рукавах. Яны размаўлялі па-ўкраінску, нешта ўказвалі Тулейцы, хадзілі па класах. Памятаю яшчэ ўрокі Закона Божага, якія вёў настаяцель пратаірэй Іаан Бекіш. Хутчэй гэта былі не расповеды пра біблейскія падзеі, а расповед «пра боскую місію немцаў-вызваліцеляў», ухваленне ўсяго таго, што робяць «на благо народа» новыя ўлады.

Нямецкія ўлады падзялілі вучняў у школе на праваслаўных і каталікоў, выкладанне Закона Божага вялося асобна. Дарэчы, і праваслаўныя, і каталіцкія заняткі наведваў адзін і той жа прыезджы чыноўнік у форме аддзела школ Пінскага камісарыята. У класах школ былі абавязковымі партрэты Гітлера і Коха, а ў вестыбюлі (калі можна так назваць вузенькі калідорчык перабудаванай сінагогі) абавязкова стаяў фашысцкі сцяг са свастыкай. У школе перыядычна вывешвалі фотаздымкі «з жыцця нямецкай моладзі» — парады, злёты, адпачынак, фізкультурныя заняткі, вучобу, сельгасработы, турызм і г. д. членаў маладзёжнай арганізацыі «Гітлерюгенд», а таксама разнастайныя агітацыйныя лісткі і газеткі на ўкраінскай мове.

У гады акупацыі не спынялася работа царквы і касцёла. Адзначаліся ўсе рэлігійныя святы. І нават на велікодны начны хрэсны ход вакол царквы і богаслужэнне камендант горада даваў дазвол. Лунінецкія святары былі ў добрых адносінах з новай уладай. Калі адбываліся нейкія сходы ці мітынгі, на іх абавязкова прысутнічалі Бекіш і айцец Мікалай. У сваіх выступленнях яны заўсёды асуджалі савецкую ўладу і «антыхрыстаў-бальшавікоў». У 1944 годзе гэтыя святары пакінулі Лунінец разам з немцамі, што адступалі.

Зімой 1941 ці 1942 года я паступіў у царкву прыслужнікам. Дапамагла маці школьнага сябра Толіка Вашчулы — Вольга, пеўчая царкоўнага хору. Другая спяваючая славутасць Лунінца пасля Сімы Бесан. Да верасня 1939 года сям'я Вашчулы жыла ў вялікім драўляным уласным доме, пабудаваным на пляцы, купленым у землеўладальніка Аляшкевіча. Дом стаяў у глыбіні саду, меў вадзяную калонку (помпу), што ў даваенны час лічылася вельмі прэстыжным. У 1940 годзе гаспадар — былы сакратар польскага павятовага суда С. Вашчула — быў арыштаваны органамі НКУС і высланы ў Сібір. Жонка і сын страцілі дом. У гады акупацыі вярнуліся ў яго. У 1944 годзе выехалі з Лунінца з адступаючымі войскамі вермахта.

У тыя гады ў хоры Лунінецкай царквы было некалькі мужчын і жанчын, якія валодалі добрымі галасамі. Часта ў храм прыходзілі нямецкія афіцэры і чыноўнікі (нават з жонкамі), каб паслухаць царкоўнае песнапенне.

Прыслужнікаў у царкве было чацвёра: Толік Вашчула, я, Касцючэнка (здаецца, Яўген) з Прыпяцкай і старэйшы сярод нас — Рыгор Слізень. У нашы абавязкі ўваходзіла аказваць дапамогу святарам пры богаслужэнні, падносіць падсвечнік с запаленымі свечкамі, падаваць кадзіла, распальваць яго, выходзіць падчас службы з падносамі «ў народ» для збору ахвяраванняў (грошай), а пасля службы — дапамагаць прыбіраць царкву. Некалькі разоў даводзілася «прыслужваць» па гаспадарцы на прыёмах у святара Бекіша ў доме, што стаяў побач з царквой. Гасцямі яго былі нямецкія афіцэры і чыноўнікі. Я ўдзельнічаў у якасці «дапаможнага рабочага» — прынесці дроў, вады, прыбраць посуд, прасачыць за плітой і г. д. Аднойчы ў гэтым папоўскім доме сустрэў Пушынку з Крывагубцам. Бачыў іх вельмі блізка. Запомніліся кароткія тоўстыя пальцы рук з рыжымі валасамі. На адным з пальцаў красаваўся масіўны залаты пярсцёнак з нейкім каменем.

* * *

У час вайны змагаюцца не толькі зброяй, але і словам за тую будучыню, у якую вераць. Нямецкія акупацыйныя ўлады вялі мэтанакіраваную магутную прапаганду за развал СССР, знішчэнне са свядомасці людзей усяго савецкага, імкнуліся стравіць паміж сабой рускіх і ўкраінцаў, украінцаў і палякаў, беларусаў і літоўцаў, усімі сіламі гебельсаўскай прапагандысцкай машыны стараліся заразіць савецкіх людзей фашысцкай ідэалогіяй. Для гэтага выкарыстоўваліся ўсе магчымыя метады.

Контрпрапаганда з лесу была некалькі слабейшай, але яна была. І акупантаў яна палохала. Яны баяліся партызанскіх лістовак, якія зрэдку з'яўляліся ў Лунінцы, і лістовак, што скідвалі з савецкіх самалётаў. Калі ў горадзе з'явілася савецкая газета, амаль тыдзень вяліся пошукі — шукалі падпольную друкарню.

У гарадской управе, канцылярыі бургамістра, паліцэйскіх участках, на засмечаным вакзале (дарэчы, «упрыгожаным» плакатам «Жабраваць забаронена!»), ва ўсіх управах і канторах віселі стандартныя плакаты-партрэты з надпісам на рускай і ўкраінскай мовах: «Гітлер-вызваліцель». Лунінчане, якія прыходзілі ў гарадскую ўправу, ужо ў вестыбюлі сустракаліся з прапагандай акупантаў. Акрамя плакатаў (заклікаючых і запрашаючых) тут вісеў вялікі партрэт Гітлера, напісаны алеем. Не партрэт шалёнага фанатыка, што ўзбуджаў наўтоўпы крыкам «хайль», а партрэт добра паголенага і прычасанага пана ў гальштуку, нават высакароднага і нейкага мірнага. Валасінка да валасінкі былі выпісаны вусы (у народзе іх называлі «кучка гною»). А яшчэ ўражвалі вочы — здавалася, яны сочаць за кожным, хто ўваходзіць.

Неяк мне разам з маці давялося ісці ва ўправу, каб адзначыць адпрацаваныя дні ў працоўнай кніжцы і пакінуць дадзеныя адносна сабакі. Менавіта тады я пабачыў партрэт на ўласныя вочы. На плакатах, у газетах, часопісах я бачыў мноства выяў фюрара. Але так блізка, такога вялікага бачыў упершыню. Апроч вышэй згаданага мяне вельмі ўразілі гузікі на кіцелі: яны былі як сапраўдныя. Вакол партрэта віселі фашысцкія сцягі, на плеценых з лазы кашпо — вазоны з кветкамі. Але як бы ні быў самавіта напісаны гэты партрэт, ён рабіў непрыемныя ўражанні і выклікаў пачуццё страху.

Многія дамы ў горадзе былі «ўпрыгожаны» прапагандысцкімі плакатамі, якія ўслаўлялі нямецкую армію. Белакурыя, белазубыя, усмешлівыя, з цяжкімі падбародкамі, у касках і без Зігфрыды і Фрыцы ганарліва глядзелі ў далечыню з кабін самалётаў ды люкаў танкаў. І ўсё гэта на фоне фашысцкіх сцягоў, панарам нямецкіх гарадоў з востраканечнымі шпілямі кірхаў, дворыкамі прыстойных бюргераў, ружовашчокіх дзяцей і іх матуль. На плакатах стракацелі надпісы на нямецкай мове, якія заклікалі абараніць усё гэта ад бальшавікоў: «Нямецкі народ адзіны ў барацьбе з сусветным бальшавізмам», «Абаронім свае гарады ад чырвоных мядзведзяў» і г. д. Плакаты распавядалі пра моц Германіі, непераможнасць ідэй фюрара, нацыянал-сацыялізму. На плакатах залатакосыя нямецкія жанчыны, задумлівыя, але мэтанакіраваныя, якія з упэўненасцю глядзяць у будучыню. На жанчынах уніформа розных жаночых нямецкіх арганізацый, якія «працуюць на дабрабыт нямецкай нацыі». Не забыта было і маладое пакаленне — арганізацыя «Гітлерюгенд». Плакаты заклікалі ўступаць у шэрагі моладзевых арганізацый Украіны, «каб разам будаваць савецкую будучыню без бальшавікоў».

Шмат плакатаў адлюстроўвала тое, як нямецкая адміністрацыя «дапамагае» насельніцтву Украіны будаваць новы парадак. Усе яны былі намаляваны ў духу сталёвага нардычнага рамантызму. Выдзяляліся на сценах дамоў плакаты, якія абяцалі добрае жыццё ў хуткай будучыні, але мелі яны чамусьці чорны фон, а на ім жоўтыя малюнкі «шчаслівага жыцця»: сытыя чубатыя мужыкі-ўкраінцы ў шараварах (і гэта ў Лунінцы!) аруць на валах зямлю, сеюць з кошыка, убіраюць хлеб сярпамі ды малоцяць цапамі — без аніякай механізацыі. А на апошнім малюнку: шчаслівая сям'я абедае драўлянымі лыжкамі пад партрэтам Гітлеравызваліцеля, які вісіць у чырвоным куце, нібы ікона...

У гады вайны віселі на сценах лунінецкіх дамоў і іншыя плакаты — карыкатуры на савецкіх дзяржаўных дзеячаў, супрацоўнікаў НКУС, камісараў-яўрэяў, калгасны лад, савецкае жыццё. Насценная прапаганда крычала пра перамогу нямецкай зброі, магутнасць нямецкай арміі і нямецкай індустрыі. У мэтах прапаганды выкарыстоўваліся нават савецкія даваенныя фільмы, каб з іх дапамогай даказаць перавагу арыйскай расы над іншымі. Летам 1942 года ў кінатэатры Лунінца нямецкая адміністрацыя раптам паказала савецкія стужкі «Вясёлыя рабяты» (1934) і «Волга-Волга» (1938). Праўда, не цалкам, а толькі фрагменты, аздобленыя каментарыямі лектара з гебітскамісарыята з Пінска. Што ж тут можна было знайсці карыснага для нямецкай прапаганды? Памятаеце кінакадры: на правадах сядзяць ластаўкі, як ноты на лінейцы, і па гэтых скокаючых нотах на скрыпцы грае вясковы пастух (Леанід Уцёсаў)? А хто ж вучыў яго музыцы? Стары настаўнік-немец! І вывучыў! Хто даў пастуху фрак для наведвання званага вечара ў вышэйшых колах курортнага грамадства? Той жа настаўнік-немец. Не стаў бы пастух музыкантам, калі б побач не было настаўніка-немца. Далей лектар заняўся антысеміцкай прапагандай: і галоўны акцёр — яўрэй, і ўсе музыкі — яўрэі і г. д.

Акупанты выкарыстоўвалі любыя магчымасці, каб зняславіць савецкі строй. Калі немцамі былі выяўлены пад Смаленскам у Катыні магілы польскіх ваеннапалонных, расстраляных, як прызнана сёння, па загадзе вышэйшага савецкага кіраўніцтва, на насельніцтва акупіраваных тэрыторый абрынулася магутная нямецкая прапаганда — з мітынгамі, сходамі, пратэстамі, заклікамі. Была выдадзена брашура са шматлікімі фотаздымкамі пра Катынь на рускай, польскай і ўкраінскай мовах. Брашуру паўсюдна раздавалі бясплатна. Разам з ёй распаўсюджвалася яшчэ адна — «Зверства ОГПУ» (успаміны савецкіх зняволеных). Амаль у кожным рэгіёне немцы вышуквалі мясцовыя выпадкі пэўных дзеянняў НКУС і выкарыстоўвалі іх у прапагандысцкіх мэтах супраць СССР. Вышэй я згадваў пра лёс лунінецкай акушэркі Іргуціс, якая дэзірціравала з эшалона з параненымі чырвонаармейцамі і ў ліпені 1941 года была асуджана ды расстраляна. Немцы адслужылі малебен на каталіцкіх могілках, дзе была пахавана Іргуціс. А потым у адной з украінскіх газет, якія даходзілі да Лунінца, быў апублікаваны матэрыял пра гэта здарэнне і ўспаміны некаторых лунінчан, арыштаваных у 1939—1941 гадах. У тых матэрыялах, гаварылі людзі, хапала няпраўды, але акупантаў гэта не бянтэжыла.

У гады акупацыі ў горадзе з’явілася шмат іншагародніх сем’яў, пераважна польскіх. Гэта былі бежанцы, дом і прыстанак якіх знішчыла вайна. Гнаныя ваеннымі дзеяннямі, яны прыехалі пасля захопу Лунінца немцамі. Былі і такія, хто проста стараўся мець карысць ад перамяшчэння з горада ў горад за войскамі. Такіх людзей празвалі «смецце вайны». Былі яны і ў Лунінцы. Новыя жыхары займалі дамы загнаных у гета яўрэяў, часта з мэбляй, хатнім скарбам. Многія з гэтых іншагародцаў не прызнавалі ніякіх правіл лунінецкага жыцця — добрасуседства, прыстойнасці. Многія з гэтых навасёлаў былі «фольксдойчамі» (этнічнымі немцамі, што жылі па-за межамі Германіі). Гэта рабіла іх на дзве галавы вышэй за ўсіх астатніх жыхароў горада (хаця ў Лунінцы былі і свае фольксдойчы), яны ўжо належалі да абраных, вышэйшых. Але тое, што былі не германскімі немцамі, а «фолькс», крышачку абясцэньвала іх арыйскую сутнасць. Аднак гэта не перашкодзіла ім займаць адказныя пасады ў гарадской управе і розных канторах. Яны актыўна служылі ў паліцыі, перакладчыкамі ў СД, гестапа, ахоўвалі гета, ваеннапалонных, разам з сапраўднымі арыйцамі стаялі каля расстрэльных ямін паблізу возера Мачула, ва ўрочышчы Бараўшчына, на «бензінцы». Прозвішча некаторых з іх, некарэнных лунінчан, засталіся ў памяці. Тэадор Шчэпінскі, з якога так і не атрымаўся арыец, — паліцай, аматар язды па горадзе на веласіпедзе і наездаў на людзей, былы польскі велагоншчык. Начальнік аднаго з аддзелаў у лясніцтве Люцыян Рэпа (яго празвалі Рыжым з-за рудога колеру валасоў і шчодрых вяснушак на твары), якому было ненавістна ўсё рускае, што ён неаднаразова падкрэсліваў на мітынгах, сцвярджаючы перавагу немцаў.

Былі сярод прыезджых сем’яў і простыя людзі, не фольксдойчы, не паліцаі. Недалёка ад нашага дома, у хаце яўрэя Трыбуха пасялілася сям’я Буткевічаў:

маці, два сыны — Макс і Габрыэль — і дачка-прыгажуня Барбара. Ніхто не ведаў, адкуль яны прыехалі (ды гэта нікога ў той час і не цікавіла), чым займаліся раней. Габрыэль (ці Габрусь) быў маім равеснікам, мы крыху сябравалі, і таму сёе-тое ведаю пра гэту сям'ю, часта бываў у іх.

Маці займалася мыццём афіцэрскай бялізны, чымсьці гандлявала. Макс калі-нікалі падрабляў на вакзале насільшчыкам, але часцей насіў немцам-адпускнікам рэчы ў спецыяльна пабудаваны на агародах вуліц Чырвонай і Фабрычнай цэнтр адпачынку вермахта. Прадаваў на базары зробленыя за гэта цыгарэты, прадукты (хаця ў рэдкія базарныя дні нячаста нешта прадавалася за грошы, у асноўным мянялася). Больш вядомай з гэтай сям'і была 18-гадовая Барбара. Яна добра спявала, іграла на акардэоне, мела шмат паклоннікаў сярод армейскіх афіцэраў. Яна актыўна ўдзельнічала ў нямецкай вайсковай мастацкай самадзейнасці. Праўда, гэта савецкае словазлучэнне, а ў гады акупацыі гаварылі «франтбюнэ» — франтавы тэатр. Была такая невялікая ўстанова і ў нашым горадзе, хаця фронт быў далёка. Мастацкая самадзейнасць налічвала шмат артыстаў: харысты, спевакі, музыкі, акрабаты-сілавікі. Усе грамадзянскія асобы атрымлівалі дадатковы паёк. Былі сярод артыстаў і прыезджыя, і лунінчане. Яны выступалі на 3-х сцэнах: у гарнізонным клубе (у двары казармы), у зале пажарнай каманды і ў гарадскім садзе ў будынку клуба. Кіраваў калектывам былы акцёр з Дрэздэна з на дзіва непрывабнай знешнасцю — лейтэнант Гюнтэр (прозвішча не памятаю). Ён ведаў польскую мову, што дазваляла яму лёгка размаўляць з артыстамі. Сярод яго фаварытак была і Барбара. Ён часта бываў у яе дома. Памятаю, як Гюнтэр прыносіў Габрыэлю цукеркі «Bon-Bon», а сябра дзяліўся імі са мной. Барбара ў калектыве артыстаў была незаменнай. Яна выконвала самыя пікантныя ролі (цяпер бы сказалі эратычныя) ва ўрыўках з нямецкіх аперэт, што вельмі падабалася салдатам. Спявала пад уласны акампанемент на акардэоне нямецкія песні «Як добра на Рэйне», «Мамачка, падары мне коніка», куплеты з «Гандляра птушкамі» і, канечне ж, мелодыю «Лілі Марлен». Яна была пераймальніцай актрысы Марыке Рок (гэта імя вядома па пасляваенным фільме «Дзіця Дуная»). Зухавата выстуквала абцасамі чачотку і разам з казакамі спявала ўкраінскія песні. Актыўнасць гэтай мастацкай самадзейнасці прыйшлася на лета 1943 года, а затым неяк адразу спынілася. Напрыканцы гэтага года сям'я Буткевічаў некуды выехала, а яшчэ раней кудысьці падзеўся лейтэнант Гюнтэр, і тэатр развадіўся.

Канцэрты мастацкай самадзейнасці даваліся часцей за ўсё на святы: Раство, Новый год, Вялікдзень, дзень Гітлера і іншыя нямецкія даты. Праводзілі іх у ваенным шпіталі, а таксама для гарадской знаці на чале з камендантам, нямецкіх чыноўнікаў з жонкамі, афіцэраў і салдат. Трапіць на такі канцэрт было цяжка. Нават усюдыісным хлопчыкам. Але калі-нікалі ўдавалася. Далучаць да сваёй культуры насельніцтва акупанты не надта жадалі.

Ужо восенню 1941 года акупацыйныя ўлады заняліся ўладкаваннем і рэканструкцыяй старых лунінецкіх вайсковых могілак. З могілак паблізу Баханова былі эксгуміраваны астанкі нямецкіх і аўстрыйскіх салдат і афіцэраў ды разам з надмагільнымі плітамі перавезены ў спецыяльных скрынках на другія вайсковыя могілкі, на Шырокапясковую. У сваю чаргу там прах вайскоўцаў таксама быў «перасарціраваны»: магілы рускіх, польскіх, савецкіх салдат былі перанесены на Баханова, а на Шырокай засталіся выключна «арыйцы».

Астанкі нямецкіх і аўстрыйскіх воінаў з двух могілак былі перазахаваныя ў некалькіх брацкіх магілах. На іх паклалі надмагільныя пліты, абклалі дзёрнам. Вызваленая тэрыторыя, бліжэй да варот, была падрыхтавана для новых пахаванняў. Каля брацкіх магіл былі ўстаноўлены тры крыжы: вялікі і два малыя, выробленыя з дубу. Могілкі абнеслі новай арыгінальнай агароджай з крывых дубовых суччаў, такой жа агароджай, крыху ніжэйшай, яны былі аддзеленыя ад каталіцкіх могілак. А яшчэ з дубовых суччаў узвялі прыгожыя вароты-арку. У верхняй іх частцы быў змешчаны чорны нямецкі крыж і даты «1914—1941».

Перазахаванне і своеасаблівае адкрыццё могілак на Шырокапясковай суправаджалася ўрачыстымі воінскімі рытуаламі: ганаровая варта, ваенны аркестр.

На могілках каля Баханова ніякіх урачыстасцей не адбывалася, аднак парадак быў наведзены і пастаянна падтрымліваўся, а прадстаўнікі акупацыйнай арміі і назіральнікі абавязкова прысутнічалі і пры эксгумацыі, і пры перазахаванні. Калі здаралася, што хтосьці з працуючых на раскопках грамадзянскіх асоб знаходзіў у магіле нешта цікавае: манеты, пярсцёнкі (не залатыя), лыжкі, біклажкі, пражкі, гузікі, узнагароды, нажы і г. д. — немцы гэта тут жа адбіралі. Яшчэ да пачатку раскопак было аб'яўлена: усе прадметы, знойдзеныя ў магілах, належыць здаваць, за прыхоўванне знаходак прадугледжвалася пакаранне. Эксгумацыю «арыйскіх» астанкаў праводзілі салдаты вермахта.

Калі работы па рэканструкцыі могілак былі скончаны, у вызваленай частцы тут жа выкапалі некалькі магіл. Яны чакалі пахаванняў. І ўжо позняй восенню 1941 года з'явіліся першыя свежыя магілы салдат вермахта. Пасля арганізацыі ў Лунінцы ваеннага шпіталя пахаванні адбываліся часцей. Звычайна памерлых ад ран ці забітых немцаў везлі на могілкі ў спецыялізаванай павозцы, запрэжанай паркай коней. На могілкі яе суправаджаў ваенны святар-капелан, які насіў форму афіцэра вермахта. На высокім версе яго фуражкі была змешчана выява крыжа. Ваенная форма капелана адрознівалася ад агульнаармейскай колерам канта на штанах і фуражцы — ён быў фіялетавым. На рэмені святар насіў невялікую цёмную кабуру з пісталетам. Пры пахаваннях салдат вермахта ніколі не прысутнічалі жыхары горада. Мясцовыя бачылі ўвесь рытуал толькі здалёк, праз агароджу. Падчас пахавання з могілак выдваралі нават рабочых, накіраваных на ўборку. Нагадаю, што дзеці, жанчыны, старыя мусілі па чарзе штотыдзень незалежна ад пары года выходзіць на могілкі для таго, каб пачысціць дарожкі ад снегу, ці прыбраць з іх апалае лісце, ці прапалоць магілы.

У 1942 годзе на некаторых надмагільных помніках з'явіліся невялікія круглыя вянкі са штучных кветак і яловых галінак, прысланыя з Германіі і Аўстрыі роднымі салдат, загінуўшых у Першую сусветную вайну. Аднойчы сям'я з Германіі нават прыехала наведаць старую магілу. На новыя прыязджалі родныя некалькіх загінуўшых салдат, прывозілі з Германіі кветкі ў вазончыках і невялікія вянкі. З лета 1941 года па вясну 1944 года было захавана каля 80—90 салдат вермахта і мадзьяраў.

Усе нямецкія пахаванні размешчаны роўнымі шэрагамі, «тварам» на Шырокую. Крыжы ва ўсіх аднолькавыя, белага колеру, на кожным замацавана шыльда, таксама белага колеру, у форме нямецкага ваеннага крыжа з чорнай акантоўкай. На шыльдзе гатычным шрыфтам чорнага колеру былі напісаны ўсе дадзеныя пра загінуўшага. Здаецца, на могілках хавалі толькі салдат і сяржантаў. Прах афіцэраў з тылавога Лунінца везлі ў фатэрлянд. Крыжы на магілах мадзьяраў былі іншыя, як і шыльды з надпісамі на нечытаемай і незразумелай венгерскай мове.

Пасля вызвалення Лунінца ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў гэтыя могілкі былі разбураны. Асабліва частка з пахаваннямі 1941—1944 гадоў. Брацкія магілы Першай сусветнай вайны некаторы час знаходзіліся ў добрым стане. Але паступова час і людзі разбурылі іх.

* * *

Лунінцу «пашанцавала». Стаіць ён на перакрыжаванні дарог, што злучаюць вялікія гарады, таму падчас вайны пабывала тут ледзь не ўся Еўропа. Апранутая ў салдацкія мундзіры, гэтая самая Еўропа начавала ў лунінецкіх дамах, смяялася з нашых звычаяў, гуляла па вуліцах нашага горада, ахвотна ела нашых курэй, качак, свіней, кароў, наш хлеб з нашым маслам, садавіну, гародніну, абкладала падаткамі насельніцтва. Каб там, у Еўропе, добра было жыць, страляла і абдзірала людзей, рабавала нашыя каштоўнасці. Акрамя немцаў і аўстрыйцаў, мы бачылі славакаў і чэхаў, здраднікаў-паліцаяў рускіх, беларусаў, украінцаў, нас вучылі «новаму парадку» палякі і літоўцы. Былі і іншыя: мы бачылі казакаў у нямецкай форме і рускую народную армію (РНА) таксама ў нямецкай форме.

І вось у наш горад прыбылі італьянцы, пасланцы дучэ Мусаліні. Восенню 1941 года яны ехалі праз Лунінец на фронт. Вестка пра тое, што на станцыі стаяць эшалоны з салдатамі ў іншай форме, разнеслася па горадзе. Усе хлопчыкі збегліся на чыгунку, каб паглядзець на італьянцаў. Мундзіры ў іх амаль такога ж колеру, што і нямецкія. Адны былі ў штанах навыпуск, другія ў чаравіках, абмотках і нейкіх укарочаных штанах-шараварах з напускам. Вельмі здзівілі нас эмблемы на іх форме — серабрыстыя пяціканцовыя зорачкі на рукавах, пятліцах мундзіраў, пілотках. Гэта нават азадачыла: зорачкі — і супраць Чырвонай Арміі. Свет аказаўся не такім простым. Не ўсе сябры — з пяціканцовымі зоркамі. Не ўсе сябры — хто прыйшоў з Богам.

Салдаты і афіцэры Мусаліні запоўнілі перон, Прывакзальную плошчу, хадзілі па вуліцах, разглядвалі горад, азіраліся ўслед маладым жанчынам, цмокалі языкамі. Вясёлыя, маладыя, чарнявыя, смуглыя, падобныя на цыган, яны пілі віно з бутэлек, заядаючы сырам, курылі доўгія папяросы, тонкія карычневыя сігары, кідалі каляровыя, не падобныя на нямецкія ўпакоўкі ад курыва пад ногі (мы іх тут жа падбіралі — на пачках былі намаляваны пальмы, рымская ваўчыца, старажытны Калізей). На станцыі тым хлопчыкам, што асмеліліся падысці бліжэй, італьянцы давалі хлеб, сыр, папяросы, кавалкі калбасы, нейкія кансервы. Спявалі вясёлыя песні і натоўпам хадзілі да «поверженного» савецкага танка фатаграфавацца.

Эшалоны ішлі некалькі дзён. І ўвесь гэты час мы, хлопчыкі бегалі на чыгунку да пераезда паглядзець на незвычайных салдат і, калі пашанцуе, атрымаць сёе-тое з ежы. Гэтыя людзі паводзілі сябе не як немцы, не як акупанты, але ўсё ж такі гэта былі нашыя ворагі.

Праз два гады італьянцы зноў паявіліся ў Лунінцы, але гэта была ўжо не вясёлая вандроўка — гэта былі эшалоны з палоннымі італьянцамі, ворагамі рэйха. Цяпер «вясёлыя рабяты» сядзелі ў адным лагеры з савецкімі ваеннапалоннымі. Цяпер мы падкормлівалі галодных італьянцаў.

Мадзьяры з'явіліся ў Лунінцы ў 1942 годзе. Усе дамы, што пуставалі, а таксама тыя, на якіх была намалявана вялікая літара «W» (для вермахта адбіраліся найбольш дыхтоўныя кватэры), былі занятыя салдатамі 3-й мадзьярскай арміі, пасланцамі адмірала Хорці. Зноў чужыя салдаты, зноў зусім не зразумелая чужая мова, зноў «свае парадкі», канфлікты і праблемы. Венгерская форма была цёмна-гарчычнага колеру. Салдаты насілі нейкія чубатыя, з вушамі і вялікай кукардай пілоткі. Саюзнікі Гітлера былі бяднейшыя за нямецкую армію і па ўзбраенні, і па абмундзіраванні. Але іх адносіны да акупіраванага Лунінца і яго жыхароў не адрозніваліся ад нямецкіх. Мы не маглі ведаць, як немцы адносіліся да сваіх саюзнікаў, але на вайсковых могілках венграм быў выдзелены асобны ўчастак.

У суседнім з нашым доме пасяліўся малады афіцэр-мадзьяр Фэранц. Як потым высветлілася — сын барона, буйнога землеўладальніка. Кожную раніцу яго дзяншчык Пожгай, сын батрака з маёнтка барона, рыхтаваў афіцэру цёплую ваду для ўмывання і галення, прыбіраў пасцель, трымаў ручнік, суправаджаў афіцэра ў прыбіральню за хлявом (прыбіральня была тэрмінова пабудаваная, дарожка да яе высыпана жоўтым пяском), чысціў мундзір з узнагародамі (у тым ліку і нямецкімі), боты. Пожгай выконваў мноства работ пры сваім гаспадары. Нашай сям'і, а мы штодня назіралі за іх жыццём, здавалася, што дзяншчык робіць сваю справу добрасумленна і хутка. Але гаспадар так не думаў. Досыць часта мы бачылі, як афіцэр біў па твары рукой, зацягнутай у пальчатку ці стэкам па спіне (у барона быў верхавы конь) няшчаснага Пожгая, што стаяў навыцяжку. Суседзяў афіцэр не саромеўся — мы былі для яго ніжэйшай расай. Ён нас ніколі не заўважаў. Але іншым разам пасля экзекуцыі Пожгай на ламанай нямецкай мове скардзіўся маёй маці на гаспадара.

У суседнім доме часта ладзіліся вечарынкі. Там збіраліся афіцэры-мадзьяры і нейкія жанчыны (дарэчы, кожнага афіцэра суправаджаў дзяншчык). Фэранц любіў народныя венгерскія мелодыі, і з расчыненага акна часта даносіліся гукі радыёпрыёмніка, настроенага на хвалі Будапешта. А на падаконні стаялі шэрагам невялікія гранаты, пафарбаваныя ў розныя колеры: палова сіняя, палова чырвоная.

Мадзьяры прабылі ў Лунінцы нядоўга, недзе з паўгода. Паехалі на фронт, дзе ім добра дасталося: у канцы 1943 — пачатку 1944 года ў Лунінцы з'явілася толькі некалікі дзясяткаў венгерскіх ваяк.

Лёс закінуў да нас у горад і маладых людзей з далёкай Пірынейскай паўвыспы. Некаторы час на лунінецкім аэрадроме ў «Люфтвафэ» гасцілі пралётам на фронт іспанскія лётчыкі з «Блакітнай дывізіі». Асабліва здзіўлялі ў іх абмундзіраванні палашы. Халодная зброя — прамы клінок нямногім большы за 50 см — вісела ў лётчыкаў на баку ў чорных ножнах, і мы не маглі даўмецца: як з такім кінжалам лётчык улязае ў кабіну самалёта? А яшчэ ў Лунінцы ўвесь перыяд акупацыі знаходзіліся казакі. Весткі пра казакаў, што перайшлі на бок немцаў, распаўсюдзіліся яшчэ ў жніўні 1941-га. Казалі, што пад Баранавічамі добраахвотна здалася ў палон ледзь не цэлая дывізія казакаў (факт зафіксаваны ў гістарычных крыніцах). Потым людская пагалоска перанесла гэту падзею пад Смаленск. Тады ж у Лунінецкую бальніцу прывезлі з-пад Смаленска раненых казакаў.

Казакі з'явіліся ў Лунінцы ў канцы 1941 — пачатку 1942 года. Яны размясціліся на Гандлёвай вуліцы (цяпер не існуе) ў так званых ятках — гандлёвых радах. Да вясны 1942 года казакаў у горадзе стала больш. Памятаю, як цёплымі вясновымі і летнімі вечарамі, асабліва па суботах і нядзелях, ля адной з казармаў, акурат на вуліцы, казакі ладзілі своеасаблівыя канцэрты. Струнны аркестр на працягу некалькіх гадзін іграў рускую і ўкраінскую народную музыку, рамансы, песні, маршы. А па вуліцы прагульваліся нямецкія афіцэры з дамамі, чыноўнікі са сваімі «фрау». Фронт быў далёка, можна было радавацца цяплу, сонцу, музыцы (іграліся нават вальсы Штрауса). Быў у казакаў і свой хор, яны ўдзельнічалі ў вайсковай мастацкай самадзейнасці.

У першыя месяцы з'яўлення казакі, зразумела, усе былі на конях, насілі фуражкі з чырвонымі аколышамі, гімнасцёркі пад рэмень, потым да іх прыстасавалі пагоны, цёмна-сінія галіфэ з чырвонымі ці жоўтымі лампасамі (у залежнасці ад таго, да якога роду войск належалі), на баку — шашкі. Зімой апраналі шапкі-папахі са шкур бараноў, башлыкі, шынялі. Паступова ў казацкую форму ўносіліся нямецкія элементы — фрэнчы, пілоткі і г. д. Потым казакі поўнасцю перапрануліся ў нямецкую форму, але яна адрознівалася ад формы вермахта, захоўвала асобныя казацкія элементы.

Да канца 1942 — пачатку 1943 года ўсе казакі ўзору «1941-га» былі некуды пераведзены з Лунінца. У горадзе з'явіліся новыя казакі, якія цалкам адрозніваліся ад папярэдніх — і ўзбраеннем, і формай, і складам. Сотні новых воінскіх часцей былі размешчаны ва ўсіх вёсках раёна, якія знаходзіліся каля чыгункі. Штаб палка заняў частку казармы. Гэта быў 10-ы Данскі казацкі полк.

Трэба зазначыць, што нехта з казакаў пераходзіў на бок акупантаў па ідэйных меркаваннях, але многія, запісваючыся добраахвотнікамі ў казацкія антысавецкія часці, імкнуліся пазбегнуць галоднай смерці ў лагеры для ваеннапалонных, спадзеючыся пры нагодзе перайсці да партызан.

У Лунінцы 10-ы полк заняў тыя ж памяшканні, дзе размяшчаліся казакі ў 1941 годзе, і яшчэ адзін дом. Вулічных канцэртаў стала менш. Але казакі ўнеслі нейкае ажыўленне ў жыццё горада. Памятаю бойку падвыпіўшых казакаў з ваеннапалоннымі. Некалькімі стрэламі ў паветра яе спынілі жандары. Афіцэры штаба палка на чале з камандзірам па нядзелях і праваслаўных святах заўсёды наведвалі царкву. Казакі стаялі групай на мужчынскай палове храма, справа ад алтара. У царкву афіцэры прыходзілі пры ўсіх рэгаліях, амаль у парадней форме, з узнагародамі, сярод якіх у пажылых казакаў нават меўся Георгіеўскі крыж на жоўта-чорнай муаравай стужцы, атрыманы, па ўсім бачна, яшчэ ў Першую сусветную вайну ў барацьбе супраць немцаў (!).

Камандзір палка заўсёды стаяў крыху наперадзе з групай афіцэраў. За афіцэрамі заўсёды стаяла група радавых казакаў, іншым разам чалавек 15—20. Усе яны часта хрысціліся, падпявалі хору, адбівалі на каленях паклоны, спавядаліся, прычашчаліся. Калі надыходзіў момант выхаду прыслужнікаў «у народ» для збору грошай, кожны з іх хацеў увайсці першым і абысці шэрагі казакаў, якія заўсёды

шчодра кідалі рэйхсмаркі і карбованцы на ахвяравальныя падносы. Ад сабранай прыслужнікам сумы ахвяраванняў залежала яго ўзнагароджанне. Старшы з прыслужнікаў Рыгор Слізень, заўважыўшы канкурэнцыю і спрэчкі хлопчыкаў, сярод якіх быў і я, распавёў пра сітуацыю настаяцелю храма. Па яго ўказанні была ўсталявана чарговасць збору ахвяраванняў сярод казакаў. У 1943 годзе да прастольнага свята казакі падарылі Лунінецкай царкве дубовыя лаўкі са спінкамі, упрыгожанымі разьбой па дрэве. Яны былі ўстаноўлены ўздоўж сцен храма. Некалькі такіх лавак яшчэ можна было пабачыць у царкве да канца 1950-х гадоў.

Неяк падчас чарговай царкоўнай службы мы не ўбачылі казакаў на звычайным месцы. Гэта было зімой, у канцы 1943-га ці пачатку 1944-га. Па горадзе даўно хадзілі чуткі, што хтосьці з іх вышэйшага начальства збег у партызаны, што разам пайшлі многія казакі з вясковых гарнізонаў. Але на гэты раз мы памыляліся — кіраўніцтва казацкага палка было арыштавана нямецкай службай бяспекі. Усіх арыштаваных утрымлівалі ў падвалах казармы, там жа дапытвалі і расстрэльвалі. Трупы казакаў у бялізне пагрузілі на дзве ці тры спецыяльныя фуры і праз двор казармы, парк, Могілкавую вуліцу падвезлі да агароджы могілак. У ёй быў зроблены праход, праз які акрываўленыя трупы расстраляных паднеслі да выкапанай ямы. Яна знаходзілася амаль на сярэдзіне могілак, каля сцежкі, якой часта карысталіся жыхары, што ішлі з горада на Баханова ці Залессе. Яму не засыпалі. Раніцай лунінчане, што ішлі на працу, пабачылі гэтую страшную карціну. Некаторых афіцэраў пазналі, у тым ліку і камандзіра. Праз увесь парк ад агароджы да казармы, вуліцу і частку могілак па снезе цягнуўся крывавы след. Чуткі хутка разнесліся па горадзе. Лунінчане хадзілі глядзець на яму, з якой тырчалі рукі, ногі — скрыўленыя замёрзшыя акрываўленыя целы. Акупанты не перашкаджалі гараджанам назіраць за тым, што адбылося. Яны хацелі запалохаць народ, паказаць, што яны яшчэ моцныя, што могуць справіцца з любым — знешнім ці ўнутраным — ворагам. Але фронт, ламаючы фашысцкую машыну, няўмольна набліжаўся да Лунінца.

Пасля расстрэлу гета расправа над казакамі была другой масавай карнай акцыяй у горадзе. Фашысты здзяйснялі забойствы амаль штотыднёва, але не такія масавыя. Большасць лунінчан спачувалі забітым казакам. Толькі праз некалькі дзён ваеннапалонныя засыпалі яму. Казалі, што туды яшчэ вазілі расстраляных. Вясной 1944 года хтосьці паставіў на даволі вялікім магільным узгорку два драўляныя крыжы. Некаторы час пасля вайны магіла была прыкметная, на Вялікдзень і Радаўніцу нехта клаў каля крыжоў фарбаваныя яйкі, кавалачкі велікоднага куліча. Але паступова ўсё знікла і забылася…

* * *

Крыху раней я згадваў пра тое, як немцы знішчылі так званых «выхрыстаў». Аднак акупанты расстрэльвалі людзей не толькі па расавых і палітычных матывах. Знішчалі яны і псіхічнахворых. У даваенным Лунінцы такіх было некалькі. Адны увесь час сядзелі дома, другія вольна хадзілі па горадзе, нікому не перашкаджаючы. Самы вядомы псіхічнахворы жыхар Брадзілаўкі (цяпер вуліца Сялянская) Сцёпка, па мянушцы «Пяць грошаў», нявызначанага ўзросту, ціхі, бяззлобны. Сланяўся па горадзе яшчэ з польскіх часоў. Мог выпрошваць грошы ў мінакоў: «Паночку, дайце пяць грошаў». Атрымаўшы грошы, здымаў кепку і нізка кланяўся. Менш ці больш не прасіў — таму і атрымаў сваю мянушку. Ён чакаў пакупнікоў ля крам, на базары, прапаноўваў свае паслугі — паднесці цяжкія сумкі. Іншы раз яго бачылі ля вакзала, дзе ён прапаноўваў паднесці багаж пасажырам. Некаторыя асцерагаліся Сцёпкі, некаторыя бязбоезна ўручалі яму сумкі і ён пакорна нёс іх у любы канец горада. Многіх лунінчан ведаў па імёнах. Меў дзіўную паходку — з-за невялікай кульгавасці злёгку падскокваў. З ранняй вясны да позняй восені хадзіў басанож, зімой — у чаравіках без шнуркоў, ва ўсе часы — у вялікай кепцы-васьміклінцы з паламаным вісячым казырком. Хлопчыкі,

якім звычайна падабаецца дражніць такіх людзей, да Сцёпкі адносіліся добразычліва. З ім адбываліся незвычайныя і нечаканыя гісторыі. Мог зайсці ў школу і стаяць моўчкі ў калідоры. Мог гадзінамі глядзець на паравозы з пешаходнага моста. У царкве стаяў на каленях, хрысціўся. На Вялікдзень любіў катаць яйкі з горкі і, зразумела ж, заходзіць у двары, віншаваць жыхароў са святам. У 1940 годзе міліцыянер (не мясцовы) арыштаваў Сцёпку за тое, што той залез на пустую трыбуну і, як казалі людзі, звярнуўся з прамовай. Падобныя гісторыі былі і ў гады акупацыі. Свае просьбы ён адрасаваў на польскай і на змешанай, руска-беларускай мовах. Сцёпку ведалі ўсе лунінчане, ён быў часткай горада. Фашысты расстралялі яго…

Акупанты як мага прыціскалі людзей, прымушалі працаваць на сябе. І каб мець танную працоўную сілу, забіралі маладых, а потым цэлыя сем'і ў Германію. Аднойчы ў недабудаваную школу на Чырвонай вуліцы сагналі моладзь для адпраўкі ў Нямеччыну. У большасці сваёй гэта былі юнакі і дзяўчаты з навакольных вёсак, але трапіла туды і гарадская моладзь, казалі — была аблава. Школу ачапілі паліцаі і жандары. Бацькі гараджан тут жа прыйшлі выручаць сваіх дзяцей. Некаторым гэта ўдалося — за самагон, золата паліцаі ды жандары адпускалі затрыманых. Адразу адпускалі дзяцей тых, хто супрацоўнічаў з акупантамі. У некаторых не было ні знаёмых, ні золата. Непадалёку ад ачаплення стаяла машына бургамістра. Сам Якубік са світай быў у будынку школы. Шафёрам на гэтай машыне працаваў Аляксандр Крамскі, былы чыгуначны кандуктар станцыі Лунінец на пасажырскіх цягніках, які напачатку 1940-х гадоў пераехаў з СССР у Заходнюю Беларусь. Ажаніўся з лунінчанкай, застаўся на акупіраванай тэрыторыі. Узнікае пытанне: як былому ўсходніку даверылі руль машыны бургамістра? А справа ў тым, што яго жонка яшчэ да 1939 года прыслужвала ў сям'і Якубікаў, а ў гады акупацыі была там жа павырыхай. Крамскога многія ведалі як годнага чалавека. Да яго і падышлі двое бацькоў, якія ў савецкі час працавалі на чыгунцы, з просьбай дапамагчы іх дочкам. Ён тут жа пагадзіўся. Завёў машыну, заехаў за ачапленне ў двор школы, пасадзіў дзяўчат у машыну і вывез праз ачапленне на Млыновую вуліцу, дзе іх чакалі бацькі. Пасля вызвалення Лунінца Крамскі быў прызваны ў Чырвоную Армію. Служыў у кавалерыі. Сям'я выехала ў Пінск — баялася рэпрэсій. У 1946 годзе завербаваліся ў Калінінградскую вобласць. Крамскі працаваў шафёрам у райкаме партыі г. Неман.

Восенню 1943 года ўсе ўладальнікі сабак у Лунінцы атрымалі строгае ўказанне гарадской управы прыбыць з «братамі меншымі» на рынак. За ўхіленне прадпісвалася пакаранне. Пасля разгрому на Курскай дузе нямецкае камандванне вырашыла расквітацца з савецкімі танкамі з дапамогай сабак. Было арганізавана масавае збіранне гэтых жывёлін ад насельніцтва. Праверка годнасці сабакі да «ваеннай службы» праходзіла такім чынам. Уладальнікі сабак павінны былі на кароткім павадку вадзіць сваіх пітомцаў па коле, у цэнтры якога стаяў салдат і страляў у паветра. Па-за гэтым колам знаходзілася некалькі салдат-назіральнікаў. Калі пасля 2-3 стрэлаў сабака ад страху прысядаў на заднія лапы, ён лічыўся нягодным. Калі сабака не баяўся выстралаў, яго тут жа забіралі ў гаспадара і саджалі ў клетку ў кузаве аўтамашыны. Звычайна сабак прыводзілі хлопчыкі, якія не хацелі добраахвотна развітвацца з чацвяраногім сябрам — адбіранне суправаджалася крыкамі, віскам, плачам. Салдаты прымянялі прыклады, штурхалі нагамі. Немцаў не цікавіла парода сабакі ці яго рост. Таму ў клеткі траплялі і маленькія, і вялікія бясстрашныя дварнягі. Усе яны былі адвезены ў спецыяльную сабачую школу, дзе іх навучылі падпаўзаць да танкаў і аўтамашын ды кідацца пад гусеніцы ці пад колы. На спіне ў сабак немцы замацоўвалі міны. Такія акцыі па адборы сабак праводзіліся ў Лунінцы і вясной 1944 года. Мая Найда не прайшла «прызыўную камісію». Але яна таксама стала ахвярай вайны. Яе застрэлілі адступаючыя нямецкія салдаты.

У красавіку 1944 года ў паветры з'явіўся савецкі самалёт-бамбардзіроўшчык. Яго заўважылі з боку Пінска, на поўдні ад Лунінца. Відавочна быў пашкоджаны, таму ляцеў нізка. Вясновай раніцай яго не маглі не заўважыць ворагі, таму па

самалёце адкрылі агонь нямецкія зенітчыкі. Потым у горадзе казалі, што страляла мадзьярская зенітная батарэя. Самалёт загарэўся і ўпаў за горадам у балоцістым лесе каля Зялёнага моста. Да збітага самалёта раней за немцаў паспелі прыбегчы некалькі мясцовых мужчын і хлопчыкаў. Ад моцнага ўдару насавая частка машыны глыбока ўвайшла ў мокрую балоцістую зямлю. Каля месца падзення былі знойдзены акрываўленае адзенне, зброя, дакументы, карты. Загінуўшых лётчыкаў не знайшлі. У горадзе казалі, што іх пахавалі тыя члены экіпажа, што засталіся ў жывых, і потым пайшлі да сваіх у партызаны. Пазней стала вядома, што дакументы падабраў лунінчанін Пустаход, які пасля вызвалення быццам бы аддаў іх у ваенкамат. Шкада, што тады ніхто не высветліў абставін гібелі самалёта і цяпер няма каму гэтым заняцца…

Калі савецкая авіяцыя пачала бамбардзіроўкі Лунінца, многія гараджане былі ўпэўненыя, што гэта адбываецца з-за збітага самалёта, што лётчыкі помсцяць за гібель таварышаў. З мая да канца чэрвеня амаль кожную ноч Лунінец бамбілі. Бомбы цалкам знішчылі два гарадскія млыны. Прыкладна ў тым месцы, дзе цяпер перакрыжаванне вуліц Савецкая і Паркавая, размяшчаўся невялікі лагер савецкіх і італьянскіх ваеннапалонных — некалькі зборных круглых фанерных баракаў. Сюды таксама трапіла бомба. Былі паранены, загінула шмат ваеннапалонных. Іх пахавалі разам на праваслаўных могілках — цяпер гэта месца забыта. У іншыя ночы бамбардзіровак былі разбураны дамы па вуліцах Чырвонаармейская, Царкоўная, Фабрычная, Чырвоная і інш. На тэрыторыі былога гета, дзе ў 1944 годзе знаходзілася некалькі рамонтных ваенных майстэрань, бомбы выклікалі пажар і шматразовыя моцныя выбухі кіслародных балонаў. Тады ж была часткова разбурана яўрэўская сінагога. Савецкая авіяцыя разбіла некалькі эшалонаў на станцыі. З самалётаў, дарэчы, кідалі не толькі бомбы, але і лістоўкі, якія заклікалі да барацьбы з ворагам, паведамлялі пра хуткае вызваленне.

У Лунінцы стаялі нямецкія і мадзьярскія зянітныя батарэі. Яны вялі агонь па савецкіх самалётах, але так і не збілі ніводнага, ніводнага не схапілі ў прамень пражэктара. Наадварот — лётчыкі вялі паляванне і за зенітчыкамі, і за пражэктарыстамі. Дарэчы, даволі паспяхова — некалькі зенітак было разбіта.

У першыя ночы налётаў савецкіх самалётаў лунінчане заставаліся ў горадзе, хаваючыся па розных склепах. Але, заўважыўшы ненадзейнасць такога сховішча, многія сталі выпраўляцца на ноч у лес. Штодня ў раён Віра, да Вулькі 1, спаленай Мелясніцы ішлі цэлымі сем’ямі гараджане. Дзяцей неслі на руках і вялі за рукі. Хтосьці нёс самыя неабходныя рэчы, дакументы. Хтосьці вёз скарб на веласіпедзе, які цудам захаваўся. Уладкоўваліся спаць у лесе, каб перачакаць бамбардзіроўку. Ноччу бачылі над горадам зарыва, сполахі зенітак, асвятляльныя бомбы. А ранкам вярталіся ў Лунінец са спадзевам, што іх дом застаўся цэлым. Па дарозе бачылі варонкі, паваленыя тэлеграфныя слупы, вывернутыя з каранямі дрэвы. І усе з жахам думалі, як зараз пабачаць замест дома папялішча…

Лёс неяк збярог наш дом. Магчыма таму, што кожны раз перад бамбёжкай ці ідучы на начоўку ў лес, маці выстаўляла ў акно невялікі абраз — літаграфічную копію са святой іконы Багародзіцы — Неапалімая Купіна, заступніца ад пажараў. У гады акупацыі лунінчане часта выстаўлялі іконы ў вокны: пры ўступленні немцаў у горад, ліквідацыі яўрэйскага гета, знішчэнні Мелясніцы, аблавах, вывазах у Германію, бамбёжках.

Толькі адзін раз на дальні канец нашага агарода, каля сажалкі, упала касета з трыма невялікімі бомбамі. Яны чамусьці не ўзарваліся, некалькі дзён ляжалі ў траве, паблісквaючы металічнымі бакамі. Зразумела, што імі ніхто не цікавіўся. Такіх у той час было многа. Потым бацька скінуў бомбы ў сажалку, пасля вайны яе засыпалі. Пра бомбы забыліся.

Да канца 1943 года Лунінец ужо страціў той штучна прыгладжаны выгляд, які акупанты спрабавалі надаць параненаму вайной гораду. Дагэтуль яны арганізоўвалі летнія музычныя вечары ў парку, канцэрты казакаў на цэнтральнай вуліцы, выганялі на ўборку мясцовых жыхароў і ваеннапалонных. Змянілася хутчэй нават не знешняе аблічча, хаця яго зялёнае ўбранне крыху зменшылася — немцы

высеклі частку дрэў на вуліцах і ў садах, на вуліцах з'явіліся ДЗОТы і перанасныя «яжы» з калючага дроту. Многае засталося па-ранейшаму, але пацьмянелі самі заваёўнікі. Нямецкія афіцэры, салдаты, іх саюзнікі, чыноўнікі розных устаноў, гестапаўцы і жандары, служачыя СД і паліцыі, а разам з імі прыхвасні, фольксдойчы, здраднікі, — усе яны з дня на дзень станавіліся ўсё больш хмурнымі і заклапочанымі. Усё радзей з дамоў, дзе жылі акупанты, чуўся гук губнога гармоніка ці патэфона. Усё часцей на дзвярах камісійных крам вісеў замок, а хутка неяк ціха паехалі і самі ўладальнікі гэтых гандлёвых кропак. Нават кінатэатр і рэстараны пачалі працаваць з заўважнымі перапынкамі. Хаця самі акупанты не падабрэлі — наадварот, яшчэ больш лютавалі, штодня здзяйсняючы экзекуцыі на «бензінцы». У лесе каля аэрадрома паставілі шыбеніцу. Але адчувалася, што адбыўся надлом у акупацыйнай машыне.

Пераканаўчымі вестунамі таго, што пара ачышчэння Лунінеччыны ад іншаземных прышэльцаў ужо не за гарамі, былі так званыя «бежанцы» з усходніх абласцей. Колькасць іх павялічвалася штодня. Пачуўшы гром кананады савецкай артылерыі, падганяемыя страхам адказнасці за здзейсненыя злачынствы, фашысцкія прыхвасні загадзя, апярэджваючы гаспадароў, адступалі пад моцнымі ўдарамі савецкіх войск, спяшаліся ўцякаць на захад. У Лунінцы сталі з'яўляцца нагружаныя пад завязку мяшкамі, цяжкімі скрынямі, куфрамі параконныя падводы, на якіх сядзелі разам са сваімі дамачадцамі былыя паліцаі, бургамістры, старасты і іншыя памагатыя акупантаў. Немцы на іх ужо не звярталі ўвагі, а ратавалі сваю шкуру. «Бежанцы» з Бранскай, Смаленскай, Ровенскай, Чарнігаўскай, Гомельскай, абласцей, са Здалбунава, Сарнаў, з-за Прыпяці імкнуліся хутчэй дабрацца да Буга, да Генерал-Губернатарства на сваіх фурманках і брычках. Іншыя спяшаліся трапіць на Лунінецкі вакзал, каб сесці на поезд, які ішоў на захад, у Германію. Да ваеннага каменданта Эйземана на станцыі стаялі доўгія чэргі ўцекачоў. Для далейшага руху ў цягніку на захад усе павінны былі атрымаць так званы дазвальны білет — «малую пуцёўку», падпісаную камендантам. А праз Лунінец з украінскага напрамку ішлі цягнікі з чыноўнікамі рэйхскамісарыята «Украіна», ехалі сем'і і везлі нарабаванае дабро. Наперадзе і ў хвасце кожнага эшалона чаплялася платформа з мяшкамі з пяском і ўстанаўліваўся кулямёт.

На пачатку 1944 года на вуглу вуліц Млынавая і Чырвоная (тады Шырокая) у вялікім драўляным доме размясцілася Смаленскае СД, якое збегла ад наступаўшых войск Чырвонай Арміі ў больш ціхае месца. У двары дома ваеннапалонныя чырвонаармейцы за некалькі дзён выкапалі вялікую яму і пабудавалі ў ёй з тоўстых бярвенняў бункер, пакрыўшы яго ў тры накаты такімі ж тоўстымі сасновымі бярвеннямі. У бункеры было 4 выхады і некалькі памяшканняў-пакояў, якія злучаліся паміж сабой. У час начных бамбардзіровак горада савецкай авіяцыяй вясной і летам 1944-га тут хаваліся не толькі немцы, але і жыхары многіх навакольных дамоў. Немцы і іх памагатыя — некалькі рускіх здраднікаў — займалі асобнае памяшканне, насельніцтва — пакоі, размешчаныя бліжэй да выхада. Пры бамбёжках савецкія лётчыкі кідалі спачатку асвятляльныя бомбы на парашутах. Некалькі такіх бомб ператваралі цёмную ноч у ясны дзень, залываючы наваколле асляпляльна яркім белым святлом. Нямецкія зенітчыкі, якія не мелі магчымасці весці агонь па савецкіх самалётах, стралялі па гэтых бомбах, нават асвятляючы іх пражэктарамі, але збіць іх не ўдавалася. Па гэтых «светлячках» ці «свечках», як называлі бомбы ў народзе, стралялі не толькі з зенітак — па іх вялі прыцэльны агонь з вінтовак. У двары СД, ля бункера, асаблівымі намаганнямі вызначыўся нейкі Фёдар, рускі перакладчык. Хлопчыкі, якія стаялі каля ўвахода ў бункер, неаднаразова бачылі, як Фёдар, надзеўшы сонцаахоўныя акуляры, выпускаў са сваёй хуткастрэльнай вінтоўкі-дзесяцізарадкі кулю за куляй у адну са «свечак», што вісела над горадам. Злосць адольвала здрадніка, але збіць ці пашкодзіць бомбу яму не ўдавалася. Відавочна, савецкія лётчыкі заўважылі сполахі выстралаў, якія вяліся з аднаго і таго ж месца некалькі начэй запар. У адзін з налётаў яны скінулі на гэтыя ўспышкі бомбы, што ўзарваліся на бліжэйшых агародах, а адна з іх патрапіла акурат у комін дома, дзе размяшчалася СД. Ворагам пашанцавала — бомба

не выбухнула, але дах дома быў сарваны, комін разбураны, з цаглін тырчэў хвост авіябомбы. Фашысты і здраднікі пачалі хутка збіраць сваю маёмасць, грузіць усё на машыны і праз некалькі дзён уцяклі на захад.

У горадзе пачалі згортвацца цывільныя і ваенныя акупацыйныя ўстановы, мясцовыя і прыбыўшыя з іншых гарадоў. У бок вакзала ўсё часцей ехалі грузавыя і легкавыя аўтамабілі, брычкі і фурманкі, якія былі нагружаны вялікімі чамаданамі і скрынямі, акуратна абшытымі белым палатном. Нямецкія чыноўнікі і афіцэры Лунінецкага гарнізона праводзілі ў «фатэрлянд» сваіх напалоханых фраў. Самі ж яшчэ заставаліся ў горадзе, але сядзелі на чамаданах.

Ужо ў чэрвені 1944 года ў сувязі з набліжэннем Чырвонай Арміі пачалося неабгрунтаванае ў ваенных адносінах, пэўна, загадзя спланаванае знішчэнне горада. Запалаў цэнтр Лунінца. З плачам і болем людзі глядзелі, як разбураліся іх дамы, дзе нарадзілася і пражыло не адно пакаленне. Некалькі дзён і начэй горад быў асвечаны зарывам пажарышча. Многія каменныя дамы былі ўзарваныя. Фашысты праводзілі поўнае свядомае знішчэнне горада і яго гаспадаркі з адзінай мэтай —ператварыць Лунінец у поле, пакрытае разваліінамі. Часткова гэта ўдалося зрабіць.

Самыя вялікія разбурэнні атрымаў чыгуначны вузел. Пры адступленні немцы падарвалі ўсе ўваходныя семафоры, большасць пераводных стрэлак, гідранты-краны для падачы вады ў паравозы. А яшчэ напрыканцы вясны 1944-га на станцыі з’явілася дзіўная машына: цяжкая металічная платформа з нейкімі крукамі — монстр, фашысцкі павук. Два магутныя дызельныя цягачы загналі гэтую машыну ў тупік, і яна чакала свайго часу. Блізка да яе не падпускаў вартавы. Высветлілася, што гэтая машына ламае чыгуначныя шпалы: павольна рухаецца па чыгуначнай каляіне, крукамі чапляе шпалы і цалкам выварочвае рэйкі. «Павучыха» ішла апошняй, знішчаючы за сабой чыгуначны шлях. Перад вачыма савецкіх войск, якія ўступілі ў горад, узнікла жудаснае ворыва... Але савецкія чыгуначныя войскі супрацьпаставілі ворагу ўсё сваё майстэрства, вопыт, мужнасць — і «жыватворныя артэрыі краіны», як вобразна называлі чыгункі, былі своечасова адноўлены.

Акупанты паспелі вывезці шмат каштоўных рэчаў (абсталяванне і аснашчэнне прадпрыемстваў, машыны, станкі і г. д.). У першыя месяцы пасля вызвалення ў горад трэба было ўвозіць усё — і прадукты, і матэрыялы: ад мукі і хлеба да цвікоў, рыдлёвак, і будаўнічага лесу. У Лунінцы паўсюдна адчуваўся горкі пах учарашняй вайны.

Здавалася, што для людзей, якія часова пражывалі на акупіраванай тэрыторыі, самы цяжкі час пайшоў у небыццё. Аднак акупацыя яшчэ доўга нагадвала пра сябе. Дакладней, улада яшчэ доўга нагадвала ўсім «часова пражываючым», што яны пад падазрэннем у кампетэнтных органаў. Улада не памятала, як у 1941 годзе ўцякала з гэтых тэрыторый, пакідаючы мірнае насельніцтва, усё і ўсіх на волю лёсу. Памятала толькі пра тое, што гэта насельніцтва знаходзілася побач з ворагам, сутыкаючыся з акупантамі. На ўсіх, хто жыў пад акупацыяй, прычапілі ярлык «неблаганадзейных людзей». Ва ўсіх дакументах (лістках па ўліку кадраў пры прыёме на працу, анкетах пры прыёме ў ВНУ, картках дапрызыўнікоў у ваенкаматах) быў уведзены пункт з прамым пытаннем: «Ці пражываў сам і сваякі на акупіраванай немцамі тэрыторыі, чым займаўся?» Калі адказ быў станоўчы, кандыдату маглі адмовіць без тлумачэння прычын. У 1950-я гады, калі я скончыў школу і вырашыў вучыцца далей, мне давялося выпрабаваць на сабе дзеянне гэтых пунктаў анкеты…

Лёс іншых «пражываючых» быў больш трагічны. Пасля вызвалення Лунінца, яны былі проста арыштаваны і асуджаны па сумна вядомым 58-м артыкуле. Па розных пунктах: ад супрацоўніцтва з ворагам да здрады Радзіме. Прысуджаліся доўгія тэрміны — 10—15 год. Масава судзілі тых, хто працаваў у любой нямецкай установе ў час акупацыі. Праўда, у сярэдзіне 1950-х, многія з іх былі рэабілітаваны з-за адсутнасці складу злачынства. У адносінах да іншых справядлівасць была адноўлена толькі пасля 1989-га...

У маім архіве захоўваецца незвычайны ліст двух лунінчан (адзін пры немцах працаваў у лясніцтве, другі — у кватэрным аддзеле). У 1944 годзе абодва былі прызваныя ў Чырвоную Армію, удзельнічалі ў кровапралітных баях на Зеелаеўскіх высотах, штурмавалі Берлін, былі ўзнагароджаны баявымі медалямі. Пасля мая 1945-га вярнуліся дамоў і збіраліся выехаць у Польшчу, але былі арыштаваны, пазбаўлены ўзнагарод і асуджаны. Апынуліся ў Аршанскай турме ў адной камеры. І абодва ў адным лісце ў красавіку 1946 года паведамілі пра свой лёс родным у Лунінец. Ліст быў напісаны на польскай мове і адрасаваны Варвары Пацукевіч, што пражывала па завулку Ліпавы, 6. Яго аўтары — карэнныя лунінчане Георгій Савіч і Арсеній Рыбчынскі.

«Знаходжуся ў Оршы, суд ужо адбыўся, асуджаны на 10 год выпраўленча-працоўных работ». Пра тэрмін напісалі абодва. Савіч прасіў перадаць весткі яго бацькам і сям'і, што ўжо выехалі ў Польшчу. Рыбчынскі прасіў не хвалявацца за яго лёс — «як-небудзь выцягну, было б здароўе». Шкадаваў, што не сустрэўся з жонкай і сынам, якія да таго часу таксама выехалі ў Польшчу, прасіў паведаміць сям'і пра яго лёс на бліжэйшае дзесяцігоддзе і падкрэсліваў, каб «Оля (жонка. — **Л. К.**) добра глядзела Жоржыка (сына. — **Л. К.**) і няхай мяне не чакае, як толькі будзе выпадак, няхай зноў выходзіць замуж». Былі ў пісьме і радкі, якія выклікалі ў родных нейкае непаразуменне. Асуджаныя прасілі перадаць прывітанні зусім незнаёмым жыхарам Лунінца, называлі іх прозвішчы. Толькі потым стала вядома, што пералічаныя — гэта даносчыкі, якія на судзе выступалі сведкамі «антысавецкіх дзеянняў і здрадніцтва ў гады акупацыі» арыштаваных. Гэтыя людзі данеслі ў НКУС на многіх лунінчан. Акупацыя яшчэ доўга нагадвала пра сябе ў пасляваенным лунінецкім жыцці, падзяліўшы людзей на добрых і дрэнных, нашых і не нашых, патрыётаў і памагатых ворагам. Адседзеўшы ў паўночных лагерах амаль увесь тэрмін, Савіч і Рыбчынскі былі вызвалены і ў сярэдзіне 1950-х пасля ўсім вядомых падзей потым цалкам рэабілітаваныя. Такіх зламаных лёсаў у пасляваенным Лунінцы было шмат.

* * *

Гэта было 71 год таму… На ўскрайкі разбуранага, палаючага Лунінца ўварваліся салдаты з чырвонымі зоркамі на касках і пілотках. Над горадам, тры гады прыціснутым кованым ботам акупантаў, узняўся сцяг вызвалення.

Мінаюць гады. Шмат што змяняецца ў людской памяці, але гэта падзея і сёння застаецца ў лунінчан святой, незабыўнай. Мы чакалі вызвалення. Маёй сям'і давялося сустрэць яго значна пазней — за тры дні да таго, як над Лунінцом быў узняты чырвоны сцяг, я, мая сястра і бацькі былі вывезены на прымусовыя работы ў Германію… Аднак, для тых, хто сустрэў Чырвоную Армію ў Лунінцы, для людзей, зведаўшых увесь жах «новага парадку», гэты дзень стаў памятным на ўсё жыццё. Гэты дзень упісаны ў гісторыю горада як самая яркая і шчаслівая старонка. Заканчваю свае ўспаміны пра дні акупацыі ў родным Лунінцы словамі чэхаславацкага патрыёта, антыфашыста, закатаванага гестапаўцамі, Юліуса Фучыка: «Аб адным прашу тых, хто перажыве гэты час: не забудзьцеся! Не забудзьцеся ні пра добрых, ні пра злых. Цярпліва збірайце сведчанні пра тых, хто загінуў за сябе і за вас».



Вадзім КОРАНЬ

# «ЛІСТ ДА АБУХОВІЧА»: ПРАБЛЕМА ДЗВЮХ РЭДАКЦЫЙ

«Ліст да Абуховіча» — важны набытак беларускай літаратуры XVII ст. На сённяшні дзень існуюць даследаванні, у якіх прааналізаваны змест гэтага выдатнага помніка [2; 4; 5; 6], але амаль не закранаецца яго тэксталагічная гісторыя. Між тым на сёння вядомы шэсць спісаў «Ліста да Абуховіча»: Адэскі (далей — А), Віленскі 1 (далей — В1), Віленскі 2 (далей — В2), Кракаўскі 1 (далей — К1), Кракаўскі 2 (далей — К2), апублікаваныя адпаведна З. Даўгялам [2], В. Ластоўскім [3], Г. Галенчанкам [1], А. Коршунавым [8] і Л. Беднарчуком [9]. Нядаўна ў адным з рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі [10] быў выяўлены спіс С. Я. Слізня (далей — С). Пераважная большасць спісаў дайшла ў публікацыях, зробленых у пачатку [2; 3] ці сярэдзіне [8] XX ст., або ў пачатку XXI ст. [1; 9]. Усе яны патрабуюць удумлівага тэксталагічнага аналізу.

Пры ўважлівым параўнанні спісаў можна заўважыць, што чатыры з іх (А, К1, В1 і С) вельмі падобныя паводле структуры і адрозніваюцца ад двух астатніх (К2, В2), таму ўсе спісы можна ўмоўна падзяліць на дзве групы.

## I група (А, К1, В1, С)

Найбольш грунтоўна «Ліст да Абуховіча» прааналізаваў З. Даўгяла, які, працуючы з даступнымі яму спісамі А і В1, прыйшоў да высновы, што «параўнанне даводзіць лепшую захаванасць першаўзору ў адэскай копіі» [2, с. 771]. В1, апублікаваны В. Ластоўскім, быў копіяй «з невядомага арыгінала», якая захоўвалася ў Вільні ў Беларускім музеі імя І. Луцкевіча. Гэты спіс пісаны кірыліцай, але мы не ведаем яго дакладнага паходжання. З. Даўгяла, аналізуючы А і В1, зазначыў, што ў А больш адчуваецца беларускі ўплыў, а ў В1 — царкоўнаславянскі. Недаступны З. Даўгялу спіс К1 быў апублікаваны А. Коршунавым у 1959 г. «па фотакопіі «Кракаўскага спіса»… лацінская транскрыпцыя тэксту заменена кірыліцай» [8, с. 361]. Спіс С, пісаны беларускай лацінкай, захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, ён да гэтага часу не апублікаваны і раней быў недаступны для даследчыкаў. Разам з «Прамовай Мялешкі» ён быў адшуканы ў Silva rerum XVII—XVIII стст. С. Я. Слізня. Спісы В1 і К1, як сцвярджаюць даследчыкі, пазнейшыя за іншыя спісы I групы, паходзяць, хутчэй за ўсё, з XIX ст. [7, с. 439] і абодва транслітараваны з лацінкі на кірыліцу.

У спісах I групы living рознае напісанне форм слоў і асобных выразаў, ужыванне сінонімаў, маюцца адрозненні, якія выяўляюцца ў лексіцы, пропуску фраз і нават цэлых сказаў. Разначытанні, без змен у структуры твора, указваюць на паходжанне гэтых спісаў ад аднаго тэксту: калі не пратографа, то вельмі блізкага да яго па часе. У якасці ілюстрацыі прыводзім табліцу з невялікім фрагментам «Ліста да Абуховіча» па чатырох спісах:

**Табліца 1 — Розначытанні ў спісах К1, В1, А, С[1]**

| К1 | В1 | А | С |
|---|---|---|---|
| Я так разумею: коли<br>Смоленск оддали,<br>то и тытул продали. | Бо мне бачится:<br>коли Вашмость<br>Смоленск продали,<br>то и тытул отдали. | Я так розумею: коли<br>Смоленьск продали,<br>то и тытул продали. | Я так розумию:<br>коли Смоленск<br>поддали, то и тытул<br>продали. |
| Много людей<br>об том завещали,<br>што люде и грошы<br>побрали. | Много людей<br>звещали, што<br>и Вашмости люди,<br>гроши побрали. | Много людей об<br>том звешчали,<br>што люде и грошы<br>побрали. | Много людеи<br>об том звешчали,<br>што люде и грошы<br>побрали. |
| Лепей было, пане<br>Филипе, седзець<br>табе у Липе. | Лепей было, пане<br>Филипе, седети<br>тобе у Липе. | Лепей было, пане<br>Филипе, седет[ь]<br>у Липе. | Лепей было, пане<br>Филипе, седит[ь]<br>у Липе |
| Увалявся есь<br>в великую славу,<br>як свиня у грась.<br>Горш то ся стало,<br>коли хто упадзе<br>у новом кожусе<br>у густое болото,<br>у злом разуменю,<br>у обмовах людзких<br>и у срамоти<br>седзиць,<br>як дзяцел у дупли. | Увалялся Вашмость<br>в великую славу,<br>як свиня у гразь.<br>Горш того: коли<br>хто попаде у новым<br>кожусе у густое<br>болото. (*пропуск*) | А тос[ь] уваляўсе<br>ў великою славу,<br>як сьвиня ў граз[ь].<br>Горш то се стало,<br>коли хто упадет<br>в новым кажусе<br>в густое болото,<br>у злом розуменю,<br>в обмовах людзких<br>и соромоти седит,<br>как диавел у дупли. | Увалявся ес[ь]<br>у великую славу,<br>як свиня ў[2] граз[ь].<br>Горш то се стало,<br>коли хто впадет<br>у новум кожуси<br>у густое болото,<br>у злом разуменю,<br>в обмовах людзких<br>и в соромоти седит,<br>как дяцёл у дупли. |

Паміж спісамі I групы маюцца і іншыя розначытанні і нават памылкі. Напрыклад, фраза з К1 «…*ничто на свети готая худела*…» у спісах А і С чытаецца «…*ничого на свети гетая хвиля*…», а ў В1 «…*ничого на сем свете за тры хвили*…» Як бачым, больш даўнім спісам сваім зместам адпавядаюць С і А, у К1 маецца памылка ў прачытанні, а ў выпадку В1 тэкст, з якога рабілася копія, або быў пашкоджаны, або капіістам была зроблена праўка.

Сказ з С «*Цивунец муй з рыкунею быв з сырами на торгу у лунной маентности моюи*» ў А чытаецца: «*Цивунец мой з рыкунею быв з сырами на торгу у ленней маетносьци моей*». У К1: «*Циунец мой з рыкунею быв з сынами на торгу у лонной маетности моей*», супраць В1: «*Цюнец мой з рыкунею быв з сынами в местечку Полонной з курми* (ёсць толькі ў В1) *на торгу*». Відавочна, што ў К1 прысутнічае памылка прачытання: паколькі тэксты напісаны лацінкай, пры перапісванні лёгка было зблытаць літары «r» і «n», а для В1 характэрна яшчэ і рэдактарская праўка перапісчыка, які палічыў за неабходнае зрабіць у сказе ўдакладненне: «*з курми*».

Фраза з С і А «*Рожон им, пане, у жывот буде*» у К1 і В1 перадаецца як «*Кожден мости, пане, ужыват буде*». Паколькі мы не можам доказна сцвердзіць, што К1 і В1 (абодва XIX ст.) зроблены са спісаў больш ранніх, чым С, а спісы С і А больш даўнія (адпаведна XVII і XVIII ст.) ў параўнанні з К1 і В1, то будзем лічыць найбольш верагоднымі варыянты С і А.

[1] Тут і далей лацінаграфічныя спісы «Ліста да Абуховіча» (А, С, К2 і В2) падаюцца ў кірылічнай транслітарацыі.

[2] У арыгінальным рукапісе, напісаным лацінкай, скарачэнне «у» пасля галосных не перададзена. У транслітарацыі скарачэнне падаецца паводле правілаў арфаграфіі сучаснай беларускай мовы.

Фраза з С «*А якая такая особка, таkий пак чоловик*» у А чытаецца як «*А я такая особка, таки чоловик*», у К1: «*А какая такая особка, таки ж и поп чоловек!*», а ў В1 зусім адсутнічае. Трэба прызнаць, што варыянты С і А больш слушныя, а ў К1 слова «поп» з’явілася, магчыма, у выніку апіскі перапісчыка або недакладнага расчытання ім слова «пак» у тэксце.

Фраза з С «*…седит, как дятёл у дупли*» у К1 выглядае як «*…седзиць, як дзяцел у дупли*», у В1 адсутнічае, у А: «*…седит, как диавел у дупли*». Прадстаўлены у С і К1 варыянт, відаць, больш правільны, паколькі ў К2 (спіс II групы) таксама чытаем: «*…как дятел в дупли*».

Такім чынам, спісы С і А найбольш блізкія па часе да пратографа, у іх шмат агульнага. Пазнейшыя па часе К1 і В1 маюць некаторыя розначытанні з С і А, што з’яўляецца вынікам або няўважлівасці перапісчыка, або яго працы па ўдасканаленні тэксту.

Ва ўсіх спісах I групы тэкст пачынаецца з іранічнага прывітання «*Милостивыи пане Обухович, а муй ласкавы пане!*» [10, арк. 120][1]. Іронія становіцца зразумелай толькі пасля прачытання ўсяго твора: наўрад ці магчыма назваць «ласкавым панам» чалавека, які страціў важны стратэгічны пункт, Смаленск, у процістаянні з Маскоўскай дзяржавай.

Адразу ж у тэкст уводзіцца персанаж «*Йовхима Говурки*», якога аўтар пасылае справіцца пра здароўе Абуховіча. З. Даўгяла сцвярджаў, што гэтае імя ні што іншае, як іншасказанне, «адчуваецца, што… (аўтар — В. К.) у гэтым выразе вызначае сваё мастацкае пяро і жадае сказаць, што ўжо з даўных часоў ён займаўся творамі літаратурнымі, не навак у гэтай галіне» [2, с. 780].

Здача Смаленска Абуховічам — вельмі балючая для аўтара тэма. У С чытаем: «*коли Смоленск поддали, то и тытул продали*» [10, арк. 120], але ўжо ў А сцвярджаецца пра здраду ваяводы: «*коли Смоленьск продали, то и тытул продали*», тады як у С гаворыцца больш нейтральна: «аддалі — прадалі». З вышэй сказанага лагічна вынікае і наступны трапны выраз, які пазней стаў прыказкай: «*Лепей было, пане Филипе, седит*[*ь*] *у Липе*» [10, арк. 120]. Ліпа — родавая вёска Абуховіча, і аўтар у самым пачатку твора наўпрост гаворыць пра няздольнасць ваяводы да абароны Смаленска, што зразумела, улічваючы наступствы гэтай страты для ўсёй краіны.

Аўтар прыніжае Абуховіча, гаворачы пра яго якасці як ваяводы: «*А што мы, дурные в кожухах, сим лит Смоленска добывали, то вы, мудрые в соболях, за чотырнадцят недель оддали*» [10, арк. 120 адв.], згадвае Рыгора Осціка, абвінавачанага ў здрадзе і пакаранага смерцю. Паводле аўтара, гэта была меншая правіннасць у параўнанні з Абуховічавай, і намякае на расплату, якая не прымусіць сябе чакаць.

Успамінаецца ў творы і папярэдні смаленскі ваявода (1625—1639), Аляксандр Корвін-Гасеўскі, які «*не много по-лацинску умев, а з меншым людом и аппаратом военным и жывностю Смоленска додержав*» [10, арк. 120 адв.]. Тут асуджаецца баязлівасць, псеўдапрыстойнасць, сквапнасць Абуховіча і ўслаўляецца сапраўдны патрыятычны дух, любоў да Радзімы і ваенная падрыхтоўка Корвін-Гасеўскага[2].

Аўтар здзекуецца з Абуховіча, іранізуе, гаворачы пра яго «мудрасць»: «*Мудрост*[*ь*] *великая, — кажут люде, — я*[*к*] *тут свини. Коли много еи хто зажывает, тот ничого не дбает. А коли чоловик надто кусит — и по стегнах мусит*

[1] Цытаты падаюцца паводле прынятага тут за асноўны спіса С (XVII ст.), найбольш ранняга з вядомых на сёння.

[2] Да Абуховіча пасада смаленскага ваяводы прапаноўвалася Паўлу Сапегу, які ад яе адмовіўся.

*и хвосту бывает невпокуй*» [10, арк. 120 адв.]. Напэўна, такая іронія звязана з ранейшымі, больш мірнымі заняткамі Абуховіча, які ў 1649 — 1653 гг. быў дзяржаўным пісарам Вялікага Княства Літоўскага. Ведаючы пра гэта, аўтар безапеляцыйна сцвярджае: «*А коли б дотуль Вашмость писаром быв, то б и чоловеком слыв*» [10, арк. 120 адв.].

Раптам гаворка пераключаецца на зусім далёкую ад здачы Смаленска тэму — гучыць абвінавачанне Абуховічу ў тым, што «*якобы до вымысленя подымного нихто не быв прычыною, только Вашмость, которым выкурыли нашых мужыкув, як воробёв з виников*» [10, арк. 120 адв]. Падымнае — дзяржаўны падатак у Рэчы Паспалітай, які браўся з кожнага двара. Быў прыняты ў 1649 г., акурат тады, калі Абуховіч заняў пасаду вялікага літоўскага пісара. Менавіта таму аўтар і сцвярджае, што той меў дачыненне да прыняцця падатку, які ў 1653 г. дасягаў 180-ці грошаў на год. Яго плацілі малазямельная шляхта, сяляне і мяшчане, аднак магнаты вызваляліся, пры гэтым замяншалася колькасць двароў, а розніца клалася ў кішэню. Менавіта супраць такога нахабства і падману выступае аўтар твора, відавочна, сам прадстаўнік збяднелай шляхты.

Абвінавачвае аўтар Абуховіча і ў хабарніцтве: «*Послом зоставшы, правды не говорыте, только берете копы. Депутатом копы, комисаром копы, а тые копы пострыгут не одного в хлопы*» [10, арк. 120 адв. — 121]. У 1648 г. Абуховіч сапраўды быў паслом[1] ад мазырскай шляхты на элекцыйным сойме Яна II Казіміра. Аўтар несумненна быў абазнаны ў працы сойма, што дае яму магчымасць выкрыць не толькі няўдачлівага ваяводу, але ўсю буйную шляхту, якая, засядаючы ў сенаце, здольная толькі на ашуканства, хабар і паклёп.

У твор уводзіцца і персанаж Івана Мялешкі, уяўнага аўтара «Прамовы Мялешкі», які «*не боявся так короля Его Милости Зыгмунта и всих сенаторув, а не умив болей, одно Часовник а Псалтыр почытат*[*ь*]» [10, арк. 121]. Выкарыстанне вобраза смаленскага кашталяна ўказвае на знаёмства аўтара з «Прамовай Мялешкі», што ўскосна сведчыць пра больш ранняе паходжанне гэтага твора, чым «Ліста да Абуховіча».

Калі да аўтара даходзяць чуткі, нібыта Абуховіч паехаў адваёўваць Смаленск з дванаццаццю сотнямі пяхоты, ён, уздыхаючы, нагадвае, што той нават «*маючы чотырнадсят сот пехоты до обороны Смоленска людеи зацных и добрых, пры жывности и армате, да не хотив боронити*» [10, арк. 121 адв.]. Завяршае фразу аўтар зласлівым імператывам: «*а тепер только шуи маючы, греблю в маетности Полоннои сыпат*[*ь*] *позволяю, а не Смоленска назад одыскиват*[*ь*]*!*» [10, арк. 121 адв.]. Гэта, аднак, ужо не іронія, а інвектыва на адрас нягеглага ваяводы. Але аўтар бярэ сябе ў рукі і быццам супакойвае Абуховіча: «*Годи фронцавитат, як слижа у Немон упустит. Не завтро вжо тое будет — минут ёго и трое людей!*» [10, арк. 121 адв.].

Сарказм праяўляецца і ў паведамленні, быццам кароль у якасці ўзнагароды за Смаленск хоча аддаць Абуховічу ў валоданне Кракаўскае ваяводства. Аўтар са смехам кажа, што «*боятся ляхи вельми, штобы Твоя Милост*[*ь*] *венгром оных не продал*» [10, арк. 121 адв.]. Тут адкрыта гаворыцца пра хабар, нібыта атрыманы Абуховічам за здачу Смаленска. Аўтар дзівіцца, што маскоўскія войскі дазволілі ваяводу вывезці з захопленага горада аж трыста падвод з гаспадарчымі рэчамі, у тым ліку з пярынамі. «*Знаю: кожное перко обернулусе в червоные золотые*», — упэўнена сцвярджае ён і для параўнання гаворыць, што яго ўласныя «*перын девят*[*ь*]*, кром дробных подушок*» змяшчаюцца на адной падводзе.

Не абыдзены ўвагай і продкі ваяводы, пра якіх сказана, што і дзед, і бацька Абуховіча былі дужа сквапныя на чужыя грошы: «*Дед Твоей Милости, коли*

[1] Тут *пасол* — прадстаўнік павятовай шляхты на сойме Рэчы Паспалітай.

*генералом быв у Мозыру, то, слышу, за малые грошы и великую неправду прызнав. Пан отец пак Вашмости, судею будучы мозырским за моей памяти, у кого больш узяти, того хорошо осудив*» [10, арк. 121 адв.], а мазыране дужа радаваліся, калі той памёр. Таму, сцвярджае аўтар, не дзіва, што ў такім, хоць і шляхетным, ды не надта сумленным родзе з'явіўся на свет хабарнік і робіць выснову: «*А коли б Вашмость догетуль за правдою ходив, то б и Бог помагав!*» [10, арк. 121 адв.].

Таксама ў названых спісах твор мае розную дацíроўку: у С, А і В1: «*Дат з Тулян, дня шостого юлия* (у В1 — *юния*)*, року 1655*», а ў К1 — 1665 г., што можа быць наступствам неахайнасці перапісчыка, які, відаць, зблытаў лічбы 5 і 6.

## II група спісаў (К2, В2).

Да II групы могуць быць аднесены Кракаўскі 2 (далей — К2) і Віленскі 2 (далей — В2), якія ад спісаў I групы розняцца як па змесце, так і па структуры. Як больш поўны, за асноўны павінен быць прыняты спіс К2.

Першае, што адрознівае гэту групу, — адсутнасць іранічнага прывітання: «*З умыслу посылаю до ВМости моего служку пана Трахима Гаврушка* (у В2 — *Говорушку*)…» [9, с. 246]. Па-другое, аўтар пасылае з лістом да ваяводы не Яўхіма Гаворку, як у тэкстах I групы, а Трахіма Гаварушку.

У В2 на самым пачатку твора прама гаворыцца пра хабар, нібыта ўзяты Абуховічам за здачу Смаленска: «*чут у нас люде кажут, шчо ВМсьць Смоленьск продали и великие грошы побрали, но пустили се москвы в Смоленьск, як вошы в кожух*» [1, с. 388].

Тэксты I групы падаюць толькі прозвішча папярэдняга смаленскага ваяводы — Гасеўскі (Gonsiewski), які ў К2 названы Багуславам; у В2 гэтай інфармацыі няма з прычыне адсутнасці вялікага кавалка тэксту: «*Небошчык святои памеци Богуслаў Госевской не много по-лотинску умев, адно Часовник а Псалтыр прочытаў, аднаково Смоленска з меншым апаратем военным и немного людни семсет Смоленска борониў*» [9, с. 246]. Як вядома, смаленскімі ваяводамі ў свой час былі два Корвін-Гасеўскія: Аляксандр (з 1625 па 1639 гг.) і яго сын Крыштаф (з 1639 па 1643 гг.). Важным фактам з'яўляецца і наступная характарыстыка Гасеўскага, які «*адно Часовник а Псалтыр прочытаў*». У спісах I групы гэтыя словы, аднак, характарызуюць Мялешку: «*не боявся так короля Его Милости Зыгмунта и всих сенаторув, а не умив болей, одно Часовник а Псалтыр почытат*[*ь*]» [10, арк. 121]. Адпаведна, спісы II групы пазнейшыя па часе паходжання, бо, па-першае, перапісчык, дакладна не ведаючы імя Гасеўскага, відаць, напісаў яго адвольна; па-другое, відаць, мала што ведаў пра гераічнае мінулае ваяводы, які ў 1632 — 1634 гг. адстаяў Смаленск ад нападаў маскоўскага войска, бо інакш нельга патлумачыць такі намёк на непісьменнасць Гасеўскага, хіба што аўтар, выкарыстоўваючы літоту, вырашыў параўнаць вайсковыя здольнасці Гасеўскага і Абуховіча не на карысць апошняга; па-трэцяе, для характарыстыкі Гасеўскага магло быць выкарыстана запазычанне з аднаго са спісаў I групы, што сведчыла б пра творчую апрацоўку твора перапісчыкам, хаця і не выключана, што дадзеная фраза — не больш як пашыраны ў той час устойлівы выраз.

Калі ў спісах I групы цытуецца ўрывак з прамовы Мялешкі, то ў спісах II групы пра яго прамову на сейме толькі згадваецца, а пра самога гаворыцца прыязна. У В2 гэты эпізод значна пашыраны, таму тут можна гаварыць пра два варыянты тэксту ў межах II рэдакцыі:

**Табліца 2 — Розначытанні ў спісах К2 і В2**

| К2 | В2 |
|---|---|
| Немного тепер такей людей ест[ь], как быў святои памеци Иван Мелешко, каштелян смоленьски. Тот не соромейсе короля Его Милости и всих панов радных, сенаторов. Тот на сейми не кепско говорыл. Я сам на тот час за ним з добытым кордикем стояў, и коли б Господ Бог до тых час его пжы жывоте заховал, те шоб братя нашая смоленская и стародубовская под осударским не дрыжала батогам… [9, с. 247]. | Немного так мудрых людей, як святой памети быв пан Иван Мелешко, кашелян смоленьски. Помлю я, шчо на сейме за Зыгмунда Третёго в сенаце заседавчы мову мел. Не боявсе ён и короля Его Милости, в бров правду казав и вшым паном радным, сенатором не вельми поблажовал, зажывал слов без шчомудрых, на тот час и я смело за ним з добытым кордем стаяв, а Уршуля, королёва Ей Милости, через гетые побое слухаючы, насмотрыцсе и натешытисе не могла. Не умел той фольговац[ь] баламутником, ку прывате своей, на згубу Речы Посполитой радучым, выкидал, як голого, правду перед очы… [1, с. 389]. |

У В2 згадваецца фаварытка караля Жыгімонта III Вазы Уршуля Мейер (імя адсутнічае ў спісах І групы і ў спісе К2), ужо вядомая з «Прамовы Мялешкі»: «*А Уршулю, королевну Его Милости, милен*[ь]*ко в ручку поцаловали, как другие молодшее сенаторчыки*» [11, с. 483]. Фраза «*насмотрыцсе и натешытисе не могла*» фактычна паўтарае фразу з «Прамовы Мялешкі», дзе герой кажа пра сваю дамашнюю вопратку: «*то Еимость пани Мстиславская, малжонка моя, <u>натешитися и насмотрытися</u> на мене <u>не можеть</u>*» [11, с. 481]. З чаго можна зрабіць выснову, што капіїст В2 быў добра знаёмы з «Прамовай Мялешкі».

Вялікую цікавасць выклікае фраза са спісаў І групы: «*Годи фронцавитат, як слижа у <u>Немон</u> упустит*», якая ў тэкстах ІІ групы мае наступны выгляд: «*а на одысканя Смоленьска не нашего веку розум. Як слижа серед <u>Днепра</u> утапили*». У спісах І групы згадана р. Нёман. Відавочна, што аўтар «Ліста да Абуховіча» і яго пазнейшы капіїст арыентаваліся ў дадзеным выпадку на рэаліі сваёй мясцовасці, што можа паслужыць арыенцірам для высвятлення месца стварэння копій. Паводле лакалізацыі рэк можна вызначыць два арэалы з'яўлення груп спісаў твора: І група — Гародня — Наваградак (паўночны захад Беларусі); ІІ група — Смаленск — Магілёў (паўночны ўсход Беларусі).

Трэба зазначыць, што ў тэкстах ІІ групы нічога не сказана пра падымны падатак, да ўвядзення якога Абуховіч нібыта меў непасрэднае дачыненне і згадка пра які ёсць у І групе.

Адрозніваюцца (у другой сваёй частцы) групы спісаў і паслядоўнасцю падачы інфармацыі.

**Табліца 3 — Паслядоўнасць падачы інфармацыі ў І і ІІ групах спісаў**

| І група (другая частка твора) | ІІ група (другая частка твора) |
|---|---|
| 1. Згадка пра смаленскага кашталяна Івана Мялешку, цытата з яго прамовы. | 4. Згадка пра дзеда і бацьку Абуховіча. |
| 2. Разважанні аўтара пра вяртанне Смаленска | 3. Іранічная згадка пра абяцанне караля аддаць пад кіраўніцтва Абуховіча Кракаўскае ваяводства. |
| 3. Іранічная згадка пра абяцанне караля аддаць пад кіраўніцтва Абуховіча Кракаўскае ваяводства. | 5. Намёк на атрыманне Абуховічам хабару за здачу Смаленска. |
| 4. Згадка пра дзеда і бацьку Абуховіча. | 2. Разважанні аўтара пра вяртанне Смаленска. |
| 5. Намёк на атрыманне Абуховічам хабару за здачу Смаленска. | 1. Згадка пра смаленскага кашталяна Івана Мялешку, апісанне яго выступлення; |
| 6. Заключэнне. | 7. Просьба аўтара захаваць яго ліст у сакрэце (адсутнічае ў спісах І групы) і згадка пра Р. Осціка. |
| 7. ______________________ | 6. Заключэнне. |

Яшчэ адзін цікавы момант звязаны з чуткамі пра магчымы паход Абуховіча з мэтай адваяваць Смаленск. У спісах II групы адсутнічае імператыў-загад: «*греблю в маетности Полонной сыпат*[*ь*] *позваляю, а не Смоленска назад одыскиват*[*ь*]*!*», а зварот да Абуховіча больш спакойны: «*з гетыми люд*[*ь*]*ми не Смоленска добывати, але у Полонней греблю сыпати*». Гэта таксама можа служыць паказчыкам больш позняга ўзнікнення спісаў II групы.

Не аднолькава характарызуюцца і продкі Абуховіча. Калі ў спісах I групы дзед ваяводы «*коли <u>генералом</u> быв в Мозыру, то, слышав, што за малые грошы неправду продавав*», то ў спісах II групы: «*помню деда ВМистиного, што <u>возны</u>*<u>[*м*]</u> *у Мозыру быв и на чорной кобыле оказие людом розвозиў, и то за малые грошы великаю неправду прызнаў*».

Не супадае з тэкстамі I групы і завяршэнне твора. У К2: «*Змилуйсе, Мости пане Обуховичу, гетую бумашку, шче з шырого серца пишу до ВМости, в секрете заховай, бо тему я, шчо за гетаю реч так как*[1] *заполохаў Остука, шчо мясо его по дорогах розляталосе…*» [9, с. 247]; у В2: «*Прошу об том, пане Обуховичу, штоб зде посланою бумажку мою в секрете заховал, никому не показуючы, бо я помлю шчо, як кат нап*[*о*]*лохал Осьцика, аж мясо его по дорогах розлетило…*» [1, с. 389].

Па-рознаму згадваецца ў «Лісце да Абуховіча» асоба Рыгора Осціка. У спісах I групы яго віна параўноўваецца з віной Абуховіча, і гэтае параўнанне не на карысць ваяводы, а ў спісах II групы аўтар прыводзіць Осціка ў якасці прыкладу пакарання, якое можа напаткаць яго самога за такі свавольны ліст да дзяржаўнага дзеяча.

Яшчэ адной важнай асаблівасцю з'яўляецца тое, што ўсе спісы I групы ананімныя, але маюць дацiроўку: «*Датт з Тулян дня 6-го иулия* (у В1 — *юния*) *1655 року* (у К1 — *1665*)». У спісах II групы, наадварот, напрыканцы ліста падаецца толькі подпіс, а дацiроўка адсутнічае: «*Иван Цырыак Комоненько*». У К2 амаль даслоўна паўторана заканчэнне са спісаў I групы: «*Писаў бы я до ВМости и больш, да зленивсе, а уже есмо и стар. А твой друг сердечны Иван Цырыак Комонен*[*ь*]*ко*» [9, с. 247]. В2 завяршаецца амаль па-панібрацку, чым выразна адрозніваецца ад вядомых спісаў: «*Бывай за тым здоров, а я правы твои друг и пшыятель Иван Цырыак Комунен*[*ь*]*ко*» [1, с. 390].

Да спісаў I групы найбольш блізкі спіс К2, які, аднак, мае шэраг важных адрозненняў, што дазваляе вылучыць яго ў асобную рэдакцыю. Іншы спіс II групы, В2, у многіх месцах сапсаваны, да ўсяго ў ім адсутнічае вялікі кавалак тэксту. Аднак пасля ўважлівага супастаўлення В2 з К2 можна сцвярджаць, што пропуск гэты не наўмысны і што справа, відаць, у адсутнасці старонкі рукапісу, бо апошнія радкі перад пропускам і першыя радкі пасля структурна і сэнсава супадаюць з адпаведнымі ў спісе К2:

**Табліца 4 — Розначытанні ў спісах К2 і В2**

| К2 | В2 |
|---|---|
| Ешче ш на тое ест[ь] Святая Лазьня, а на одыскання Смоленьска не нашего веку розум. Як слижа серед Днепра утапили. *Увалиўсе Ваша Милост*[*ь*] *а великою славу, как свиня у хразь. Ешче горей се то стало, коли хто в новым кожусе у густое упадет в болото и седит в лихим людзким мнеманю и порозуменю, как дятел в дупли…* | И ешче ж на тое ест[ь] Святая Лазня, а на одыскане Смоленьска не нашего веку розум. Як слижа серед Днепра утопили…(*пропуск у рукапісе*) |
| <u>Быв мой тивунцец з рыконёю на торгу</u>[2], чули од <u>когось</u> и мне тое звестили, што на ВМости поляки <u>дужа</u> хвасты позакаречавали… | …Чули од кого… и мне тое звестили, шчо на Вашмости поляки дужо позакукаречывали хвасты… |

[1] Тут, відаць, памылка; трэба: *кат.*

[2] Падкрэсліваннем вылучаны фразы, адсутныя ў В2.

Такім чынам, на падставе шасці вядомых на сёння спісаў можна вылучыць дзве рэдакцыі «Ліста да Абуховіча». Да першай рэдакцыі адносяцца спісы С. Я. Слізня (С), Адэскі (А), Кракаўскі 1 (К1) і Віленскі 1 (В1), з якіх першасны С. Спіс А больш позні і мае нязначныя разыходжанні з С, якія не закранаюць структуру твора і яго змест. Спісы К1 і В1 паходзяць з XIX ст. і ўключаюць пэўныя праўкі, зробленыя капіістамі пры перапісванні твора на працягу амаль двух стагоддзяў. Да спісаў другой рэдакцыі, якая прадстаўлена двума варыянтамі тэксту, належаць Кракаўскі 2 (К2) і Віленскі 2 (В2): К2 па змесце больш блізкі да спісаў I рэдакцыі, а В2 няпоўны, механічна папсаваны (адсутнічае значная частка твора). Аднак пры супастаўленні К2 і В2 са спісамі першай рэдакцыі адзначаецца арыгінальная перадача зместу, яго творчая апрацоўка і, як вынік, з'яўленне інтэрпрэтацый вядомага твора. Невялікая колькасць спісаў, што захаваліся да нашага часу, не дазваляе грунтоўна прааналізаваць шляхі распаўсюджання і бытавання «Ліста да Абуховіча». Можна прасачыць толькі магчымы шлях ад пратографа да спісаў, якія дайшлі да нас у рукапісах або публікацыях XX — пачатку XXI ст.

## Спіс літаратуры:

1. Галенчанка, Г. Я. Невядомыя і малавядомыя помнікі духоўнай спадчыны і культурных сувязей Беларусі XV — сярэдзіны XVII ст. / Г. Я. Галенчанка. — Мінск : Беларус. навука, 2008. — С. 388—390.

2. Даўгяла, З. Зь беларускага пісьменства XVII стагоддзя. Творы Цыпрыяна Камунякі «Ліст да Абуховіча» і «Прамова Мялешкі» / З. Даўгяла // ARCHE-Пачатак. — 2009. — № 7. — С. 768—816.

3. Ластоўскі, В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі: Спроба паясьніцельнай кнігопісі ад канца X да пачатку XIX стагодзьдзя / В. Ластоўскі. — Коўна : Друкарня Сакалоўскага і Лана, 1926. — 776 с.

4. Мальдзіс, А. На скрыжаванні славянскіх традыцый / А. Мальдзіс. — Мінск : Навука і тэхніка, 1980. — 352 с.

5. Прашкович, Н. И. «Прамова Мялешкі» и «Ліст да Абуховіча» — новый этап в истории белорусской литературы / Н. И. Прашкович // ТОДРЛ. — Ленинград: Наука, 1969. — Т. XXIV. — С. 314—318.

6. Саверчанка, І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі : Адраджэнне і ранняе барока / І. Саверчанка. — Мінск : Тэхналогія, 1998. — 319 с. (64 с. укл.).

7. Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. У 2 т. Т. 1 / У. В. Анічэнка, П. В. Вярхоў, А. І. Жураўскі, Я. М. Рамановіч. — Мінск : Выд-ва АН БССР, 1961. — 539 с.

8. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры: вучэбны дапаможнік для філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў / Склад. А. Ф. Коршунаў. — Мінск : Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства асветы БССР, 1959. — 469 с.

9. Bednarczuk, L. Językowy obraz Wielkiego Księstwa Litewskiego / L. Bednarczuk. — Kraków : Lexis, 2010. — S. 246—250.

10. Copiia z listu Pana Cypriana Kommuniaki, pisany do JMosci pana Obuchowicza, woiewody smolenskiego, w te słowa // Рукапіс НББ 091/4024. — Арк. 120—122.

11. Wiszniewski, M. Język i literatura białoruska / M. Wiszniewski // Wiszniewski, M. Historya literatury polskiej. — Tom VIII. — Kraków : W drukarni Uniwersiteckiej, 1851. — S. 480—484.

Матэрыял паступіў у рэдакцыю 29 снежня 2014 года.

Вадзім КОРАНЬ

## «Ліст да Абуховіча»: праблема дзвюх рэдакцый

### Рэзюмэ

У артыкуле аналізуюцца ўсе вядомыя на сённяшні дзень спісы «Ліста да Абуховіча». Па выніках даследавання вылучаюцца дзве рэдакцыі гэтага выдатнага сатырычнага твора XVII ст.

**Ключавыя словы:** «Ліст да Абуховіча», рэдакцыя, спіс, сатыра, Смаленск, структура, «Прамова Мялешкі»

Wadzim KORAN

## «The Letter to Abukhowich»: problem of two versions

### Summary

This article is a detailed analysis of all handwritten copies of «The Letter to Abukhowich» known today. On this basis one can distinguish two versions of this 17-thcentury satirical work.

**Keywords:** «The Letter to Abukhowich», handwritten copy, version, satire, Smolensk, structure, «Speech of Mialeshka».



Анатоль ТРАФІМЧЫК

# «НЯШЧАСНАЯ ПАЭМА. ПРАВАЛІЦЦА, МУСІБЫЦЬ, ЯНА»: рэдакцыі паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка»

Значэнне паэмы «Сымон-музыка» ў шырокіх колах не мае той ступені, як «Новая зямля» ці нават проза Якуба Коласа. Тым не менш навукоўцы твор гэты ставяць вельмі высока (не будзем траціць лішнія прастору і час на цытаты). Іх увага скіравана на «Сымона» (так гэту «казку жыцця» неафіцыйна называў сам аўтар) неадрыўна, што спараджае новыя вынікі, а часам і адкрыцці. Эмігрант Ант. Адамовіч, напрыклад, раскрыў антысавецкі аспект паэмы. У постсавецкі час асэнсавалі пераробку твора (А. Каўка, У. Конан). Шмат увагі вывучэнню паэмы ўдзяліў вядучы коласазнаўца М. Мушынскі. Аднак лакуны і спрэчныя моманты — як, зрэшты, і стасоўна многіх геніяльных твораў — застаюцца.

Калі гісторыя **стварэння-напісання** паэмы збольшага ясная (у многім яшчэ сам Пясняр гэтаму паспрыяў, шмат расказаўшы Максіму Лужаніну), то па-ранейшаму вельмі цьмянымі застаюцца старонкі **перапісвання** (як мякка сталі казаць за савецкім часам, рэдагавання) паэмы — як у сэнсе стварэння-напісання, так і ў святле фактараў пераробкі. Асобнай увагі патрабуе працэс з'яўлення наступных рэдакцый «Сымона», названых другой і трэцяй.

Сацыяльна-палітычны кантэкст першых гадоў знаходжання Якуба Коласа ў Менску (так называўся горад да 1939 г.) істотным чынам спрычыніўся да перайначвання яшчэ адной вяршыні творчасці Песняра — паэмы «Сымон-музыка». Прычым настолькі істотным, што дае падставы гаварыць пра канчатковую рэдакцыю гэтай паэмы як пра арыгінальны твор. Гэтыя змены былі прадыктаваны запанаваўшай дактрынай. Іх аналіз у айчыннай навуцы ўжо плённа праведзены[1]. Аднак сам працэс тэхнічнай і ідэйнай трансфармацыі твора, які меў і прамежкавы варыянт — згубленую ці скрадзеную так званую другую рэдакцыю — і сёння застаецца дарэшты нявысветленым.

Летам 1924 г. Якуб Колас вяртаўся з творчага адпачынку ў Кіславодску. Там ён канцэптуальна перарабіў паэму «Сымон-музыка». Аднак у дарозе яе скралі. Гэта засведчыў сам паэт. Такую версію пачалі лічыць афіцыйнай. Але калі прасачыць лёс другой рэдакцыі больш пільна, то ўзнікаюць пытанні.

Перш-наперш на падазрэнне наводзіць адсутнасць чарнавікоў і малалікасць Коласавых каментарыяў (калі не браць пад увагу агульныя словы, сказаныя разоў пару аўтарам нібы для адчэпнага: маўляў, перарабіў ды скралі ці да т. п.). З іх шэрагу звяртае на сябе ўвагу паметка Якуба Коласа ад 10 чэрвеня 1927 г. на лісце да жонкі амаль трохгадовай даўніны (8—9 ліпеня 1924 г., з Кіславодска), у якой падкрэсліваецца, што рукапіс паэмы «Сымон-музыка» ўкрадзены [Т. 18, с. 68][2].

Навошта спатрэбілася тая паметка? І самае галоўнае — для каго яна прызначалася??? Сумнеўна, што самому сабе. Хіба з памяці аўтара змагла б сцерціся такая творчая страта?

Зрэдчас паэт коратка ўспамінае пра яе, як, напрыклад, у лісце да С. Сомавай ад 13.11.1947: «...В 1924 г... у меня утащили чемодан, в котором находилась законченная в Кисловодске рукопись поэмы «Сымон-музыка». Так она и пропала — черновиков я не сохранил» [Т. 19, с. 308], — што з'яўляецца важкім контр аргументам нашым падазрэнням, але не абвяржэннем. Больш за тое, аўтар нібы

спецыяльна звяртае ўвагу на незахаванасць чарнавікоў паэмы, бо ў кантэксце яго творчай працы 1920-х гг. тая незахаванасць глядзіцца ненатуральна: чарнавыя матэрыялы тагачасных твораў (меншай мастацкай значнасці!), а таксама лісты да нас дайшлі, да таго ж збярогся, перажыўшы ўсе віхуры часу, нават рукапіс першай рэдакцыі «Сымона». У такім святле знікненне менскіх нататак паэмы глядзіцца нелагічным альбо… выбарачным, адмысловым.

Дзіўна таксама, што аўтар пакінуў толькі даволі абстрактнае, прасторавае тлумачэнне, чаму ён перарабіў канцоўку — з песімістычнай на аптымістычную [Т. 9, с. 410—411]. Хаця гэтай і іншым зменам у паэме можна было з лёгкасцю даць лагічную прасавецкую інтэрпрэтацыю.

Выглядае на тое, што вышэйзгаданая рэмарка была разлічана зусім не для сябе, а для тых, хто задумваўся ў той час над лёсам паэмы. Да таго ж узнікае пытанне, чаму Якуб Колас пазней не зрабіў аналагічныя паметы на іншых лістах да жонкі пры згадцы сваёй паэмы? Заўвага NB прыпісана толькі аднойчы — калі аўтар кажа пра паспяховае заканчэнне твора. (Нібыта на іншыя моманты — нестыковачнага характару — увагу звяртаць непажадана. А можа, наадварот: гэтым самым аўтар падсоўваў ключ да разгадкі долі свайго твора?!). Тым больш што паэт пачаў ствараць другую рэдакцыю яшчэ дома, задоўга да ад’езду на курорт, і выглядае ненатуральным незахаванне (знішчэнне?) папярэдніх чарнавікоў (ну, не забраў жа аўтар іх з сабою?!). Але ўсё стала б на свае месцы, калі б мы даведаліся, што дзеянні паэта, словы і паметкі вакол другой рэдакцыі «Сымона-музыкі» адбываліся па «рэкамендацыі» цэнзуры ці іншых, больш сур’ёзных органаў дзяржаўнага парадку.

У працэсе даследавання выявілася, што яшчэ багата раней сумняваўся ў афіцыйнай версіі «амерыканскі» Коласаў брат Міхась Міцкевіч: «Над «Сымонам-музыкам» Коласу давялося шмат папрацаваць. Было тры рэдакцыі паэмы. Рукапіс у другой рэдакцыі нібы быў украдзены ў час падарожжа Коласа ў Кіславодск. Але ці скрадзены, то пытанне, а калі скрадзены, то хто ўкраў?»[3] Выбітны коласазнавец У. Конан не абвяргае інфармацыі пра скраданне другой рэдакцыі, але і дадае: «Вядомы нам сучасны твор — гэта ўжо другі варыянт савецкай рэдакцыі. Першы варыянт гэтай рэдакцыі (1924) цэнзура вярнула аўтару на дапрацоўку — абавязковую тады самацэнзуру»[4]. Дый сам Якуб Колас у лісце да жонкі з Кіславодска пісаў, што «занёс Шукевічу ў цэнзуру апошні раздзел «Сымона-музыкі»» [Т. 18, с. 70].

Варта зазначыць, хто такі згаданы Шукевіч. Гэта — Р. Шукевіч-Траццякоў, сам старшыня Галоўлітбела. Сумесны адпачынак першага цэнзара і аднаго з двух першых паэтаў не мог быць выпадковым. *Напэўна* Р. Шукевіча-Траццякова да Песняра прыставілі для кантролю. Больш за тое, наглядчык суправаджаў класіка ў дарозе і пры наведванні сваякоў пад Масквой: «Я толькі вярнуўся з Клязьмы… Шукевіч пайшоў па білеты. Ён возьме дакладную справку, калі адыходзіць машына на Кіславодск» [Т. 18, с. 44]. Да таго ж менавіта пра гэту яго якасць паведамляе творца, падкрэсліваючы яе яшчэ праз адзін сказ: «Толькі два словы выклікалі ў ім цэнзара». Як бачна, Р. Шукевіч-Траццякоў выконваў функцыю не толькі праяральшчыка напісанага, але і кантралёра кожнага кроку пісьменніка. Пра гэтага чалавека Якуб Колас рэгулярна згадвае і ў іншых лістах да жонкі, і кантэкст згадкі бывае не зусім прыязны для характарыстыкі наглядчыка: «…Сёння пасля чаю жывот узяў ды забалеў, як той дурны. Забалеў тады, калі я хадзіў па парку і зайшоў да Шукевіча. Прыйшоў дадому невясёлы, са злосці адкаркаваў бутэльку Смірноўскага…» [Т. 18, с. 53].

На падставе вышэй сказанага ці ж нельга зрабіць высновы, што рукапіс быў не толькі скончаны, але і аддадзены на разгляд цэнзару? І толькі потым другая рэдакцыя паэмы нібыта знікла! Супадзенне ці лагічнае развіццё падзей?

Праўда, у згаданым лісце Якуб Колас кажа, што цэнзар адобрыў паэму. І гэта не выключана. Р. Шукевіч-Траццякоў тым часам пераходзіў на працу ў газе-

ту «Беларуская вёска», таму з улікам меншай небяспекі, якая магла ўзнікнуць з прычыны ідэалагічнай няпільнасці, ён сапраўды мог закрыць вочы на некаторыя неадпаведнасці бальшавіцкай дактрыне. А, магчыма, пры ўказаных акалічнасцях мела месца трывіяльная халатнасць, тым больш што Р. Шукевіч-Траццякоў аднойчы такі прагляд дапусціў, калі не заўважыў акраверш «Далоў камуністаў» і дазволіў яго публікацыю. Да таго ж, як паведамляе беларускі гісторык прафесар А. Гужалоўскі, «спадзяванні на тое, што вучоныя і нацыянальна-культурныя дзеячы старой фармацыі, з якіх пераважна складалася першая калегія Галоўлітбела, будуць эфектыўна выконваць цэнзарскія абавязкі не спраўдзіліся», таму да канца 1924 г. у Галоўліце адбыліся персанальныя і структурныя змены[5]. Цытуемы даследчык заўважыў, што Р. Шукевіч-Траццякоў адкрыта пісаў у сваім артыкуле пра сваё «сааўтарства», якое знізіла не толькі мастацкія якасці паэмы, але ў шэрагу яе месцаў і сэнс[6]. Таму Коласава паведамленне ў лісце да жонкі пра адабрэнне паэмы цэнзарам Шукевічам у выніку аказалася тым жаданым, якое выдаецца замест рэчаіснага, або сам цэнзар неўзабаве памяняў сваю ацэнку і пахадзіў па творы чырвоным алоўкам.

Дарэчы, ці не на працэс дапрацоўкі пад пільным цэнзарскім наглядам ўказвае непаслядоўнасць у аўтарскай ацэнцы завяршэння работы над «Сымонам»? Так, у лісце жонцы за 25 чэрвеня Якуб Колас піша, што «больш-менш скончыў» сваю паэму, «толькі трэба выразней зрабіць канец» [Т. 18, с. 55]. Затое праз пяць сутак у наступным пасланні скрушліва паведамляе, што «яшчэ нават не скончыў няшчаснага «Сымона-музыку»» [Т. 18, с. 57]. А яшчэ пазней — 4 ліпеня — выказвае такую думку-прагноз: «Няшчасная паэма. Праваліцца, мусібыць, яна» [Т. 18, с. 64], канстатаваўшы літаральна на наступны дзень: «…Тут і работа мая не клеіцца, а з тых вялікіх намераў, якія былі ў мяне перад паездкаю на Каўказ, нічога не выйшла…» [Т. 18, с. 65]. Ды праз чатыры дні, 9 ліпеня, аўтар паведамляе: «Учора я, Маруська, закончыў «Сымона-музыку», і, здаецца, закончыў някепска» [Т. 18, с. 68]. Такім чынам, нібыта атрымліваецца неверагоднае: твор быў кардынальна дапрацаваны за тры дні!

Але не толькі такія нестыкоўкі спараджаюць падазрэнні ў перманентным перапісванні паэмы. Паколькі так званая трэцяя рэдакцыя «Сымона-музыкі» ствараласе ў асноўным пасля таго, як Р. Шукевіч-Траццякоў сышоў з Галоўліта, можна смела меркаваць, што тыя словы датычацца другой рэдакцыі. Значыць, нікуды яна не знікала, а знаходзілася ў далейшай дапрацоўцы і таму захавала кіславодскае «сааўтарства» цэнзара.

Безумоўна, нельга абысці ўвагай яшчэ адзін момант з гэтай цьмянай гісторыі: неўзабаве па вяртанні Якуба Коласа з Кіславодска з'явілася інфармацыя, што згублены рукапіс нібыта знайшоўся. Гэта вядома з паслання самога паэта свайму даўняму сябру Якаву Бязмену: «Мне пісалі з Растова-на-Д.[оне] (агент ГПУ)». Паэт просіць адрасата, «калі гэта не так далёка і зручна», навесці «спраўкі на ст.[анцыі] Растоў-на-Д.[оне] у агента ГПУ Мажарава» [Т. 18, с. 72]. Але — без станоўчага выніку. Што тут уражвае? Галоўнае: дзіўна, каб службісты ГПУ займаліся пошукам згубленых рэчаў, тым больш правінцыйных паэтаў-курортнікаў-нацменаў (хіба не так выглядаў беларускі паэт у вачах расійскіх спецслужбаў?). Аднак калі тэма пошукаў мела выразна палітычны характар, то справа датычылася ўжо менавіта ГПУ[7] (асабліва з улікам таго, што ў яе цэнтры апынаўся грамадскі дзеяч прымежнага горада — Менска — з-пад саменькай Польшчы — найбольшага тагачаснага ворага маладой Краіны Саветаў; да таго ж нацыяналістычная натура гэтага дзеяча ад пачатку была пад падазрэннем у ГПУ і адпаведным чынам ужо выкрывалася: успомнім забарону альманаха «Адраджэнне» з пачаткам Коласавай аповесці «У палескай глушы» (1922), на якую тады ж паступіла адмоўная характарыстыка з боку палітычнаўплывовага органа цэнзуры — Галоўліта[8], яшчэ ранейшыя выказванні расійскіх кіраўнікоў Беларусі пра дарэмныя «потуги белорусской националистической интеллигенции к созданию «своего» белорусского

языка, «своей» национальной культуры» (газета «Звезда» ад 05.02.1919)[9]; у канцы 1924 г. ушчыльную ГПУ занялося і асобай самога творцы, упершыню стварыўшы яго палітычны партрэт у аспекце стаўлення да пануючай улады — як «…папутніка, інтэлігента-шавініста, які ўносіць у літаратуру настроі, чуждыя рэвалюцыі, а часамі і к-р. тэндэнцыі», што было сур'ёзным сігналам пагрозы ўсёй жыццядзейнасці К. Міцкевіча[10]). Хіба агент спецслужбаў ведаў, што паэма «Сымон-музыка» крамольная, не чытаўшы яе, таму і шукаў? У такую экстрасэнсорыку не верыцца. Значыць, у ГПУ ідэйны змест паэмы быў вядомы. Нездарма ж у функцыі чэкістаў уваходзіла сярод іншага «прафілактыка, папераджальныя дзеянні, персанальны нагляд за пісьменнікамі і журналістамі, нават вельмі адданымі рэжыму»[11]. Таму твор у «кіславодскай» рэдакцыі мог быць проста ў дарозе канфіскаваны для аналізу праз прызму аспектаў, якімі і займаліся чэкісты. А сачыненне Якуба Коласа пра крадзёж — усяго толькі чарговая «казка жыцця» (з адной такой казкі, дарэчы, і вырасла паэма «Сымон-музыка»).

Прычым, нягледзячы на тое, што, паводле згаданай Коласавай паштоўкі, «паэма перароблена, а ў мяне ніякіх слядоў ад яе не засталося», дома, па прыездзе з Кіславодска, нібыта дапамагала аднаўляць страчаны твор жонка паэта, якая заставалася на Беларусі. Аднаўляць бясследна зніклую паэму! У гэтай нестыкоўцы бачыцца яшчэ адзін відавочны ключ да разгадкі таямнічай гісторыі.

І яшчэ адна дэталь. Бытавая. Вага «чамаданчыка», узятага ў дарогу пісьменнікам. Пачытаем, што ён піша ў лісце да жонкі: «Дарма я валок гэтыя чамаданы. <...> Калі я пачну ставіць сваю абэрыну, то ў мяне аж пуза трашчыць. Ну, але ж у дарозе не кідаць іх. Буду пакутаваць да канца і верна трымацца чамадана» [Т. 18, с. 42]. І гэта словы чалавека, сіла рук якога стала напаўлегендарнай. Дзеля прыкладу даверымся старэйшаму сыну класіка Данілу Міцкевічу, які да таго ж быў і адным з найлепшых даследчыкаў жыцця свайго слыннага бацькі: «Быў сярэдняга росту. Даволі моцнага складу цела. Вочы цёмныя. Меў шмат сілы. Мог дужацца з двума-трыма семінарыстамі і ўсіх перамагчы. Любіў цягацца на пальцах і рэдка каго не перамагаў (гаворачы гэта, Даніла Міцкевіч схваціў сваім сярэднім пальцам мой сярэдні палец і я пачуў, як цягне не толькі маю руку, але і ўсяго мяне). Вось бачыце, — цягнуў расказ Даніла Міцкевіч, — а мне ж семдзесят чатыры гады. Ведайце, што бацька мяне без цяжкасці перацягваў тады, калі я быў намнога мацнейшы, чым сёння» — такою згадкаю падзяліўся сын Якуба Коласа з Алесем Барскім[12]. Наколькі можна было неўпрыкмет скрасці Коласаў чамадан, калі яго вельмі дужы гаспадар сам ледзь з ім спраўляўся, сказаць немагчыма (да таго ж кручком з даху вагона! — як гэта спрабуюць падаць некаторыя папулярныя крыніцы). Тым не менш супастаўленне абедзвюх звестак дае глебу для ўзнікнення яшчэ аднаго пытання пра крадзёж, а адсюль — яшчэ аднаго сумнення адносна афіцыйнай, агульнапрынятай версіі пра другую рэдакцыю паэмы «Сымон-музыка».

Сын Песняра М. Міцкевіч, тым не менш, застаецца прыхільнікам афіцыйнай версіі пра крадзёж. У прыватнай гутарцы ён прыводзіць важкі і справядлівы аргумент: «Колас ніколі не лгаў». Аднак ці ж нельга дапусціць, што расказаная паэтам гісторыя пра крадзёж паэмы — усяго толькі невялікая алегорыя, расказаная дзеля таго, што наўпрост гаварыць было ўжо на той час не зусім бяспечна. Тым больш што — будзем аб'ектыўнымі — Якубу Коласу не раз даводзілася ісці на саступкі рэжыму і падпісваць, і прамаўляць, і ствараць самому матэрыялы, якія сёння з поўным правам называем «данінай часу» (галоўнае, чым, відавочна, кіраваўся паэт, — ненанясенне шкоды канкрэтнаму чалавеку).

Нягледзячы на вобразнасць крылатага выслоўя, варта нагадаць, што рукапісы не гараць і нейкія сляды павінны былі застацца, — за выключэннем таго выпадку, калі матэрыялы метадычна і татальна зачышчаюцца з мэтай не пакінуць аніякіх слядоў (бальшавікі часта практыкавалі такі падыход і нярэдка дасягалі мэты). Ці не тымі слядамі з'яўляюцца не так даўно выяўленыя слынным гісторыкам

В. Скалабанам дакументы пра цэнзараванне Галоўлітам недзе напрыканцы 1924 г. разглядаемай паэмы, пададзенай аўтарам на разгляд ужо ў перапрабленым выглядзе? Арыгінал тэксту, які згадваецца ў дакуменце і які даў бы адказ на пастаўленае пытанне, пакуль не адшуканы. І хаця аўтары каментарыяў схіляюцца да таго, што пастанова Галоўліта па паэме «тычыцца трэцяй рэдакцыі, тэкст якой быў аддадзены Коласам, каб атрымаць дазвол на выданне твора», узнікае пытанне, як паэт мог аддаць на разгляд у снежні 1924 г. твор, закончаны толькі ў маі ці чэрвені 1925 г., пра што ў каментарыях таксама гаворыцца [Т. 9, с. 414—415, 402].

Такім чынам, хоць і ўскосныя, але, думаецца, важкія аргументы, якія падвяргаюць сумневу афіцыйную версію вакол другой рэдакцыі паэмы «Сымон-музыка», паўстаюць на кожным з этапаў гэтай загадкавай гісторыі:

1) этап перапрацоўкі твора ў Менску, да ад’езду ў Кіславодск: пасля яго не засталося ні следу ад сур’ёзнай працы (пры захаванні іншых Коласавых рукапісаў);

2) этап перапрацоўкі паэмы ў Кіславодску: гэты хранатоп характарызуецца прысутнасцю прыстаўленай да паэта цэнзуры (гэты факт варта лічыць даказаным);

3) этап вяртання з курорта дадому: тэхнічная рэалізацыя крадзяжу выглядае па меншай меры дзіўнай, бо ўкралі так, як зрабіць было практычна немагчыма;

4) этап пошукаў: з’яўленне на ім супрацоўніка ГПУ — сведчанне палітычнай важнасці справы;

5) этап далейшай перапрацоўкі (так званай трэцяй рэдакцыі): наяўнасць нестыковак, а таксама відавочны кантроль Галоўліта.

У святле гэтай інфармацыі выкрышталізоўваецца гіпотэза, што аўтарскае рэдагаванне паэмы «Сымон-музыка» бракавалася цэнзурай як мінімум два разы (летам 1924 г. і наступнай зімой, калі не перманентна). Унясенне правак у твор, якія задаволілі цэнзуру, урэшце было скончана Якубам Коласам летам 1925 г. — і паэма аператыўна была апублікавана. Афіцыйна за тым варыянтам замацавалася найменне трэцяй рэдакцыі — канчатковай версіі твора, дапушчанай да чытачоў.

Пры ўсёй абумоўленай савецкай кан’юнктурай мусовасці (цяжка сказаць, у якой ступені яна была навязлівай, але яна была!) перастварыць паэму «Сымон-музыка» нельга скідваць з рахунку і наяўнасць у Якуба Коласа веры, надзеі, што беларускі народ, кажучы словамі М. Багдановіча, «дачакаецца залацістага, яснага дня»: усё ж беларуская краіна — хоць на і невялікім лапіку зямлі — мела прынамсі намінальную акрэсленасць, тым часам праводзілася беларусізацыя, дый сяляне былі яшчэ не запрыгоненымі калгасным ладам і дзякуючы НЭПу нібыта атрымалі запаветную *новую зямлю*. Таму, думаецца, да канцэптуальнага перайначвання «Сымона-музыкі» аўтар падступаўся і з пэўным асабістым жаданнем, адсутнасць якога стасоўна «Новай зямлі» не дазволіла ламаць «энцыклапедыю сялянскага жыцця», падладжваючыся пад рэчаіснасць, нягледзячы на тое, што тая рэчаіснасць у асобах літаратуразнаўцаў-вульгарызатараў (а потым і прадстаўнікоў карных органаў) пагражала Песняру з гэтай прычыны абвінавачваннямі ў нацыяналізме і дробнабуржуазнасці. Не выключана, што вопыт перапрацоўкі «Сымона-музыкі» стаў для Якуба Коласа свайго роду выпрабаваннем душэўнымі пакутамі мастака, на якія ў чарговы раз — пры запатрабаванні часу змяніць і каштоўнасныя асновы «Новай зямлі» — паэт пайсці не мог. Каб уберагчы паэму, аўтар нібыта асудзіў яе [Т. 8, с. 332—333], пры гэтым будучы ўпэўненым, што яна яшчэ атрымае высокія ацэнкі нашчадкаў: «...я пагадзіўся з мысляю, што «Новую зямлю» ацэняць людзі потым, калі я буду ўжо нябожчыкам», — пісаў аўтар у лісце да П. Глебкі ў 1938 г. [Т. 18, с. 206].

Варта нагадаць, **што** сказаў Якуб Колас адразу пасля выхаду абноўленага «Сымона-музыкі»: «Добра, што я напісаў «Новую зямлю», цяпер бы я так не напісаў»[13]. Акрамя убачаных намі ў той фразе сэнсаў, апісаных вышэй, у ёй пра-

глядаецца і фігура замоўчвання — эліпсісу, змест якой можа быць прыкладна наступны: гісторыя стварэння і творчай пераробкі «Сымона-музыкі» паказвае, што сучасны сацыяльны кантэкст уплывае (вымушае) адысці ад ранейшых сваіх ідэалаў і поглядаў і ствараць мастацкія творы з новым гучаннем, з перайначанымі актуальнай палітычнай дактрынай лейтматывамі. А прамоўленая ацэнка створанага некалі — «добра, што я напісаў» — не даходзіць да эвентуальнай яе экстрапаляцыі на свежыя вынікі творчасці, у прыватнасці пераробку «Сымона-музыкі», якая, такім чынам, мела б ацэнку, палярную абазначанай, — «кепска».

Думаецца, не варта схіляцца да маркіравання першай і апошняй рэдакцый паэмы асобнымі творамі: той жа засталася тэма, ідэнтычнай — праблематыка, да таго ж апошняя і вырашалася (хоць і з прынцыповымі трасфармацыямі і саступкамі савецкай рэгламентацыі ў выніковым выглядзе) у рэчышчы патрыятычнага лейтматыву. Разам з тым гэта не адмяняе неабходнасці ў пераглядзе называння рэдакцый «Сымона-музыкі» паводле нумарацыі, якая, як паказана вышэй, падаецца не зусім карэктнай. Больш лагічна было б казаць пра першую рэдакцыю як пра дасавецкую, нягледзячы нават на тое, што тры з пяці частак былі напісаны пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі (савецкая ўлада яшчэ не дыктавала наўпрост аўтару сваёй волі, хоць яе існаванне і спрычынілася да фарміравання сюжэту і вобразаў паэмы[14]). Як варыянт называння гэтай рэдакцыі — несавецкая або (перша)пачатковая ці ўрэшце проста першая. У сваю чаргу тую паэму, якая ўбачыла свет у 1925 г. можна было б маркіраваць (пад)савецкай, а як варыянт — канчатковай або выніковай (але ні ў якім разе не трэцяй).

Такім чынам, лёс і змест савецкай рэдакцыі паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка» не менш складаны, чым вядомай па першапублікацыях. Твор пакідае нямала таямніц вакол сябе і літаратуразнаўчых пытанняў. Працэс перапрацоўкі паэмы ішоў нягладка. Захавалася нямала звестак, што наводзяць на контрверсійную гіпотэзу перастварэння паэмы, якое, як устаноўлена дакладна, адбывалася пад пільным наглядам адпаведных органаў.

## Каментарыі

[1] Гл., напрыклад: Конан У. Першае і савецкае выданне паэмы «Сымон Музыка»: параўнальны аналіз // Тэрмапілы, 2008, № 12. С. 333—339.

[2] Тут і далей спасылкі на творы Якуба Коласа робяцца па наступным выданні ў квадратных дужках з пазначэннем тома і старонкі: Колас Я. Збор твораў: у 20 т. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы. Мінск: Беларус. навука, 2007 — 2012.

[3] Міцкевіч М. Якуб Колас. Кароткі ўспамін // Беларускі сьвет, 1991, № 22. С. 30.

[4] Конан У. Першае і савецкае выданне паэмы «Сымон Музыка»: параўнальны аналіз // Тэрмапілы, 2008, № 12. С. 334.

[5] Гужалоўскі А. Чырвоны аловак : нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР. У 2 кн. Кн. 1. 1919—1941 гг. Мінск: Рэдакцыя газеты «Звязда», 2012. С. 11, 14—15.

[6] Гужалоўскі А. Чырвоны аловак : нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР. У 2 кн. Кн. 1. 1919—1941 гг. Мінск: Рэдакцыя газеты «Звязда», 2012. С. 86; Шукевіч-Траццякоў Р. З «ціхай вады» — «на прасторы жыцьця» // Якуб Колас у літаратурнай крытыцы. Да дваццацігадовага юбілею яго літаратурнай дзейнасці / Злажыў У. Дзяржынскі. — Менск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926. С. 144.

[7] Як гаварылася у пункце 9 раздзела «Права и функции Главлита и его местных органов» «Инструкции Главлита его местным органам», «Политконтроль ГПУ оказывает Главлиту техническую помощь в деле наблюдения за распространением печати, за типографией, книжной торговлей, ввозом и вывозом печатных произведений из-за границы и за пределы Республики, согласно декрету» (Инструкция Главлита его местным органам // Открытый текст: электронное периодическое издание [Электронный ресурс]. 2006. Режим доступа: http: //

www.opentextnn.ru/censorship/russia/sov/org/glavlit/norm/1922/?id=232&txt=1. Дата доступа: 03.03.2015.). Да меркавання пра цеснае супрацоўніцтва органаў цэнзуры і сілавых спецслужбаў схіляюцца і сучасныя расійскія даследчыкі: «Политическая цензура в России исторически обычно шла рука об руку с Министерством внутренних дел, затем ЧК, ГПУ, ОГПУ, НКВД и т. п. В этом плане от волостного милиционера и участкового надзирателя до руководства НКВД — все оказывали «техническую помощь» советской цензуре: следили, чтобы не были преданы гласности запрещенные произведения журналистики, литературы, искусства, рекламы (инструкция НКВД участковому надзирателю от 17 ноября 1923 г., волостному милиционеру от 12 января 1924 г. и др.). По «Положению о Главлите» один из трех руководителей его назначался по согласованию с ГПУ.

Жирков Г. В. История цензуры в России XIX—XX вв. Учебное пособие. М.: Аспект Пресс, 2001. [Электронный ресурс]. 2006. Режим доступа: http://evartist.narod.ru/text9/38.htm#з_09. Дата доступа: 03.03.2015.

[8] Гл. падрабязней: Гужалоўскі А. Чырвоны аловак : нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР. У 2 кн. Кн. 1. 1919 — 1941 гг. Мінск: Рэдакцыя газеты «Звязда», 2012. С. 85.

[9] Калубовіч А. «Айцы» БССР і іхны лёс. Выданьне 2-ое. Клыўлэнд, 1985 [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://knihi.com/kalubovic/ajcy.htm1. Дата доступу: 13.01.2012.

[10] Гл. падрабязней: Платонаў Р. П. Лёсы: Гісторыка-дакументальныя нарысы аб людзях і малавядомых падзеях духоўнага жыцця ў Беларусі 20—30-х гадоў. Мінск: БелНДІДАС, 1998. С. 23, 231—233.

[11] Гужалоўскі А. Чырвоны аловак : нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР. У 2 кн. Кн. 1. 1919—1941 гг. Мінск: Рэдакцыя газеты «Звязда», 2012. С. 67.

[12] Міцкевіч Д. Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа. Мінск: Полымя, 2000. С. 133.

[13] Мушынскі М. І. Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа / навук. рэд. А. М. Макарэвіч. Мінск: Беларус. навука, 2012. С.179.

[14] Гл., напрыклад: Трафімчык А. Колас прадказаў смерць Мікалая ІІ? // ЛіМ, 2014, 3 студз. С. 15.



Іван САВЕРЧАНКА

# ТВОРЧАЯ СТРАТЭГІЯ І МАСТАЦКІЯ ЗДАБЫТКІ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА

Кузьма Чорны (Мікалай Карлавіч Раманоўскі) (1900—1944), як вядома, — класік беларускай літаратуры, выдатны майстар мастацкага слова і самабытны сацыяльны мысліцель. Уласную творчую місію ён сфармуляваў амбіцыёзна і адказна — уплываць на гісторыю, «тварыць эпоху і вырашаць праблемы», дбаючы пра паўнавартаснае жыццё чалавека. Яго творчая спадчына ўключае ў сябе выдатныя апавяданні, аповесці, раманы, яркія эсэ, публіцыстыку і дзённік.

Творчы шлях К. Чорнага пачаўся ў 1920 г. з вершаў і замалёвак. У 1925 г. выйшлі з друку дзве яго першыя кніжкі — «Апавяданні» і «Срэбра жыцця». У наступным годзе ўбачылі свет яшчэ тры зборнікі замалёвак і апавяданняў — «Па дарозе» (1926), «Пачуцці» (1926), «Хвоі гавораць» (1926). Затым з'явіліся «Вераснёвыя ночы» (1929). Кнігі, як правіла, атрымлівалі назвы паводле важнейшых твораў, змешчаных у іх. У ранніх апавяданнях, пераважна аўтабіяграфічных, знайшлі адлюстраванне розныя праявы вясковага і гарадскога жыцця, смерць і каханне, перажыванні і радасці.

Сацыяльным аптымізмам, невымоўнай радасцю ад усёй шырыні і прыгажосці жыцця напоўнена апавяданне *«Бяздонне»*. Галоўны герой Алёша — вясковы хлопец, прыехаў вучыцца ва ўніверсітэт. Ён захоплены вучобай, не зважае на матэрыяльныя цяжкасці, якія пераадольвае. Алёша жыве прадчуваннем вялікіх здзяйсненняў, марыць напоўніцу рэалізаваць свае здольнасці, прынесці карысць людзям. Антыпод станоўчага героя — Андрэй Стронін, які не бачыць мэты ў жыцці, на ўсё глядзіць скептычна і безудзельна, не мае ні да чаго цікаўнасці. Менавіта паміж імі, на думку пісьменніка — бяздонне, непераадольная мяжа. К. Чорны ўжывае наўпроставы дыдактызм і прамыя аўтарскія заключэнні, што рабіла твор залішне публіцыстычным.

Вельмі важнае месца ў творчай эвалюцыі К. Чорнага займае апавяданне *«Пачуцці»* (1926). У ім пісьменнік выявіўся як майстар псіхалагічнага аналізу, душэўных перажыванняў чалавека. Галоўны герой Андрэй Сімовіч з першага погляду закахаўся ў прыгажуню-цыганку Нонну Аліну. Яго перапаўняюць пачуцці, ён прагне быць побач з ёй. Але яны надта розныя, у іх не супадаюць інтарэсы.

Тэма юнацкай закаханасці дамінуе і ў апавяданні *«Хвоі гавораць»* (1926). Вясковы хлопец Мікалай кахае Досю, дачку дзядзькі Язэпа. Каханне акрыляе юнака, надае яму неверагодную моц, яго душа спявае. Маналог героя перадае ўсю гаму яго светлых і ўзнёслых пачуццяў.

Несумненнай творчай удачай пісьменніка з'яўляецца апавяданне *«Вераснёвыя ночы»* (1929). К. Чорны стварыў цудоўны вобраз сялянскай дзяўчыны Агаты, якая марыць аб сапраўдным каханні, надзейнай сям'і. Гераіня доўга чакае суджанага, але, урэшце, знаходзіць сваё жаноцкае шчасце і выходзіць замуж за каханага Асташонка — вясковага прыгажуна і працавітага хлопца.

У апавяданні *«Ліст Якуба Малькевіча»* К. Чорны паказаў трагізм сялянскага жыцця. Вёска для пісьменніка — не ідылія, а месца невыносных пакут, цяжкой і аднастайнай працы, людскога гора і няшчасцяў. Галоўны герой Хведар Тамілоўскі паленам забівае сваю жонку, двое дзяцей засталіся сіротамі. Робіцца несуцяшальная выснова: недасканаласць сялянскага жыцця адбіваецца найперш на дзецях, ператварае іх жыццё ў пакуты.

У 1929 г. К. Чорны напісаў надзвычай спрэчную ў ідэйна-мастацкіх адносінах аповесць *«Лявон Бушмар».* На старонках яе раскрыты складанасці сацыяльных пераўтварэнняў у вёсцы, паказана іх уздзеянне на лёсы людзей. Пісьменнік разважае аб праве чалавека на ўласнасць, яго жаданне мець уласную зямлю і быць паўнаўладным гаспадаром на ёй. Пры гэтым ставіцца пытанне аб дачыненнях асобы і грамадства, аб адказнасці і абавязках індывідуума перад супольнасцю.

Цалкам справядліва аўтар аповесці не прымае крайняга індывідуалізму і сацыяльнага эгаізму. Герой твора працавіты селянін Лявон Бушмар ні пры якіх абставінах не хоча кааперыравацца з іншымі, працаваць супольна, у калектыве, а тым больш не жадае дзяліцца вынікамі працы з іншымі. Ён пратэстуе супраць калектывізацыі і з абурэннем кажа: «Няхай што хочуць, то і робяць, а за адзін кацёл я ні з кім не сяду». Аўтар, аднак, не асуджае героя, а раскрывае прычыны занепакоенасці працавітых сялян-гаспадароў татальнай калектывізацыяй. На яго думку, яны зусім лагічна баяліся несправядлівай ураўнілаўкі, пры якой лайдакі будуць мець роўна столькі, а можа, і больш, чым тыя, хто працуе, не пакладаючы рук. Невыпадкова Лявон Бушмар у роздуме прамаўляе: «Згоняць усіх разам, выдзеляць табе, каб з голаду ўздоўж лавы лытак не стуліў, а рэштку спажыве той, хто будзе на чыёй шыі сядзець».

Вельмі важнаеназіранне аб кансерватыўнасці чалавечай прыроды: «Чалавеку цяжка перарабіцца адразу. Можна думаць і гаварыць іначай, а сам чалавек доўга будзе ранейшым». Паводле высновы К. Чорнага, людзі ў цэлым усё ж такі прынялі калектывізацыю, убачылі яе несумненыя перавагі над аднаасобным хутарскім жыццём. Яны, натуральна, шкадавалі аб страчаным мінулым, але адначасова ўжо і баяліся яго, таму ахвотна і радасна ішлі насустрач новаму жыццю.

Першы буйны эпічны твор К. Чорнага — раман *«Сястра»* (1927). У цэнтры ўвагі пісьменніка падзеі сярэдзіны 20-х гг. XX ст. У рамане «Сястра» цудоўна выявіўся талент К. Чорнага як адметнага нацыянальнага пісьменніка-эпіка. Ён грунтоўна асвятліў канкрэтныя абставіны і жыццёвыя акалічнасці, у якіх адбывалася фарміраванне і сталенне новай беларускай інтэлігенцыі. Кампазіцыйна твор складаецца з чатырох частак. Асноўныя яго дзеянні адбываюцца на хутары Дараганава, дзе праходзяць юнацкія гады герояў, а затым — у Мінску, дзе яны вучацца, пераадольваюць жыццёвыя нягоды і духоўна сталеюць. Мастацкая логіка рамана завяршаецца сцэнай развітання герояў і ад'ездам на сталую прафесійную працу.

Наватарства К. Чорны асабліва ярка выявілася на ўзроўні вобразатворчасці. Пісьменніку ўпершыню ў беларускай літаратуры ўдалося ў мастацкай форме паказаць надзвычай істотную філасофска-антрапалагічную ідэю пра шматмернасць асобы, невычэрпнасць духоўнага свету чалавека, адлюстраваць пастаянную зменлівасць пачуццяў і светаўспрымання індывідуума пад уздзеяннем знешніх фактараў і ўнутранай эвалюцыі. К. Чорны бліскуча давёў, што кожны чалавек — невычэрпны і неабдымны, непаўторны паводле лёсу і ўнутранага жыцця.

Героі К. Чорнага — маладыя людзі, выхадцы з вёскі, інтэлігенцыя ў першым пакаленні. Галоўная гераіня твора — Маня Ірмалевіч. Аўтар вельмі ўважліва прасочвае яе лёс, распавядае пра юнацкія гады на хутары Дараганава, дзе яна бачыла невыносныя пакуты сялянскіх дзяцей, што ўрэзалася ёй у памяць на ўсё жыццё, балюча перажыла смерць маці і бацькі. Затым Маня вучыцца ў горадзе N., атрымлівае дыплом настаўніцы, але працуе машыністкай у канцылярыі, а потым на цукеравачным заводзе і ўрэшце пераязджае ў Мінск. У вялікім горадзе ў душы яе адбываюцца значныя зрухі, пасля працяглай адзіноты яна адувае далучанасць да агульнаграмадскіх спраў. У Мінску сустракаецца з братам Казімірам, які працуе лекарам, што вельмі адбілася на яе лёсе. У душы Мані ўздымаецца бура пачуццяў, яна моцна ўзрушана, перажывае, шукае ўласнае месца ў жыцці. Урэшце, яна накіроўваецца працаваць настаўніцай на глухую станцыю.

Станоўчы герой рамана — Казімір Ірмалевіч, стрыечны брат Мані. Яго шлях да поспеху надта пакручасты. Каб атрымаць адукацыю, ён удзень працаваў, а ўвечары і ўначы карпеў над кнігамі. Дзякуючы настойлівасці атрымаў дыплом лекара і працу ў Мінску.

Яркі герой рамана Ваця Браніславец. Удзельнічаў у вайне з белапалякамі, затым скончыў інстытут, стаў спецыялістам у галіне лясной гаспадаркі. Ваця пакахаў Маню, гатовы дзеля яе ахвяравацца ўсім: «Ён повен быў толькі адным — забыць усё і страціць усё, апроч аднаго: бачыць толькі Маню і гаварыць з ёю. У гадзіны такіх уздымаў ён страціў сваю волю і не мог ні за што ўзяцца». Сэрца героя суцяшаецца толькі на прыродзе, у лесе, куды ён пераехаў на сталую працу. У апошняй сцэне рамана герой, пасля сустрэчы з Маняй, адчувае новы прыліў сіл і жыццёвай энергіі. Ваця Браніславец адчуў «як расце ён для жыцця ў вялікую і патрэбную сілу».

Неардынарны персанаж Абрам Ватасон. У час вайны з белапалякамі ён — непрымірымы і бескампрамісны камісар палка, які не дапускае паслабленняў вайсковай дысцыпліны. Але ўсё адно яго кар'ерны шлях завяршыўся ў адной з мінскіх цырульняў.

На старонках рамана «Сястра» К. Чорны выявіў схільнасць да аналізу свядомасці героеў, іх інтэлектуальнай эвалюцыі і духоўнага сталення. Персанажы вельмі часта разважаюць, прамаўляюць маналогі, выказваюць сумненні. Менавіта таму К. Чорнага можна лічыць заснавальнікам беларускай псіхалагічнай літаратуры, характэрнай рысай якой з'яўлялася «плынь свядомасці», засяроджанасць на ўнутраным свеце герояў.

К. Чорны працаваў у рэчышчы тагачасных агульнасусветных тэндэнцый. Характар вобразатворчасці і стыль беларускага майстра слова тыпалагічна блізкія да манеры амерыканскага пісьменніка У. Фолкнера. Героі К. Чорнага, як і героі У. Фолкнера, апавядаюць пра іншых персанажаў, даюць ім разгорнутыя характарыстыкі. Напрыклад, Казімір Ірмалевіч разважае пра Абрама Ватасона, разам з Абрамам Ватасонам яны абмяркоўваюць паводзіны Ваці Браніслаўца.

У рамане выразна выявілася істотная рыса мастацкай эстэтыкі К. Чорнага — увага да дэталі, звычайных рэчаў і штодзённых з'яў. Мастацка-эстэтычная логіка пісьменніка палягала на тым, што чалавек знаходзіцца пад уздзеяннем соцыуму і разнастайных акалічнасцей, фармуецца і развіваецца ў пэўным асяроддзі і канкрэтных абставінах. Менавіта таму шмат увагі нададзена сустрэчам і размовам герояў, падрабязна акцэнтавана ўвага на побытавых рэчах, штодзённых занятках, распавядаецца пра нібыта шараговыя з'явы.

Найбольш значны ў мастацкай спадчыне К. Чорнага раман *«Зямля»* (1928) — эпічны паводле задумы і сацыяльна-філасофскі паводле творчага ўвасаблення твор. Героі яго — простыя сяляне, дарослыя і дзеці. Пісьменнік усебакова паказаў сялянскі лад жыцця, асвятліў учынкі і паводзіны вяскоўцаў, іх заняткі і забавы, пачуцці і перажыванні, памкненні і мары. Занядбаная беларуская вёска стала галоўным аб'ектам мастацка-эстэтычнага асэнсавання. Героі высокага мастацтва — звычайныя вясковыя людзі.

Творчы метад К. Чорнага ў «Зямлі» характарызуецца выразным імкненнем да поліфаніі. Аўтара цікавіць шырокі дыяпазон характараў і лёсаў, шматстайнасць думак і меркаванняў герояў, голас усёй сялянскай супольнасці. Ён удала спалучае індывідуальнае з агульным, аддаючы перавагу не гераізацыі канкрэтнага чалавека, а аналізу сацыяльных працэсаў.

Раман «Зямля» выключна канцэптуальны. Нягледзячы на значны этнаграфічны струмень, ён належыць да катэгорыі сацыяльна-філасофскіх твораў, а не бытавых раманаў. Няма выпадковых сцэн і раздзелаў, кожны эпізод у ім нясе значную мастацка-сэнсавую нагрузку, утрымлівае філасофскую сентэнцыю аўтара, глыбокія разважанні і думкі, увасобленыя літаратурнымі сродкамі.

Падзейная лінія рамана вельмі запаволеная. Рух сюжэта часта прыпыняецца, як быццам заміpáе, асабліва ў моманты шматлікіх апісанняў прыроды. Да таго ж К. Чорны вельмі шмат увагі надаваў дэталям, дробязям, фіксуючы кожную рэч і паварот падзей, з-за чаго істотна стрымлівалася ўласна падзейная дынаміка. Пісьменнік, як правіла, фіксаваў месцы знаходжання побытавых рэчаў, іх прызначэнне, знешні выгляд.

На старонках рамана надзвычай аб'ёмна і панарамна абмалявана сялянскае жыццё. Як пісьменнік-рэаліст К. Чорны паказаў спрадвечную беднасць беларус-

кага селяніна. Адзін з персанажаў Тамаш скардзіцца на свой незайздросны лёс: «Бо галота страшная, бядота несусветная. Часам і кавалка хлеба ў хаце не было. Нічога не было. Душу не было чым пражывіць. А калі і было чым, дык гора якое падкоціцца, што і кавалак той у рот не лезе». Асабліва трагічна сялянская беднасць адбівалася на лёсе дзяцей, якія разам з бацькамі пакутавалі з малых гадоў, былі па сутнасці пазбаўленыя шчаслівага дзяцінства.

Чалавечая прырода і прага жыцця перамагалі нястачу і беднасць. Людзі кахалі і верылі ў лепшае. Героі рамана Алесь і Ганна перапоўненыя пачуццямі адзін да аднаго. Сцэны іх вечаровых сустрэч — гімн каханню і жыццю: «Яна прыбягала роснымі агародамі і паплавамі да яго кожны вечар, ён абхватваў яе рукамі, раскідаў тварам яе валасы, песціў, насіў на руках, і яна ўся дрыжэла ад гэтай шалёнай блізкасці мужчынскай сілы, тулілася ўся да яго, маўчала, свяціла вачыма; рабілася тут каля яго малою і кволай; і разам з тым вялікай і моцнай жаночасцю сваёю».

У рамане шмат камічных сцэн. Пісьменнік з гумарам піша пра адметныя звычкі вясковых жанчын, іх фенаменальную схільнасць да пляткарства, «паласкання» чужых костак, частых сварак і лаянак.

Паказваючы без прыхарошвання заняткі і звычкі сялян, К. Чорны робіць выснову аб іх законным праве на заможнае і годнае жыццё. Пры гэтым камуну і калектыўную гаспадарку ён лічыў не надта прыдатнай формай арганізацыі сялянскай працы.

Раман «Зямля» — велічны гімн роднаму краю. Зямля і прырода ў творы адухаўляюцца, чалавек становіцца іх неад’емнай складовай. Яны суіснуюць у гарманічным адзінстве, паміж імі сціраюцца ўсялякія межы і адрозненні. На старонках рамана дзясяткі цудоўных пейзажных замалёвак. Гэта сапраўдныя мастацкія жамчужыны, створаныя геніяльным майстрам слова. Яны выдатна перадаюць чароўную прыгажосць Беларусі, любасць і захапленне пісьменніка краявідамі роднай зямлі. Кожны з пейзажных малюнкаў непаўторны паводле семантыкі, стылёвага ўвасаблення і вобразнай палітры.

Раман пачынаецца з панарамнага апісання позняга лета, характэрнымі рысамі якога з’яўлялася пустое поле і ціхае іржышча, тумановая сінь лясоў, адцвітанне дзікіх кветак, абсыпаныя жоўтым лісцем сады. Амаль кожны буйны эпізод суправаджаецца адметнымі пейзажнымі замалёўкамі, якія перадаюць душэўны настрой персанажаў або ствараюць агульны фон падзей. Ганна, узрушаная спатканнем з камորнікам і ўспамінамі пра Алеся, спрабуе заняцца гаспадаркай і знайсці суцяшэнне на прыродзе.

У час пахавання Наталлі — маці Юркі, прырода сумуе разам з людзьмі: «Заходзіла сонца, маўчалі могілкі, сінела і туманілася асенняя трава. Зелянілася трава пад асеннім сонцам. Позняе зелле цвіло ў познюю восень». Асірацелы Юрка ўпаў на свежую магілу і зліўся з асяроддзем. Сцэна ад’езду Ганны з Андрэем у горад суправаджаецца красамоўным малюнкам восеньскага заціхання прыроды.

Захапляючыся незвычайнымі пейзажамі, пісьменік паказвае непарыўную сувязь чалавека і ўсіх жывых істот на зямлі з сонцам, яго жыццядайным цяплом і энергіяй: «Якія дарогі ў полі ляжаць! І якія туманы ўстаюць над зямлёй! Неба халоднае і звонкае, як сонечны дзень. Вятры дзьмуць над дарогамі. Што гэта — сонца і мяккая зямля?! Што гэта — прастор і вецер?! І трава, і дрэвы, і паўтоптваны ў зямлю жоўты ліст! Па дарогах імчацца, ідуць і паўзуць жывыя істоты. Ці не ад сонца гэта і ветру так востра свеціцца вочы ў чалавека — у чалавечага дзіцяці?»

Пейзажныя замалёўкі перадаюць дзівосную прыгажосць Беларусі. К. Чорны імкнуўся як мага паўней паказаць невычэрпнае багацце роднай зямлі ва ўсе поры года. Ранняй зімой пісьменнік чуе крык савы і стук дзятла, маўчанне арэшніка і крушынніка, адчувае незабыўны пах хвоі. Пісьменнік фіксуе стан прыроды ў розныя моманты. Мастацкі зрок аўтара цешылі позневосеньскія краявіды: «Сінь неба была чорнаю і густою. Усё большы ўзнімаўся вецер. Яшчэ трымалася цеплыня над зямлёй, але чуліся блізкія халады. Поле было пустое, абветранае. Пад ветрам шумела сухая трава, гойдалася піжма і пробаваў зеляніцца, яшчэ цвёрды, чабор». Зімовая адліга ў мастацкім увасабленні К. Чорнага набывае асаблівую прывабнасць. Пісьменнік знаходзіцца пад уражаннем садоў у зімовую адлігу, бачыць у іх нешта надта адметнае і магічнае.

У рамане «Зямля» вельмі моцны сацыяльна-філасофскі струмень. К. Чорны асэнсоўвае патэнцыял і крэатыўныя магчымасці чалавека, яго здольнасць змяніць сябе самога і свет навокал. Ён закранае праблему наканаванасці, прадвызначанасці чалавечага лёсу. Большасць людзей, на думку пісьменніка, схільны памылкова лічыць, што ў жыцці нічога нельга перамяніць, усё прадвызначана ад нараджэння. Невыпадкова, адзін з персанажаў кажа: «Што суджана, тымчасове, чалавеку, то тут нічога чалавеку не парадзіш. От што! Гэта, як свет светам і бог богам, дык гэта заўсёды было і будзе». К. Чорны з'яўляецца прыхільнікам канцэпцыі свабоднай волі, здольнасці чалавека рабіць уласны выбар. На яго думку, свабодны чалавек — той, хто мае ўласную гаспадарку, добра забяспечаны, можа пражыць і ўтрымаць уласную сям'ю без падтрымкі з боку іншых. Героі К. Чорнага наогул часта дыскутуюць пра сутнасць вольнага жыцця. Адзін з іх слушна прамаўляе: «Не думай ты, што воля толькі ў тым, што чалавек цягаецца па свеце, што паўсвету пройдзе».

У рамане К. Чорны смела асэнсоўвае ключавыя грамадскія праблемы і палітычныя падзеі. Так, вуснамі героя Вашыновіча ён асудзіў захопніцкія планы ўладных колаў Польшчы, агрэсіўныя памкненні польскіх паноў: «Ну каб далей трохі, значыцца, а то вельмі ж блізка расселася, гадаўка. Калі што якое, дык яна і тут. Яна, па апісанню сказана, і даўней усё мяцяжы заварвала, дык думае, што і цяпер гэта самае. Гэта ўсё панская штука. Гэта ўсё яны арудуюць, каб іх, бог даў, агонь высмаліў там, дзе яны ёсць».

Пісьменнік-інтэлектуал не прымаў ваяўнічага атэізму, асуджаў знішчэнне хрысціянскіх культавых збудаванняў. На канкрэтных прыкладах з жыцця К. Чорны паказваў, што храмы сталіся для сялян роднымі і блізкімі, утульнымі месцамі, дзе яны сустракаліся, абмяркоўвалі жыццёвыя і побытавыя справы. Менавіта ў Божым доме, сяляне шэпчуцца «пра цану на позкія гуркі, пра нямецкае войска і пра новую кадушку, якую кум пазаўчора купіў на капусту». Людзі наведваюць царкву без рэлігійнага фанатызму, а хутчэй таму, каб убачыцца з аднавяскоўцамі, абмеркаваць бягучыя падзеі, падзяліцца навінамі. Праўда, па завядзёнцы, яны цалуюць іконы і ставяць свечкі.

Служыцелі культу, паводле мастацкай канцэпцыі К. Чорнага, аніякія не крывапійцы і не ворагі працоўных. Яны жывуць агульнымі клопатамі з людзьмі, разам бавяць час, урэшце, сумесна з імі п'юць самагонку. Дзяк, напрыклад, згаджаецца з камічнай прапановай Юліка Барановіча, нібыта прастуджаны голас можна вылечыць добрай самагонкай і неадкладна скарыстоўвае прапанаваны рэцэпт. Святары выконваюць уласныя духоўныя абавязкі, але заўжды абмяркоўваюць з сялянамі вясковыя клопаты, спрачаюцца з імі і зусім не супраць падчас хрэсьбінаў добра пачаставацца, заахвочваючы да гэтага і іншых. Сяляне вельмі спакойна, амаль раўнадушна, ставяцца да пахавальнага рытуалу, які выконвалі святары Хрысціянскай царквы. Так, Мацвей, на прапанову адпець памерлую жонку, адказвае: «Нічога не памагло ёй жывой, не паможа і памерлай».

Гуманізм К. Чорнага не ператвараецца ў беспрынцыпнасць і ўсёдаравальнасць. Пісьменнік зусім не абыякавы да ўсяго, што адбываецца з грамадствам і людзьмі. Наадварот, ён адстойвае думку, што зло павінна жорстка выкараняцца, а ў выпадку вялікай патрэбы — «мярзотнага чалавека» належыць пакараць і нават забіць. Аўтар зусім не асуджае Мікалая, які праз шмат год прызнаецца ў забойстве аканома і падпрапаршчыка, якія празмерна шкодзілі сумленным людзям.

Такім чынам, на старонках эпічнага твора К. Чорнага канкрэтныя праявы жыцця беларускага селяніна набываюць агульнанацыянальнае і агульначалавечае гучанне. Раман «Зямля» — смелы голас пісьменніка ў абарону сялянства, пратэст супраць здзеку з сялян, абурэнне надта жорсткім стаўленнем да вясковых людзей з боку ўлад і дзяржавы. Праз дыялогі герояў, праўдзівы паказ канкрэтных жыццёвых сітуацый і ўчынкаў персанажаў, К. Чорны фармулюе ўласны, глыбока гуманістычны погляд на асобу, прапануе шляхі ўдасканалення чалавека і годнае развіццё грамадства.

Апошні раман К. Чорнага *«Пошукі будучыні»* (1943) — спроба пісьменніка асэнсаваць лёс Беларусі ў перыяд ад Кастрычніцкай рэвалюцыі да Вялікай

Айчыннай вайны. На прыкладзе сям'і галоўнага героя Сымона Ракуцькі К. Чорны паказвае трагедыю беларускага народа, які быў гвалтоўна падзелены на дзве часткі Рыжскай дамовай ад 18 сакавіка 1921 г. Паводле пісьменніка, толькі 1939 год, калі быў здзейснены вызваленчы паход Чырвонай Арміі, прынёс беларускаму народу шчасце і радасць, надзеі на лепшае.

Падзеі адбываюцца пераважна у цэнтральнай Беларусі. Сымон Ракуцька праходзіць праз цяжкія выпрабаванні. Разлучаны з сям'ёй, ён жыве толькі надзеяй на лепшае: «Мара, чаканне, надзея, упартасць думкі і фантазіі! Гэтым ён цяпер і жыў». Пісьменнік слушна адзначыў, што чалавек можа вытрываць усе пакуты дзеля будучыні, дзеля шчасця сваіх дзяцей і працягу жыцця.

Прыводзіць думку аб тым, што для чалавека няма нічога даражэйшага за Бацькаўшчыну, за тое месца, дзе ён нарадзіўся і ўзгадаваўся: «Як на мой розум — дык толькі той чалавек, што калі яго вырвуць з роднага месца, дык ён, пакуль жыў, будзе рвацца туды. А калі дарвецца і ўбачыць, што там усё спустошана, дык ён другі раз жыць пачне: дрэвы пасадзіць і дом паставіць. А будуць яго зноў ірваць з месца, дык ён зямлю грызе, а не даецца або галаву адарве таму, хто становіцца ў яго над душой. Бо няма мне жыцця там, дзе не расце тая шыпшына, што ў маім маленстве цешыла мне вочы. Лепш грызці зямлю ў родным кутку, чым каб цябе ліхім ветрам кідала па чужым свеце».

Вельмі кранальная і псіхалагічна надзвычай моцная кульмінацыйная сцэна сустрэчы галоўнага героя, праз шмат год пасля расстання, з дачкой Лізаветай, якая не пазнала бацьку, сынам Тамашом і жонкай. Сцэна спаткання раздзеленай сям'і сімвалізуе ўз'яднаннне беларускага народа ў 1939 г. Падзея напоўнена незвычайнай радасцю, але адначасова і сумам, бо штучны падзел сям'і прывёў да незваротных страт, не дазволіў здзейніцца марам і жыццёвым планам. Законнае права на шчаслівае жыццё было скрадзена хцівымі ворагамі.

Фашысцкае ўварванне і новая вайна з немцамі перашкодзілі шчасцю, якое доўжылася ўсяго толькі паўтара года. Гераіня Лізавета, дачка Сымона Ракуцькі, у роспачы кажа: «Гэта кепская ўцеха. Бо ўсё пайшло намарна, што я ўжо зрабіла дзеля мае ж будучыні. У мяне не было бацькі, і раптам я стала мець роднага бацьку. Мы былі выгнаны з роднай хаты, і зноў хата стала нашай. Я дбала аб тым, кім я жыцьму праз усё сваё жыццё. Гэты год я ўжо вучылася ў Беластоку. І раптам канец маім студэнцкім марам аб будучыні».

Людзі, аднак, не змірыліся з акупацыяй і гвалтам, яны не прынялі нямецкіх парадкаў, на што разлічвалі гітлераўцы. Вымушанае бежанства, пратэст і абурэнне перараслі ў арганізаванае супраціўленне і ўзброеную барацьбу з ворагам.

Выказвае пратэст супраць вайны, яе разбуральнай сутнасці. Вайна пазбаўляе людзей галоўнага — права на жыццё, якое з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю для чалавека. Паказваючы жахі вайны, смерць і масавую гібель людзей, пісьменнік адзначыў: «А ўсё золата, якое толькі ёсць на свеце, — нікчэмная драбязя і непатрэбшчына перад самім жыццём».

Напісаны К. Чорным і значныя публіцыстычныя артыкулы. У вострым гісторыка-публіцыстычным нарысе *«І вада заліта крывёю»* пісьменнік гнеўна асудзіў захопнікаў усіх масцей, якія прыходзілі на Беларусь і няшчадна рабавалі краіну і народ. З абурэннем ён піша пра здзекі палякаў-пілсудчыкаў над беларускімі сялянамі. Прыводзіць жахлівыя прыклады, як азвярэлыя паны і іх паслугачы збівалі і рабавалі простых беларусаў, руйнавалі цэлыя вёскі і абстрэльвалі з гармат безабаронныя гарады, лавілі і білі жанчын, катавалі хлопцаў і мужчын, палілі хаты разам з малымі дзецьмі.

Як бачна, кожны з літаратурных твораў К. Чорнага меў выразную сацыяльную скіраванасць і выконваў асаблівую грамадскую місію. У мастацкай форме пісьменнік разглядаў ключавыя праблемы этыкі і маралі, асвятляў найбольш актуальныя пытанні развіцця соцыуму, дбаў пра фарміраванне гарманічнай асобы. Пісьменнік імкнуўся ўдасканаліць грамадскія дачыненні, захаваць беларускую нацыю ад сквапнай хімеры татальнага ўніверсалізму. Сродкамі мастацтва слова ён намагаўся абараніць чалавека ад гвалту, прымусу і здзекаў.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# З ГОЛАСАМ ЧЫСТЫМ І ЗВОНКІМ

## Палатно жыццёвага лёсу

У народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі ёсць цудоўны верш «Край паэтаў». Яго заўсёды прыгадваеш, калі задумваешся аб тым, наколькі багатая на таленты наша зямля. Пімен Емяльянавіч, як вядома, з гонарам казаў пра «адзін куточак запаветны, // Дзе растуць, нібы грыбы, здаўна паэты». Сам жа і пытаўся:

Дзе ж той край залатакосы, край зялёны —
Рык ласіны.
Звон пчаліны,
Мора лёну?

Тут жа даваў і адказ:

Там, дзе Свіцязь, там, дзе Прыпяць і Ясе́льда,
Дзе танцуюць пад цымбалы на вяселлях;

Дзе жанчына, сінявокая і ласкавая,
Звонка чаравічкамі паляскавала.

Канечне ж, і ў іншых рэгіёнах нашай краіны паэты «растуць нібы грыбы». Праўда, Генадзю Пашкову — аднаму з нямногіх — пашанцавала спрычыніцца сваім лёсам адразу да дзвюх такіх мясцін: у адной з іх нарадзіўся, у другой, як у народзе кажуць, прыгадзіўся.

Нарадзіўся ж Г. Пашкоў 23 сакавіка 1948 года ў вёсцы Ліпавічы Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Але пражыў там усяго шэсць гадоў. Маці яго, Марыя Харытонаўна, працавала настаўніцай, а напачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя ў заходніх раёнах БССР не хапала педагогаў. Так і трапіла сям'я Пашковых на Смаргоншчыну, а гэта ўжо Гродзеншчына. Пачалі жыць на хутарку паблізу вёскі Войстам, там, дзе Смаргонскі раён цяпер мяжуецца з Вілейскім і Мядзельскім раёнамі Мінскай вобласці.

Генадзь хадзіў на заняткі ў Войстамскую сярэднюю школу. Марыя Харытонаўна настаўнічала ў васьмігодцы, што знаходзілася за восем кіламетраў ад іхняга хутара. Дарога туды і назад забірала нямала часу, таму хлопчык, вярнуўшыся з заняткаў, часта заставаўся дома адзін. Ягоны ж бацька, партызан Вялікай Айчыннай вайны, Пётр Трафімавіч быў цяжка паранены, хварэў. Па сутнасці, не вылазіў са шпіталяў, таму памёр рана. Пазней у вершы «Бацька» Г. Пашкоў прыгадаў сціплы воблік дарагога і блізкага яму чалавека.

На жаль, гора і раней не мінала сям'ю Пашковых: у вайну памерла двое малалетніх дзяцей. Хапіла выпрабаванняў і ў мірны час. Стаўшы ўдавой у трыццаць з нечым гадоў, Марыя Харытонаўна мусіла адна ставіць на ногі яшчэ траіх. Праўда, яе сястра Вольга, як згадвае Г. Пашкоў у аўтабіяграфіі «У абрыс майго следу», «...таксама настаўнічала, жыла адна і ўпрасіла маю маці, каб на

час пераезду і ўладкаванняў тая аддала ёй на выхаванне маю родную сястру Валю. Так і жылі мы некалькі гадоў у адным раёне ды ў розных сем’ях».

Марыя Харытонаўна выгадавала сваіх дзяцей сумленнымі людзьмі. Красамоўны такі факт. Будучы вучнем дзявятага класа, Г. Пашкоў вырашыў ісці на дапамогу … в’етнамскаму народу. Акурат тады амерыканцы ваявалі ў В’етнаме, не шкадуючы ні жанчын, ні дзяцей, якіх чакала пагібель. Камсамолец Г. Пашкоў не мог да гэтага ставіцца спакойна. Таму і звярнуўся ў ваенкамат з просьбай, на якую мог адважыцца далёка не кожны: паслаць яго ваяваць у далёкі В’етнам. Праўда, ніякім добраахвотнікам-навабранцам ён не стаў. У той жа аўтабіяграфіі чытаем: «Прыняў мяне маёр. Агледзеў з ног да галавы, усмешліва чмыхнуў, а тады кажа:



*Генадзь Пашкоў.*

— За парыў патрыятычны дзякую, але на вайну мы не пасылаем.

Пасля распытаў, хто мае бацькі, як вучуся. Даведаўшыся, што бацькі я не маю з першага класа, задумаўся, тады прыкметна расчуліўся:

— Ты вось што… Давучвайся ў школе, а як надумаеш у ваеннае вучылішча паступаць, то я асабіста дам рэкамендацыю… Хоць, як бацька, параю табе — лепш інстытут закончыць…

Апошнія словы як кіпенем ашпарылі: у будучым я сябе бачыў выключна вайскоўцам».

Аднак гэта не перашкаджала яму супрацоўнічаць з раённай газетай «Светлы шлях». Пачынаў са звычайных допісаў, потым зацікавіўся паэзіяй. За яе ўзяўся не толькі таму, што, чытаючы кнігі, палюбіў яе. Быў у Войстамскай сярэдняй школе свой паэт Іван Станкевіч. На год маладзейшы за Г. Пашкова. На жаль, І. Станкевіч рана памёр, пабачыла свет толькі ягоная пасмяротная кніжка, выдадзеная сябрамі, Г. Пашкоў, натхнёны прыкладам І. Станкевіча, не толькі пачаў пісаць вершы, але ў 1966 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. На аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта, з якога перавёўся на аддзяленне журналістыкі (факультэт журналістыкі будзе створаны толькі ў 1968 годзе).

Хоць і дэбютаваў Г. Пашкоў на старонках смаргонскай раённай, усё адно сапраўдны выхад на свайго чытача ў яго, як і ва ўсіх пачаткоўцаў, адбыўся пасля таго, калі пачаў выступаць у рэспубліканскай перыёдыцы. Дый быў прадстаўлены падборкай ва ўніверсітэцкім зборніку «Узлёт» (1967). Для маладзейшых чытачоў удакладню: на той час у Беларусі быў адзін універсітэт — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна, а ў ім працавала літаратурнае аб’яднанне «Узлёт», у якое ў асноўным уваходзілі студэнты філалагічнага факультэта.

Універсітэт скончыў у 1971 годзе, ужо працуючы ў рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач для дзяцей і юнацтва Рэспубліканскага радыё, а ў жніўні 1972-га атрымаў адначасова два запрашэнні: адно на працу ў часопіс «Полымя», другое — у штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». Выбраў часопіс «Полымя». Магчыма, чытачам гэта будзе цікава, што «палымянцам» Г. Пашкоў стаў дзя-

куючы таму, што адмовіўся туды пайсці я. Працаваў я тады ў рэдакцыі слуцкай аб'яднанай газеты «Шлях Ільіча». Але калі пасля гэтага паталефанаў тагачасны галоўны рэдактар «ЛіМа» Хведар Жычка, ахвотна адгукнуўся на ягоную прапанову. Усё ж мне больш імпанавала праца ў газеце. Але гэта між іншым…

У «Полымі» Г. Пашкоў быў супрацоўнікам адразу двух аддзелаў — паэзіі на чале з Анатолем Вялюгіным, і нарыса і публіцыстыкі, які ўзначальваў Іван Чыгрынаў. З 1979 года з'яўляўся намеснікам галоўнага рэдактара, а ў канцы 80-х, калі набірала абароты так званая «перабудова», адначасова быў сакратаром партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР. Са жніўня 1989 года па жнівень 1991-га працаваў кансультантам гуманітарнага аддзела ЦК КПБ. Потым быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Тэатральная Беларусь», галоўным рэдактарам «Цэнтральнай газеты». У лютым 1996 года ўзначаліў калектыў выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Цяпер Г. Пашкоў — першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Усе пасады, зразумела, патрабавалі немалой аддачы, але гэта ніколькі не перашкаджала і яго творчай працы. І не толькі ў галіне паэзіі, а і прозы, нарыса і публіцыстыкі, літаратуры для дзяцей. У ягоным перакладзе на беларускую мову выйшла кніга рускага паэта Юрыя Воранава «Масты памяці» (1991). Апроч таго Г. Пашкоў з'яўляецца адным з аўтараў дакументальнага фільма «Я зямлю люблю так…». За кнігі паэзіі «Красный жаворонок» у перакладзе на рускую мову Івана Бурсава (1977) і «Дыстанцыя небяспекі» (1979) удастоены прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1980). У 1998 годзе яму прысвоена Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь.

## Свежасць «Кляновіка»

Трэба адразу сказаць пра тое, чым творчасць Г. Пашкова вызначальная і істотная. Ён — паэт-традыцыяналіст, прадстаўнік той кагорты сучасных беларускіх літаратараў, да якой адносяцца апошнія магікане ў паэзіі, якія не забываюць (і не хочуць забываць!), што наша нацыянальная паэзія — гэта паэзія традыцыйна зямная ў сваёй сутнасці. Ёй чужое мітуслівае эксперыментатарства. Таму творцам гэтага творчага накірунку не па сабе (упэўнены ў гэтым!), калі яны напаткоўваюць у друку танныя падробкі пад яе, што падносяцца ледзь не як новае слова ў літаратуры, а ў сапраўднасці — гэта мастакоўская імітацыя і не больш, у якой пры ўсім жаданні не дайсці да сэнсу.

Адзін з найбольш ранніх вершаў Г. Пашкова «***Стыне ў ядраных кроплях расы…» датаваны 1967 годам. Самы што ні ёсць пачатак творчай дарогі. Хараша напісаны ён, а прыняўшы тагачасны ўзрост Г. Пашкова — як вядома, яму на той час споўнілася ўсяго 19 гадоў, дык проста цудоўна:

Стыне ў ядраных кроплях расы
халадок
верасной зараніцы.
Ліставея
у нетрах лясных
на імгненне
улеглася быццам.

Затаіліся
лес і зямля.
Ліст апошні
вось-вось
            сарвецца.
Здрыгануўся, стрывожаны, я:
ліст апошні…
ці сэрца?

Гэты верш поруч з іншымі раннімі творамі Г. Пашкова ўвайшоў у ягоную першую кнігу «Кляновік», выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў 1975 годзе.

Кніга ў Г. Пашкова атрымалася высокамастацкай, а лепшыя вершы ў ёй такія, што пад імі не сорамна падпісацца і вопытным паэтам. Апроч «***Стыне ў ядраных кроплях расы…» — «Светаяннік», «Верасень», «Зазімак», «Млын», «Бяссонніца»…

Узяць хоць бы верш «Млын». Гэты працаўнік (а як яшчэ скажаш пра таго, хто пастаянна ў рабоце і вядомы з даўніх часоў: ветракі ў Еўропе з’явіліся яшчэ ў XI стагоддзі) заўсёды быў добрым памочнікам сялян. Таму млын ва ўспрыманні паэта адушаўлёная асоба. Адпаведнае і стаўленне да яго — спагадлівае, але і з разуменнем, як цяжка яму, паколькі многае перажыў, шмат пабачыў і гэта, на жаль, для яго не прайшло бясследна. Знасіўся «арганізм» у млына:

Дзедам старым
на пагорку млын
кашляе —
грудзі застуджаны,
а вечарам
сонца хаваецца ў ім.
І вечар начуе
у крылах натруджаных.
Ледзь зварухнецца —
застогне адчайна,
спрабуючы ўвысь падняцца.

Важкую сэнсавую нагрузку нясуць завяршальныя радкі. Апавядальнік ужо не захапляецца працаўніком-млынам, бо і так наконт гэтага дастаткова сказана. Пры ўсёй сваёй спагадзе да яго, ён канстатуе, што, сузіраючы млын, не можа не выклікаць здзіўлення: «Дзівак, не ўзнёсся ў век // паравы, // што ж // у атамны парывацца?!»

Адказу на гэтае пытанне няма. Дый, па сутнасці, у ім, адказе гэтым, і няма неабходнасці. Іначай страціцца тое, што, выклікаючы на роздум, дазваляе кожнаму паставіцца па-свойму да таго, што гаворыць паэт. Тым самым будзе іншая «праца». Такая, якая патрапляе пад вызначэнне работа думкі, а для паэзіі гэта вельмі важна выклікаць чытача як бы на ўяўны дыялог, прымусіўшы яго шмат над чым задумацца.

У вершы ж «Верасень» навідавоку не толькі вобразная насычанасць, што ўжо само па сабе важна, але і той гукапіс, калі адна з літар сваім гучаннем узмацняе ўспрыманне таго, пра што гаворыцца. У дадзеным выпадку — гэта літара «с»:

Варочаюцца **с**кразнякі
у кроквах, шашалем пабітых.
Над азярынай **с**а**с**някі
журбою выраяў **с**павіты.
І шыба з-пад брыва **с**трахі
ў цяжкім **с**інее задуменні.
На дрэвах **с**ветлыя вярхі,
**с**пакой мурожны ў загуменнях.

На **с**онцы **с**труны павуціння
над **с**тылаю дрыжаць ігліцай,
і воблачкам празры**с**тым
**с**іні
ля **с**уха**с**тоін дым клубіцца.

У далейшым ужо бачны і гукапіс літарай «б». Разам з выкарыстаннем «лесвічкі», ён дазваляе стварыць уражанне руху баравікоў, якія ўзялі з сабой і баравінятак. Адзін з іх крочыць баразной, а баравіняткі ў яго — нават не верыцца! —

у барадзе. Толькі як не паверыць, калі настолькі малюнак атрымаўся выразным і разам з тым гэткім запамінальным:

Як зоры, гаснуць журавіны,
а глянь пад елачкі:
**б**рыдзе
**б**аразной
**б**аравік
**б**аравінны
з **б**аравіняткамі
у **б**арадзе.

У свой час, адказваючы на пытанні анкеты «Литературной газеты», сярод якіх было і такое: «Якое новая імя паэта прывабіла летась вашу ўвагу?», выдатны знаўца паэзіі — не толькі беларускай, але і замежнай — Уладзімір Гніламёдаў засведчыў: «Вершы маладога беларускага паэта Генадзя Пашкова сустракаліся і 2 — 3 гады назад. Але калі яны сабраліся ў першую кнігу, ці, будзем казаць больш сціпла, зборнік «Кляновік», што выйшаў нядаўна, я адчуў прыкметы новага паэтычнага імя. У вершах маладога аўтара адчуваецца ўменне жывапісаць словам, праварочваць яго рознымі гранямі».

А гэта меркаванне Казіміра Камейшы, выказанае з вышыні пройдзеных гадоў, калі творчыя набыткі Генадзя Пятровіча ўжо сталі асабліва відавочнымі. Віншуючы Г. Пашкова з 65-годдзем, ён пісаў пра яго першую кнігу: «У 1975 годзе Генадзь Пашкоў частаваў нас свежасцю свайго «Кляновіка». […] Вельмі ж цёплая, сімвалічна дакладная назва. Такія ж цёплыя, з добрым маладым настроем, з павевам вобразнага «свежаку», узнёсла-пяшчотныя вершы… Было ў каго вучыцца. Сам «адмірал паэзіі» Анатоль Вялюгін, пад чыім службовым падначаленнем працаваў малады паэт, практыкаваў сапраўдныя ўрокі паэтычнага майстэрства. Рабіў гэта ненадакучліва, пераводзячы ўсё акадэмічна-халоднае ў ранг шчырага сяброўства. Вучняў сваіх ён накіроўваў на здабыванне магічнага агню «спосабам Праметэя», нязмушана вучыў «трапнасці зроку і думкі, маштабнасці і ашчаднасці ў слове адзіна патрэбным».

## Добрай паэзіі не бывае шмат

За першай кнігай у Г. Пашкова былі наступныя: «Дыстанцыя небяспекі» (1979), «Гравюры дарог» (1981), «Зямлю слухаю» (1983), «Маналог на кастрышчы» (1986), «Журавінавы востраў» (1988), «Люблю, спадзяюся, жыву…» (1990), «Крокі» (1998) і іншыя. Перачытваеш іх, і быццам удыхаеш у сябе сам водар ягонай паэзіі, які становіцца для цябе азонавым паветрам… Хоць прадбачу з'едлівую ўсмешку каго-небудзь з тых «паэтаў», для каго традыцыйная паэзія, як ладан для чорта. Маўляў, дапісаўся крытык. Той жа азон, як устанавілі вучоныя, шкодны для здароўя. Што ж, наконт гэтага пярэчыць не збіраюся. Дадам толькі, што шкоднасць азону праяўляецца тады, калі ўдыхаць яго ў вялікай колькасці. А хіба ж можа быць шмат сапраўднай паэзіі?! Такой, якая становіцца для цябе быццам асязальнай. Чытаеш верш і адразу напаткоўвае здзіўленне: усё гэта не проста чытаеш, а бачыш наяву.

Напрыклад, узяць верш «***Адспявала лета за ракою…» Нібыта і не ў гарадской кватэры знаходзішся, а недзе за горадам. Там, дзе табе даўно ўсё знаёмае, бо наведваешся туды часта, да драбніц ведаеш, як усё выглядае там. І вось чарговая змена пары года. Напачатку ад гэтага крыху не па сабе, бо пазбаўляешся чагосьці звыклага, што прыносіць спакой і раўнавагу, а абнаўленне, якое чакаецца наперадзе, нясе і некаторую невядомасць. Таму ўжо не толькі ўзіраешся ў змену знаёмых краявідаў. Як бы міма тваёй волі з'ўляецца пэўная насцярожанасць, якую не можаш вытлумачыць:

Адспявала лета за ракою
аржаной саломінкі дуда.
Апаліўшы голле песняй тою —
лісцямі усыпана вада.

Над вірамі стынуць насцярожана
лазнякі, чакаючы зімы.
І чаму заўсёды так трывожна,
калі час мяняецца зямны?

Як ні стараешся, а адказу на гэтае пытанне знайсці не можаш. З'яўляецца толькі прадчуванне, што гэта можа быць так, а не інакш: «Можа, сам чакаеш перамены, // абнаўлення стомленай душы?» Але разам з тым адказ усё ж прыходзіць. Ён, праўда, з'яўляецца не напрамую. Проста ўзнікае канстатацыя менавіта гэтага, а не іншага стану. Як бы і не ўвязаная з папярэднім пытаннем-сумненнем, але яна лагічна вынікае з яго. Сведчыць аб тым, наколькі змены ў прыродзе станоўча ўдзейнічаюць на чалавека, спрыяюць яго ўнутранаму абнаўленню, а ў нейкай ступені і душэўнаму ачышчэнню, духоўнаму ўзбагачэнню.

…Чысты, як сумленне, і праменны,
ужо снег ледзь-ледзь пацерушыў.

Ты і сам — на голлейку пупышка:
што табе завеі, што мароз!
У вачах зялёныя успышкі,
новых вёснаў непаўторны лёс.

Нельга не адзначыць ашчаднасць паэта ў выкарыстанні вобразна-выяўленчых сродкаў. Нічога лішняга, але гэта ніколькі не перашкодзіла яму стварыць запамінальны малюнак. У не меншай, а ў чымсьці і ў большай ступені важна, што, для прыкладу, праз тое ж параўнанне самога сябе (чытай: кожнага, каго пасапраўднаму ўразілі гэтыя прыродныя змены) з пупышкай на голлейку, вельмі праўдзіва перададзены ўнутраны стан чалавека, узрушэнне душы ў момант прыроднага абнаўлення.

Каб напісаць такі верш, як «***Адспявала лета за ракою…», канечне ж, неабходны талент. Аднак, разам з тым, відавочна і прысутнасць іншага: умення на дзіва пранікліва адчуваць прыроду, чуйна заўважаць змены ў ёй. Г. Пашкоў таму і валодае падобным уменнем, што належыць да тых, для каго прырода — тая цудоўная кніга, якую хочацца чытаць да бясконцасці. Зразумела, не седзячы ва ўтульнай гарадской кватэры ці ў цішы не менш утульнага кабінета, а выязджаючы на ўлонне прыроды.

Можна прывесці нямала прыкладаў, якія сведчаць, наколькі Г. Пашкоў здатны не проста мысліць вобразамі, а, па сутнасці, жыць імі, калі імкнецца стварыць уражальны, запамінальны малюнак таго ці іншага стану прыроды.

Народны паэт Беларусі Пімен Панчанка, прадстаўляючы Г. Пашкова ў рубрыцы «Паэтычныя сустрэчы» газеты «Комсомольская правда», пісаў: «Генадзь Пашкоў з пакалення беларускіх паэтаў, якія нарадзіліся праз некалькі гадоў пасля Перамогі. Яго радзіма — Віцебшчына, легендарны партызанскі край, дзе загінуў кожны трэці з насельніцтва вобласці. (Як цяпер устаноўлена, загінуў кожны трэці жыхар не толькі Віцебшчыны, а і ўсёй Беларусі, хоць і гэтая лічба, бадай, заніжана. — ***А. М.***) Бацька Генадзя — партызан, які памёр ад старых ран ужо ў мірны час […].

Ён (Г. Пашкоў. — ***А. М.***) увайшоў у беларускую паэзію молада і ўпэўнена. Усе заўважылі і яго звонкі, чысты голас, поўны захаплення цяжкім і складаным, але такім цудоўным жыццём.

Генадзь Пашкоў — аўтар чатырох кніг вершаў (адна з іх выдадзена і на рускай мове), ён напісаў пяць невялікіх лірычных паэм. Апошняя паэма «Дзяўчынка



*Генадзь Пашкоў і Іван Шамякін.*

з блакітным мячыкам» — развагі аб міры, аб лёсе нашай планеты. Умацавалася думка, вырасла майстэрства, але засталася юнацкая непасрэднасць і па-вясноваму яркія фарбы».

Кніга Г. Пашкова на рускай мове «Красный жаворонок» пабачыла свет у 1977 годзе ў серыі «Маладыя галасы» ўсесаюзнага выдавецтва «Молодая гвардия». На сустрэчу з рускамоўным чытачом яго блаславіў А. Вялюгін. Літаратурны настаўнік не проста з захапленнем гаварыў пра свайго творчага вучня, ён параўноўваў ягоную паэтычную песню з абуджэннем прыроды пасля зімы, халадоў, са з'яўленнем у небе першага вястуна вясны: «Ёсць народная прымаўка: жаваранак — перад цяплом, зяблік перад сцюжай. Ранняй вясной затрапеча ў небе крыльцамі, павісне на адным месцы доўгачаканы птах з чубком. І тады на срэбнай нітцы ягонай песні, здаецца, правісае ўся зямля з першымі праталінамі і пасінелым панцырам лёду на рэках. З ранку дрыжыць срэбная нітка. А вось калі менавіта пачынаецца песня — пра гэта ведаюць толькі мудры селянін-сейбіт і арнітолаг.

Прыходзіць яна на світанку. На зямлі яшчэ цёмна а недзе высока над галавой ужо чуцен званочак. Там, у бездані нябёсаў, кожны жаваранак — і шэры наш прыдарожнік, і палявы, і лугавы, нават чорны стэпавік — бачыцца ў чырвоным апярэнні, кранутым водбліскам зары, якая яшчэ за кругаглядам.

Замілаваным захапленнем жаваранка, перад зямлёй, што абуджаецца, — гэтым вылучаюцца вершы маладога беларускага паэта Генадзя Пашкова».

Юнацкай непасрэднасці і па-вясноваму яркіх фарбаў, пра што гаварыў П. Панчанка, Г. Пашкоў не растраціў па сённяшні дзень. Ён — майстар свежых, не зацяганых метафар, параўнанняў, вобразаў, а гэта сведчанне таго, наколькі ягоная паэзія — індывідуальная ў сваёй сутнасці, як ён, ашчадна ставячыся да слова, дасканала валодае паэтычным майстэрствам. Прытым, калі ўзяць ягоныя раннія вершы, яны ніколькі не прайграюць з тымі, што напісаны нядаўна. Таму што ягоны талент развіваецца адносна роўна, але гэта не адбываецца на шкоду мастацкасці. Усё з-за таго, што на пачатку творчага шляху творчая планка Г. Пашковым была ўзята высока. Канечне, прага новых вышынь для яго характэрная, як і для кожнага сапраўднага паэта. Ды пакарэнне тых, якія ўжо ўзяты ім, для шмат каго з паэтаў застаецца недасягальнай марай.

## Агмень вечнага кастра

Безумоўна, творчая палітра Г. Пашкова ўбірае ў сябе не толькі пейзажную лірыку. Абсягі яго творчых памкненняў — шырокія. Ён роздумна ставіцца да гісторыі і культуры Беларусі, аб чым, у прыватнасці, сведчаць вершы, у якіх ажываюць як воблікі знакамітых людзей Бацькаўшчыны, так і памятныя мясціны. Не абыходзіць паэт, зразумела, і тэмы кахання, раскрывае гэтае пачуццё, што напаткоўвае лірычнага героя (ці лірычную гераіню) у самыя розныя перыяды ягонага жыцця. Пачынаючы ад зараджэння, калі яно яшчэ нагадвае сабой кволенькая цяпельца, да таго моманту, калі ўжо разгараецца полымным кастром. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова прывесці два вершы: «***Была ты такой маленькай…» і «***Імгненная юнацтва прыгажосць...»

У першым з іх лірычная гераіня зусім яшчэ дзяўчо: «Была ты такою маленькай — // коскі ды канаплінкі, // танюсенькая былінка, // збітыя вечна каленькі. // Была ты такой непрыкметнай, // нібыта цябе й не было. // Грама́мі кулялася лета. // Піліпаўкай бела гуло». А потым прыйшла вясна і дзяўчо стала не пазнаць, «заквітнелася бела! // Дзявочае сэрца ўварвалася // у сэрца юначае смела». Абуджэнне прыроды, прабуджэнне першага пачуцця. Яшчэ такога нясмелага, сарамлівага:

Цвіў сад, і звінела над голлем
духмяна пчаліная ціша.
Дзяўчынка, як светлая доля,
ў пялёсткавым снезе ад вішань
на дошцы працёртай і белай,
як смутная даль небакраю,
чыстае і нясмелае вывела слова:
«Кахаю».

«***Імгненная юнацтва прыгажосць…» — гэта ўжо тая часіна, калі першае каханне мела працяг. Не так і істотна, што лірычныя гераіні гэтых двух твораў — розныя людзі. Галоўнае ў іншым: не згасла тое пачуццё, што па вясне ўскалыхнула душу, выклікала трапяткое біццё сэрца: «Світальнаю расінкаю дрыжыш, // а ўжо ад зор дыхнула першым холадам. // Маладзіковым садам ты бяжыш… // Таемна. // Зорна. // Молада». Ды ўсяму свой час. Мінуліся гады, і герой-апавядальнік стаў сведкам іншага:

...Не пазнаю ні слыхам, ні вачыма —
так аблятае з яблыняў імгла…
Няўжо нядаўна гэтая жанчына
Дзяўчынкай тою юнаю была?!

Такое яно, жыццё. Такая дыялектыка кахання. Але тое, пра што расказваецца, заканамерна і ад гэтага нікуды не дзенешся. Ёсць, аднак, і сітуацыі неардынарныя. У прыватнасці, калі жаданне вярнуць былое каханне да нічога добрага не прыводзіць. Як у вершы «Позняя размова». У лірычнага героя, па ўсім відаць, асабістае жыццё не склалася. Ён знаходзіцца на свайго роду ростанях кахання. Але, нягледзячы на тое, што ягоная колішняя каханая рашуча заяўляе: «Раскаяў позніх не прымаю…», усё ж хоча ранейшага паразумення, таму і напрошваецца да яе ў госці. Яна, нарэшце, згаджаецца. Аднак, калі завітаў да яе, усё адбылося не так, як яму ўяўлялася:

Зірнула.
Шчоўкнулам ключом.
Адгарадзілася плячом.
І запрасіла неяк чынна
ў пакой,
дзе быў яшчэ мужчына.

Два шкалікі на стол паставіла,
і, зелле дзелячы дваім,
яго як мужа
мне прадставіла,
мяне —
прыяцелем сваім…

Вядомы літоўскі фотамайстра Антанас Суткус, здымкі якога захоўваюцца ў калекцыях і музеях Лондана, Н'ю-Ёрка, Берліна, Парыжа, Токіа, неяк зазначыў: «Каханне вечнае, але яно інтымнае». Як быццам, нічога новага. Нават у чымсьці прамоўлена прапісная ісціна. Але гэта так, калі на ўсё глядзець чыста па-жыцейску. Інакш успрымаецца згаданае меркаванне, калі падыходзіць да яго суадносна алюстравання гэтай вечнай тэмы ў літаратуры, у дадзеным выпадку — у паэзіі. У такім разе менавіта глыбокі сэнс і набывае тое, што патрапляе пад вызначэнне «інтымнае», а да інтымнага трэба ставіцца вельмі асцярожна. Раскрываючы пачуцці лірычнага героя, нельга страчваць меру. Тым больш недаваральна ператвараць усё ў смакаванне падрабязнасцей ва ўзаемаадносінах паміж Ім і Ёю.

Генадзь Пашкоў пра гэта ніколі не забывае, таму яго вершы пра каханне ў добрым сэнсе цнатлівыя. Часам пэўная недасказанасць у іх вельмі да месца, бо яна сваёй загадкавасцю, таямнічасцю толькі ўзмацняе ступень пачуцця, сведчыць на карысць таго, што яно нездарма прымушае лірычнага героя страціць пакой:

Я ішоў насустрач свайму дню,
але ты сустрэлася ў дарозе.
Думаў я, спакусу адганю.
Спрабаваў, ды толькі не ўдалося.

І стаю на росхрысце вятроў,
Збіты з панталыку, ахмялелы.
Ледзь тваіх крануўся валасоў —
патанаю ў завеі белай.

А які сімпатычны верш «Яна»! Настала часіна, калі хочацца пра ўсё, што было дагэтуль, забыцца, адпрэчыць яго, каб не перашкаджала таму, што прыйшло. А яно, як насланнё, няма сіл вярнуцца ў сваё ранейшае, нягледзячы на тое, што ў ім усё так спакойна, загадзя ўсё ўзважана і вымерана. Толькі спакой гэты быў падманлівы. Гэта асабліва відавочна стала цяпер, калі нечакана з'явілася тая, з якой даўно чакаў сустрэчы, а можа, і не чакаў, пачуццё ў захмялелай ад страсці галаве з'явілася нечакана. Толькі якая розніца. Яно ёсць, вось што галоўнае. І хочацца, каб гэтыя хвіліны душэўнай, духоўнай блізкасці доўжыліся і доўжыліся, а там, хто ведае, як усё складзецца:

Мілы тварык!
Тварык незаменны,
як для стронгі
зорная рака.

Не хачу ніякіх пераменаў,
калі чую,
што твая рука
у маёй
сашчэмлівае пальцы,

быццам неба вечарам з зямлёй,
як між імі весела купаецца
цішыня ў купелі залатой.

Мілы тварык!..
Божа літасцівы,
буду вечна ўдзячны я табе,
што не раз і я бываў
шчаслівы,
як маліўся толькі на яе!

Паколькі ж гэтае каханне запозненае, пачуццё тым больш моцнае. У лірычнага героя падсвядома жыве разуменне, што гэта яго апошняе каханне. Тым больш хочацца адчуць усю ягоную асалоду, бо падобнае пачуццё ўжо больш ніколі не напаткае цябе. Познія кветкі, як вядома, зацвітаюць толькі аднойчы на год. Не тое, што раннія, якія могуць некалькі разоў пакрывацца квеценню. Штосьці падобнае і ў жыцці. За першым каханнем прыходзіць наступнае. Потым можа быць яшчэ адно… А тут ужо апошні раз… Апошні і назаўсёды. Таму і прагнецца споведзі. Хочацца так выказацца, каб цябе пачулі. Несумненна, той, хто сам па-сапраўднаму кахаў, гэта зразумее. Так і нарадзіўся верш «***Раскладу я касцёр на шляху…»:

Раскладу я касцёр на шляху,
Ды не дзеля таго, каб пагрэцца.
Адчуваю: інакш не магу.
Каснікі вывяргаюцца з сэрца.

Не баюся крыла апячы,
захлынуцца ад шчасця і болю.
Спрабаваў ад сябе
уцячы,
ды не змог,
і не ўдасца ніколі.

Не баюся агменю любві!
Заяўляю пра гэта галосна.
Не злачынства ж я здзейсніў,
калі
закахаўся без памяці
позна.

Ці не тое гэта, пра што так хораша сказаў у адным са сваіх вершаў японскі паэт Сайгё-хосі яшчэ ў XII стагоддзі:

Так трудно было мне и так душой устал,
Что в тяготь был мне мир пустой и бренный,
Но появилась ты —
И он желанным стал,
И жалко мне расстаться со вселенной!

На жаль, у той кнізе, з якой я ўзяў гэтую цытату, перакладчык не быў названы. Але ад гэтага сутнасць не мяняецца. Супаставіўшы два вершы — Г. Пашкова і Сайгё-хосі, няцяжка заўважыць, што беларускі паэт ў сваіх вершах на тэму кахання, застаючыся самім сабой, разам з тым умела наследуе лепшыя паэтычныя традыцыі. І не толькі беларускай паэзіі.

«Агмень любві» полымна разгараецца ў многіх творах Г. Пашкова, якія, разам узятыя, становяцца той песняй кахання, якая з гадамі не толькі не страчвае сваёй маладой пачуццёвасці, а і напаўняецца новым зместам, звязаным з пасталеннем лірычнага героя, які па-ранейшаму ўмее самаахвярна любіць, нібыта і не пражыта ўжо шмат.

## Радасная птушка чалавечнасці

Публіцыстычнасць набываюць тыя творы Г. Пашкова, у якіх гучыць заклапочанасць лёсам чалавецтва, Зямлі. Аднак гэта — не такая публіцыстыка, калі вушы рэжа ад лозунгавасці, поклічнасці, празмерных дэкларацый. Яна ў Г. Пашкова іншага кшталту: прамаўляе сама душа паэта, сэрца выказваецца, якому няўтульна, няўцешна ў тлумны век і тлумны час. Як у вершы «***Возера, налітае зарою…»

Возера, налітае зарою,
пырскаюць касцянкі ля вады.
Светла мне.
Світальнаю парою
быць і быць, здаецца, маладым.

Не пра тое…
Не пра тую вечнасць я,
славахціўцы, самакаралі.

Радасную птушку чалавечнасці,
як прыкмету
самай вечнай вечнасці,
неба маладое,
акрылі!..

Развіваючы думку, закладзеную ў гэты твор, можна сказаць, што «радасная птушка чалавечнасці» ахоўваецца і самім паэтам. Лірычны герой Г. Пашкова належыць да тых, пра каго можна сказаць, што сам ён частка прыроды. Гэтая повязь да таго асязальная, што яе і сам пачынаеш адчуваць усім сваім нутром, як адчувае паэт: «Вось і ўсё, // адшумела лісцё // і зялёная радасць былая. // І шугае гаркавы касцёр: // што было // і што ёсць // дагарае. // Цішыню // ўрачыстыя сны // зноў калышуць на нітках бялесых, // і ў замглёную далеч вясны // ты глядзіш // цеплынёю пралесак».

Ён з тых, каму баліць на зямлі за ўсё жывое. Таму і ў паэме «Легенда Прыпяці» лірычны герой апускае ружжо, калі бачыць, як набліжаецца чародка качак. «…Не, не магу, — прызнаецца ён сам сабе і тлумачыць, у чым справа: — не бесхарактарнасць віной, // калі браты твае, // як дзеці, // даверам дзеляцца з табой». Дарэчы, аб тым, наколькі блізкая яму Прыпяць, сведчыць тое, што Г. Пашкоў прысвяціў ёй не толькі паэму «Легенда Прыпяці», а і некалькі вершаў. Сярод іх і «Прыпяць».

Прыпяць ён згадвае і ў паэме «Дзяўчынка з блакітным мячыкам»: «Над Прыпяццю // дубоў вячыстых варта — // ад кольцаў год // ажно звіняць камлі». Увогуле, рака для Г. Пашкова — тое святое, чаму нельга не пакланяцца. Больш за тое, у прыроды неабходна вучыцца таму, як трэба жыць, каб не згінацца ні перад якімі цяжкамі, не пасаваць перад імі, а заставацца самім сабой. Пра гэта гаворыцца ў вершы «***Мерайцеся, людзі, на лясы…» Пачатак твора ўсвядомлена інтрыгуючы. Г. Пашкоў ідзе, як кажуць, ад супрацьлеглага, спецыяльна засяроджвае ўвагу на тым, што, здавалася б, супярэчыць звычайнай логіцы. Прыроду ж мы ўспрымаем найперш як частку той прыгажосці, якая прыносіць нам маральную і душэўную асалоду, а тут:

Мерайцеся, людзі, на лясы.
Будзьце, людзі, гордымі, як рэкі,
і не дзеля вонкавай красы,
славяцца якой яны ад веку.
Не за спеў расяны салаўёў.
І не за туман на цёплых тонях,
дзе дымком прагоркла лазаўё
і так вуснам соладка ў палоне.



*Генадзь Пашкоў, Валянцін Распуцін і Аляксей Гарадзіцкі.*

Так і хочацца запярэчыць паэту: маўляў, страчваецца пачуццё меры. Навошта прамаўляць тое, што супярэчыць ісціне. Запярэчыць то хочацца, але… Такой мажлівасці ў вершы не дадзена. Г. Пашкоў адразу ж пераходзіць да таго галоўнага, дзеля чаго гэты твор і напісаны. Дзве супрацьлегласці, што ідуць адна за адной, проста выдатна спрацоўваюць на аўтарскую задуму: паказаць, чаму мы павінны вучыцца ў прыроды, на што раўняцца ў ёй, у рэшце рэшт, дзе ўратаванне ў наш час рацыяналізму. Мерацца на рэкі трэба «за смеласць // быць ва ўсім сабой, // не згінаць ні перад кім каленяў, // хмарнай непагодаю любой // адчуваць зямную моц карэнняў». Але ўрокі прыроды, рэк не толькі ў гэтым. Мерацца на іх неабходна

І за тое:
 рэчку выпрамляй,
заганяй у трубныя каноны,
а яна …
 Лепш высахне яна,
чым парушыць вечнасці законы.
Не ў суладдзі з фальшам галасы.
Не маўчаць панылa перад векам.
Мерайцеся, людзі, на лясы.
Будзьце, людзі, горднымі, як рэкі!

Таму яму і вельмі ўдаюцца творы, у якіх сама прысутнасць прыроды, дыханне яе. Гэта і вытлумачальна: пішацца ж пра тое, што не трэба выдумляць. Прамаўляецца тое, што не можа прыдумаць нават самая шчодрая мастакоўская фантазія. Усё падгледжанае пільным вокам у самім жыцці, у прыродзе, а ўжо дзякуючы таленту ўвасоблена ў радках, у якіх такая вялікая прыцягальная сіла, я б сказаў, на дзіва моцны паэтычны магнетызм, з сілавога поля якога няма аніякага жадання

вырываецца. Наадварот, ні з чым не параўнальная асалода заставацца ў асяродку гэтага прыцягнення.

Повязь Г. Пашкова з роднай зямлёй, лучнасць яго творчасці з усім зямным дакладна прыкмеціла кандыдат філалагічных навук, дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Аліна Астравух. «Генадзь Пашкоў, — упэўнена яна і гэта так,  — творца ад зямлі, і зямное прыцяжэнне — бадай, адна з вызначальных катэгорый паэтавага мыслення, паэтавай споведзі. Звабнае спасціжэнне зямнога паўшэпту чуецца яму ля Чашнікаў, дзе нарадзіўся; ля Смаргоні, дзе вырас; чуецца і на Палессі, дзе не адну сотню кіламетраў прайшоў на вёслах па Гарыні і Прыпяці… Вялікая варажба словам напаўняецца шчырасцю і адкрытасцю душэўнага выяўлення, калі паэт вяртаецца да пачатку пачаткаў: да палескага гаркаватага дурману, да салаўінай вёскі Войстам, адкуль паціху пазычае золкавыя словы». А. Астравух працягвае: «Вандроўная душа лірычнага героя ашчадна захоўвае свае карані на бацькоўскай зямлі, у спеўна-малінавым куце, багатым на найлепшыя казкі і песні…»

## Натхнёны прыкладам Караткевіча

Добра вядома, прынамсі, прыхільнікам творчасці Караткевіча, што Уладзімір Сямёнавіч у 1984 годзе сабраўся з сябрамі ў вандроўку па Прыпяці. Хацелася слыннаму майстру слова бліжэй пазнаёміцца з палескімі мясцінамі. Дый, зразумела, сустрэцца, пагутарыць з самімі палешукамі. Але плаванне было нядоўгім. Адправіўшыся са Століна па невялікай рачулцы, падарожнікі дасягнулі толькі Прыпяці. У. Караткевічу раптоўна стала вельмі блага. Давялося яго тэрмінова везці ў Мінск. Урачы, як толькі маглі, змагаліся за жыццё пісьменніка, але гэтым разам яны аказаліся бяссільнымі: 25 ліпеня У. Караткевіч памёр.

Аднак далёка не ўсе ведаюць, што падарожжа, якое перапыніла смерць У. Караткевіча, усё ж было здзейснена. Праўда, толькі праз восем гадоў. Ініцыятарам ажыццяўлення яго стаў Г. Пашкоў. Калі канкрэтна, то ў 1992 годзе. Але тады адбылося толькі першае плаванне. Усяго ж было тры падарожжы, і ўсе яны прысвячаліся памяці Уладзіміра Сямёнавіча. Адкуль жа з’явілася ў Генадзя Пятровіча такое жаданне? Выпадкова? Як сказаць. Сам Г. Пашкоў гэта тлумачыць так: «Выпадковасць, але людзі кажуць: нічога выпадковага на гэтым свеце няма. Значыць, так было наканавана лёсам. Лёс падараваў мне магчымасць яшчэ раз напомніць людзям пра слыннага сына зямлі беларускай, і я гэта зрабіў».

Пачалося ўсё з таго, што аднойчы, выйшаўшы раніцой на ганак, ён убачыў, як ягоны сусед па лецішчы Леанід Хадкевіч, сын пісьменніка Тараса Хадкевіча разам са сваім сынам Тарасікам надзімаюць выратавальны марскі плыт. Г. Пашкоў не прамінуў пахваліцца, што і ў яго ёсць такі плыт. Хіба што меншы. Плыт Хадкевіча быў разлічаны на дзесяць чалавек, а Пашкова — на шэсць. Мелася і больш істотная розніца. Плыт Пашкову падарыў яго родзіч з Калінінграда, штурман далёкага плавання, а, як пахваліўся Л. Хадкевіч, менавіта на плыце, які дастаўся яму, падарожнічаў сам У. Караткевіч. Тады ў сяброў і з’явілася жаданне ажыццявіць падарожжа ў памяць аб ім.

Генадзь Пашкоў расказвае: «Сабралі каманду — пяць чалавек. У яе ўваходзілі Леанід Хадкевіч, яго сын Тарасік, якога мы ўзялі юнгам, і яшчэ два знаёмыя хлопцы. Падарожнічаць вырашылі з таго месца, дзе быў апошні прыпынак Караткевіча. Гэта сутока рэк Смердзь і Прыпяць. Ёсць такое месца ў Столінскім раёне. Ад яго пайшлі ўніз па Прыпяці. Паколькі я працаваў тады на радыё, то ўзяў з сабой магнітафон «Рэпарцёр», каб запісваць цікавых людзей. Ну, і мы расказвалі мясцовым жыхарам пры сустрэчах пра Уладзіміра Караткевіча, яго творчасць.

Дарэчы, у вандроўку ўзялі з сабой кніжку яго вершаў «Матчына душа». І самы малодшы падарожнік, юнга Тарасік, вечарам, калі палілі вогнішча, чытаў нам услых вершы».

Тады вандроўнікі дайшлі да Петрыкава, а на наступны год, прадоўжыўшы падарожжа, дабраліся амаль да Мазыра. Трэцім разам праплылі па Гарыні, затым выйшлі на Прыпяць. «Там вельмі прыгожыя берагі, — прызнаецца Генадзь Пятровіч, — непаўторныя краявіды. Я зразумеў, чаму так імкнуўся пабываць у гэтых мясцінах Уладзімір Сямёнавіч».

Вынікам гэтых трох падарожжаў стала кніга Г. Пашкова «Палескія вандроўнікі». Праўда, спачатку ён напісаў аб'ёмную лірычна-дакументальную аповесць. Адметнасць яе была ў тым, што ў ёй гучаў жывы голас Караткевіча, балазе ў фондах радыё захаваліся яго некаторыя выступленні. Уладзімір Сямёнавіч прыводзіў цікавыя факты з нацыянальнай гісторыі, з замілаваннем гаварыў пра нашу Беларусь — зямлю, як ён трапна сказаў, з белымі крыламі. Радыёаповесць была прыхільна сустрэта слухачамі. Аб папулярнасці яе сведчыць і тое, што яна гучала ў эфіры паўторна. З яе і вырасла кніга «Палескія вандроўнікі».

У кнізе гэтай прысутнічае тая нерушавасць, што магчыма толькі там, дзе ва ўсім яшчэ захавалася ўся першароднасць і непаўторнасць. Пра ўсё Г. Пашкоў гаворыць празаічнымі радкамі, але яны настолькі ўражваюць, запамінаюцца, што няма ніякага сумнення: гэта паэзія ў прозе (дарэчы, у сюжэт аповесці арганічна ўваходзяць і асобныя вершы): «Вольна ісці лугавою дарогай насупраць цёпламу ветру. Нібы на крылах ляціш, услед за бусламі. Так і хочацца заспяваць на ўсё горла, як спяваюць лугавыя насельнікі, кожны сваім голасам — адзін свішча, другі крумкае, трэці клякоча. І ўсё гэта плыве з азярыны, з чароту, з крушынавага куста, з высокай буслянкі, зліваецца ў адну дзіўную мелодыю. Ці ж не сімфонія жыцця? І так было тут адвеку і, хочацца спадзявацца, будзе заўсёды, пакуль свеціць над галавой высокае свяціла. Пакуль з глыбокіх зямных крыніц нясуць жывільныя воды рэкі».

Не толькі сама прырода ў «Палескіх вандроўніках» дыхае, квітнее ўсёй красою, разнасцежна раскрывае нерушавасць сваіх шатаў, вабіць litoзнагалоссем птушак, з якіх складваецца мелодыя замілавання бацькоўскім кутам, роднай зямлёй. Канечне ж, у гэтым лірычна-дакументальным дзённіку, што лепшымі сваімі старонкамі набліжаецца да аповесці згаданага жанру, чутно і іншае дыханне: дыханне самога Палесся. І не толькі праз прыгажосць пейзажаў, а і праз лёсы саміх палешукоў.

Тыя, з кім пашчасціла сустрэцца падарожнікам, кажучы словамі Г. Пашкова, «галоўнае дзіва» палескай зямлі. Да месца і такое ягонае ўдакладненне: «Тут сам народ // легенды варты, — // як несмяротны корань наш!» Атожылкі ж гэтага кораня — тыя, пра каго расказваецца больш падрабязна: пявуння Марыя Лешчанка, майстрыха Паўліна Жураўлевіч, чалавек няпростага лёсу Рома Лігорская і іншыя. Хоць у каго лёс просты, асабліва, калі шмат пражыта і не менш пережыта?!

У шэрагу такіх людзей і Іосіф Пінчук, якога ўсе называюць куды працей: «Дзядзька Юзік [...] пражыў вялікае жыццё, сербануў вялікага гора, багата папрацаваў. Вярнуўшыся з палону, вучыўся ў школе фабрычна-заводскага навучання, быў плытагонам. Сплаўляў баравыя бёрны да Кіева. А перад пенсіяй загадваў клубам у Сямігосцічах, гэта значыць, пабыў інтэлігентам». Як чалавек дасведчаны, Іосіф Пятровіч пры развітанні пажадаў аўтару кнігі «Палескія вандроўнікі» поспехаў «у апісанні гісторыі роднай зямлі». Магчыма, Г. Пашкоў і прыслухаецца да гэтага пажадання. Хоць «гісторыю роднай зямлі» ён ужо і піша, але робіць гэта праз асэнсаванне сучаснасці. Пацвярджэнне гэтага не толькі аповесць «Палескія вандроўнікі», а шэраг нарысаў, выкліканых паездкамі ў іншыя краіны. Напісаў ён і кнігу нарысаў і публіцыстыкі «Будзень як свята».

## З маленствам на «ты»

Дзецям адрасаваны кнігі Г. Пашкова «Дзяўчынка з блакітным мячыкам» (1986), «Пціч» (1991), «Зорнае поле» (1999)… Першай з іх назву дала аднайменная паэма. Гэта трывожна-ўсвядомлены роздум паэта пра лёс чалавека і чалавецтва. У творы цесна ўзаемазвязаны два сюжэтныя пласты. Першы з іх звязаны з наведваннем Пампеі, якая некалі перажыла страшную трагедыю. Памяць аб тым, што адбылося тады, па-ранейшаму напамінае аб сабе:

Тут нават птушкі гнёздаў не віюць,
арол мясціну гэту аблятае.
І паспрабуй
пяску рукой чарпнуць —
дык і зямля тут нейкая не тая.

Ну, хоць бы дзе галінка ці сцябло
ці хоць бы ўбачыць
парасончык кропу!
І гэта ўсё,
усё гэта было
у самым цэнтры
матухны Еўропы!

Ад пабачанага, канешне, адразу стала не па сабе. Жаданне адно: вырвацца адсюль туды, дзе віруе шчаслівае жыццё: «Аж па спіне пабеглі мурашы. // Хутчэй, хутчэй — дзе з лабірынту выйсце? // Хутчэй туды, дзе чуцен гул шашы, // дзе людзі, // дзе шуміць пад ветрам лісце». Але што гэта? Тут, дзе, здаецца, прысутнічае само дыханне смерці, як ні ў чым не бывала, смуглявая дзяўчынка гуляе адна са сваім блакітным мячыкам. Наталет завуць яе. Аднак такое ж імя і ў дачушкі паэта. Наталачка і Наталет — адно і тое ж. Як складзецца лёс Наталет? Як складзецца лёс Наталачкі? Ёсць над чым задумацца, ёсць пра што паразважаць. Што Г. Пашкоў і робіць па-майстэрску, заглыбляючыся ў сутнасць глабальных праблем сучаснасці, але робіць гэта так, што ўсё, аб чым гаворыць ён, проста і зразумела нават дзецям:

Няўжо ў Зямлі,
калыскі чалавецтва,
ад туманоў зраселай,
такі лёс —
урэшце стаць
арэнаю калецтва,
салёным морам
роспачы і слёз?!
Няўжо ж яна
змярцвелаю Пампеяй
між шэрых сцен
спусцелых гарадоў
пасля жалобна
попел свой развее —
людзей звуглелых,
вёсак і садоў?

Піша Г. Пашкоў і для маленькіх, што і засведчыла яго кніжка «Пціч». Цудоўнымі атрымаліся вершы «Дзівосныя грыбы», «Пушыстая знаходка», «Выратаванне вожыка», «Цымбалы», «Цягне Пётра кракадзіла» і іншыя, як, скажам, «Казліная сямейка»:

Раніцою дзед вусаты
да ракі вядзе прад сад
казу-маму, казу-тату
і пяцёра казлянят.

Хараство навакольнага свету хлопчыкі і дзяўчынкі адкрываюць для сябе разам з Наткай, якая, як і яны, толькі пачынае ўваходзіць у вялікі свет жыцця, паступова адкрываючы яго для себе. Далучаецца яна і да матчынай мовы. Пра гэта расказваецца ў вершы «Родная мова». Адметна, па-свойму, так, каб дзеці зразумелі ўсё хараство яе: «Вывучае Натка мову. // Зіхацяць расяна словы: // журавінка, // навальніца, // ранак //, месячык, // крыніца…»

Кніжка «Пціч» адметная яшчэ і тым, што аўтар адкрывае хлопчыкам і дзяўчынкам хараство роднага краю, вучыць іх любіць раслінны і жывёльны свет Беларусі, адчуваць сябе часцінкай яго, з павагай і разуменнем ставіцца да ўсяго жывога. А яшчэ, што таксама не менш важна, паказвае дзяцей не маўклівымі сузіральнікамі. Яны — жывыя, яны таксама героі кніжкі, ім да ўсяго ёсць справа. Ахвотна наведваюцца ў лес («Па ягады»):

Скрозь маліннік
нехта лезе.
Тут,
парушыўшы спакой,
ледзь не зранку
смех у лесе
каля высечкі старой.

А вось і тыя, хто патрапляе пад агульнае азначэнне «нехта»: «У Алесі, // у Марынкі, // у Пятрусіка, // Змітра — // па бітончыку маліны, // а ў Наташы — паўвядра, // сакавітых // і духмяных, // спелых, // буйных, // у расе».

Каб так напісаць, трэба і самому глядзець на свет вачыма дзіцяці, што і робіць Г. Пашкоў. Гэта пераконвае і ў тым, што ён па прызванні і дзіцячы пісьменнік.

## Такі, які ёсць

Яшчэ маючы за плячыма толькі крыху больш чым трыццаць гадоў, Г. Пашкоў прызнаваўся ў вершы «***Не перапішаш лёс на чыставік…»:

Не перапішаш лёс на чыставік,
праверыўшы як след чарнавікамі.
Ідзеш жыццём, —
                    як полем.
Чаравік то ў яму трапіць,
то пабудзіць камень…

Цяпер тым больш відавочна, што, калі б адбылося неверагоднае і нечакана з’явілася магчымасць такога перапісвання, у гэтым няма аніякай неабходнасці, бо, калі б падобнае ажыццявіць, перад намі паўстаў бы зусім іншы чалавек. Магчыма, ён нават у чымсьці выглядаў бы і больш выгадна, чым цяпер. Магло б атрымацца і так, што нешта з пройдзенага ці набытага засталося б у цяні, а штосьці, наадварот, высвецілася б, паўстала больш буйным планам. Ды навошта ўсё гэта? Дзеля чаго?

Тыя, хто ўважліва сочыць за творчасцю Г. Пашкова, даўно ўпэўніліся, што іншага ягонага лірычнага героя, чым ён ёсць у сапраўднасці, ім і не трэба. Гэты лірычны герой у меру спакойны і разважлівы, роздумны і філасафічны, адкрыты і засяроджаны. Яму балюча за лёс маленькай памятай травінкі, аднак яго адначасна хвалюе і лёс чалавека, а калі глядзець шырэй — будучыня ўсяго чалавецтва. Ён паўстае такім, які і ёсць у сапраўднасці, а іншым быць не хоча. Дый, калі разважыць, навошта такое пераўвасабленне яму. Хіба адпрэчыш тое, што ў заключнай страфе ўжо згаданага верша гучыць так:

…Тут спатыкнуўся…  
Там пайшоў на дно…  
А тут пражыў — аж сэрца замірае!  
Мой лёс — мой чарнавік,  
дзе ўсё відно,  
дзе ўсё баліць,  
шчыміць  
і дакарае…

Гэтым сказана ўсё. Прынамсі, сказана дастаткова дзеля таго, каб лішні раз прасякнуцца даверам да паэта, паверыць яму, а паверыўшы, з радасцю — зноў жа не ўпершыню — засведчыць: калі ёсць такія творцы ў сучаснай беларускай літаратуры, то няма сумнення, што яна па-ранейшаму развіваецца плённа і ў яе бачацца добрыя перспектывы. А тым паэтам, якія ідуць следам за Г. Пашковым — яго і ягоных аднагодкаў, іх некаторыя крытыкі, дарэчы, называюць сямідзясятнікамі, паколькі яны дэбютавалі ў асноўным у 70-я гады мінулага стагоддзя, — ёсць у каго вучыцца, на на каго раўняцца. Безумоўна, пры ўмове, калі хочуць пісаць сапраўдную паэзію, а не «гуляць» у яе.

Трапна зазначыў пра Г. Пашкова вядомы літаратуразнаўца, гісторык літаратуры Іван Саверчанка: «Душою — лірык, розумам філосаф». Нельга не прыслухацца і да такога ягонага меркавання: «[…] Генадзь Пашкоў істотна ўзбагаціў нацыянальную літаратуру яркімі мастацкімі вобразамі, стварыў шэдэўры інтымнай, пейзажнай і філасофскай лірыкі, бліскуча перадаў светаадчуванне і духоўны свет сучасніка. Пісьменнік нязменна і бескампрамісна абараняе гуманістычныя прынцып узаемаадносін паміж людзьмі і народамі, адстойвае права беларускай нацыянальнай культуры на годнае месца ў глабалізаваным свеце».

Для поўнасці партрэта Г. Пашкова не лішне зазначыць, што ён больш за дванаццаць гадоў аддаў энцыклапедычнай справе. Дзякуючы яму з'явіліся выданні, якія сёння на дзіва запатрабаваны. Гэта — «Беларуская энцыклапедыя» ў 18-і тамах, асноўныя тамы 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі, энцыклапедыя «Республика Беларусь» на рускай мове ў 7-і тамах, двухтомныя энцыклапедыі «Тэатральная Беларусь», «Беларускі фальклор», «Минская область», «Вялікае Княства Літоўскае». Апошняя з іх выклікала такую вялікую цікавасць, што тыраж разышоўся імгненна, у выніку давялося выпусціць яшчэ адзін. Гэта таксама сведчыць на карысць таго, наколькі ён яркая і каларытная асоба. А таму не абмяжоўваецца адной творчай дзейнасцю. У рэшце рэшт так і павінна быць, калі хочаш як мага лепш самасцвердзіцца.



Эмануіл ІОФЕ

# СЕЙБІТ НА НІВЕ БЕЛАРУСКАСЦІ

Радзіма Ігната Дварчаніна — вёска Погіры Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскага раёна) Гродзенскай губерні. Менавіта тут 8 чэрвеня 1895 года ў сям'і малазямельнага арандатара Сымона Дварчаніна пачаўся яго жыццёвы шлях. Скрупулёзны аналіз жыцця і творчасці Ігната Сымонавіча дае падставы лічыць яго чалавекам шматграннага таленту і выключнай эрудыцыі, арыгінальным вучоным-літаратуразнаўцам, гісторыкам, публіцыстам, паэтам, здольным перакладчыкам, педагогам, выдаўцом, аўтарытэтным палітыкам, рэвалюцыянерам, барацьбітом за правы працоўных Заходняй Беларусі, культурна-асветным і грамадскім дзеячам, адной з цэнтральных фігур нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд, асабліва ў 1920-х гадах.

У 1902 годзе Ігнат пачаў наведваць мясцовую школу. Калі праз чатыры гады бацька стаў арандаваць зямлю каля мястэчка Дзятлава, ён стаў там хадзіць у школу вышэйшай ступені. У 1912 годзе 17-гадовы І. Дварчанін здаў экзамен і атрымаў званне народнага настаўніка. За тры гады працы ў вёсцы Хмельніца, што на Слонімшчыне, праявіў сябе здольным педагогам, адным з любімых вучнямі настаўнікаў.

Напярэдадні свайго 20-годдзя — у маі 1915 года — быў мабілізаваны ў армію і неўзабаве апынуўся на фронце пад Коўна. У хуткім часе яго выклікалі ў штаб палка і камандзіравалі ў Цвер. У Цверскім рэальным вучылішчы вытрымаў іспыты на вольнапісанага 2-га разраду. У красавіку 1916 года скончыў 1-ю школу прапаршчыкаў у горадзе Араніенбауме (цяпер г. Ламаносаў) і служыў у запасным палку ў Маскве. З восені 1916 года ў званні падпаручніка І. Дварчанін ваяваў на Заходнім фронце ў складзе 43-га Сібірскага стралковага палка.

Да сярэдзіны 1917 года адбыўся І з'езд воінаў-беларусаў Заходняга фронту, на якім Дварчанін быў выбраны членам выканаўчага камітэта. У чэрвені 1917 года Ігнат Сымонавіч апынуўся ў Мінску, дзе ўступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду. У ліпені гэтага года як кіраўнік гуртка беларускіх вайскоўцаў быў абраны на з'езд беларускіх арганізацый і партый. Выкарыстаўшы момант развалу арміі, пакінуў свой полк у чыне падпаручніка. На гэтым скончылася яго вайсковая кар'ера.

Першымі крокамі маладога пачынаючага палітыка стаў удзел у 3-м з'ездзе БСГ (кастрычнік 1917-га) у якасці сакратара. І. Дварчанін далучаецца да левага крыла, ідэйнымі кіраўнікамі якога былі З. Жылуновіч, А. Чарвякоў. Ён удзельнічае ў падрыхтоўцы Усебеларускага кангрэсу ў Мінску ў снежні 1917 года, у рабоце Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. У канцы снежня 1917 года выехаў да бацькі ў Новачаркаск і атрымаў статус бежанца. Праз некалькі месяцаў — у сакавіку 1918 года — ён атрымаў тэлеграму наступнага зместу:

«Белкамісарыят збірае лепшых работнікаў для культурна-асветнай работы. Шлём вам запрашэнне і дакумент на ўезд у Маскву. Абдумайце. Рыхтуйцеся выязджаць.

Камісар Чарвякоў».

Тэлеграма І. Дварчаніна акрыліла, і ён выехаў у Маскву, дзе быў прызначаны сакратаром культурна-асветнага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята. Гэты аддзел працаваў зладжана і ініцыятыўна. Па яго ініцыятыве ў Маскве быў створаны Беларускі народны ўніверсітэт-лекторый. Сюды залічваліся, у першую чаргу, настаўнікі пачатковых і сярэдніх школ, а таксама супрацоўнікі Белнацкама.

Ва ўніверсітэце працавалі чатыры цыклы: беларусазнаўства, сацыяльна-палітычных навук, агульнапедагагічны, прыроданавуковы. Лекцыі чыталі вядомыя вучоныя: прафесар У. Пічэта, Я. Канчар і іншыя. Тыя, хто закончыў кароткатэрміновыя курсы пры Беларускім народным універсітэце, раз’язджаліся па беларускіх школах Расіі і Беларусі, многія з іх сталі актывістамі Белнацкама.

Тут І. Дварчанін пачаў друкавацца ў газеце «Дзянніца».

21—23 ліпеня 1918 года ў сталіцы РСФСР адбылася нарада настаўнікаў школ Беларусі. Разглядалася і пытанне аб агульным плане арганізацыі справы народнай адукацыі ў Беларусі, па якім павінны былі выступаць Мазур і Дварчанін. У сваім дакладзе на гэтай нарадзе Ігнат Сымонавіч падкрэсліў важнасць вывучэння беларускай мовы, літаратуры, гісторыі для абуджэння нацыянальнай самасвядомасці і чалавечай годнасці беларускага народа.

Па ініцыятыве Ігната Дварчаніна ў Маскве было арганізавана Таварыства беларускіх вучоных. Для каардынацыі дзейнняў у межах усёй Савецкай Расіі пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей утварылася Культурна-асветная камісія з прадстаўнікоў адпаведных аддзелаў пры ўдзеле прадстаўніка Народнага камісарыята па справах нацыянальнасцей. І. Дварчаніна прызначылі пастаянным прадстаўніком ад культурна-асветнага аддзела Белнацкама ў Культурна-асветнай камісіі.

У жніўні 1918 года ён вярнуўся на сваю радзіму, дзе адкрыў пачатковую беларускую школу ў вёсцы Пецюкі Дзятлаўскай воласці Навагрудскага павета, а таксама вёў вялікую культурна-асветную работу.

Летам 1919 года Ігната Сымонавіча пасылаюць на настаўніцкія курсы ў Дзятлава, дзе яго арыштавалі польскія ўлады і адправілі ў беластоцкі канцлагер. Як адзначае У. Калеснік, калі ў гэтым спецлагеры разгулялася эпідэмія тыфу, Дварчаніну ўдалося ўцячы ў Мінск і ўладкавацца на працу ў выдавецкі аддзел Наркамата асветы. Сябры параілі яму, пакуль не позна, падацца ў Вільню і заняцца адукацыяй.

З жніўня 1920-га па ліпень 1921 года І. Дварчанін жыў у Вільні, дзе працаваў вартаўніком, пісарам беларускага аддзела ў Дэпартаменце асветы, а потым быў настаўнікам у мястэчку Свір Свянцянскага павета. Будучы вольным слухачом выпускнога класа, у 1921-м экстэрнам здаў экзамены за курс Віленскай беларускай гімназіі.

Неаднаразова выконваў даручэнні Беларускага нацыянальнага камітэта і Цэнтральнай беларускай школьнай рады. Пасля атрымання атэстата быў накіраваны Белнацкамам у Латвію, дзе на настаўніцкіх курсах у Дзвінску (цяпер Даўгаўпілсе) чытаў лекцыі па беларусазнаўстве, удзельнічаў у стварэнні культурна-асветнага таварыства беларускай нацыянальнай меншасці пад назвай «Бацькаўшчына», уваходзіў у яго кіраўніцтва..

У верасні 1921 года таварыства «Бацькаўшчына» дэлегавала І. Дварчаніна ў Прагу на Беларускую Нацыянальна-палітычную канферэнцыю. У гэты час ён паступіў у Пражскі Карлавы ўніверсітэт, быў старшынёй Аб’яднання прагрэсіўных беларускіх студэнтаў, членам Беларускай рады, якая аб’ядноўвала беларускую эміграцыю ў Чэхаславакіі, рэдактарам «Бюлетэня аб’яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый».

Ігнат радаваўся сустрэчы са старым знаёмым Тамашам Грыбам. Іх лёс звёў яшчэ ў Мінску на Усебеларускім кангрэсе. У Празе яны вучыліся на адным філасофскім факультэце. Крыху пазней прыехаў яшчэ адзін Ігнатаў знаёмы — Уладзімір Жылка, з якім ён таксама пасябраваў яшчэ ў 1917 годзе ў Мінску.

У Празе падтрымліваў сувязь з Б. Тарашкевічам і іншымі будучымі лідарамі Беларускай сялянска-рабочай грамады, выступаў у левай віленскай прэсе — газетах «Беларускі звон», «Наш шлях». Артыкулы і вершы ён падпісваў як сваім прозвішчам, так і псеўданімамі: І. Д., Гудок.

За гады вучобы авалодаў чэшскай мовай настолькі дасканала, што, вярнуўшыся на радзіму, перакладаў творы Карала Чапека.

У 1924 годзе Ігнат стварыў у Празе студэнцкую арганізацыю «Незалежныя сацыялісты». Праз год скончыў філасофскі факультэт Карлава ўніверсітэта ў Празе, а 16 чэрвеня 1926 года ў 31 год у сценах гэтага ўніверсітэта абараніў доктарскую дысертацыю на тэму «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве» і атрымаў дыплом доктара філасофіі. Гэтая дысертацыя з'яўляецца першым у беларускім літаратуразнаўстве даследаваннем пра Скарыну і выйшла ў Мінску ў перакладзе з чэшскай мовы ў 1991 годзе.

Вядомы расійскі даследчык кнігі і гісторыі кнігадрукавання, прафесар Я. Неміроўскі ў сваёй кнізе «Па слядах Францыска Скарыны» (1990), ацэньваючы доктарскую дысертацыю І. Дварчаніна, зазначае: «…Па сутнасці, першая пасля П. У. Уладзімірава, прысвечаная вялікаму беларускаму асветніку. Гэта — тоўсты машынапісны том аб'ёмам у 300 старонак».

Паўстае пытанне: чым быў выкліканы выбар І. Дварчанінам тэмы доктарскай дысертацыі? Як бы адказваючы на гэта пытанне, даследчык В. Шалькевіч падкрэслівае: «Гады вучобы Дварчаніна ва ўніверсітэце супалі з падрыхтоўкай і святкаваннем 400-годдзя беларускага кнігадрукавання, якое шырока адзначалася ў многіх славянскіх краінах, у тым ліку і ў Чэхаславакіі, дзе былі выдадзены першыя беларускія кнігі. Гэта падзея паслужыла штуршком для вывучэння Дварчаніным дзейнасці і светапогляду Скарыны».

Аўтарытэтны беларускі крытык і літатуразнавец У. Калеснік у сваім артыкуле «Пражскі эпісталярый» («Полымя», 1990, № 9) адзначае: «Дварчанін задумаў і напісаў не акадэмічную, а публіцыстычную працу з больш высокім, чым дапускалася па этыкеце каэфіцыентам дыскусійнасці. Малады даследчык глянуў на Скарыну і яго справу вачыма ўдзельніка беларускага вызваленчага руху і пранікліва выявіў глыбіннную пераклічку стымулаў, ідэалаў паводзін… Скарына ў разуменні Дварчаніна — гэта вялікі беларускі патрыёт, асветнік і дэмакрат, які жыў інтарэсамі народа і пакутаваў з-за таго, што меў смеласць апярэджваць свой час, зваць у будучыню землякоў, хоць многія з іх не разумелі яго. Дварчанін убачыў трыумф, але і адчуў трагізм вялікага чалавека, трагізм прадвесніцтва».

На думку аўтара гэтых радкоў, інтарэс Дварчаніна да Скарыны зарадзіўся яшчэ ў 1918 годзе, у час яго работы ў Белнацкаме. Праз тры гады, у 1921 годзе ў віленскай газеце «Беларускі звон» быў надрукаваны ягоны матэрыял «З Чэшскага музея», у якім расказвалася пра Біблію Ф. Скарыны (1517) і кнігу П. Уладзімірава «Доктор Франциск Скорина» (1888), якія захоўваюцца ў гэтым музеі.

У той жа час нельга не пагадзіцца з У. Калеснікам, які сцвярджаў, што І. Дварчанін разглядаў свой твор як духоўны стымулятар адраджэння ў беларускім народзе загубленай нацыянальнай памяці.

Жывучы ў Празе, Ігнат Сымонавіч, натуральна, паспрабаваў адшукаць дакументы аб Скарыне ў мясцовых архівасховішчах. Але яго поспехі былі больш чым сціплымі. У метрычных кнігах Пражскага ўніверсітэта за XV — першую палову XVI ст. выявіў спісы студэнтаў, якія завяршылі адукацыю на факультэце свабодных мастацтваў. З гэтых спісаў ён выдзеліў імёны 33 студэнтаў, якія паходзілі з Вялікага Княства Літоўскага. Сярод іх Іван, Мацвей і Пётр з Полацка, і, што асабліва цікава, Францыск з Літвы. На жаль, І. Дварчанін не ўказвае, калі менавіта гэты Францыск вучыўся ў Празе. Таму цяжка сказаць, ці ідзе гаворка аб вялікім беларускім асветніку, ці аб нейкім іншым чалавеку.

Вызначаючы мэты дысертацыі, падкрэсліваў, што хоча разгледзець дзейнасць Скарыны не толькі ў сувязі з культурным становішчам Айчыны, але і ў кантэксце

заходнееўрапейскага. Дысертацыя ставіла сваёй мэтай даследаваць светапогляд Скарыны, не засяроджваючыся на знешніх асаблівасцях яго прац, апісанні і параўнанні тэкстаў.

Такім чынам, заключаў Ігнат Сымонавіч, тэма «Францыск Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве» дазволіць расказаць пра Скарыну як чалавека, пісьменніка, кнігадрукара, гуманіста ўвогуле і нацыянальнага дзеяча.

На мой погляд, адзін з самых цікавых раздзелаў (усяго іх дзевяць) — «Стымулы дзейнасці Францыска Скарыны. Скарына як чалавек». І. Дварчанін выдзяляе чатыры галоўныя моманты: матэрыяльны інтарэс, рэлігійнае падзвіжніцтва, дасягненні айчыннай культуры і ўплыў замежнай культуры. Наконт першага могуць узнікнуць пытанні. Аднак даследчык правамерна лічыў, што матэрыяльныя інтарэсы для Скарыны не стаялі на апошнім месцы. Пра гэта сведчыць і тое, што свае кнігі ён друкаваў у памеры, зручным для продажу, а «Малую падарожную кніжыцу» наогул прызначаў для купцоў, якія адпраўляліся ў раз’езды.

З цікавасцю чытаецца і раздзел «Скарына як пісьменнік». І. Дварчанін задае пытанне: а ці можна наогул лічыць Скарыну пісьменнікам? І на падставе аналізу самасвядомасці Скарыны, яго свецкіх поглядаў, патрыятызму і дэмакратызму першадрукара, любві да роднай мовы робіць станоўчы адказ.

Можна смела гаварыць, што да І. Дварчаніна ніводзін вучоны так аргументавана не паказваў Скарыну як гуманіста. Характарызуючы дзейнасць беларускага першадрукара, даследчык прыходзіць да высновы, што ён меў уплыў на цэлую культурную эпоху, пачатак якой пакладзены ў XVI стагоддзі. І не толькі на Беларусь і Украіну. Дзейнасць яго была заўважана і ў Маскоўскай Русі, і ў палякаў, славенцаў, балгар. І. Дварчанін разглядае Скарыну як нейкае сувязное звяно славянскіх культур. Дарэчы, бібліяграфія друкаваных крыніц па тэме дысертацыі складае 190 назваў.

Некаторыя высновы, упершыню зробленыя ў дысертацыі, публікаваліся асобнымі артыкуламі. Так, у выданні «Родныя гоні» (Вільня, 1927, кн. 1) быў надрукаваны артыкул І. Дварчаніна «Аб годзе нараджэння Фр. Скарыны». Вучоны падтрымаў гіпотэзу М. Шчакаціхіна, паводле якой датай нараджэння Скарыны трэба лічыць 6 сакавіка 1486 года (у дысертацыі называюцца 80-я гады XV стагоддзя і 1487 г. — ***Э. І.***).

У рукапісах захаваліся працы І. Дварчаніна «З гісторыі друкаваных выданняў аб Скарыне», «Спроба апісання бібліяграфіі аб доктару Францішку Скарыне».

У 1926 годзе І. Дварчанін вярнуўся ў Вільню і стаў выкладаць беларускую літаратуру ў Віленскай беларускай гімназіі.

Уступіў ў Беларускую сялянска-работніцкую грамаду (БСРГ), быў цесна звязаны з яе кіраўніцтвам, выконваў даручэнні Цэнтральнага сакратарыята, вёў лекцыі ў Віленскім гуртку Грамады. Эрудыцыя, веданне мовы і літаратуры, журналісцкі вопыт спрыялі таму, што ў хуткім часе ён становіцца сакратаром і віцэ-старшынёй Беларускага выдавецкага таварыства.

21 сакавіка 1927 года Грамада была афіцыйна забаронена і перастала існаваць як арганізацыя. Пасля арышту яе кіраўнікоў (Б. Тарашкевіча, С. Рак-Міхайлоўскага і іншых) І. Дварчанін становіцца адной з цэнтральных фігур нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. На выбарах у польскі сейм 4 сакавіка 1928 года ў Заходняй Беларусі за кандыдатаў ад рабочых і сялян было пададзена 328,8 тысяч, або 26 працэнтаў галасоў. Абраныя па гэтых спісах дэпутаты Я. Гаўрылік, І. Дварчанін (ад Навагрудскай выбарчай акругі. — ***Э. І.***), Ф. Валынец, І. Грэцкі, П. Крынчык утварылі ў сейме радыкальную фракцыю — Беларускі сялянска-рабочы пасольскі клуб «Змаганне». Праз некаторы час клуб аб’яднаў вакол сябе некалькі соцень чалавек з былога актыву Грамады. У 1929 годзе былі створаны 16 павятовых сакратарыятаў клуба.

Поўная назва «Змагання» — Беларуская дэпутацкая фракцыя «Змаганне» за інтарэсы сялян і рабочых, якая стала легальнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай і

нацыянальна-вызваленчай арганізацыяй працоўных Заходняй Беларусі ў снежні 1927 — жніўні 1930 гадоў. Клуб «Змаганне» ператварыўся ў рэвалюцыйна-дэмакратычную і нацыянальна-вызваленчую арганізацыю, але ўлады не дазволілі ёй стаць масавай. Як і Грамада, ён патрабаваў канфіскацыі памешчыцкіх зямель і падзелу іх без выкупу сярод беззямельных і малазямельных сялян, 8-гадзіннага рабочага дня і паляпшэння ўмоў працы рабочых, пераходу ў іх рукі прамысловых прадпрыемстваў, перакладання падаткаў на маёмасныя класы, стварэння рабоча-сялянскага ўрада, дэмакратычных свабод, нацыянальных правоў, школ на роднай мове, выступаў за самавызначэнне Заходняй Беларусі і ўз'яднанне з БССР.

Клуб «Змаганне» ўзначальваў Я. Гаўрылік, а яго намеснікам быў І. Дварчанін. Ад ЦК КПЗБ дзейнасць гэта клуба накіроўваў Г. Муха-Мухноўскі.

Значную ролю ў нацыянальна-вызваленчым руху ў Заходняй беларусі ў другой палове 1920-х — пачатку 1930-х гадоў адыграла Таварыства беларускай школы, створанае ў 1921 годзе. У 1928 годзе 430 гурткоў ТБШ аб'ядноўвалі больш 14 тысяч членаў — пераважна сялян, вясковай моладзі, якія ў большасці стаялі на рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцыях.

На з'ездзе 19 мая 1929 года ў склад галоўнай управы ТБШ былі абраны прагрэсіўныя дзеячы: Ф. Стацкевіч (старшыня), М. Пяткевіч (намеснік старшыні), Р. Шырма (сакратар), І. Дварчанін, Ф. Валынец, І. Грэцкі, П. Крынчык, М. Кепель, М. Марцінчык, П. Пяткун, А. Лябецкая.

Летам 1930 года становішча ў Польшчы рэзка пагоршылася. Пілсудскі распусціў сейм. Яшчэ ў студзені 1930 года паліцыя арыштавала больш як 100 актывістаў клуба «Змаганне», а 30 жніўня — дэпутатаў Я. Гаўрыліка, І. Дварчаніна, Ф. Валынца, І. Грэцкага, П. Крынчыка. Суд прыгаварыў кожнага з іх на 8 гадоў турэмнага зняволення. Дзейнасць клуба была забаронена.

Ігнат Дварчанін пачаў друкавацца з 1917 года. У тым жа годзе былі апублікаваны яго вершы «Пільная справа» («Вольная Беларусь», 8 жніўня), «Покліч» (тамсама, 8 лістапада), «Да беларусаў-інтэлігентаў» («Беларуская рада» 16 снежня).

Нельга без хвалявання чытаць верш «Покліч», у якім узнімаецца праблема павышэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, прыцягнення іх да стварэння беларускай дзяржаўнасці. Не забудзем, што ён быў напісаны ў перыяд найвышэйшага рэвалюцынага ўздыму ў 1917 годзе.

Ігнат Сымонавіч вельмі перажываў, што беларуская інтэлігенцыя адышла ад народа. Ён заклікаў яе разам з народам будаваць новае жыццё. Аб гэтым сведчыць адзін з самых вядомых ягоных вершаў «Да беларусаў-інтэлігентаў»:

Вас адарвалі ад народу,
Сказалі вам, што ён брыда,
Сваю вам прывілі культуру.
Зрабілі ката з вас…
Цяпер яго вам брыдка мова.
«Яна мужыцкая, куды,
Каб мы, паны, вялі размовы
На ёй, не бачылісь брыды».
…Ну вось, вы бачыце, праснуўся
Народ і жыцця будаваць
Спяшыць. І вас да працы просіць
Ісці хутчэй ім памагаць.

Вершы І. Дварчаніна змяшчаліся ў газеце «Дзянніца», часопісах «Родныя гоні», «Маланка», «Наш шлях», «Маладое жыццё», «Беларуская школа ў Латвіі» і іншых. У сваёй паэзіі Ігнат Сымонавіч адлюстроўваў тэмы барацьбы за адраджэнне беларускай культуры, узняцця яе на больш якасны ўзровень, усведамлення беларускім народам сваёй гістарычнай і палітычнай значнасці, роўнасці з іншымі народамі.

У 1921—1925 гадах, будучы студэнтам Пражскага ўніверсітэта, ён змяшчаў вершы рэвалюцыйна-рамантычнай накіраванасці ў студэнцкіх выданнях «Прамень», «Студэнцкая думка», «Перавясла».

Якуб Міско адзначаў: «На чужыне Дварчанін пасябраваў з групай беларускіх паэтаў, сярод якіх асаблівае месца займаў Уладзімір Жылка. У Празе існавала аб'яднанне беларускіх прагрэсіўных студэнтаў. Яго старшынёй быў выбраны Дварчанін. Аб'яднанне выдавала рукапісны часопіс «Перавясла». У ім змяшчаў свае творы і Дварчанін. У адным з вершаў, напісаным у 1924 годзе, ён гаварыў:

Я — работнік, сваёю мазольнай рукой
Увесь велізарны свет накарміў і адзеў.
Па абліччы зямлі, як магутнай ракой,
Разнясла мая сіла жыццёвасці спеў.

Нягледзячы на пэўную рытарычнасць і абстрактнасць гэтых і іншых радкоў верша, у іх адчуваецца вера ў святую справу працоўнага люду».

У літаратуразнаўцы І. Багдановіч былі ўсе падставы да высновы, што вострае адчуванне Дварчанінам драматызму становішча свайго народа, які вякамі цярпеў сацыяльную і нацыянальную несправядлівасць (вершы «З новым годам», «Дзівак», «Безработны», «Маўчы» і інш.), спалучаецца ў яго творах з рамантычнымі матывамі асветы і асветніцтва як выйсця з нядолі («Брату-вучыцелю», «Да беларусаў-інтэлігентаў», «Студэнт»), з узнёслымі лірычнымі настроямі, спробамі медытацый («Вечнасць», «Ля мора»).

Хачу прывесці радкі з яго верша «Брату-вучыцелю»:

Не бойся, мой брат, не загінуць зярняты,
Што ўкінеш ты вернай рукой.
Як дар яны з неба там будуць прыняты
Даўно ўгатаванай раллёй.

Нізка вершаў І. Дварчаніна апублікавана ў калектыўным зборніку «Ростані вол. З заходнебеларускай паэзіі» (1990), складальнік якога Уладзімір Калеснік.

Ігнат Сымонавіч з'яўляўся таленавітым літаратуразнаўцам. Ён склаў і ў 1927 годзе выдаў у Вільні «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры (ад 1905 года): для старэйшых класаў беларускіх сярэдніх школ», у якой змешчаны творы беларускіх пісьменнікаў, дадзены кароткія каментарыі пра іх жыццёвы і творчы шлях. Гэта выданне адыграла вялікую ролю ў школьным навучанні і патрыятычным выхаванні моладзі Заходняй Беларусі, стала падзеяй у грамадска-культурным жыцці.

Адна з прац І. Дварчаніна прысвечана творчасці М. Багдановіча і рэкамендавана лектарам правінцыйных асветных гурткоў у якасці лекцыі. Гэта была і даніна памяці паэту ў сувязі з 10-годдзем яго смерці. Ігнат Сымонавіч падаў М. Багдановіча як паэта высокай культуры, адукаванасці, які «свядома ўжываў усе магчымыя формы сусветнай паэзіі» на беларускай мове. Вельмі важна, што ўвага акцэнтавалася на разнастайных праявах гармоніі формы і зместу ў вершах паэта. І. Дварчанін падзяляе погляд літаратуразнаўцы М. Піятуховіча, ацэньваючы Багдановіча як філосафа і паэта-імпрэсіяніста.

Ігнат Дварчанін праявіў сябе і таленавітым публіцыстам. У час працы ў культурна-асветным аддзеле Белнацкама ў Маскве ў 1918 годзе, калі гэты аддзел паставіў перад сабой задачу знайсці настаўнікаў і выкладчыкаў пачатковых школ, эвакуіраваных у Расію, і вярнуць іх у Беларусь для работы па спецыяльнасці, яму даручылі скласці зварот да настаўнікаў-беларусаў і надрукаваць яго ў газетах. Праз два дні тэкст быў прадстаўлены на зацвярджэнне ў аддзеле. Яго ўхвалілі і надрукавалі ў «Правде», «Известиях» і органе Белнацкама «Дзянніцы». У звароце гаварылася, што вучні і настаўнікі павінны звяртацца ў Белнацкам. Ствараць беларускія гурткі і школы, па магчымасці абяцалася дапамога. Гэты зварот заканчваўся вершаванымі словамі:

Вас праца жджэ, народ вас просіць.
Вы, вы яго надзея, цвет.

У многіх нумарах газеты «Дзянніца» публікаваліся артыкулы І. Дварчаніна.

Праз пяць гадоў левадэмакратычныя нацыянальныя сілы ў Празе — У. Жылка, І. Дварчанін і Т. Грыб заснавалі часопіс «Перавясла». На думку беларускай даследчыцы М. І. Чмаравай, часопіс не ўтойваў сваёй палітычнай арыентацыі і дэклараваўся стаць выказнікам той часткі беларускага студэнцтва ў Празе, «якая адмовілася бачыць у беларускім руху дзяржаўны рух Беларуска-Літоўскага княства, ці то зараджэння аднэй толькі мовы, якая ў руху бачыць адбітак выступу на сцэну грамадскага жыцця беларускіх працоўных грамад і ўважае шкодным… «расплыўчатасць», усеагульнасць, пазаклясавасць… Паступовае студэнцтва, выдаючы часопіс, уважае, што беларускі нацыянальны рух есьць разам з тым клясавы рух, рух беларускіх сялян і работнікаў, сябе лічыць за неаддзельную частку».

У 1926 годзе пад псеўданімам «І. Гудок» Ігнат Сымонавіч пераклаў на беларускую мову паэму А. Блока «Дванаццаць». Пераклад быў апублікаваны у 15-м нумары «Маланкі» за 1926-ы год.

Ацэньваючы творчую спадчыну І. Дварчаніна, знакаміты беларускі літаратуразнавец Арсень Ліс падкрэсліў:

«Прыкметнай і даволі переспектыўнай у літаратурным жыцці Заходняй Беларусі 1920-х гадоў выглядала літаратуразнаўчая праца Ігната Дварчаніна (1895—1937). Вярнуўшыся ў 1926 г. пасля заканчэння Пражскага ўніверсітэта і абароны доктарскай дысертацыі на тэму дзейнасці Ф. Скарыны ў Вільню, Дварчанін актыўна ўключыўся ў культурна-грамадскае жыццё. У 1927 г. ён актыўна выступіў з некалькімі публікацыямі, у тым ліку з артыкулам пра паэтыку М. Багдановіча, узяў удзел у публічнай дыскусіі наконт года нараджэння Скарыны. Вынікам літаратуразнаўча-асветніцкай працы Дварчаніна з'явілася падрыхтаваная ім «Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры», якая, дзякуючы ўключэнню ў яе ўзораў беларускага мастацкага слова першай чвэрці XX ст., адыграла выдатную этнаахоўную, патрыятычна-выхаваўчую ролю ў Заходняй Беларусі, абапіраючыся на сацыялагічна-псіхалагічны крытэр. Малады літаратуразнавец стварыў даволі арыгінальную класіфікацыю беларускай літаратуры новага часу, даў змястоўныя дэфініцыі творчасці асобных яе прадстаўнікоў».

Менавіта з 1927 года І. Дварчанін супрацоўнічаў з часопісамі «Родныя гоні» і «Маланка», быў рэдактарам шэрагу беларускіх газет.

У ліпені 1933 года І. Дварчаніна накіравалі выконваць абавязкі дырэктара Інстытута мовазнаўства БАН.

За арганізацыю работы інстытута кіраўніцтва Акадэміі не раз станоўча адзначала яго і асобных работнікаў. Прыемна было і ў самога на душы, што нарэшце стварылася магчымасць поўнасцю аддаць сябе любімай працы. Але радасць і глыток волі былі нядоўгімі. Беларускі слоўнік і распрацаваная пад кіраўніцтвам І. Дварчаніна методыка па тэрміналогіі і правапісе не ўбачылі свет. 16 жніўня 1933 года Ігната Сымонавіча арыштавалі па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра» (БНЦ). Усяго трапілі за краты 281 чалавек, у тым ліку 77 у Мінску і 204 «на месцах».

БНЦ быццам бы стварылі ў верасні 1932 года М. Бурсевіч, П. Валошын, Ф. Валынец, І. Гаўрылік, І. Дварчанін, П. Мятла, С. Рак-Міхайлоўскі — беларускія палітэмігранты, якія прыбылі ў БССР з Польшчы ў красавіку 1930-га і верасні 1932-га. Асобы цынізм гэтай «справы» ў тым, што тыя фігуранты яе, якія прыехалі з Польшчы, былі арыштаваны даволі хутка пасля прыбыцця ў Мінск і ўтрымліваліся пад вартай да пачатку працэсу. Значыць, нават не мелі фізічнай магчымасці займацца на тэрыторыі Беларусі грамадска-палітычнай дзейнасцю.

Абвінавачванне будавалася выключна на паказаннях арыштаваных. Атрыманых шляхам прымянення фізічных мер уздзеяння і іншых незаконных метадаў.

Як гэта ні горка і балюча ўсведамляць, але адным з першых, каго ўдалося «зламаць» чэкістам, быў Ігнат Дварчанін. Ужо на другі дзень пасля арышту ён напісаў ў Калегію АДПУ заяву наступнага зместу:

«Желая искупить свою вину перед партией и Советской властью, прошу разрешить дать подробные показания о моей контрреволюционной нацдемовской деятельности. Которую я, сознательно или бессознательно, вёл до самого дня моего ареста».

Упершыню аб раскрыцці АДПУ БССР новай кантррэвалюцыйнай нацыяналістычна-шпіёнскай арганізацыі адкрыта паведаміла 10 снежня 1933 года газета «Звязда» ў рэдакцыйным артыкуле «За бальшавіцкую нацыянальную палітыку!». Артыкул заняў амаль усю яе першую старонку. Праўда, прозвішчы яшчэ не называліся. Яны з’явіліся ў пастанове снежаньскага (1933) аб’яднанага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б як члены кантррэвалюцыйнай арганізацыі пад назвай «Беларускі нацыянальны цэнтр» (БНЦ). Пералічваліся былыя вядомыя члены КПЗБ і заходнебеларускага нацыянальна-вызваленчага руху. Вязні польскіх турмаў і канцлагераў, якія сталі членамі КП(б)Б і працавалі ў розных установах БССР: С. Рак-Міхайлоўскі — дырэктар Белдзяржмузея, П. Валошын — памочнік загадчыка Дзяржбібліятэкі, А. Капуцкі — загадчык сектара друку ЦК КП(б)Б, П. Мятла — старшыня Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі БАН, І. Гаўрылік — загадчык сектара кантролю і выканання Наркамасветы БССР, І. Дварчанін — намеснік дырэктара Інстытута мовазнаўства БАН.

Усяго ў 1934 годзе па справе БНЦ было асуджана на працяглыя тэрміны зняволення ў ППЛ і да іншых відаў пакарання 97 чалавек.

Паводле пастановы «чацверкі» калегіі АДПУ БССР ад 9 студзеня 1934 года 25 абвінавачаных прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання, а прыгавор прывялі ў выкананне 17 мая 1934 года. Яшчэ 15 чалавекам расстрэл замянілі 10 гадамі пазбаўлення волі (Бурсевіч, Валошын, Валынец, Дварчанін, Рак-Міхайлоўскі і іншыя). Пакаранне Ігнат Сымонавіч адбываў на Салавецкіх астравах і будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала.

Аднак 25 лістапада 1937 года яго прыгаварылі да расстрэлу і прысуд ажыццявілі 8 снежня.

Першы раз да перагляду справы БНЦ звярнуліся ў пачатку «хрушчоўскай адлігі». Але ў заключэнні КДБ пры СМ БССР па выніках дадатковага расследавання ў снежні 1955 года адзначалася, што крымінальная дзейнасць усіх, хто праходзіў па гэтай справе, даказана і яны асуджаны правільна. І толькі ў адносінах да 15 чалавек рашэнне калегіі АДПУ СССР адмянілі і справу спынілі.

Пры разглядзе гэтай справы на вышыні аказаўся Ваенны трыбунал Беларускай ваеннай акругі ў складзе генерал-маёра Кедрава, падпалкоўніка Спяранскага і капітана Тарасава. Трыбунал палічыў, што справа вывучана недастаткова, а матэрыялы па яе пераглядзе падрыхтаваны дрэнна. Таму справу накіравалі на паўторнае даследаванне.

Другі раз яна пераглядалася ў жніўні 1956 года. Тады Камітэт дзяржаўнай бяспекі пры СМ БССР прызнаў, што яна была сфальсіфікавана.

Па абедзвюм справам (1934 і 1937 гадоў. — ***Э. І.***) І. Дварчанін быў рэабілітаваны 18 жніўня 1956 года. Праз 27 год — у 1983 годзе на доме, дзе ён нарадзіўся, у вёсцы Погіры ўстанавілі мемарыяльную дошку, а праз 33 гады пасля рэабілітацыі — у 1989 годзе ў г. п. Дзятлава быў адкрыт помнік Ігнату Дварчаніну.



# БЕЛАРУСЬ — КЫРГЫЗСТАН: МАСТЫ ДРУЖБЫ

У серыі «Сугучча сэрцаў», здзейсненай у 2013 годзе ў Выдавецкім доме «Звязда», ёсць і кыргызстанскі томік прозы і паэзіі — «Жывое слова». І хаця выдадзены ён на рускай мове, усё ж таксама з'яўляецца сведчаннем стасункаў літаратур Беларусі і Кыргызстана. І ўкладаўся ён беларускім бокам. Усе кыргызскія вершы і прозу для зборніка падбіраў паэт Алесь Бадак, які, дарэчы, выяўляе сябе і чуйным перакладчыкам.

У той кнізе да чытача, які яшчэ, магчыма, цікавіцца развіццём літаратур на постсавецкай прасторы, прыйшлі вершы, урыўкі з раманаў, апавяданні Мара Байджыева (урывак з «Казання пра Манаса»), Рахіма Карымава, Вячаслава Шапавалава, Турусбека Мадылбая, Тазагуль Закіравай, Кадыркула Амаркулава, Нурлана Калыбекава, Туленды Курманаліева, Святланы Суславай. Беларускую частку кнігі склалі творы Вячаслава Адамчыка, Барыса Беляжэнкі, Аляксея Дударава, Мар'яна Дуксы, Уладзіміра Навумовіча, Сяргея Карыцькі, Аляксандра Брыта, Паўла Вераб'ёва, Раісы Дзейкун.

Пра аднаго з кыргызскіх аўтараў кнігі — Вячаслава Шапавалава яшчэ шмат гадоў назад пісалі: «Паэзія Шапавалава — ахвярная спроба захаваць агульную культурную прастору… Галоўнымі тэмамі яго вершаў і паэм сталі: час, гісторыя, душа, народ». Нагадаем, народны паэт Кыргызстана, аўтар паэмы «Нараджэнне манасчы» (пра эпас «Манас») Шапавалаў — яшчэ і аўтар болей за 30 кніг мастацкага перакладу, чалавек, які сапраўды злучае культуры, народы. Яшчэ — і перакладчык паэзіі народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна на рускую мову. Цікавы факт, пагадзіцеся: народны паэт іншанацыянальнага свету, які піша паруску, добра ведае кыргызскую мову, кыргызскую культуру, уважлівы да далёкай Беларусі, да творчага свету другога вялікага паэта, узнаўляе яго мастацкі пошук на мову Пушкіна і Някрасава. Можна сказаць: угрызаецца ў беларускую мастацкую прастору, выбіраючы ў ёй лепшае.

Беларуска-кыргызская кніга з серыі «Сугучча сэрцаў» (адна з адзінаццаці ў ёй) носіць сімвалічную назву «Жывое слова» і нагадвае пра многія факты міжлітаратурных зносін. «Работа над серыяй «Сугучча сэрцаў», — гаворыць укладальнік Алесь Бадак, — прынесла мне велізарнейшую асалоду знаёмства з іншым мастацкім светам. Мяркую, што ў кніг будзе і свой чытач…» Спадзяюцца на гэта і ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, і ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, і ў Выдавецкім доме «Звязда», збіраючыся працягваць працу па знаёмстве з літаратурамі краін СНД.

А што ж нас яднае з Кыргызстанам праз мастацкую літаратуру?.. Наколькі мы багатыя ў прадстаўленні кыргызскага прыгожага пісьменства па-беларуску?

Каб адказаць на гэтае пытанне, да-вайце звернемся да статыстыкі, выкладзенай у свой час яшчэ ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». З 1918 па 1986 гады ў Беларусі на беларускай мове выйшла 8 кніг кыргызскіх аўтараў. Дарэчы, за той жа час у Кыргызстане пабачылі свет 16 кніг паэзіі і прозы беларускіх пісьменнікаў на кыргызскай мове. Толькі раманы Івана Шамякіна выходзілі двойчы — у 1962 і

1986 гадах. Перакладчыкі — У. Шаршаналіеў, У. Умралін. Творы Васіля Быкава выдаваліся ў Кыргызстане кнігамі чатыры разы — у 1971, 1978, 1979, 1980 гадах. І зборнік выбранай паэзіі Янкі Купалы (у перакладзе Т. Уметаліева) выходзіў у Фрунзе (цяпер — Бішкеку) двойчы — у 1954 і 1982 гадах. А вось асобнай кнігі Якуба Коласа на кыргызскай мове ўсё яшчэ няма, хаця кыргызскія паэты не аднойчы звярталіся і да перакладаў творчасці аўтара «Новай зямлі». Будзем спадзявацца, што зборнік вершаў Якуба Коласа, пераўвасоблены на кыргызскую мову, яшчэ пабачыць свет.

А што ж у Беларусі… Знаёмства з творамі кыргызскіх пісьменнікаў пачалося яшчэ ў 1930-я гады, пра што і нагадвае «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі». Але, зразумела, пасапраўднаму прадстаўленне далёкага ад нашай Айчыны сярэднеазіяцкага прыгожага пісьменства пачалося ў пасляваенныя гады, у 1960-я і пазней. Выйшлі аповесці Чынгіза Айтматава — «Джаміля» (1962) і «Бывай, Гюльсары!» (1971). У 1971 — зборнік «Кіргізскія народныя казкі». А таксама асобна выходзілі кіргізскія народныя казкі — «Макмут» (1971) і «Як хлапец горад выратаваў» (1972). У 1964 годзе пабачыла свет аповесць Ш. Бейшаналіева «Кычан». Між іншым, у гэтага твора, які вяртае чытача ў 1930-я гады, зайздросны лёс: у Савецкім Саюзе аповесць была перакладзена на рускую, узбекскую, каракалпакскую, літоўскую, малдаўскую, латышскую, украінскую, азербайджанскую мовы. І яшчэ — на цэлы шэраг моў краін замежнай Еўропы. На некаторых мовах народаў былога СССР «Кычан» выходзіла нават двойчы.

Але ж і ў калектыўных зборніках, як і ў перыёдыцы Беларусі, з’яўлялася шмат вершаў і апавяданняў кыргызскіх пісьменнікаў. Так, асабліва шмат беларускімі перакладчыкамі было зроблена, калі ў Мінску пачалі выходзіць альманахі мастацкага перакладу: «Далягляды», «Братэрства», «Ветразь».

Асобна добрае слова трэба сказаць пра беларускага дзіцячага паэта і перакладчыка Міколу Чарняўскага, які неймаверна часта прадстаўляў творчасць паэтаў народаў колішняй савецкай прасторы ў «Бярозцы» і «Вясёлцы». Нядаўна плён яго намаганняў у гэтым накірунку падсумаваны выданнем аўтарскай анталогіі перакладаў з дзіцячай паэзіі свету — «Як зрабіць вясёлым дзень». А ў выпуску альманаха «Ветразь» за 1988 год беларускі творца змясціў падборку вершаў кыргызскай паэтэсы Нінакан Джундабаевай з пяці вершаў. Ёсць там і «Кіргізскія коні»:

Кіргізскія коні, легендай вы сталі,
Мае скакуны, вазакі і ратаі.
На вас мы каменне ў падмуркі вазілі,
Здзіўляліся ўпартасці,
Казачнай сіле.
Па горных вяршынях,
Што ў хмары спавіты,
Пад небам,
Дзе золата з нетраў здабыта, —
Я чую здалёк вашу, коні, хаду,
Здаецца, спацелых, сама вас вяду.
А як выручалі вы, помніцца, нас
На бедных загонах у колішні час!
Мой бацька вясёлы —
Каня запрагае.
Ён мне ўсміхнецца: «Сядай, дарагая!»
Заходзіцца сэрца
Ад скачкі шалёнай…
Лятунак маленства —
Кіргізскія коні.

…А пачатак быў яшчэ ў 1982 годзе. Менавіта тады Мікола Чарняўскі надрукаваў у часопісе «Бярозка» свой пераклад верша Нінакан Джундубаевай «Горныя кветкі».

Сярод перакладчыкаў кыргызскай паэзіі на беларускую мову — Раіса Баравікова, Казімір Камейша, Васіль Зуёнак, Іван Калеснік, Уладзімір Шахавец, Мікола Федзюковіч, Мікола Хведаровіч, Мікола Аўрамчык, Мікола Мятліцкі і інш. З перакладаў апошніх гадоў — верш Мукая Элебаева «Ліст на Алау-Тау» (твор напісаны ў 1942 годзе). Пераўвасобіў яго на беларускую мову Мікола Мятліцкі. Твор надрукаваны і ў часопісе «Полымя», і ў аўтарскай анталогіі перакладчыка «Лучнасць» (2011).

А ў працяг прадстаўлення кыргызскай літаратуры ў Беларусі — і работа на электронным сайце Выдавецкага дома «Звязда», дзе на інтэрнэт-партале «Сугучча. Літаратура і публіцыстыка краін Садружнасці» («Созвучие. Лите-

ратура и публицистика стран Содружества») знайшлося месца старонцы «Літаратурны Кыргызстан». Матэрыялы на ёй размяшчаюцца на трох мовах — у залежнасці ад мовы арыгінала: беларуская, кыргызская, руская. Ёсць і пераклад аднаго верша Ф. Скарыны на кыргызскую — перакладчыкам выступае Таштанбек Чакіеў. Змешчаны артыкулы «Кыргызская літаратура», «Літаратура кыргызаў у савецкі перыяд» і іншыя даследаванні, нарысы жыцця і творчасці пісьменнікаў, арыгінальныя мастацкія творы. Якраз такі адрас дае магчымасць знаёміцца ў канцэнтраваным выглядзе з партрэтам кыргызскага прыгожага пісьменства, дазваляе рабіць свае высновы, ды следам выбудоўваць новыя, болей трывалыя беларуска-кыргызстанскія літаратурныя стасункі.

Безумоўна, асновай іх, як паказвае жыццё, з'яўляюцца асабістыя прыхільнасці мастакоў слова, іх уласная творчая ініцыятыва, іх пакліканне на ўбачаную і асэнсаваную з'яву. Пацвярджаюць гэта і словы параўнальна нядаўняга інтэрв'ю народнага пісьменніка Кыргызстана Чынгіза Айтматава газеце «СБ. Беларусь сегодня»: «У літаратуры, творчасці, калі можна ў дадзеным выпадку прымяніць гэты тэрмін, мы з Васілём Быкавым былі аднакашнікамі. Адно пакаленне, адно разуменне многіх рэчаў. Канешне ж, Васіль Быкаў — фігура знакавая, гэта эпоха ў савецкай літаратуры, якая прарывалася, ачышчала сябе і атачэнне. Нягледзячы на многія перашкоды ў тагачаснай ідэалогіі. І гэта нас зблізіла. Здаецца, зусім нядаўна мы былі ў Германіі на адной канферэнцыі. Жылі некалькі дзён у адным доме. І стасункі з Васілём Уладзіміравічам мяне натхнілі... Але болей за ўсё помню адзін маскоўскі сімпозіум. Абмяркоўвалі агульнасусветныя тэмы. Тады моднай была барацьба за мір. І вось я, магчыма, універсальна па тым часе падышоў да тэмы, назваўшы людзей усёй планеты зямлянамі. Хацелася акрэсліць адзінства, нашу сусветную еднасць. Жывём жа мы разам. І тады адзін з цэкоўскіх тыпаў — дакладна не помню яго прозвішча — выйшаў на трыбуну і кінуў мне папрок: «Адкуль вы ўзялі гэты буржуазны тэрмін? Што, класавы вораг — таксама наш зямлянін?» Там прысутнічаў і Васіль Быкаў. Якраз Васіль Уладзіміравіч выступіў следам за цэкоўцам. І патлумачыў, што калі мы вечна будзем дзяліць усіх па класавым прынцыпе, то наўрад ці да чаго добрага гэта прывядзе. Сказаў гэта пераканаўча, выразна. Мужнасць пісьменніка — адзіная катэгорыя, якая здольна ўплываць на развіццё навакольнага жыцця ў лепшы бок. Мужнасць у адкрытым дыялогу і мужнасць перад чыстым аркушам паперы...»

Зварот да выказвання Чынгіза Айтматава нагадаў і пра такі рэзерв судакранання нацыянальных літаратур, як параўнальнае літаратуразнаўства. Мо з часам беларускія і кыргызскія літаратуразнаўцы з вялікім імпэтам унікнуць да такіх тэм, дзе побач будуць разглядаць творчасць Васіля Быкава і Чынгіза Айтматава, Пімена Панчанкі і Аалы Такамбаева, Еўдакіі Лось і Зууры Сааранбаевай, Андрэя Макаёнка і Тактабалота Абдамамунава, Віктара Карамазава і Шабдакбая Абдырамонава, Уладзіміра Караткевіча і Мусы Мураталіева, Рыгора Барадуліна і Кенеша Джусупава... Такая літаратуразнаўчая, гісторыка-літаратурная праца нашым нацыянальным літаратурам будзе толькі на карысць. Як — і памкненні да знаёмства з паэзіяй і прозай, драматургіяй і публіцыстыкай, што напоўніцу адкрыюць нашым народам адзін аднаго. У гэта хочацца верыць!..

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# ДАМАГЧЫСЯ СВАЙГО «ТАК»




**Таіса БОНДАР.**
**СПРАДВЕЧНЫЯ СЦЕЖКІ**
**Уклад. А. Толкач**
*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

«Дзейнасць Таісы Бондар стварыла выразную палярнасць літаратурнага асяроддзя, а значыць, удыхнула ў літаратуру жыццё», — такі каментар на сайце «Літара. net» пакінуў карыстальнік пад нікам «Словы смутку», калі грамадства дзесяць гадоў таму даведалася пра смерць Таісы Мікалаеўны. Можна прыгадаць успаміны шмат якіх вядомых асоб аб жыцці і дзейнасці выдатнай пісьменніцы і перакладчыцы, але цяжка будзе знайсці больш прыдатнай для яе характарыстыкі. Жанчына з выразна акрэсленай жыццёвай пазіцыяй і моцнай энергетыкай, яна, здаецца, магла б удыхнуць жыццё ў камяні… Вандруючы ў далёкай смузе стагоддзяў ці ўздымаючы праблемы вострыя і сучасныя, Таіса Бондар заўсёды нагадвала пра адказнасць перад людзьмі і грамадствам, неабходнасць «падняцца над сабой».

У гэтым годзе пісьменніцы споўнілася б 70 гадоў. Да гэтай знамянальнай даты прымеркаваны выхад паэтычнай кнігі «Спрадвечныя сцежкі», якая ўтрымлівае творы рознага часу напісання. Выбар вершаў і паэм для юбілейнай кнігі некаму можа падацца незвычайным: гэта не тыя радкі, якія ў першую чаргу ўзгадаюць аматары творчасці Таісы Бондар. Аднак адкрыць для многіх чытачоў новае і нечаканае — таксама вялікі ўнёсак у справу захавання паэтычнай спадчыны. Прычым кампазіцыя зборніка цалкам лагічная і канцэптуальна абумоўленая. Першы буйны раздзел «Нячутна дыхаў невядомы век» — пераасэнсаванне гістарычнага мінулага нашага краю. Аднак гэта далёка не традыцыйныя «варыяцыі на тэму»: Таіса Бондар стварае ўласны дзівосны свет, дзе повязь часоў адчуваецца амаль фізічна, дзе можна пагутарыць з асілкам Менескам, паслухаць маналог Сымона Буднага, сабраць сон-траву, што вырасла на палях старажытных бітваў. Калі вызначаць жанр дадзеных паэтычных твораў, то гэта, хутчэй за ўсё, паэмы-песні, складаныя і цікавыя ў рытмічных і кампазіцыйных адносінах. Аповед аб падзеях мінуўшчыны перамяжоўваецца тут з урыўкамі з народнага меласу, рэфлексіяй паэткі над уласным жыццём і гістарычным

шляхам сваёй Айчыны. Арганічнае паяднанне зместавага і фармальнага бакоў дасягаецца дзякуючы поліметрычнасці (у межах аднаго твора, як правіла, налічваецца некалькі вершаваных памераў), а таксама цікавага эўфанічнага афармлення, своеасаблівай «аркестроўкі» радка. Метафарычнасць стылю, увядзенне персаніфікаваных вобразаў Памяці, Вечнасці, Бясконцасці, Прыроды, алюзіі на міфалагічныя з'явы робяць вершаванае выказванне памежна насычаным, яскравым і запамінальным. Праблема памяці і пераемнасці цэнтральная ў першым раздзеле:

Як страшна ўсё забыць! —
аслепнуць душы,
і цень мінулага акрые нас,
каб плачам мацярок, дзяцей і птушак
зноў, і навекі, захлынуўся час…

Вялікае мастацкае дасягненне Таісы Бондар, равесніцы Вялікай Перамогі, і паэма «Мы родам з вайны», кожная частка з якой быццам малюнак слядоў ад маленькіх ног на бясконцых дарогах вайны.

Назвы наступных буйных раздзелаў кнігі даюць дакладную характарыстыку яе аўтаркі: «Не словы рвуцца ў неба, а душа», «О мой народзе! Я, твая дачка…», «Гасподзь са мной. Са мной цяпер і тут…». Дзе знайсці прытулак на «зломе дзвюх эпох»? Як годна ўтрымаць «ношку лёсу»? Трывожныя пытальныя інтанацыі, літаральна крык неабыякавай душы адчуваецца ў філасофскіх, медытатыўных вершах. Шлях да разумення свету і сябе заўсёды цяжкі і пакутлівы. Выдатна разумеючы гэта, паэтка спачувае тым, хто яшчэ на самым яго пачатку:

Я не зайздрошчу маладым:
Яны не ведаюць, як доўга
Блукае ў цемрадзі дарога,
Перш чым развее чорны дым
І ўспыхне ў кропельках расы
Світанка крэмавы адбітак…

Спакой і душэўнае апірышча для сябе Таіса Бондар знайшла ў веры. Выконваючы волю Вышэйшую, яна пачувала сябе ад усяго абароненай:

Кветка ўдзячнасці — кветка сэрца —
На далоні Тваёй, Гасподзь!

«Яе паэзія... Пругкая, вірлівая — так і хочацца сказаць: вулканічная! — яна напоўнена энергіяй і дабрынёю. Чытаючы яе вершы, адчуваеш, як гэта энергія, не месцячыся ў радках, выплёхваецца са старонак, як цесна ёй у прасторы. Думаю, гэта ад перапоўненасці сэрца…», — пісаў некалі аб творчасці Таісы Бондар Арлен Кашкурэвіч. І сапраўды, яе паэтычная энергія струменіць, саграває кожнага, як і дзесяцігоддзі таму. Давайце ж грэцца ў яе промнях…




**Владимир НАУМОВИЧ.**
**«НЕТ» И КАК ЕГО СКАЗАТЬ**
*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2014*

Уладзімір Навумовіч — пісьменнік складаны і цікавы. Складаны не таму, што «ўпрыгожвае» свае творы налётам псеўдаінтэлектуальнасці, цьмянай вобразнасцю, складанымі каструбаватымі фразамі. Складаны ў першую чаргу таму, што заўсёды малюе жыццё панарамна, быццам з вышыні. Узаемаадно-

сіны са старэйшым пакаленнем, сябрамі, каханымі разглядаюцца непарыўна з грамадзянскай пазіцыяй герояў, інтымнае арганічна суадносіцца з сацыяльным. Не аднойчы ўжо было сказана, што сапраўдны творца той, хто раскрывае свой час, можа годна сказаць пра надзённае, хвалюючае, балючае. Вядомы расійскі літаратуразнавец Андрэй Ар'еў, разважаючы над вынікамі ўручэння прэміі «Рускі Букер» адзначыў наступнае: «Абсалютнае псіхалагічнае заглыбленне ва ўнутраны свет, але пры гэтым з псіхалогіяй вялікія непарадкі. Агульная эстэтычная і псіхалагічная асаблівасць сучаснага рамана — аўтарская пазіцыя на мяжы ўласнага Я». Балансуючы на мяжы выяўлення падсвядомага, варта не забывацца пра агульнасць чалавечага мыслення архетыпамі, пра вялікую ролю сацыялізацыі асобы. Зараз пісьменнікаў, якія па-сапраўднаму прапускаюць асабістае праз прызму калектыўнага, няшмат. Ад таго значнасць іх творчасці павышаецца ў разы. Заканамерна, што творы Уладзіміра Навумовіча заўсёды выклікалі вялікі грамадзянскі рэзананс: такое адбылося з аповесцю «Узаранае поле», кнігай прозы «Такое бывае аднойчы», раманам «Волюбиманс» і інш.

Не выключэнне і новая кніга пісьменніка — «Нет» и как его сказать». Уладзімір Навумовіч назваў раман сваім «Ціхім Донам». Вядома, што многія такое параўнанне палічаць занадта амбіцыёзным. Але, пэўна, супастаўляе пісьменнік свой твор з класічным у сутнасным плане: галоўны герой Руслан Родны, як і Рыгор Мелехаў, перажывае гістарычны і сацыяльны пералом, знаходзіцца перад лёсавызначальным выбарам аб супрацоўніцтве з органамі (Мелехаў не можа зразумець з кім застацца — «чырвонымі» ці «белымі»), паралельна адбываюцца і трагічныя падзеі ў асабістым жыцці, што вымагаюць адкрытага змагання за ўласнае шчасце і каханне. Маштабнасць ахопу жыцця ў рамане «Нет» и как его сказать» суадносіцца з працягласцю напісання твора. Аўтар пазначае наступныя часавыя межы: 1975—2014 гг. Глянуць на падзеі з вышыні жыццёвага вопыту і сталасці, адкрыць свету тое, аб чым раней гаварыць было немагчыма змог пісьменнік амаль праз сорак гадоў, што аддзяляюць нас, сённяшніх, ад часу апісаных у творы падзей. Занадта асабістае, уласна перажытае пісьменнік спрабуе спалучыць з абстрактным і ўсеагульным. Менавіта аб такім шляху пераасэнсавання падзей сведчыць спалучэнне красамоўнага эпіграфа, радкоў з Лермантава («Я не хочу, чтоб свет узнал // Мою таинственную повесть: // Как я любил, за что страдал, // Тому судья лишь бог да совесть» з указаннем: «События, рассказанные в романе, вымышлены. Всякое совпадение с действительностью случайно». Аднак супадзенняў шмат: лёгка ўзнаўляюцца рэаліі ўніверсітэцкага асяродку сталіцы, канкрэтныя ўмовы жыцця і працы ўплывовых людзей таго часу. Ці можна назваць твор аўтабіяграфічным? Гэта з якога боку паглядзець… Той, хто ведае біяграфію Уладзіміра Навумовіча, адзначыць для сябе скразныя супадзенні яе з біяграфіяй Руслана Роднага: занятасць на камсамольскай працы, навуковая дзейнасць, паездкі за мяжу і нават захапленне музыкай, спевамі сваёй жонкі. Вельмі ж пранікнёна і шчымліва апісвае аўтар пачуцці Руслана Роднага да Наталлі Астрогі, адкрыта тлумачачы семантыку прозвішча: «астрога» — мур, умацаванне, якое неабходна ці ўзяць аблогай ці адступіцца назаўсёды. Замілаванне, пяшчота да дрыжэння ў падушачках пальцаў і безаглядная роспач, рэўнасць… Партрэтная характарыстыка каханай дапаўняецца ювелірна зробленымі апісаннямі драбнейшых змен настрою, рухаў душы, творчых здольнасцей: «Наталья с ее природным даром певицы, обладательница необыкновенного полетного голоса «с мясом», чувственного, сексуального, как сказали бы в США, исходящего из глубины души, как у Анны Герман, Людмилы Зыкиной, Ольги Воронец…» Не менш эмацыянальна і заглыблена раскрываюцца і глыбінныя роздумы Руслана Роднага над тым, як застацца чалавекам у эпоху «забивания шляпок гвоздей», калі «мертвые стали хватать за горло живых», а галоўная задача — «найти

ямку меж жерновами». На дзіва тонка, часам іранічна малюе Уладзімір Навумовіч савецкую рэчаіснасць, высмейваючы недальнабачнасць тых, хто на святочнае прывітанне «Христос Воскрес!» бадзёра адрапартоўваюць: «Воинственный воскрес!» Напоўнены твор сімваламі, алегорыямі. Чаго толькі каштуе пачатковая сцэна, што адбываецца на сельскіх могілках. Гэта і выяўленне занядбання святога, сакральнага і пераасэнсаванне шляху чалавечай душы і цікавае супастаўлення раю нябеснага з зямным, камуністычным. Добра прадуманая кампазіцыя твора вымагае гэткай жа сімвалічнай заключнай сцэны — сцэны заходу сонца. Прасветлага сонца як магутнай жыццядайнай сілы з аднаго боку і злавеснага чорнага сонца, што хаваецца ўночы пад зямлёй, — з другога. Гэта і крах магутнай савецкай дзяржавы, крах спадзяванняў, мар і надзея на новае заўтра, нараджэнне новага жыцця. У якім павінна адкрыцца простая, як «восход солнца, как вдох и выдох, как песня», праўда.

Асобна трэба сказаць пра мову твора. Прастата і выразнасць выкладу думак спалучаецца з сакавітасцю, незвычайнай яскравасцю і нават стракатасцю лексікі. Тут знаходзім і размоўную (жальник, боженивка), народна-бытавую лексіку («рубль» — доўгае адпаліраванае конусападобнае бервяно), і даволі значную колькасць беларусізмаў (гаспадар, рада і інш.). Ды і як яшчэ можна дакладна перадаць рэчаіснасць жыцця беларускай вёскі, якая ўзрасціла пакаленне сучаснай інтэлігенцыі? Выкарыстанне прыказак і прымавак, прамое і ўскоснае цытаванне, афарыстычнасць і лаканічнасць выказвання робіць чытанне захапляльным і інтэлектуальным.

Як складзецца лёс беларускага чалавека, над якім ажыццяўляюць палітычны эксперымент у ЗША, ці здолее ён, кажучы словамі Максіма Танка, «прайсці праз вернасць», утрымацца ад спакус, наладзіць жыццё пасля той «пляски на могилах мертвых», у якую быў уцягнуты агентамі і падазронымі знаёмымі? Пэўна, на гэтыя пытанні будзе пакутліва, заклапочана і неабыякава шукаць адказы кожны, каму выпадзе знаёмства з гэтай незвычайнай кнігай. Дык няхай жа сапраўдным наказам, мудрым папярэджаннем гучаць для тых, хто зараз шукае свой шлях у жыцці, словы Уладзіміра Навумовіча: «Не отступайтесь от своей Любви. Знаю, что есть «нет», и знаю, как его сказать. Дождитесь «да», добейтесь «да» вы своего».



# ЧЭРВЕНЬ

* * *

У **чэрвеньскім** нумары за **1951 год** «Полымя» надрукавала п'есу «На досвітку» трыццацігадовага Андрэя Макаёнка. У творчым лёсе пісьменніка яна адыграла вельмі важную ролю. Праўда, сама па сабе п'еса была досыць шараговай, чамусьці пра пасляваенную Францыю, якую аўтар, па ўсім відаць, не дужа добра ведаў, і, у пэўным сэнсе, дэбютнай: да гэтага Макаёнак друкаваў толькі аднаактоўкі, якія не траплялі на вялікую сцэну. Пра свой зварот да французскай тэмы драматург пасля скажа не без самаіроніі: «З майго боку гэта, чэсна кажучы, было нахабства». І раптам на п'есу звярнуў увагу галоўны рэжысёр Купалаўскага тэатра Канстанцін Саннікаў! У наступным, 1952 годзе, п'есу купалаўцы паставілі. Зразумела, для маладога драматурга гэта было вялікай радасцю, але не толькі ад самога факта пастаноўкі, ад таго, што яго заўважылі, ацанілі. Праз шмат гадоў Макаёнак прызнаецца: «Я сустрэўся з вельмі таленавітым рэжысёрам і добрым чалавекам К. Саннікавым, творчае супрацоўніцтва з якім дало мне надта многа. Ён умеў працаваць з аўтарамі, мог беспамылкова вызначыць і схільнасці, і здольнасці іх. Асабіста мне, тады яшчэ зялёнаму пачаткоўцу, К. Саннікаў адкрыў многія прафесійныя сакрэты сцэны».

Сцэнічныя прамудрасці Андрэй Макаёнак спасцігаў вельмі хутка, паколькі, апроч пісьменніцкага таленту, ад прыроды меў і акцёрскія, і рэжысёрскія задаткі. Пра гэта, напрыклад, успамінаў Аляксей Кулакоўскі: «Іншы раз Андрэй выступаў у тэатрах і ў якасці рэжысёра-пастаноўшчыка. Ён чытаў сваю п'есу перад акцёрамі сам і даволі ўмела і вынаходліва падаваў інтэрпрэтацыю ролі і асноўныя рысы характару кожнага персанажа. Прымяняў для гэтага ўсе акцёрскія сродкі: голас, жэсты, міміку і нават пластыку, калі гэта трэба было. У нашых ілюстраваных часопісах не адзін раз змяшчаліся фотаздымкі, дзе Андрэй Макаёнак паказаны ў тыя часы, калі ён чытаў у тэатры сваю п'есу: выразнасць і акцёрская вынаходлівасць у яго былі выключныя».

Такім чынам, п'еса «На досвітку» стала для Андрэя Макаёнка своеасаблівым квітком, па якім яму можна было апынуцца па той бок сцэны і неўзабаве стаць ужо там сваім чалавекам.

У 1953 годзе драматург піша новую п'есу — «Выбачайце, калі ласка!», у якой звяртаецца да тэмы ўжо куды больш блізкай і зразумелай яму: калгаснае пасляваеннае жыццё, кіраўнікі-кар'ерысты, славутыя прыпіскі дзеля таго, каб на паперы палепшыць паказчыкі. П'еса пішацца ў год смерці Сталіна, і гэты факт адбіваецца на яе лёсе. Спачатку супраць яе рыхтуецца рэзка крытычны артыкул для аднаго з саюзных выданняў, — ён, праўда, так і не быў надрукаваны. Пасля Мікалай Пагодзін, тагачасны галоўны рэдактар маскоўскага часопіса «Театр», па некаторых звестках, здымае з нумара адзін са звярстаных ужо матэрыялаў і ставіць замест яго «Выбачайце, калі ласка!»

П'есу бярэ ў свой рэпертуар Купалаўскі тэатр, і яна мае неверагодны поспех у гледача. Прычым, высока ацанілі яе як прафесіяналы-тэатралы,



*Сцэна са спектакля «Выбачайце, калі ласка!» (справа Лідзія Ржэцкая).*

так, па-свойму, і простыя, вясковыя гледачы, да якіх, у сельскія клубы, тэатр тады выязджаў часта. Кажуць, у адным з такіх сельскіх клубаў вяскоўцы, уражаныя фіналам спектакля (адна з гераінь п'есы — Ганна Чыхнюк заяўляе, што начальнікам-кар'ерыстам «усё роўна перад народам і перад партыяй прыйдзецца адказваць»), тут жа правялі імправізаваны сход, на якім заявілі, што трэба зняць іхняга старшыню калгаса, а замест яго паставіць… актрысу, якая выконвала ролю Ганны. Актрысай той, дарэчы, была знакамітая Лідзія Ржэцкая.

Папулярнасць Андрэя Макаёнка расла з кожным годам. Яго п'есы тэатрамі ішлі нарасхват: па агульных падліках, іх паставілі больш чым 200 тэатраў Савецкага Саюза, а таксама тэатры Усходняй Еўропы.

Мікола Аўчамчык успамінаў: «Помню, мне нечакана патэлефанавалі, што падышла чарга купляць аўтамашыну. А ў мяне на руках не хапала паловы яе кошту. Я звярнуўся не да каго-небудзь, а менавіта да Андрэя, каб ён выручыў. Андрэй засмяяўся, высунуў шуфляду пісьмовага стала і дастаў адтуль пачак грошай.

— Вось мая Купальская прэмія, што атрымаў днямі. Бач, яшчэ не распячатаў пачак. Бяры, — сказаў ён, аддаючы мне грошы».

Падобны выпадак у свой час расказваў мне і Генадзь Бураўкін.

Сапраўды, Макаёнак быў узорам беларускага (дый увогуле — савецкага) заможнага пісьменніка, але пры гэтым — пісьменніка, які заставаўся добразычлівым чалавекам (праўда, залішне эмацыянальным па сваёй натуры, а гэта па-рознаму адбіваецца ў адносінах паміж людзьмі) і добрым сябрам. Пра што лепш за ўсё расказаў Іван Шамякін у сваёй «Аповесці пра сябра».

Андрэя Макаёнка называюць творцам, які зрабіў рэвалюцыю ў беларускай драматургіі, пашырыў яе жанравыя межы. Зразумела, з пазіцыі сённяшняга дня яго наватарства не ўяўляецца нечым такім ужо арыгінальным. Зразумела, што, у пэўным сэнсе, творчасць яго стала паланянкай сваёй эпохі. Зрэшты, паланянкай, а не ахвярай.



*Сцэна са спектакля «Выбачайце, калі ласка!»*

І толькі ад сучасных рэжысёраў і тэатраў залежыць, кім ёй быць надалей. Ад таго, захочуць яны ўбачыць у ёй толькі сатыру на асобныя моманты сістэмы, якой ужо няма, ці тое, пра што аднойчы гаварыў Макаёнак у інтэрв’ю Мікалаю Матукоўскаму: «Увогуле, павінен сказаць, што роля драматурга ў наш час выключна адказная. Кожны вечар тысячы чалавек прыходзяць паслухаць і паглядзець цябе. А ці маеш ты права адбіраць у тысяч людзей тры гадзіны дарагога вячэрняга часу, тры гадзіны іх жыцця? Што ты ім прапануеш? Якія думкі і праблемы? Ці цікавы ты ім як асоба, як грамадзянін, як мастак?.. Сучасны чалавек вельмі складаны, адукаваны, культурны, прапісныя ісціны яму не патрэбны. Каб даць максімум таго, што павінна даваць чалавеку вялікае мастацтва, пісьменніку трэба спусціцца ў такія глыбіні чалавечай душы і здабыць там такое!.. Калі падумаеш пра гэта, проста страшна робіцца за сябе: а ці здольны ты на гэта?..»

Апроч часавых дэкарацый, якія лёгка мяняюцца, на сцэне заўсёды ёсць чалавек з душой, у якой «такія глыбіні», што, зазірнуўшы туды, зазірнуўшы ў любою эпоху, можна ўбачыць шмат што знаёмае і актуальнае.

* * *

У **№ 6** за **1988 год**, праз тры гады пасля смерці Варлена Бечыка, «Полымя» пачало друкаваць яго дзённікі пад агульнай назвай «Радкі і жыццё». Ці не гэтай публікацыяй часопіс шырока расчыніў дзверы на свае старонкі дзённікавым запісам пісьменнікаў-сучаснікаў: Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Вячаслава Адамчыка, Івана Шамякіна… Памятаецца, як дазіравана «Полымя» давала з нумара ў нумар запісы Танка і Панчанкі, расцягваючы працэс публікацыі як мага на больш нумароў, каб падтрымліваць да часопіса чытацкую цікавасць. І гэта пры тым, што самі па сабе яны былі сухія, канспектыўныя. Здавалася б, ну што ў іх можна знайсці цікавага?! Але знаходзілі: вострыя характарыстыкі сваіх калег і высокіх — няхай сабе і былога ўжо савецкага часу — чыноўнікаў; ацэнкі шумных падзей, не толькі сведкамі, але і ўдзельнікамі якіх яны былі, ну і часам — нейкія падрабязнасці з асабістага жыцця.

І няхай не ў масавага чытача, але ў многіх аматараў прыгожага пісьменства такія запісы сапраўды выклікалі цікавасць. Напрыклад, тыя ж «Радкі і жыццё» Варлена Бечыка ў 1993 годзе выйшлі ў «Мастацкай літаратуры» тыражом 1 800 экзэмпляраў. Для параўнання: двухтомнік Язэпа Пушчы тады ж быў надрукаваны тыражом 1 000 экзэмпляраў.

І ўсё ж сцвярджаць, што дзённікі апрыёры асуджаны на шырокую чытацкую ўвагу, досыць рызыкоўна. Па-першае, гэта ў значнай ступені залежыць ад асобы аўтара. Па-другое, многія дзённікі найперш прыцягваюць увагу сваёй факталагічнай насычанасцю, што выклікае да іх кароткачасовую цікавасць, якая змяншаецца па меры таго, як мы даведваемся пра тое ж больш шырока і з іншых крыніц, ці па меры таго, як факты страчваюць сваю актуальнасць.

Чытаем у дзённіку Варлена Бечыка за 1977 год:

*«3.VI.*

*Пытанне сабе: Ты выйграеш ці прайграеш у гэтай агульнай плыні разліку і выпінання? Адказ у другой плоскасці: — Ты мала працуеш…*

*У інтэрв'ю «Вернасць аднойчы і назаўсёды» («ЛіМ», 13.V.77) І. Шамякін гаворыць пра свае адносіны да рэцэнзіі А. Рагулі і В. Каваленкі на яго аповесць «Гандлярка і паэт»: «На правах старэйшага таварыша хочацца параіць маладому крытыку Рагулю не браць напракат чужыя тэорыйкі і не падганяць іх пад жывую ткань мастацкага твора. Не лішне папярэдзіць каго-нікаго і ад іншай крайнасці — ад выцягнення на свет божы даўно асуджаны партыяй і ўсёй практыкай савецкай літаратуры вульгарна-сацыялагічнай метадалогіі разбору мастацкага слова».*

*Надта сур'ёзна, надта важка і грозна. Лепш было б пажартаваць, ухіліцца.*

*Збор твораў Твардоўскага. Выдатная свежасць. Складанае ўражанне — хваляванне з дамешкам нейкай ці не тугі, што не дадзена гэтакая безадносная здольнасць быць істотным у слове, у выяўленні свету, бачанні і перадачы жыцця».*

Яшчэ тады, у 1993 годзе, ужо не кажучы пра 1988-ы, тагачаснаму чытачу былі куды больш зразумелымі (а таму выклікалі суперажыванне) і гэтая «выдатная свежасць», і «хваляванне з дамешкам нейкай ці не тугі». У сённяшніх маладых яны, хутчэй за ўсё, не выклічуць асаблівых эмоцый: іншая эпоха — іншае стаўленне да савецкай класікі і да збораў твораў, што ўваходзілі ў пералік кніжных дэфіцытаў. Тое ж тычыцца і згадкі пра рэцэнзію Аляксея Рагулі і Віктара Каваленкі. Старэйшыя пакаленні пісьменнікаў яшчэ, магчыма, памятаюць, пра што ў ёй пісалася, а калі ўлічыць, што тычылася яна аднаго з самых папулярных сучасных беларускіх празаікаў, і гэтых некалькіх сказаў Варлена Бечыка хапіла, каб і тады, у 88-м ці нават 93-м, эмацыянальна адрэагаваць на іх, ажыўляючы ў памяці ўласныя ўспаміны. Для тых жа, хто прыйшоў у літаратуру пазней, у гэтых (як, зрэшты, і ў многіх іншых) запісах Бечыка ёсць нейкая недагаворанасць і незавершанасць.

Пры інтэнсіўным развіцці інтэрнэту і сацыяльных сетак вядзенне дзённікаў набыло неверагодна масавы характар. Прычым, як правіла, пішуцца яны ў рэжыме on-line. Але гэта не азначае, што многія аўтары паралельна не робяць запісы «для сябе», разлічваючы, што некалі іх з цікавасцю прачытаюць нашчадкі. Зрэшты, ці не самымі цікавымі дзённікамі, як правіла, аказваюцца тыя, якія пішуцца без аглядкі на чытача, не для публікі, а як неабходнасць штодзённай шчырай гутаркі з самім сабою.

***Алесь МАЛІНОЎСКІ***

*Фотаздымкі прадастаўлены Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы.*



**У МІНСКУ «ПОЛЫМЯ» МОЖНА НАБЫЦЬ:**
- **магазін № 13, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін № 18, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін «Глобус», вул. Валадарскага, 16.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 284-84-61,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны
для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар
*М. М. ГІЛЕВІЧ*

Падпісана ў друк 08.06.2015 г. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 16,78. Тыраж 2151 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 23 300 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск